# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДРУГАЯ*





МЕНСК—1937

## УРАДАВАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

18 лютага ў 17 гадзін 30 мінут у Маскве, у сябе на кватэры ў Крэмлі, ад паралiча сэрца раптоўна памёр народны камісар цяжкай прамысловасці, член Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ВКП (большэвікоў) таварыш Грыгорый Канстанцінавіч ОРДЖАНІКІДЗЕ.

## *Ад Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)*

**Цэнтральны Камітэт ВКП (большэвікоў) з глыбокім жалем паведамляе партыю, рабочы клас і ўсіх працоўных Саюза ССР і працоўных усяго свету, што 18 лютага ў 5 гадзін 30 мінут вечара ў Маскве раптоўна памёр буйнейшы дзеяч нашай партыі, палкі, бясстрашны большэвік-ленінец, выдатны кіраўнік гаспадарчага будаўніцтва нашай краіны—член Палітбюро ЦК ВКП(б), народны камісар цяжкай прамысловасці СССР таварыш ГРЫГОРЫЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ ОРДЖАНІКІДЗЕ.**

**Смерць таварыша ОРДЖАНІКІДЗЕ, дарагога для ўсёй партыі, рабочага класа СССР, працоўных усяго свету, бездакорна чыстага і стойкага партыйца, большэвіка, аддаўшага сваё слаўнае, гераічнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма, з'яўляецца найцяжэйшай стратай для ўсёй партыі і Совецкага Саюза.**

**Вобраз таварыша ОРДЖАНІКІДЗЕ, яго беззаветная барацьба за пролетарскую рэволюцыю, за будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне натхніць усіх працоўных, усіх партыйцаў, усіх работнікаў гаспадарчага фронта на далейшую барацьбу за перамогу соцыялізма, за новыя заваяванні совецкай прамысловасці, за новы ўздым усёй нашай соцыялістычнай народнай гаспадаркі.**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ).**

## *Памяці таварыша Орджанікідзе*

*Наша партыя панесла цяжкую страту: 18 лютага ад паралiча сэрца раптоўна памёр таварыш Грыгорый Канстанцінавіч ОРДЖАНІКІДЗЕ.*

*Смерць вырвала з нашых радоў выдатнага кіраўніка, нястомнага барацьбіта за справу партыі, баявога кіраўніка і арганізатара бліскучых перамог соцыялістычнай індустрыі, нашага блізкага і любімага таварыша і друга.*

*Усё сваё светлае жыццё таварыш Орджанікідзе без астатку аддаў справе рабочага класа, справе вызвалення чалавецтва, справе комунізма. Яшчэ ў юныя гады таварыш Орджанікідзе стаў пад вялікі сцяг Леніна і з таго часу да канца свайго жыцця чэсна і аддана нёс гэты сцяг у руках, змагаючыся на самых перадавых пазіцыях.*

*Яго жыццё было непарыўна звязана з рэволюцыйнай барацьбой рабочых і сялян супроць царскага самадзяржаўя і буржуазна-памешчыцкага гнёту, з барацьбой за перамогу Вялікай пролетарскай рэволюцыі ў СССР, з арганізацыяй разгрому белагвардзейскіх армій і замежных інтэрвентаў, з пераможным будаўніцтвам соцыялізма. І ўсюды, дзе працякала яго кіпучая рэволюцыйная дзейнасць, яна прыносіла з сабой перамогу за перамогай.*

*Тав. Орджанікідзе ўяўляў узор большэвіка, не ведаўшага страху і перашкод у дасягненні вялікіх мэтаў, пастаўленых партыяй. Палкая энергія, настойлівасць і прамата, таленты выдатнага арганізатара і кіраўніка мас спалучаліся ў ім з дзівоснымі якасцямі той сардэчнасці і таварыскай прастаты ў адносінах да людзей, якія так добра вядомы ўсім, асабіста ведаўшым тав. Серго, і якімі вызначаецца сапраўдны большэвік-ленінец.*

*Апошнія 7 год тав. Орджанікідзе стаяў на чале цяжкай прамысловасці СССР. З яго імем звязаны найвялікшыя перамогі соцыялістычнай эканомікі. З яго дапамогай партыя вырашыла найцяжэйшую задачу пабудовы ў нашай краіне магутнай перадавой цяжкай індустрыі, пераўзброіўшай сельскую гаспадарку, транспарт і абарону. На чале шматмільённай арміі работнікаў цяжкай індустрыі тав. Орджанікідзе браў прыступам адну за другой найцяжэйшыя крэпасці на фронце барацьбы за пабудову і аўладанне новай тэхнікай. Ён любоўна вырошчваў кадры таленавітых дзеячоў цяжкай індустрыі, да канца адданых справе соцыялізма, згуртаваных вакол большэвіцкай партыі.*

*І вось цяпер цябе, дарагі таварыш Серго, няма з намі. Цяжар гэтай страты незгладзімы. Яе з болем будуць перажываць усе працоўныя нашай краіны. Мы страцілі цябе ў момант, калі наша краіна дасягнула трыумфу соцыялізма. У гэтых перамогах, заваяваных намі шляхам вялікай барацьбы,—вялікая доля тваёй працы, тваёй энергіі, тваёй бязмежнай адданасці комунізму.*

*Бывай, дарагі друг і таварыш Серго!*

*І. Сталін*
*В. Молатаў*
*Л. Кагановіч*
*К. Варашылаў*
*В. Чубар*
*А. Мікаян*
*С. Касіор*
*Г. Петроўскі*
*Р. Эйхе*
*Я. Рудзутак*
*М. Калінін*
*А. Жданаў*
*П. Постышэў*
*А. Андрэеў*
*Н. Ежоў*
*І. Акулаў*
*В. Межлаук*
*Н. Анціпаў*
*М. Шкіратаў*
*Я. Якаўлеў*

# *Ад Цэнтральнага Камітэта комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі*

**ЦК КП(б)Б з глыбокім жалем паведамляе членаў КП(б)Б, рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных Беларусі аб вялікім горы, якое пасцігла нашу партыю. 18 лютага у 5 гадзін 30 мінут вечара памёр член Палітбюро ЦК ВКП(б)—народны камісар цяжкай прамысловасці таварыш—ГРЫГОРЫЙ КАНСТАНЦІНАВІЧ ОРДЖАНІКІДЗЕ.**

**Смерць тав. Орджанікідзе з'яўляецца найцяжэйшай стратай для ўсёй партыі і Совецкага Саюза.**

**Памёр адзін з лепшых кіраўнікоў і будаўнікоў нашай комуністычнай партыі большэвікоў, бясстрашны, гераічны баец за ленінскую партыю, за яе адзінства, стары большэвік з ленінска-сталінскай гвардыі, таленавіты кіраўнік працоўных мас, арганізатар бліскучых перамог соцыялістычнай індустрыі.**

**ЦК комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі, рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя Беларусі адчуваюць найвялікшае гора ад гэтай страты нашай партыі, нашай краіны.**

**Серго Орджанікідзе згарэў на рабоце, аддаўшы усе свае сілы, нястомную энергію, энтузіязм—справе комунізма. Ён заўсёды быў у першых радах байцоў за соцыялізм, і на франтах баявых і на фронце будаўніцтва соцыялізма ён заўсёды быў з Леніным і з таварышам Сталіным.**

**Беларускі народ у песнях і вершах апеў геройскія подвігі тав. Орджанікідзе, зробленыя ім у барацьбе за вызваленне Беларусі ад белапольскай панскай акупацыі.**

**Бясстрашны, палкі баец нашай партыі тав. Орджанікідзе, будучы ў Рэўваенсовеце 16 арміі ў 1919 годзе, сам з маленькай групай чырвонаармейцаў хадзіў у разведку ў тыл белапалякаў і гэтым забяспечыў узяцце гор. Барысава, атрымаўшага назву беларускага Перакопа.**

**Беларускі народ, як і ўсе народы Саюза, будзе заўсёды памятаць тав. Орджанікідзе—бездакорна чыстага і стойкага партыйца, большэвіка, аддаўшага сваё слаўнае гераічнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма.**

**Памяць аб гераічным жыцці і барацьбе любімага Серго натхняе нашу партыю, рабочы клас, калгаснікаў і ўсіх працоўных на далейшыя перамогі комунізма, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна.**

***ЦК КП(б)Б.***

# *Памяці гераічнага змагара ленінскай гвардыі*

Не стала роднага Серго Орджанікідзе, выдатнага большэвіка і гераічнага змагара старой ленінскай гвардыі, бліжэйшага саратніка і друга вялікага Сталіна. Ён прайшоў слаўны шлях баявых перамог. Ні ссылкі, ні Шлісельбург, ні цяжкасці баявых год грамадзян-

скай вайны не маглі зламаць яго несакрушальнай большэвіцкай энергіі. Ён быў бязлітасны ў барацьбе з ворагамі партыі і соцыялістычнай радзімы—з праклятымі трацкістамі і іх правымі падсобнікамі. Ён быў вялікі ў сваіх клопатах аб чалавеку, у сваёй любові да народу. Ён у сваёй рабоце ўвасобіў сталінскі стыль кіраўніцтва, і таму ён не ведаў паражэння.

Велізарная і непапаўнімая страта! Вялікая жалоба народу. Але ні ценю замяшання, ні ценю разгубленасці! Тысячы і дзесяткі тысяч выхаваных ім большэвікоў соцыялістычнай прамысловасці, натхнёныя яго ідэямі, давядуць яго справу да канца. Цясней згуртуем свае рады вакол партыі Леніна—Сталіна!

Вечная слава Серго Орджанікідзе!

**Агульны сход совецкіх пісьменнікаў БССР.**

*Андрэй Александровіч*

# Ноч у разведцы

Галасілі хвалі зверам,
Раскідалі гнеўны гул.
Выплыў месяц з хмары шэрай
Стаў з байцамі ў караул.

Ноч напоена пагрозай,
Кулі сыплюцца, як град.
Засцілалася Бяроза
Чорным дымам ад гармат.

І зямля стагнала горам:
Недабіты гойсаў пан.
Чуў я плач дзяцей Дукоры
Над магілай партызан.

Курганы Напалеона
Сталі гнёздамі акоп.
Ноч ахутвала заслонай
Беларускі Перакоп.

Пад Барысавым палонным,
За Бярозаю ракой,
Войска арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

— Ледзь над лесам сонца ўзыйдзе
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар,—
Вырашаў Орджанікідзе
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
Ў гэту ноч Серго прымаў.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланялі грамаду.
І сказаў Серго: „Ў разведку
Сам, таварышы, пайду!“

І таемна, ў непрыкметку,
Цераз брод і шыр балот.
Вёў Серго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

За балотам—лес без краю.
І бяскрайняя імгла.
За вярстой вярста мінае,
Ноч густая, што смала.

Пад нагамі голле хрушчыць,
Гоман хвой кладзецца ніц.
Ўзлёт агня гармат над пушчай,
Як трывожны ўзлёт зарніц.

Шлях расчысціў куляй меткай,
Вёў атрад у стоме сіл.
Дваццаць вёрст прайшоў разведкай,
Дваццаць вёрст зайшоў у тыл.

На дапрос за трэцім—следам
І чацверты ўзяты пан.
Ад паноў Серго разведаў,
Пра апошні польскі план.

З думкай дум сваіх, з развагай
Ён, схаваўшыся, ляжаў.
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

Дзень мінуў... Паўзуць сапёры.
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты!

Знаў Серго сакрэт нядарам,
Полк байцоў адвёў тайком.
І прарваўшы фронт ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку—на палякаў,
На акоп—штыкамі ў лоб.
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп!

Сонца рукі працягнула
Баявым сынам зямлі.
Поле радасна ўздыхнула,
Ветла сосны загулі.

Праз Барысаў гордым маршам,
Перамогай праз Мазыр—
Наш паход, паход бясстрашных,
Нёс свабоду, шчасце, мір...

Пераможцам на сустрэчу
Бег народ з усіх канцоў.
Апускаўся ціхі вечар,
Славіў стомленых байцоў.

*Александр Пракоф'еў*

# У вяках

Для цяжкога й жорсткага удара
Паднялася смерці лютае рука
І яна скасіла камандарма,
Ды жыве ён ў славе легендарнай
І такім ды будзе ён ў вяках!

Тым, каго любілі нашы сёлы,
Гарады, нізіны і сады:
Смелым, гордым, агнявым, вясёлым,
Маладым ў калонах маладых!

Тым Серго, што імя не забудзе
Край увесь ў струменях заравых.
Так, яно такім навекі будзе:
Баявым ў калонах баявых!

Сэрцы нашы воляю адзінай
Перапоўнены, агнём гарэць.
Дык схілі сцягі свае, радзіма
Над магілай друга, змагара.

Пераклаў *АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА*

*Тайжан (Казахскі народны пявец)*

## Любімаму Серго

Воўк хадзіў па стэпах маіх,
Ваўкалакі хадзілі па іх.
Карагайнік[1]) рос на маіх палях,
Неўраджайнай была зямля.
Гасцілі на ёй спёка, пурга,
Воран, ды стары курган.
На целе насіў я жорсткі чэкмень,
У руках насіў я цяжкі кетмень[2]).
Дары дарагія ў зямлі я шукаў,
Тагды я зямлю як магілу капаў.
Была яна цяжкай, да змогі, да небыцця—
Дарога майго жыцця.
Аднойчы прачнуўся і я ад цяжкага сну,
Ї бачу: Тайжан сустракае вясну.
Ї яснае сонца Тайжану гарыць,
Ї песнямі стэп з песняром звініць,
Ї з неба Тулпар[3]) к Тайжану ляціць.
Ї дзіва—машыны к Тайжану прышлі
Камбайны магутныя караблі
Горда стэповым плывуць акіянам...
Хто-ж так клапоціцца ў нас пра Тайжана?
Хто-ж загадаў, каб яму Сар-Дала[4])
Нетраў багацці свае аддала?
Хто-ж загадаў і якая сіла,
Каб Эмба багатая нафту раскрыла?
Хто-ж загадаў, каб таемнасць Алтая
Тайжану раскрыла гара залатая.
Хто-ж загадаў, каб радасць кіпела?
Хто-ж загадаў каб стэп маладзела?
Хто-ж загадаў, каб у край Джэз-Казгана
Прышлі інжынерамі ўнукі Тайжана?
Хто-ж загадаў, каб ў балхашскія воды

---

1) Карагайнік—сарняк.
2) Кетмень—род матыгі.
3) Тулпар—легендарны конь.
4) Сар-Дала—жоўтая пустыня.

Лебедзі шчасця плылі параходы?
Знае Тайжан чалавека таго—
Імя яму—любімы Серго,
У сталёвую броню адзеў мой народ,
І ў стэпах узрос за заводам завод,
І песняй магутных фабрычных гудкоў
Разбіта няволя мінулых вякоў.
Знае Тайжан чалавека таго
Імя яму—любімы Серго
Сталіна друг ён, бацькі майго.
Настаўніка лепшы і верны друг,
Табе я, як сэрца, настроіў дамбру.

Пераклаў *М. ХВЕДАРОВІЧ*

# Песня пра Серго Орджанікідзе

*(запісана ў Чачэнскім ауле Гэхэ, летам 1936 г.).*

Як горды леў збірае сваіх дзетак малых,
Калі на вяршынях горных падымаецца бура,
Так і ты прышоў к нам на дапамогу
Орджанікідзе,
Калі па нашай зямлі
Разліўся агонь вайны.

Як бясстрашны арол
Што крыліць над первааламі,
Зоркім вокам ён сочыць,
Каб ворага адшукаць,
Так і ты,
Златакрылы наш Орджанікідзе,
Ахоўваў чачэнскія сёлы
Ад лютай бяды
Магутнымі ўзмахамі крыл.

Як на світанку віхор
Трасе аддалёныя скалы,
Так па зямлі чачэнскай
Разнёсся твой мудры кліч,
І прачнуліся народы,
І зброю ўзялі
За справу нашай праўды,
За чырвоны сцяг перамог.

Ты навучыў нас бачыць,
Твой кліч і дасюль нам чутны,
Лепшы паплечнік Сталіна
Нястомны, наш любы друг!
І тысячы слоў сыновых
На мове нашай чачэнскай
Мы для цябе ўзгадавалі
У гордых сэрцах сваіх,

Ды ўсё-ж, нам не скласці песні
Вартай
Тваіх
Спраў.

Пераклаў *М. ХВЕДАРОВІЧ*

СЛЫХ ПРОЙДЗЕ АБА МНЕ ПА ЎСЁЙ РУСІ ВЯЛІКАЙ,
І НАЗАВЕ МЯНЕ ПЛЯМЁН БЯСКРАЙНІ ЛІК,
І ГОРДЫ ЎНУК СЛАВЯН, І ФІН, І СЁННЯ ДЗІКІ
ТУНГУЗ, І СТЭПАЎ ДРУГ КАЛМЫК.

І ДОЎГА БУДУ ТЫМ ПРЫЯЗНЫ Я НАРОДУ,
ШТО ЛІРАЙ ДОБРЫЯ ПАЧУЦЦІ АБУДЖАЎ,
ШТО Ў ВЕК СУРОВЫ МОЙ УСЛАВІЎ Я СВАБОДУ
І ДА ГАРОТНЫХ ЛІТАСЦЬ ЗВАЎ.

А. С. ПУШКІН

Пераклаў А. АЛЕКСАНДРОВІЧ



З карціны мастака О. А. Кіпрэнскага

# А. С. ПУШКІН

## *Шлях выгнання*

ПАМЯЦІ А. С. ПУШКІНА.

Я еду лесам, еду борам,
Гарыць на сонцы сіні лёд.
Лунае высака ў прасторы
Жаданых мар імклівы лёт.

Мінаюць вёрсты. Як ніколі
Раздоллем вабіць шырыня.
Прывет, аснежанае поле!
Прывет, марозны гоман дня!

Я праязджаю тым маршрутам
Праз беларускі лес—гушчар,
Якім, скаваўшы думу ў путы,
Паэта гнаў у ссылку цар.

Услед за геніем народа,
За ўзлётам гордых дум яго,
Цар пасылаў таемным ходам
Жандара вернага свайго.

І між палёў, дубоў-сталетак,
Каля празрыстага Дняпра,
Ляжаў выгнання шлях паэта
Па ўказу чорнага цара.

І Беларусь тады не знала,
Хто йшоў сярод яе палёў,
Бо на вачах яе ляжала
Іржа прыгонных ланцугоў.

З гор Магілеўшчыны ён бачыў
Народам выклятую даль.
Ён чуў, як край гаротны плача,
Як стогне плынь дняпроўскіх хваль.

І марыў ён—на першым дрэве
Павесіць лютага цара!
... Адначаваўшы ў Магілеве,
Далей пагналі песняра.

З тых дзён мінула ўжо стагоддзе...
Парос быллём выгнання шлях.
А песня генія ў народзе
Жыве ў раскованых грудзях!

Я еду лесам, еду борам,
Гарыць на сонцы сіні лёд.
Я сэрцам чую—над прасторам
Паэта славіць мой народ!

*Андрэй Александровіч*

Люты, 1937.

# *Дуброўскі*

А. С. ПУШКІН

## ТОМ ПЕРШЫ

### РАЗДЗЕЛ І

Некалькі год таму назад у адным з сваіх маёнткаў жыў старасвецкі рускі пан, Кірыла Пятровіч Траекураў. Яго багацце, знатны род і знаёмствы рабілі яго чалавекам паважным у губернях, дзе быў яго маёнтак. Суседзі былі рады дагаджаць усялякім яго жаданням; губернскія чыноўнікі дрыжэлі, пачуўшы яго імя; Кірыла Пятровіч прымаў адзнакі ліслівай пашаны да сябе як звычайную даніну; дом яго заўсёды быў повен гасцей, гатовых пацяшаць яго панскае гультайства, удзельнічаць у шумных, а часамі і буяных яго свавольствах. Ніхто не асмельваўся адмаўляцца ад яго запрашэння, або ў пэўныя дні не з'яўляцца з сталай пашанай у сяло Пакроўскае. У дамашнім побыце Кірыла Пятровіч выяўляў усе хібы чалавека неадукаванага. Распешчаны ўсім, што толькі было навокал яго, ён прывык даваць пэўную волю ўсім імкненням кіпучага свайго нораву і ўсім выдумкам даволі абмежаванага розуму. Не гледзячы на незвычайную сілу фізічных здольнасцей, ён разы два на тыдзень пакутваў ад абжорства і кожны вечар бываў падвыпіўшы. У адным з флігеляў яго дома жылі шаснаццаць пакаёвак, яны займаліся ручной працай, уласцівай іх роду. Вокны ў флігелі былі загароджаны драўлянымі кратамі; дзверы былі пад замкамі, ад якіх ключы захоўваліся ў Кірылы Пятровіча. Маладыя затворніцы ў пэўныя гадзіны выходзілі ў сад і спацыравалі пад наглядам двух бабуль. Час-ад-часу Кірыла Пятровіч аддаваў некаторых з іх замуж і новыя станавіліся на іх месца. З сялянамі і дваровымі абыходзіўся ён жорстка і з норавам; але яны выхваляліся багаццем і славай свайго пана і ў сваю чаргу дазвалялі сабе шмат што ў дачыненні да сваіх суседзей, спадзяючыся на яго моцную руку.

Звычайныя заняткі Траекурава гэта былі—раз'езды па сваіх шырокіх уладаннях; няспынныя банкеты і свавольствы, якія кожнадзенна прыдумляліся і ахвярай якіх быў звычайна які-небудзь новы знаёмец, хоць і старыя прыяцелі не заўсёды ад іх выратоўваліся, за выключэннем аднаго Андрэя Гаўрылавіча Дуброўскага. Гэты Дуброўскі, адстаўны паручык гвардыі, быў яго бліжэйшы сусед і ўладаў сямідзесяцю душамі. Траекураў, ганарысты ў дачыненнях з людзьмі самай вышэйшай годнасці, паважаў Дуброўскага, не гледзячы на яго непамысны стан. Некалі былі яны таварышы ў службе, і Траекураў ведаў з практыкі нецярплівасць і рашучасць яго натуры.

Слаўны 1762 год[1]) разлучыў іх надоўга. Траекураў, сваяк княгіні Дашковай[2]), пайшоў у гару. Збяднелы Дуброўскі прымушан быў падацца ў адстаўку і астацца жыць у рэштках свае вёскі. Кірыла Пятровіч, даведаўшыся пра гэта, прапанаваў яму сваю дапамогу, але Дуброўскі падзякаваў яму і астаўся бедны і незалежны. Праз некалькі год Траекураў, адстаўны генерал-аншэф[3]), прыехаў у свой маёнтак; яны ўбачыліся і ўзрадаваліся адзін аднаму. З таго часу яны кожны дзень бывалі разам і Кірыла Пятровіч, які зроду не рабіў нікому ласкі сваім наведваннем, заязджаў па просту ў дамок свайго старага таварыша. Будучы равеснікамі, народжаныя ў адным саслоўіі, выхаваныя аднолькава, яны крыху мелі падабенства ў натурах і звычках. Некаторым чынам і лёс іх быў аднолькавым: абодва ажаніліся кахаючы, абодва неўзабаве аўдавелі, у абодвых асталося па дзіцяці. Сын Дуброўскага выхоўваўся ў Пецярбургу, дачка Кірылы Пятровіча расла на бацькаўскіх вачах і Траекураў часта гаварыў Дуброўскаму: „Слухай, браце, Андрэй Гаўрылавіч: калі твой Валодзька будзе мець сталасць, то аддам за яго Машу, дарма што гол як сакол“. Андрэй Гаўрылавіч трос галавой і адказваў звычайна: „Не, Кірыла Пятровіч: мой Валодзька не жаніх Марыі Кірылаўне. Бедны дваранін, такі як ён, няхай лепш бярэ бедную дваранačку, але будзе галава ў доме, а то зробіцца прыказчыкам распешчанай кабеціны“.

Усе зайдросцілі згодзе, якая была паміж ганарыстым Траекуравым і яго бедным суседам і дзівіліся смеласці гэтага апошняга, калі ён за сталом у Кірылы Пятровіча проста выказваў свае думкі, не клапоцячыся аб тым, ці не было гэта насупраць гаспадарскіх поглядаў. Некаторыя спрабавалі рабіць тое самае і выйсці з межаў устаноўленага паслухмянства, але Кірыла Пятровіч так на іх сыкнуў, што назаўсёды адбіў у іх ахвоту да такіх спробаў, і Дуброўскі адзін астаўся па-за агульным законам. Нечаканы выпадак усё змяніў і разбурыў.

Раз, у пачатку восені, Кірыла Пятровіч збіраўся на паляванне. Напярэдадні быў дадзен загад сабакарам і падлоўчым быць напагатове да пяці гадзін раніцы. Палатка і кухня накіраваны былі раней на месца, дзе Кірыла Пятровіч павінен быў абедаць. Гаспадар і госці пашлі на псарню, дзе больш за пяцьсот ганчакоў і выжлаў жылі ў раскошы і цяпле, услаўляючы шчодрасць Кірылы Пятровіча на сваёй сабачай мове. Тут жа быў і лазарэт для хворых сабак, пад наглядам штаб-лекара Цімошкі і памяшканне, дзе пародзістыя сукі шчаніліся і кармілі сваіх шчанят. Кірыла Пятровіч ганарыўся гэтай цудоўнай установай і ніколі не трапіў выпадку пахваліцца ёю перад сваімі гасцямі, з якіх кожны аглядаў яе прынамсі ўжо дваццаты раз. Ён пахаджваў па псарні, абкружаны сваімі гасцямі, і

---

1) У 1762 годзе Екацерына II (1729—1796) зрабіла з дапамогай гвардыі „дварцовы пераварот“, скінуўшы з трона свайго мужа Петра III, неўзабаве забітага яе аднадумцамі. Яна захапіла ў свае рукі дзяржаўную ўладу. Пры гэтым перавароце дзед Пушкіна, афіцэр Ізмайлаўскага палка, верны Пятру, быў пасаджан у крэпасць. Эпітэт „слаўны 1762 год“ Пушкін ужыў іранічна.

2) Е. Р. Дашкова—блізкая да Екацерыны асоба.

3) Генерал-аншэф—вышэйшы генеральскі чын—„поўны генерал“.

следам хадзілі Цімошка і галоўныя сабакары; спыняўся перад некаторымі будкамі, то распытваючы аб здароўі хворых, то робячы заўвагі больш ці менш строгія і справедлівыя, то клічучы да сябе знаёмых сабак і ласкава з імі гаворачы. Госці мелі абавязак хваліць сабакарню Кірыла Пятровіча. Адзін Дуброўскі маўчаў і хмурыўся. Ён быў заўзяты паляўнічы. Яго сродкі дазвалялі яму трымаць толькі двух ганчакоў і адзін гурт выжлаў. Ён не мог утрымацца ад некаторай зайдрасці, бачачы гэтую найцудоўнейшую ўстанову.

— Чаго-ж ты, браце, хмурышся,—запытаў у яго Кірыла Пятровіч,—хіба мая сабакарня табе не падабаецца?

— Не,—адказаў ён жорстка,—сабакарня цудоўная,—наўрад ці людзям вашым жыццё такое, як вашым сабакам.

Адзін з сабакароў пакрыўдзіўся.

— Мы на свае жыццё,—сказаў ён,—дзякуючы богу і пану, не наракаем; а што праўда, то праўда, іншаму двараніну і не шкодзіла-б памяняць сялібу на любую гэтую будку—яму было-б і сытней і цяплей.

Кірыла Пятровіч моцна засмяяўся ад такой задзірыстай заўвагі свайго халопа, а госці следам за ім зарагаталі, хоць і адчувалі, што жарт сабакара мог быць накіраван і ў іх бок. Дуброўскі збляднеў і не сказаў ні слова.

У той момант паднеслі ў кашолцы да Кірылы Пятровіча нованароджаных шчанят; ён заняўся імі, выбраў сабе двух, а астатніх сказаў утапіць. Тымчасам Андрэй Гаўрылавіч знік, і ніхто таго не заўважыў.

Вярнуўшыся з гасцямі з сабакарні, Кірыла Пятровіч сеў вячэраць і толькі тады, не бачачы Дуброўскага, успомніў пра яго. Людзі адказалі што Андрэй Гаўрылавіч паехаў дадому. Траекураў загадаў адразу-ж яго дагнаць і нейначай вярнуць. Зроду не выязджаў ён на паляванне без Дуброўскага, спрактыкаванага і тонкага аматара сабачых якасцей і беспамылковага вырашальніка ўсялякіх паляўнічкіх спрэчак. Слуга, які паімчаўся за ім, вярнуўся, калі яшчэ сядзелі за сталом, і паведаміў свайго пана, што. значыцца, Андрэй Гаўрылавіч не паслухаў і не захацеў вярнуцца. Кірыла Пятровіч, як звычайна, разгарачаны наліўкамі, раззлаваўся і другі раз паслаў таго-ж слугу сказаць Андрэю Гаўрылавічу, што калі ён адразу-ж не прыедзе начаваць у Пакроўскае, то ён Траекураў, з ім навек пасварыцца. Слуга зноў паімчаўся. Кірыла Пятровіч, устаўшы з-за стала, развітаўся з гасцямі і пайшоў спаць.

На другі дзень першае пытанне яго было: ці тут Андрэй Гаўрылавіч? Замест адказа яму падалі ліст, згорнены трохкутнікам; Кірыла Пятровіч загадаў свайму пісару чытаць яго уголас, і пачуў вось што:

Мой добры пане,

Я да таго часу не маю намеру ехаць у Пакроўскае, пакуль не вышлеце мне сабакара Парамошку з просьбай аб прабачэнні; а будзе мая ласка пакараць его, або дараваць яму, а я цярпець кпіны

ад вашых халопаў не маю намеру, ды і ад Вас не сцерплю—бо я не блазан, а старадаўні дваранін.—З гэтым астаюся пакорлівы да паслуг Андрэй Дуброўскі.

Паводле цяперашніх разуменняў аб этыкеце, ліст гэты быў-бы вельмі непрыстойны, але ён раззлаваў Кірылу Пятровіча не дзіўным складам, але толькі сваёй сутнасцю.

— Як,— грымнуў Траекураў, рвануўшыся з пасцелі босы,— высылаць да яго маіх людзей з просьбай аб прабачэнні, ён зробіць ласку ім даравацъ, або іх караць!—што-ж гэта ён сапраўды задумаў; ці ведае ён з кім звязваецца, вось я-ж яго! Наплачацца ён у мяне, будзе ведаць як ісці на Траекурава!

Кірыла Петровіч адзеўся і выехаў на паляванне са звычайнай сваей пышнасцю. Але паляванне не ўдалося. За ўвесь дзень бачылі аднаго толькі зайца і таго прамарнатравілі. Абед у полі пад палаткай таксама не ўдаўся, ці прынамсі прыйшоўся не да густу Кірылу Пятровічу, які збіў кухара, аблаяў гасцей і варочаючыся назад з усім сваім паляўніцтвам, назнарок паехаў палямі Дуброўскага.

Прайшло некалькі дзён, і варожасць паміж двума суседзямі не спынялася. Андрэй Гаўрылавіч не прыязджаў у Пакроўскае—Кірыла Пятровіч без яго сумаваў і прыкрасць яго душы голасна вылівалася самымі зневажлівымі выразамі, якія, з прычыны шчырай стараннасці тамашніх дваран, даходзілі да Дуброўскага падпраўленыя і дапоўненыя. Новая акалічнасць адабрала і апошнюю надзею на замірэнне.

Дуброўскі аб'язджаў аднойчы свае невялікія ўладанні; пад'язджаючы да бярозавага гаю, пачуў ён стук сякеры і праз хвіліну трэск паваленага дрэва. Ён заспяшаўся ў гай і наехаў на пакроўскіх мужыкоў, якія спакойна кралі ў яго лес. Убачыўшы яго, яны кінуліся спачатку бегчы. Дуброўскі з сваім фурманам злавіў з іх двух і прывёў іх звязаных да сябе ў двор. Трое варожых коней асталіся тут-жа як здабыча пераможцу. Дуброўскі быў вельмі злосны, дагэтуль людзі Траекурава, вядомыя шэльмы, не асмельваліся сваволіць у межах яго ўладанняў, ведаючы сяброўскую сувязь яго з іх панам. Дуброўскі бачыў, што цяпер карысталіся яны нядаўным разрывам і адважыўся, не гледзячы на ўсе разуменні ваенных правоў, пакараць сваіх палоннікаў дубцамі, якіх яны назапасілі ў яго-ж беразаку, а коней пусціць у працу, далучыўшы іх да свае жывёлы.

Чутка аб гэтым здарэнні ў той-жа дзень дайшла да Кірыла Пятровіча. Гнеў апанаваў яго, і ў першую хвіліну ён хацеў з усімі сваімі дваровымі зрабіць напад на Кісцянёўку (так называлася вёска яго суседа), разбурыць яе да-тла і сцішыць самога памешчыка ў яго сялібе—такія ўчынкі былі яму не ўпершыню. Але думкі яго неўзабаве пайшлі ў іншым кірунку.

Пахаджаючы цяжкімі крокамі ўзад і ўперад па залу, ён зірнуў неспадзеўкі ў вакно і ўбачыў ля брамы тройку коняй; дробны чалавек у скураным картузе і фрызавым [1]) шынялю злез з воза і

[1]) Фрызавы—з тоўстага сукна, зробленага адмысловым спосабам.

пайшоў у флігель да аконама; Траекураў пазнаў заседацеля Шабашкіна і загадаў яго паклікаць. Праз хвіліну Шабашкін ужо стаяў перад Кірылам Пятровічам, раз-па-разу згінаючыся ў паклонах і з дрыжаннем сэрца чакаючы яго загадаў.

— Здароў, забыўся, як цябе завуць,—сказаў яму Траекураў,—чаго прыехаў?

—Я ехаў угорад, ваша прэвасхадзіцельства,—адказаў Шабашкін,—і зайшоў да Івана Дзем'янава даведацца ці не будзе якога загаду ад вашага прэвасхадзіцельства.

— Вельмі ў час заехаў, як, забыўся, цябе завуць, мне да цябе патрэба, выпі гарэлкі і выслухай.

Такое ласкавае абыходжанне прыемна здзівіла заседацеля. Ён адмовіўся ад гарэлкі і пачаў слухаць Кірылу Пятровіча з найвышэйшай увагай.

— У мяне сусед ёсць,—сказаў Траекураў,—дробнамаянтковы грубіян: я хачу забраць у яго маёнтак—што ты пра гэта думаеш?

— Ваша прэвасхадзіцельства, калі ёсць якія-небудзь дакуманты, або...

— Хлусіш, братка, якія табе дакуманты. На тое ўказы. У тым і сіла, каб без усялякага права адабраць маёнтак. Чакай. Гэты маёнтак належаў калісьці нам, быў куплен у нейкага Спіцына і прададзен Дуброўскага бацьку. Ці нельга за гэта ўчапіцца?

— Мудравата, ваша прэвасхадзіцельства, напэўна гэты продаж зроблен законным парадкам.

— Падумай, браце, пашукай добра.

— Калі-б, напрыклад, ваша прэвасхадзіцельства маглі якім сабе хоць чынам дастаць ад вашага суседа запіс, у сілу якога ўладае ён сваім маёнткам, то вядома...

— Разумею, але вось бяда—у яго ўсе паперы згарэлі ў часе пажара.

— Як, ваша прэвасхадзіцельства, паперы ў яго згарэлі! Чаго-ж вам лепш—у такім выпадку, дазвольце дзейнічаць, паводле законаў і без усялякіх няўдач будзе вам ваша сапраўднае задаваленне.

— Ты думаеш? Ну, глядзі-ж. Я спадзяюся на тваю стараннасць, а наконт мае падзякі, то можаш быць упэўнен.

Шабашкін скланіўся амаль да зямлі, выйшаў, з таго-ж дня пачаў старацца наконт задуманай справы і, з прычыны яго спрытнасці, роўна праз два тыдні Дуброўскі атрымаў з горада запрашэнне даць адразу-ж патрэбныя тлумачэнні наконт уладання сяльцом Кісценёўкай.

Андрэй Гаўрылавіч, здзіўлены нечаканым патрабаваннем, у той-жа дзень напісаў у адказ даволі недалікатную паперку, у якой заявіў ён, што сяльцо Кісцянёўка асталося яму па смерці нябожчыка яго бацькі, што ён уладае ім паводле права спадчыннасці, што Траекураву да яго справы ніякай няма і што ўсялякае пабочнае вымаганне на гэтую яго ўласнасць, ёсць паклёп і машэнства.

Ліст гэты выклікаў вельмі прыемнае ўражанне ў душы заседацеля Шабашкіна. Ён убачыў, па-першае, што Дуброўскі мала што разумее ў справах, па-другое, што чалавека такога гарачага і неасцярожнага нецяжка будзе давесці да самага невыгоднага стану.

Андрэй Гаўрылавіч, разгледзеўшы спакойна заседацельскія патрабаванні, убачыў неабходнасць адказаць дакладней. Ён напісаў даволі дзельную паперу, але яна па ходзе часу выявілася як недасканалая.

Справа пачала цягнуцца. Упэўнены ў сваёй праўдзе, Андрэй Гаўрылавіч мала аб ёй думаў, не меў ні ахвоты, ні магчымасці сыпаць навакол сябе грашыма і хоць ён, бывала, заўсёды першы кпіў з прадажнага сумлення чарнільнага племя, але думка зрабіцца афярай ашуканства не прыходзіла яму ў галаву. З свайго боку Траекураў так-жа мала клапаціўся аб выйгрышы пачатай ім справы — Шабашкін за яго стараўся, дзейнічаў ад яго імя, палохаючы і падгоджваючы суддзяў і карыстаючы крыва і проста ўсялякія ўказы. Як-бы там не было, 18.. года, * дня, Дуброўскі атрымаў праз гарадавую паліцыю запрашэнне явіцца да ** земскага суддзі, каб выслухаць рашэнне яго аб справе спрэчнага маёнтка паміж ім, паручыкам Дуброўскім, і генерал-аншэфам Траекуравым, і каб падпісаць сваё задаваленне або нездаваленне. У той-жа дзень Дуброўскі рушыў у горад, па дарозе дагнаў і апярэдзіў яго Траекураў. Яны горда зірнулі адзін на аднаго, і Дуброўскі заўважыў зларадную ўсмешку на твары свайго ворага.

РАЗДЗЕЛ II

Прыехаўшы ў горад, Андрэй Гаўрылавіч спыніўся ў знаёмага купца, начаваў у яго і на другі дзень зранку з'явіўся ў павятовы суд. Ніхто не накіраваў на яго ўвагі. Следам за ім прыехаў і Кірыла Петровіч, пісары ўсталі і пазакладалі пер'я за вуха, члены спаткалі яго з глыбокай і ліслівай пашанай, прысунулі яму крэсла з павагі да яго чына, гадоў і складу: ён сеў пры адчыненых дзверах. Андрэй Гаўрылавіч, стоячы, прыхіліўся да сцяны; стала глыбокая цішыня і сакратар звонкім голасам пачаў чытаць судовую пастанову.

Мы змяшчаем яе ўсю, мяркуючы, што кожнаму прыемна будзе ўбачыць адзін з спосабаў, якімі на Русі можам мы страціць маёнтак, на ўладанне якім маем бясспрэчнае права.

18.. года лютага * дня ** павятовы суд разглядаў справу аб неправільным уладанні гвардыі паручыкам Андрэем Гаўрылавым сынам Дуброўскім маёнткам, належачым генерал-аншэфу Кірылу Пятровічу сыну Траекураву, ** губерні, у сяльцы Кісцянёўцы, мужчынскага роду 186-ю душамі, ды зямлі з паплавамі і ўгоддзямі 932 дзесяціны. З названай справы відаць: адзначаны генерал-аншэф Траекураў мінулага 18.. года ** 9-га дня ўвайшоў у гэты суд з прашэннем у тым, што нябожчык яго бацька, калежскі асэсар і кавалер Петр Ефімаў сын Траекураў у 17... годзе, жнівеня 14 дня, служыўшы ў той час у ** намесніцкім праўленні за правінцыяльнага сакратара, купіў з дваран у канцэлярыста Фадзея Егорава сына Спіцына маёнтак ** акругі ва ўспамянутым сяльцы Кісцянёўцы, каторае паселішча тады па рэвізіі звалася Кісценеўкімі выселкамі, усяго азначаных па 4-й рэвізіі мужчынскага роду

113 душ з усёй іх сялянскай маемасцю, сялібай, з ворнаю і неворнаю зямлёю, лясамі, сяннымі пакосы, рыбнымі лоўлі па рэчцы, празываемай Кісцянеўцы, і з усімі прыналежачымі да гэтага маёнтку ўгоддзямі і панскім драўляным домам і словам усе без астачы, што яму пасля бацькі яго, з дваран ураднiка Егора Цярэнцьева сына Спіцына ў спадчыну асталося і ва ўладанні яго было, не пакідаючы з людзей ніводчай душы, а з зямлі ніводнай чацвярціны, цаной за 2500 р., на што і купчая ў той-жа дзень у ** палаце суда і расправы ўтворана, і яго бацька тады-ж жнівеня ў 26-ты дзень ** Земскім судом уведзен быў ва ўладанне і ўчынён за яго адказ.—А нарэшце 17.. года верасня 6 дня бацька яго з волі божай памёр, а тымчасам ён, прасіцель, генерал-аншэф Траекураў з 17.. года амаль з маленства знаходзіўся ў вайсковай службе і найбольш быў у паходах за граніцамі, чаму ён і не мог мець вестак, як аб смерці бацькі яго, роўна так і аб астаўленым пасля яго маёнтку. Цяпер-жа, па выхадзе зусім з той службы ў адстаўку і па звароце ў маенткі бацькі яго, якія знаходзяцца ў ** і ** губернях у К**, П** і Р** паветах у розных паселішчах, усяго 3000 душ, знаходзіць, што з ліку азначаных маёнткаў вышэйпісанымі ** 113 ю душамі (якіх па цяперашняй... рэвізіі вызначана ў тым сяльцы усяго 186 душ) з зямлей і з усімі ўгоддзямі ўладае без усялякіх падмацаванняў вышэйпісаны гвардыі паручык Андрэй Дуброўскі, чаму, прыкладаючы да прашэння тую сапраўдную купчую, дадзеную бацьку яго прадаўцом Спіцыным, просіць, адабраўшы ўспамянуты маёнтак з няправільнага ўладання Дуброўскага, аддаць па прыналежнасці ў поўнае яго Траекурава распаражэнне. А за несправядлівае яго прысвойванне, з якога ён карыстаўся атрымліваемымі прыбыткамі, па ўтварэнні аб іх належачага дазнання, палажыць з яго, Дуброўскага, належны паводле закону ўзыск і якім яго, Траекурава, задаволіць.

Па ўчыненні-ж ** земскім судом па гэтаму прашэнню доследаў, адкрылася: што ўспамянуты цяперашні ўласнік спрэчнага маёнтка гвардыі паручык Дуброўскі даў на месцы дваранскаму заседацелю растлумачэнне, што падуладны яму цяпер маёнтак, знаходзячыйся ў азначаным сяльцы Кісцянёўцы, 186 душ з зямлей і ўгоддзямі, астаўся яму ў спадчыну пасля смерці бацькі яго, артылерыі падпаручыка Гаўрылы Еўграфава сына Дуброўскага, а яму дайшоўшае па куплі ад бацькі гэтага прасіцеля, раней былога правінцыяльнага сакратара, а пасля калежскага асэсара Траекурава, па даверанасці, дадзенага ад яго 17.. года жнівеня 30 дня, засведчаным у ** павятовым судзе, тытулярнаму саветніку Грыгорыю Васілеву сыну Сабалеву, па якім павінна быць ад яго на маёнтак гэты бацьку яго купчая, бо ў ёй якраз сказана, што ён, Траекураў, увесь атрыманы ім па купчай ад канцэлярыста Спіцына маёнтак, 113 душ з зямлёй, прадаў бацьку яго, Дуброўскага, і належачыя па ўмове грошы, 3200 рублёў, усе дарэшты з бацькі яго без звароту атрымаў, і прасіў успамянутага даверыцеля Собалева выдаць бацьку яго сказаную купчую. А тымчасам бацьку яго ў той-жа даверанасці, з прычыны выпадку выплаты ўсёй сумы, уладаць тым пакупным у яго маёнткам і распараджэнне

мецъ да гэтай купчай, як сапраўднаму ўласніку, і яму, прадаўцу Траекураву, надалей, і нікому ў той маёнтак ужо не ўступаецца.

Але калі якраз і ў якім казённым месцы гэтая купчая ад паверанага Собалева дадзена яго бацьку, яму, Андрэю Дуброўскаму, невядома, бо ён у той час быў у самым малалецтве, і пасля смерці яго бацькі гэтай купчай адшукаць не мог, а мяркуе, што ці не згарэла яна з іншымі паперамі і маёмасцю ў часе быўшага ў 17.. годзе ў доме іх пажару, аб чым вядома было і насельнікам таго паселішча. А што гэтым маёнткам з дня прадажы Траекуравым, або выдачы Собалеву даверанасці, гэта значыцца з 17.. года, а па смерці бацькі яго з 17.. і дагэтуль, яны, Дуброўскія, бясспрэчна ўладалі, у тым сведчыцца на навакольных насельніках, якія, усяго 52 чалавекі, на дапытанне пад прысягай паказалі, што сапраўды, як яны могуць запомніць, названым спрэчным маёнткам пачалі ўладаць успамянутыя паны Дуброўскія назад гэтаму год з 70 без усялякай ад каго-небудзь спрэчкі, але па якім якраз акце або купчай, ім невядома. Успамянуты-ж па гэтай справе ранейшы пакупнік гэтага маёнтка, былы правінцыяльны сакратар Петр Траекураў, ці ўладаў гэтым маёнткам, яны не памятаюць. Дом-жа паноў Дуброўскіх назад гэтаму год трыццаць ад здарыўшагася ў іх маёнтку ў час ночы пажару згарэў, прычым староннія людзі даказалі, што даходу названы спрэчны маёнтак можа даваць, мяркуючы з таго часу разам штогодна, не менш як да 2000 рублёў.

Наўпрэкі-ж гэтага генерал-аншэф Кірыла-Пятроў сын Траекураў 3-га студзеня гэтага года ўвайшоў у гэты суд з прашэннем, што хоць успамянуты гвардыі паручык Андрэй Дуброўскі і падаў пры ўтвораным следстве к справе гэтай выдадзеную нябожчыкам бацькам яго Гаўрылам Дуброўскім тытулярнаму саветніку Собалеву даверанасць на запрадады яму маёнтак, але па гэтай не толькі сапраўднай купчай, але нават і на ўтварэнне калі-небудзь такой ніякіх ясных доказаў па сіле генеральнага рэгламента 19 раздзела і ўказа 1752 года лістапада 29 дня не падаў. Значыцца, самая даверанасць цяпер, за смерцю самога давальніка яе, бацькі яго, паводле ўказа 1818 года, мая ... дня, зусім зніштаецца.— А звыш таго—загадана спрэчныя маёнткі аддаваць ва ўладанне— каторыя з купчай, то па купчых актах, а каторыя не з купчай, то па розыску. На азначаны маёнтак, прыналежны бацьку яго, пададзен ужо ад яго ў доказ прыгонны акт, паводле якога і належыць, на аснове азначаных узаканенняў, з неправільна а ўладання ўпамянутага Дуброўскага адабраўшы, аддаць яму паводле права спадчыны. А як азначаныя памешчыкі, маючы ва ўладанні не належачы ім маёнтак і без усялякага ўмацавання, і карысталіся з яго няправільна і ім не належачымі прыбыткамі, то па разлічэнні, колькі такіх будзе прылічвацца па сіле... з памешчыка Дуброўскага і яго, Траекурава, імі задаволіць. Паводле разгляду гэтай справы і ўтворанай з яе і з законаў выпіскі ў К** павятовым судзе вымеркавана і вырашана:

Як з справы гэтай відаць, што генерал-аншэф Кірыла Петроў сын Траекураў на азначны спрэчны маёнтак, што знаходзіцца

цяпер пад уладаннем у гвардыі паручыка Андрэя Гаўрылава сына Дуброўскага, месцазнаходжаннем у сяльцы Кісцянёўцы, па цяперашняй... рэвізіі ўсяго мужчынскага роду 186 душ, з зямлёю і ўгоддзямі, падаў сапраўдную купчую на продаж маёнтка нябожчыку бацьку яго, правінцыяльнаму сакратару, які пасля быў калежскім асэсарам, у 17** годзе з дваран канцэлярыстам Фадзеем Спіцыным, і што звыш гэтага гэты пакупнік, як з учыненым на той купчай надпісу відно, быў у тым-жа годзе ** земскім судом уведзен ва ўладанне, які маёнтак ужо і за яго адказам, і хоць наўпрэкі гэтага з боку гвардыі паручыка Андрэя Дуброўскага і пададзена даверанасць, дадзеная тым памерлым пакупнікам Траекуравым тытулярнаму советніку Собалеву для ўтварэння купчай на імя бацькі яго, Дуброўскага, але па такіх справах не толькі зацвярджаць крэпасныя нерухомыя маёнткі, але нават і часова ўладаць паводле ўказа . . . . забаронена, да таго-ж і самая даверанасць смерцю давальніка яе дарэшты знішчаецца.—Але каб звыш гэтага сапраўды была па гэтай даверанасці ўтворана дзе і калі на азначаны спрэчны маёнтак купчая, з боку Дуброўскага ніякіх ясных доказаў да справы з пачатку вытварэння, гэта значыцца з 18 . . года, і па гэты час не пададзена. А таму гэты суд і мяркуе: азначаны маёнтак, 180 душ, з зямлёй і ўгоддзямі, у якім цяпер стане той выявіцца, зацвердзіць па пададзенай на яго купчай за генерал-аншэфа Траекурава, аб зняцці з распараджэння гэтым гвардыі паручыка Дуброўскага і аб сталым уводзе ва ўладанні за яго, пана Траекурава, і аб адказе за яго як дайшоўшага яму па спадчыне, прадпісаць ** земскаму суду.—А хоць звыш таго генерал-аншэф Траекураў і просіць аб узысканні з гвардыі паручыка Дуброўскага за няправільнае ўладанне спадчынным яго маёнткам ускарыстаўшыхся з яго прыбыткаў, але як гэты маёнтак, па паказанню старажылых людзей быў у паноў Дуброўскіх некалькі год у бясспрэчным карыстанні, і з справы гэтай не відаць, каб з боку пана Траекурава былі якія-небудзь да гэтага часу прашэнні аб гэтым няправільным уладанні Дуброўскім гэтага маёнтку, да таго па ўлажэнню загадана, ежэлі хто чужую зямлю засее, або сялібу загародзіць, і на таго аб няправільным заўладанні пачнуць біць чалом, і пра тое высветліцца дакладна, тады праваму аддаваць тую зямлю і з пасеяным хлебам, і загараддзю, і забудаваным, а таму генерал-аншэфу Траекураву ў заяўленым на гвардыі паручыка Дуброўскага іску адмовіць, бо належачы яму маёнтак варочаецца ў яго ўладанне, не із'емля з онага нічога. А што пры ўводзе за яго выявіцца можа ўсё без астачы, даць на меркаванне генерал-аншэфу Траекураву, калі ён мае аб гэтай сваёй прэтэнзіі якія-небудзь ясныя і законныя доказы, можа прасіць дзе належыць асобна. Гэтае рашэнне абвясціць як істцу, роўна і адказчыку, на законным угрунтаванні, апеляцыйным парадкам, якіх і выклікаць у гэты суд для выслухання гэтага рашэння і подпісу задаваленне, або нездаваленне праз паліцыю.

Якое рашэнне падпісалі ўсе прысутныя таго суда.

Сакратар змоўкнуў, засядацель устаў і з нізкім паклонам звярнуўся да Траекурава, запрашаючы яго падпісаць паперу. З ура-

чыстым выглядам Траекураў узяў ад яго пяро, падпісаў пад пастановай суда поўнае сваё задаваленне.

Чарга была за Дуброўскім. Сакратар паднёс яму паперу. Але Дуброўскі стаяў і не варушыўся, унурыўшы галаву.

Сакратар яшчэ раз запрасіў яго падпісаць сваё поўнае і дасканалае задаваленне, або адкрытае нездаваленне, калі, звыш чакання, адчуе на сумленні, што на яго баку праўда, і мае намер у вызначаны законам час прасіць па апеляцыі куды належыць.

Дуброўскі маўчаў... Раптам ён узняў галаву, вочы яго бліснулі, ён тупнуў нагой, адштурхнуў сакратара з такой сілай, што той упаў, хапіў чарнільніцу і шпурнуў ёю ў заседацеля. Усіх апанаваў жах. „Як! не шанаваць божай царквы! вон, хамава племя!“ — Пасля да Кірыла Пятровіча: „Ці чуў хто дзе, ваша прэвасхадзіцельства —гаварыў ён,—сабакары уводзяць сабак у божую царкву! Сабакі бегаюць па царкве. Я вам пакажу!..“ Старажы збегліся на шум і ледзве яго суцішылі. Яго вывелі і пасадзілі ў сані. Траекураў выйшаў следам за ім, разам з усім судом. Раптоўнае вар'яцтва Дуброўскага моцна падзейнічала на яго настрой і сапсавала яго ўрачыстасць. Суддзі, якія спадзяваліся на яго падзяку, не мелі ад яго ніводнага ветлівага слова. Ён у той-жа дзень выехаў у Пакроўскае. Дуброўскі тымчасам ляжаў у пасцелі, павятовы лекар, на шчасце не зусім без адукацыі, паспеў пусціць яму кроў, паставіць п'яўкі і шпанскія мухі; да вечара яму стала лягчэй, хворы дайшоў да памяці. На другі дзень павезлі яго ў Кісцянёўку, якая ўжо яму амаль што не належала.

РАЗДЗЕЛ III

Прайшоў пэўны час, а здароўе небаракі Дуброўскага не палепшвалася. Праўда, прыпадкі вар'яцтва ўжо не варочаліся, але сілы яго выразна слабелі. Ён забываўся на свае ранейшыя справы, мала калі выходзіў з свайго пакоя і думаў цэлымі суткамі. Егораўна, добрая бабуля, якая калісьці даглядала яго сына, цяпер стала яму за няньку. Яна даглядала яго як дзіця, гаварыла яму калі трэба есці і спаць, карміла яго, клала спаць. Андрэй Гаўрылавіч ціха слухаў яе і апроч яе ні з кім не бачыўся. Ён не мог думаць аб сваіх справах, аб гаспадарчых распараджэннях, і Егораўна ўбачыла, што трэба паведаміць аб усім маладога Дуброўскага, які служыў у адным з гвардыі пехотных палкоў і быў у той час у Пецербургу. Вырваўшы ліст паперы з выдатковай кнігі, яна прадыктавала кухару Харытону, адзінаму пісьменнаму ў Кісцянёўцы, пісьмо, якое ў той жа дзень і адаслала ў горад на пошту.

Але трэба пазнаёміць чытача з сапраўдным героем нашай аповесці.

Уладзімір Дуброўскі выхоўваўся ў кадэцкім корпусе і выпушчан быў карнетам у гвардыю; бацька не шкадаваў нічога на добрае яго ўтрыманне, і малады чалавек атрымліваў з дому больш, чым павінен быў чакаць. Будучы неашчадлівы і ганарысты, ён дазваляў сабе раскошныя свавольствы; гуляў у карты і ўлазіў у даўгі, не клапоцячыся пра будучыню і прадбачачы сабе рана ці позна багатую нявесту, мару беднай маладосці.

Аднойчы ўвечары, калі некалькі афіцэраў сядзела ў яго, развалíўшыся па канапах і курачы з яго янтараў[1]), Грыша, яго камердынер, падаў яму ліст, на якім надпіс і пячаць здзівілі маладога чалавека. Ён шпарка яго распячатаў і прачытаў вось што:

„Дарагі ты наш, Уладзімір Андрэевіч,—я, твая старая нянька, адважылася табе паведаміць аб татульчыным здароўі. Яму вельмі дрэнна, часам загаварваецца і ўвесь дзень сядзіць як дзіця неразумнае, а наконт жыцця і смерці—то ад бога суджана. Прыязджай ты да нас, саколік мой ясны, мы па цябе і коней вышлем на Пясочнае—чуваць, земскі суд да нас едзе аддаць нас пад руку Кірылу Пятровічу Траекураву—бо мы, значыцца, іхнія, а мы спрадвеку Вашы,—і зроду таго не чулі.—Ты-б мог, жывучы ў Пецярбургу, далажыць аб тым цару-бацюшку, а ён-бы не папусціў нас у крыўду.—Астаюся твая верная раба, нянька Арына Егораўна Бузырова.

У нас дажджы ідуць вось ужо другі тыдзень і пастух Родзя памёр каля Міколінага дня. Пасылаю маё мацярынае блаславенне Грышу, ці добра ён табе служыць?"

Уладзімір Дуброўскі некалькі разоў прачытаў гэтыя даволі бязглуздыя радкі з незвычайным хваляваннем. Ён страціў маці яшчэ ў малыя гады і, амаль не ведаючы бацькі свайго, быў прывезен у Пецярбург на восьмым годзе свайго ўзросту. З усім гэтым ён раманічна быў прывязан да бацькі і тым больш любіў сямейнае жыццё, чым менш паспеў задаволіць душу яго ціхімі радасцямі.

Думка страціць бацьку свайго цяжка рвала яго сэрца, а стан небаракі хворага, аб якім ён здагадваўся з ліста свае нянькі, наганяў на яго жах. Ён уяўляў бацьку, пакіненага ў глухой вёсцы, на руках дурной старой і дваровых людзей, якому пагражае нейкая бяда і які чэзне без дапамогі ў пакутах цела і душы. Уладзімір упікаў сябе ў злачыннай лёгкадумнасці, доўга не меў ён ад бацькі ніякай весткі і не падумаў аб ім дазнацца, мяркуючы, што той у раз'ездах або ў гаспадарчым клопаце.

Ён наважыў да яго ехаць і нават выйсці ў адстаўку, калі хворы стан бацькі будзе вымагаць яго прысутнасці. Таварышы, заўважыўшы яго неспакой, пашлі. Уладзімір, астаўшыся адзін, напісаў просьбу аб водпуску, закурыў люльку і паглыбіўся ў думкі.

У той-жа дзень пачаў ён клапаціцца аб водпуску і праз два дні пусціўся ў дарогу на станцыённых конях, з верным сваім Грышам.

Уладзімір Андрэевіч набліжаўся да той станцыі, з якой павінен быў звярнуць на Кісцянёўку. Сэрца яго поўнілася сумнымі адчуваннямі, ён баяўся, што не застане бацьку жывога, ён уяўляў сабе сумны лад жыцця, які чакае яго ў вёсцы: глуш, бязлюднасць, беднасць і клопат аб справах, у якіх ён не разумеў нічога. Прыехаўшы на станцыю, ён увайшоў да сматрыцеля і запытаў вольных коней. Сматрыцель, даведаўшыся куды трэба было яму ехаць, ска-

---

[1]) Г. зн. з люлек упрыгожаных янтаром. Можна параўнаць з Пушкінскім-жа вершам з „Еўгенія Онегіна":

„Янтар на люльках Царэграда"

заў, што коні, прысланыя з Кісцянёўкі, чакалі яго ўжо чацвертыя суткі. Неўзабаве явіўся да Уладзіміра Андрэевіча стары фурман Антон, што калісьці вадзіў яго па стайні і даглядаў яго маленькага канька. Антон заплакаў, убачыўшы яго, скланіўся яму да зямлі, сказаў што яго стары пан яшчэ жывы і пабег запрагаць коні. Уладзімір Андрэевіч адмовіўся ад снедання і спяшаў выехаць. Антон павёз яго палявымі дарогамі і між імі пачалася гаворка.

— Скажы, калі ласка, Антон, якая справа ў бацькі майго з Траекуравым?

— А бог іх ведае, Уладзімір Андрэевіч... пан, значыцца, не паладзіў з Кірылам Пятровічам, а той і падаў у суд—хоць найбольш ён сам сабе суддзя. Не наша халопская справа разбіраць панскую волю, а дальбог, дарма татуля ваш пайшоў на Кірылу Пятровіча, бізуном абуха не пераб'еш.

— Дык, відаць, Кірыла Пятровіч у нас што хоча, тое і робіць?

— А пэўна што, паночку—заседацеля, значыцца, ён і ў грош не ставіць, іспраўнік у яго на пабягушках, паны з'язджаюцца да яго на паклон; і то сказаць—абы было карыта, а свінні знойдуцца.

— Ці праўда, што адбірае ён у нас маёнтак?

— Ох, паночку, чулі так і мы—гэтымі днямі пакроўскі панамар сказаў на хрэсбінах у нашага старасты: даволі вам гуляць; вось зараз возьме вас у рукі Кірыла Пятровіч. Мікіта каваль і сказаў яму: сціхні ты, Савельіч, не палохай, як кажуць, людзей, не бянтэж гасцей—Кірыла Пятровіч сам па сабе, а Андрэй Гаўрылавіч сам па сабе, а ўсе мы божыя і царавы; але-ж да чужога роту гузіка не прышыеш.

— Значыцца, вы не хочаце перайсці пад уладанне Траекурава?

— Пад уладанне Кірылы Пятровіча? Няхай бог бароніць, у яго там і сваім дрэнна прыходзіцца, а будуць чужыя, то ён з іх не толькі скуру, але і мяса здзярэ. Не, дай божа доўга жыць Андрэю Гаўрылавічу, а калі ўжо аддасць ён богу душу, то не трэба нам нікога, апроч цябе, наш дабрадзей. Не папускай ты нас у крыўду, а мы ўжо за цябе станем.

Пры гэтых словах Антон замахнуў пугай, тузануў лейцы і коні паімчаліся шпарка.

Расчулены адданасцю старога фурмана, Дуброўскі змоўк і аддаўся сваім думкам. Прайшло больш як гадзіна часу, раптам Грыша абудзіў яго, гукнуўшы: „Вось Пакроўскае!“ Дуброўскі ўзняў галаву. Ён ехаў берагам шырокага возера, з якога выцекала рэчка і далёка выгіналася паміж ўзгоркаў; на адным з іх, над густым зелянівам гаю, узвышаўся зялёны дах і бельведэр[1]) вялічэзнага мураванага дома; на другім пяціглавая царква і старасвецкая званіца; навокал стаялі вясковыя хаты з іх гародамі і студнямі. Дуброўскі пазнаў гэтую мясціну—ён успомніў, на гэтым самым узгорку гуляў ён з маленькай Машай Траекуравай, якая была на два гады за яго маладзей і тады ўжо было відаць, што з яе будзе красуня. Ён хацеў аб ёй запытаць у Антона, але нейкая сарамлівасць стрымала яго.

[1]) Бельведэр—невялікая вежа над дахам дома.

Пад'ехаўшы да панскага дома, ён убачыў белую сукенку, якая мільгацела паміж садовых дрэў. У гэты час Антон сцебануў коней, і з-за ганарыстасці, якая ўласціва вясковым фурманам, таксама як і рамізнікам, паімчаўся на ўвесь дух цераз мост і паўз сяло. Выехаўшы з вёскі, уз'ехалі яны на гару і Уладзімір убачыў бярозавы гай, а ўлева на прагалку шэранькі дамок з чырвоным дахам; сэрца яго закалацілася. Перад яго вачыма была Кісцянёўка і бедны дом яго бацькі.

Праз дзесяць хвілін уехалі яны на панскі двор. Ён глядзеў навокал сябе з хваляваннем вялікім. Дванаццаць год не бачыў ён свае радзімы. Бярозкі, якія пры ім толькі што былі пасаджаны паўз плот, выраслі і сталі цяпер высокімі купчастымі дрэвамі. Двор, калісьці ўпрыгожаны трыма правільнымі кветнікамі, паміж якіх ішла шырокая дарога, старанна заўсёды падмеценая, ператварыўся ў нескошаны поплаў, на якім пасвіўся спутаны конь. Сабакі спачатку забрахалі, але пазнаўшы Антона, змоўклі і замахалі кудластымі хвастамі. Дваровыя павыбягалі з хат, абкружылі маладога пана з шумным выяўленнем радасці. Ледзьве мог ён прабіцца праз іх шчыры натоўп і ўзбег на стары ганак. У сенцах спаткала яго Ягораўна і з плачам абняла свайго выхаванца.

— Здарова, здарова, няня,—гаварыў ён, прыціскаючы да сэрца шчырую старую,—як бацька, дзе ён, як з ім?

У гэты момант у зал увайшоў, ледзь перасоўваючы ногі, стары высокага росту, бледны і худы, у халаце і калпаку.

— Здаровенек, Валодзька,—сказаў ён слабым голасам, і Уладзімір горача абняў бацьку свайго.

Радасць вельмі страсянула хворага, ён аслабеў, ногі яго хісталіся і ён упаў-бы, каб сын не падтрымаў яго.

— Нашто вы ўсталі з пасцелі,—гаварыла яму Ягораўна,—на нагах не трымаецца, а ідзе, гледзячы на людзей.

Старога занеслі ў спальню Ён стараўся з імі гаварыць, але думкі блыталіся ў яго галаве і словы не мелі ніякай сувязі. Ён змоўк і ўпаў у санлівасць. Уладзімір жахнуўся, гледзячы на бацьку. Ён астаўся ў яго спальні і прасіў, каб яго пакінулі аднаго з бацькам Дамашнія паслухалі, і тады ўсе звярнуліся да Грышы і павялі да сябе, дзе і пачаставалі яго павясковаму, з шчырай гасціннасцю, замучыўшы яго запытаннямі і прывітаннямі.

## РАЗДЗЕЛ IV

*Где стол был яств, там гроб стоит.*

*— Державин.*

Праз некалькі дзён пасля свайго прыезду, малады Дуброўскі хацеў заняцца справамі, але бацька яго не меў сілы даць яму патрэбныя тлумачэнні, а ў яго не было павераната. Разглядаючы бацькавы паперы, знайшоў ён толькі першы ліст заседацеля і чарнавы адказ на яго, з чаго не мог ён мець яснага ўяўлення аб цаганіне і надумаўся чакаць, што будзе далей, спадзяючыся на праўду свае справы.

Тымчасам здароўе Андрэя Гаўрылавіча ўсё пагоршвалася. Уладзімір прадбачыў, што яно зусім занепадзе і не адыходзіў ад старога, які зусім здзяцінеў.

Тымчасам вызначаны тэрмін скончыўся і апеляцыя не была пададзена. Кісцянёўка належала Траекураву. Шабашкін з'явіўся да яго з паклонамі і віншаваннямі і просьбай назначыць, калі яго прэвасхадзіцельства зажадае ўступіць ва ўладанне нованабытым маёнткам—сам, або каму зрабіць ласку даць на тое даручэнне. Кірыла Пятровіч збянтэжыўся. З натуры не быў ён сквапны, жаданне помсты завяло яго занадта далёка, сумленне яго не было спакойнае. Ён ведаў, у якім стане яго праціўнік, стары таварыш яго маладосці, і перамога не радавала яго сэрца. Ён грозна зірнуў на Шабашкіна, шукаючы да чаго-б прычапіцца, каб яго вылаяць, але, не знайшоўшы яснай на гэта прычыны, сказаў яму злосна:

— Пашоў вон, не да цябе.

Шабашкін, бачачы, што ён не ў гуморы, скланіўся і заспяшаўся выйсці. А Кірыла Пятровіч, астаўшыся адзін, пачаў расхаджваць узад і ўперад, высвістваючы: „Гром победы раздавайся“, што заўсёды азначала ў ім незвычайнае хваляванне думак.

Нарэшце ён загадаў запрагчы сабе раз'ездныя драбінкі, цёпла апрануўся (гэта было ўжо у канцы верасня) і без фурмана выехаў з двара.

Неўзабаве ўбачыў ён дамок Андрэя Гаўрылавіча і супярэчлівыя пачуцці апанавалі душой яго. Здзейсненая помста і гордасць заглушалі да некаторай ступені пачуцці больш далікатныя, але апошнія нарэшце ўзялі верх. Ён надумаўся памірыцца з старым сваім суседам, знішчыць і сляды сваркі, вярнуўшы яму яго ўладанні. Аблягчыўшы душу гэтым добрым намерам, Кірыла Пятровіч пагнаў каня да сяліба свайго суседа і уз'ехаў проста на двор.

У гэты час хворы сядзеў у спальні пры акне. Ён пазнаў Кірылу Пятровіча і жудаснае ўтрапенне адлюстравалася на яго твары— густая ружовасць заступіла месца звычайнай бледнасці, вочы заблішчэлі, ён выгаварваў штосьці незразумелае. Сын яго, што сядзеў тут за гаспадарчымі кнігамі, узняў галаву і жахнуўся, бачачы ў такім стане бацьку. Хворы паказваў пальцам на двор з жахам і гневам. Ён спяшаючыся падбіраў крысо свайго халата, строячыся ўстаць з крэсла, прыўзняўся і раптам упаў. Сын кінуўся да яго, стары ляжаў у непрытомнасці і без дыхання—паралюш хапіў яго.

— Хутчэй, хутчэй у горад па лекара!—крычаў Уладзімір.

— Кірыла Пятровіч пытае вас,—сказаў слуга, увайшоўшы.

Уладзімір кінуў на яго жудасны позірк.

— Скажы Кірылу Пятровічу, каб ён хутчэй выбіраўся, пакуль я не загадаў яго выгнаць з двара. Пашоў!

Слуга радасна пабег ажыццявіць загад свайго пана, і Егораўна заламала рукі.

— Бацечка ты наш,—сказала яна пісклівым голасам,—згубіш ты сваю галаву! Кірыла Пятровіч з'есць нас.

— Маўчы, няня,—сказаў горача Уладзімір,—зараз пашлі Антона ў горад па лекара.

Егораўна вышла. У пярэднім пакоі нікога не было—усе людзі збегліся на двор глядзець на Кірылу Пятровіча. Яна вышла на ганак і пачула адказ слугі, які гаварыў ад імя маладога пана. Кірыла Пятровіч выслухаў яго седзячы на драбінках; твар яго стаў змрачнейшы за ноч, ён пагардліва ўсміхнуўся, грозна зірнуў на дваровых і паехаў ціха паўз дом. Ён зірнуў і ў акно, дзе за хвіліну перад гэтым сядзеў Андрэй Гаўрылавіч, але дзе ўжо яго не было. Няня стаяла на ганку, забыўшыся на загад пана. Дваровыя шумна гутарылі аб гэтым здарэнні. Раптам Уладзімір з'явіўся паміж людзьмі і адрывіста сказаў:

— Не трэба лекара, татуня памёр.

Пачалося ўтрапенне. Людзі кінуліся ў пакой старога пана. Ён ляжаў у крэслах, на якія перанёс яго Уладзімір; правая рука яго вісела да падлогі, галава спушчана была на грудзі—не было ўжо і адзнак жыцця ў гэтым целе, яшчэ не астылым, але ўжо агідна кранутым скананнем. Егораўна загаласіла; слугі аступілі труп, пакінены на іхнія рукі—вымылі яго, адзелі ў мундзір, пашыты яшчэ ў 1797 годзе і паклалі на той самы стол, за якім колькі год яны служылі свайму пану.

## РАЗДЗЕЛ V

Пахаванне адбылося на трэці дзень. Цела небаракі старога ляжала на стале, накрытае саванам і абкружанае свечкамі. Сталовая поўна была дваровых. Рыхтаваліся да вынасу. Уладзімір і трое слуг паднялі труну. Свяшчэннік пайшоў наперад, дзяк каля яго, спяваючы пахавальныя малітвы. Гаспадар Кісцянёўкі ў апошні раз перайшоў за парог свайго дома. Труну панеслі гаем. Царква была за ім. Дзень быў ясны і халодны. Асенняе лісцё падала з дрэў.

Пры выхадзе з гаю, убачылі кісцянёўскую драўляную царкву і могільнік, зарослы старымі ліпамі. Там было пахавана цела уладзіміравай маці, там, каля магілы яе, напярэдадні выкапана была свежая магіла.

Царква поўна была кісцянёўскіх сялян, якія прыйшлі аддаць апошняе пакланенне пану свайму. Малады Дуброўскі стаў ля кліраса; ён не плакаў і не маліўся, але твар яго быў страшны Жалобны абрад скончыўся. Уладзімір першы пайшоў развітацца з целам, за ім усе дваравыя. Прынеслі века і забілі труну. Бабы моцна галасілі; мужыкі часта выцiралі слёзы кулакамі. Уладзімір і тыя-ж трое слуг панеслі труну на могілкі, следам ішла ўся вёска. Труну спусцілі ў магілу, усе, што былі тут, кінулі ў яе па жмені пяску, яму засыпалі, пакланіліся ёй і разышліся. Уладзімір шпарка пайшоў, усіх апярэдзіў і знік у Кісцянёўскім гаю.

Егораўна ад імя яго запрасіла папа і ўвесь прычт царкоўны на жалобны абед, абвясціўшы, што малады пан не мае намеру на ім быць; і такім чынам айцец Антон, пападдзя Федотаўна і дзяк пешкі рушылі на панскі двор, разважаючы з Егораўнай аб добрачыннасцях нябожчыка і аб тым, што, як відаць, чакала яго сына (прыезд Траекурава і тое, як яго прынялі, былі ўжо вядомы усяму наваколлю, і тамашнія палітыкі прарочылі важныя гэтаму вынікі).

— Што будзе, то будзе,—сказала пападдзя,—а шкада, калі не Уладзімір Андрэевіч будзе нашым панам. Маладзец, нічога не скажаш.

— А каму-ж як не яму і быць у нас за пана,—перарвала Егораўна,—дарма Кірыла Пятровіч і гарачыўся, не на баязліўца напаў, мой саколік і сам сябе ў крыўду не папусціць, ды і бог літаслівы яго не пакіне. Вельмі ганарысты Кірыла Пятровіч! а бач ты, падтуліў хвост, калі Грышка мой закрычаў яму: Вон стары сабака! Вон з двара!

— А-яй, Егораўна,—сказаў дзяк,—як гэта ў Грыгора язык павярнуўся, я хутчэй згаджуся, здаецца аблаяць уладыку, чым крыва зірнуць на Кірылу Пятровіча. Як убачыш яго, страх і баязлівасць хіляць цябе ніц, а спіна сама так і гнецца, так і гнецца...

— Сует суетаў,—сказаў сьвяшчэннік,—і Кірылу Пятровічу адспяваюць вечную памяць, як сёння Андрэю Гаўрылавічу, хіба што пахаванне будзе багацейшае і гасцей склічуць больш—а богу хіба не ўсёроўна!

— Ах, бацька! І мы хацелі склікаць усю навакольнасць, але Уладзімір Андрэевіч не захацеў. Не падумайце, у нас усяго даволі, ёсць чым пачаставаць, але што зробіш. Прынамсі калі няма людзей, то ўжо хоць вас участую, дарагія госці нашы.

Гэтае ласкавае абяцанне і надзея знайсці смачны пірог, паддалі ўсім ходу і яны без дрэнных прыгод прышлі ў панскі дом, дзе стол быў прырыхтаваны ўжо і гарэлка пастаўлена.

Тымчасам Уладзімір паглыбляўся ў гушчу дрэў, рухам і стомленасцю стараючыся заглушыць смутак душы. Ён ішоў, не разбіраючы дарогі; вецце штохвілінна кратала і абдзірала яго, ногі яго раз-по разу вязлі ў балоце—ён нічога не заўважаў. Нарэшце дайшоў ён да маленькай лагчынкі, з усіх бакоў абкружанай лесам, ручаінка вілася ціха каля дрэў, напалову аголеных восенню. Уладзімір спыніўся, сеў на халодную траву і думкі адна за адну змрачнейшыя згусціліся ў душы яго... Моцна адчуваў ён сваю адзіноту. Будучыня яму ўяўлялася ўкрытая навальнічнымі хмарамі. Варожасць з Траекуравым пагражала яму новымі няшчасцямі. Бедная яго ўласнасць магла адыйсці ад яго ў чужыя рукі—у такім выпадку жабрацтва чакала яго. Доўга сядзеў ён нерухома на тым-жа месцы, глядзячы на ціхую плынь ручаіны, якая зносіла кудысьці некалькі зблёклых лісцяў і жыва ўяўляла яму вернае падабенства жыцця—падабенства такое звычайнае. Нарэшце заўважыў ён, што пачало змяркацца; ён устаў і пайшоў шукаць дарогі дадому, але яшчэ доўга блукаў па незнаёмым лесе, пакуль не патрапіў на сцежку, якая і прывяла проста да брамы яго дома.

Насустрач Дуброўскаму натрапіўся поп з усім прычтам. Думка аб нешчаслівай прыкмеце прышла яму ў галаву... Ен, не раздумваючы, пайшоў стараной і знік за дрэвам. Яны яго не заўважылі і горача гаварылі між сабой, праходзячы паўз яго.

— Аддаліся ад злога, зрабі дабро,—гаварыў поп пападдзі,—няма чаго нам тут аставацца. Не твая справа, чым-бы ўсё не скончылася.

Пападдзя штосьці адказала, але Уладзімір не мог пачуць.

Падыходзячы, убачыў ён мноства народа—сяляне і дваравыя людзі тоўпіліся на панскім двары. Здалёк пачуў Уладзімір незвычайны шум і гоман. Ля хлява стаялі дзве тройкі. На ганку некалькі незнёмых людзей у мундзірах і сурдутах, здавалася, аб чымсьці гутарылі.

— Што гэта значыць,—запытаў ён сярдзіта ў Антона, які бег яму насустрач.—Гэта хто такія, што ім трэба?

— Ах, бацечка Уладзімір Андрэевіч,—адказаў стары, задыхаючыся.—Суд прыехаў. Аддаюць нас Траекураву, адбіраюць нас ад тваёй ласкі!..

Уладзімір унурыў галаву, людзі абкружылі няшчаснага свайго пана.

— Бацька ты наш,—крычалі яны, цалуючы яму рукі,—не хочам іншага пана апроч цябе, загадай, з судом мы ўправімся, памром, а не папусцімся...— Уладзімір глядзеў на іх, і дзіўныя пачуцці хвалявалі яго.

— Стойце ціха,—сказаў ён ім,—а я з прыказнымі перагавару.

— Перагавары, бацечка,—закрычалі яму з натоўпа,—да ўгавары гадаў.

Уладзімір падышоў да чыноўнікаў. Шабашкін, з картузам на галаве, стаяў узяўшыся ў бокі і горда пазіраў навакол сябе... Іспраўнік, высокі і таўсты мужчына год пяцідзесяці, з чырвоным тварам і ў вусах, убачыўшы каля сябе Дуброўскага, крактануў і сказаў ахрыплым голасам:

— Значыцца, я вам яшчэ раз гавару тое, што ўжо сказаў: паводле рашэння павятовага суда, ад сёння належыце вы Кірылу Пятровічу, якога асобу заступае тут пан Шабашкін. Слухайце яго ва ўсім, што ні загадае, а вы, бабы, любіце і шануйце яго, а ён да вас вялікі ахвотнік.

Пасля гэтага вострага жарту, іспраўнік зарагатаў, а Шабашкін і іншыя члены зрабілі тое самае. Уладзімір кіпеў ад гневу.

— Дазвольце дазнацца што гэта значыць?—запытаў ён з штучнай спакойнасцю ў вясёлага іспраўніка.

— А гэта тое значыць,—адказаў удалы чыноўнік,—што мы прыехалі ўводзіць ва ўладанне гэтага Кірылу Пятровіча Траекурава і прасіць некаторых іншых выбірацца адгэтуль, пакуль не позна.

— Але вы маглі-б, здаецца, аднесціся да мяне раней чым да маіх сялян,—і абвясціць памешчыку адхіленне ад улады.

— А ты хто такі?—сказаў Шабашкін з задзірыстым позіркам,—былы памешчык Андрэй Гаўрылаў сын Дуброўскі з ласкі божай памёр,—мы вас не ведаем, ды і ведаць не хочам.

— Уладзімір Андрэевіч, наш малады пан,— сказаў голас з натоўпу.

— Хто там асмеліўся горла разявіць?—сказаў грозна іспраўнік,—які пан? Які Уладзімір Андрэевіч? Пан ваш Кірыла Пятровіч Траекураў—чуеце вы, дурні?

— Дзіва, што,—сказаў той-жа голас.

— Гэта-ж бунт!—закрычаў іспраўнік.—Гэй, стараста, сюды!

Стараста выступіў наперад.

— Знайдзіце зараз-жа, хто асмеліўся са мной гаварыць, я яго!

Стараста звярнуўся да натоўпа, пытаючы хто гаварыў? Але ўсе маўчалі. Неўзабаве ззаду ўзняўся гоман, стаў пабольшвацца і ў адну хвіліну ператварыўся ў жудасны гвалт. Іспраўнік знізіў голас і хацеў ужо іх угаварваць.

— Што тут на яго глядзець,—закрычалі дваровыя,—хлопцы! Вон іх!—і натоўп рушыў.

Шабашкін і іншыя члены шпарка кінуліся ў сенцы і замкнулі за сабой дзверы.

— Хлопцы, наперад,—закрычаў той-жа голас, і натоўп пачаў націскаць.

— Чакайце,—гукнуў Дуброўскі,—дурні! Што гэта вы? Вы губіце і сябе, і мяне. Ідзіце па хатах і дайце мне спакой. Не бойцеся, цар мае літасць, я яго буду прасіць, ён нас у крыўду не папусціць— мы ўсе яго дзеці, як ён за вас можа заступіцца, калі вы пачнеце бунтаваць і разбойнічаць.

Прамова маладога Дуброўскага, яго гучны голас і вялікасны выгляд зрабілі сваю справу. Народ сціх, разышоўся, двор стаў пусты, члены сядзелі ў доме. Нарэшце Шабашкін ціхом адамкнуў дзверы, вышаў на ганак і з ліслівым паклонам пачаў дзякаваць Дуброўскага за яго ласкавае заступніцтва.

Уладзімір слухаў яго з агідай і нічога не адказаў.

— Мы вырашылі,—гаварыў далей заседацель,—з вашага дазволу астацца тут начаваць; а то ўжо цёмна і вашы мужыкі могуць напасці на нас на дарозе. Зрабіце такую ласку: загадайце паслаць нам хоць сена ў гасціннай; ледзь на золак, мы паедзем сабе.

— Рабіце што хочаце,—адказаў ім суха Дуброўскі,—я тут ужо не гаспадар.

З гэтым словам ён пайшоў у пакой бацькі свайго і замкнуў за сабой дзверы.

## РАЗДЗЕЛ VI

„Значыцца, усё скончана,—сказаў ён сам сабе;—яшчэ зранку меў я куток і кавалак хлеба. Заўтра павінен я пакінуць дом, дзе я радзіўся, дзе памёр мой бацька, віноўніку яго смерці і майго жабрацтва“. І вочы яго нерухома спыніліся на партрэце яго маці. Жывапісец намаляваў яе нахіленую над балясамі, у белым ранішнім адзенні з адной ружай у валасах. „І партрэт гэты астанецца ворагу мае сям'і,—падумаў Уладзімір,—яго закінуць у клець, разам з паламанымі крэсламі, або павесяць у пярэдняй дзеля кпін і заўваг яго сабакароў, а ў яе спальні, у пакоі... дзе памёр бацька, будзе жыць яго аконам, або будзе гарэм. Не, не! Няхай-жа і яму не астанецца сумны дом, з якога ён выганяе мяне!“ Уладзімір сціснуў зубы—страшныя думкі нараджваліся ў галаве яго. Галасы пад'ячых даходзілі да яго; яны гаспадарылі, патрабавалі то таго, то іншага і непрыемна трывожылі яго сярод сумных яго думак. Нарэшце ўсё сціхла.

Уладзімір адамкнуў камоды і куфры, узяўся за разбор папераў нябожчыка. Гэта найбольш былі гаспадарчыя рахункі і перапіска наконт усялякіх спраў. Уладзімір парваў іх, не чытаючы. Сярод

іх трапіўся яму пакет з надпісам: „Лісты мае жонкі". З узнятым пачуццем Уладзімір узяўся за іх: яны пісаны былі ў часе турэцкага паходу і былі адрасаваны ў армію з Кісцянёўкі. Яна апісвала яму сваё самотнае жыццё, гаспадарчыя клопаты, з пяшчотай наракала на разлуку і клікала яго дадому, у абнімкі ласкавай падругі. У адным з іх яна выказвала яму свой непакой наконт здароўя маленькага Уладзіміра; у другім яна радавалася яго ранним здольнасцям і прадбачыла бліскучую і шчаслівую яго будучыню. Удадзімір зачытаўся і забыўся на ўсё на свеце, паглыбіўшыся душой у абсягі сямейнага шчасця і не заўважыў як прайшоў час; насценныя часы выбілі адзінаццаць. Уладзімір паклаў лісты ў кішэню, узяў свечку і вышаў з габінета. У зале прыказныя спалі на падлозе. На стале стаялі шклянкі, імі спарожненыя, і моцны дух рома чуўся па ўсім пакоі. Уладзімір з агідай прайшоў паўз іх у пярэднюю. Дзверы былі замкнёны. Не знайшоўшы ключа, Уладзімір вярнуўся ў зал—ключ ляжаў на стале. Уладзімір адчыніў дзверы і наткнуўся на чалавека, які прыціснуўся ў куток—сякера блішчэла ў яго. І павярнуўшыся да яго са свечкай, Уладзімір пазнаў Архіпа—каваля.

— Чаго ты тут?—запытаў ён.

— Ах, Уладзімір Андрэевіч, гэта вы,—адказаў Архіп потайкам,—няхай нас бог ратуе. Добра, што вы ішлі з свечкай!

Уладзімір глядзеў на яго са здзіўленнем.

— Чаго ты тут сцішыўся?—запытаў ён каваля.

— Я хацеў... я прыйшоў... даведацца ці ўсе дома,—ціха адказаў Архіп, заікаючыся.

— А нашто ў цябе сякера?

— Сякера нашто? А як-жа без сякеры ўночы хадзіць? Гэтыя прыказныя такія, бач, свавольцы, сюд-туд і...

— Ты п'яны, кінь сякеру, ідзі праспіся.

— Я п'яны? Бацюшка, Уладзімір Андрэевіч, бог сведка, ніводнай кроплі ў роце не было... ды і ці гэта ў галаве! Гэта-ж трэба!—пад'ячыя ўздумалі намі ўладаць, пад'ячыя выганяюць нашых паноў з панскага двара... Чуў як храпуць, гады,—каб усіх разам—дык і канцы-б у ваду.

Дуброўскі спахмурнеў.

— Паслухай Архіп,—сказаў ён крыху памаўчаўшы,—не добра ты думаеш. Не прыказныя вінаваты. Запалі ліхтар і ідзі за мной.

Архіп узяў свечку з рук пана, знайшоў узапечы ліхтар, запаліў яго і абодва ціха сыйшлі з ганку і пайшлі па двару; сторож пачаў біць у чыгунную дошку; сабакі забрахалі.

— Хто вартуе?—запытаў Дуброўскі.

— Мы, паночку,— адказаў тонкі голас,—Васіліса і Лукер'я.

— Ідзіце па хатах,—сказаў ім Дуброўскі,—вас не трэба.

— Шабаш,—абазваўся Архіп.

— Дзякуй, родненькі,—адказалі бабы, і адразу рушылі дадому.

Дуброўскі пайшоў далей. Два чалавекі наблізіліся да яго, яны на яго гукнулі. Дуброўскі пазнаў галасы Антона і Грышы.

— Чаму вы не спіце?—запытаў ён іх.

— Ці да сну нам,—адказаў Антон,—да чаго мы дажыліся, хто-б гэта мог падумаць...

— Цішэй!—перабіў Дуброўскі,—дзе Егораўна?

— У панскім доме, у сваім пакойчыку,—адказаў Грыша.

— Ідзі, прывядзі яе сюды, і выведзі з дому ўсіх нашых людзей, каб ніводнай душы ў ім не аставалася, апроч прыказных, а ты, Антон, запражы воз.

Грыша пайшоў і праз хвіліну з'явіўся з сваёй маці. Старая не раздзявалася ў гэтую ноч; апроч прыказных ніхто ў доме не заплюшчыў вачэй.

— Ці ўсе тут?—запытаў Дуброўскі,—ці не асталося каго ў доме?

— Нікога, апроч пад'ячых,—адказаў Грыша.

— Давайце сюды сена і саломы,—сказаў Дуброўскі.

Людзі пабеглі ў стайню і вярнуліся, нясучы бярэмы сена.

— Падкладзіце пад ганак. Вось так. Ну, хлопцы, агню!

Архіп адчыніў ліхтар. Дуброўскі запаліў лучыну.

— Чакай,—сказаў ён Архіпу,—здаецца, спяшаючыся, я замкнуў дзверы ў пярэднюю, ідзі хутчэй адчыні іх.

Архіп пабег у сені—дзверы былі адамкнёны. Архіп замкнуў іх на ключ, сказаў сам сабе: добры інтэрас, адамкні! І вярнуўся да Дуброўскага.

Дуброўскі паклаў лучыну, сена ўспыхнула, полымя шыбанула і асвяціла ўвесь двор.

— Авохці,—загаласіла Егораўна.—Уладзімір Андрэевіч, што ты робіш?

— Маўчы,— сказаў Дуброўскі.—Ну, дзеці, бывайце, іду куды бог павядзе; будзьце шчаслівы з новым вашым панам.

— Бацька наш родненькі,—адказалі людзі,—памром—не пакінем цябе, пойдзем з табой.

Коні былі гатовы. Дуброўскі сеў з Грышам у воз і назначыў месцам спаткання Кісцянёўскі гай. Антон сцебануў па конях і яны выехалі з двара.

Узняўся вецер. У адну хвіліну полымя абняло ўвесь дом. Чырвоны дым віўся над дахам. Шкло трашчала, сыпалася, палымнеючыя бярвенні пачалі падаць, пачуўся енк і крыкі: „гарым! памажыце! памажыце!“

— Дзіва што памажыце!—сказаў Архіп, са злобнай усмешкай пaглядаючы на пажар.

— Архіпка,—гаварыла яму Егораўна,—выратуй гэтых гадаў, бог табе верне.

— Дзіва што,—адказаў каваль.

У гэтую хвіліну прыказныя кінуліся да вокан, стараючыся выламаць падвойныя рамы. Але тут дах з трэскам абваліўся і енкі заціхлі.

Неўзабаве ўсе дваровыя высыпалі на двор. Бабы з крыкам спяшаліся выратаваць свой набытак, дзеці скакалі, цешачыся з агню. Іскры паляцелі вогненнай завірухай, хаты загарэліся.

— Цяпер усё добра,—сказаў Архіп,—бач як гарыць? Напэўна з Пакроўскага добра глядзець.

У гэтую хвіліну новая з'ява пацягнула да сябе ўвагу; кошка бегала па страсе ахопленага агнём хлява, не ведаючы куды саскочыць—з усіх бакоў абкружвала яе полымя. Небарака жывёліна няшчасным мяўканнем клікала на дапамогу, хлапчукі качаліся з рогату, гледзячы на яе роспач.

— Чаго смяяцеся, чарцянята?—сказаў ім злосна каваль,—бога вы не баіцеся: божае стварэнне гіне, а вы дурні радуецеся,—і прыставіўшы лескі палез па кошку. Яна зразумела яго намеры і з выглядам раптоўнай удзячнасці ўчапілася за яго рукаў. Абсмалены каваль з сваёй здабычай палез уніз.

— Ну людзі, бывайце,—сказаў ён збянтэжаным дваровым,—мне тут няма чаго рабіць. Шчасліва, не думайце злога.

Каваль пайшоў, пажар шыбаў яшчэ некаторы час. Нарэшце суняўся і кучы вуголля без агню зырка гарэлі ў цемені ночы; каля іх брадзілі пагарэлыя насельнікі Кісцянёўкі.

## РАЗДЗЕЛ VII

На другі дзень вестка аб пажары пайшла па ўсёй наваколь-насці. Усе гаварылі аб ім з рознымі здагадкамі і меркаваннямі. Некаторыя сцвярджалі, што людзі Дуброўскага, напіўшыся п'яныя на пахаванні, запалілі дом з-за неасцярогі; а некаторыя вінавацілі прыказных, якія падгулялі на новаселлі; а шмат хто стараўся ўсіх упэўніць, што Дуброўскі сам згарэў з земскім судом і з усімі дваровымі. Былі-ж і такія, што здагадваліся аб праўдзе і сцвярджалі што віноўнікам гэтага жудаснага няшчасця быў сам Дуброўскі, якім кіравала злосць і роспач. Траекураў прыехаў на другі-ж дзень на месца пажара і сам рабіў следства. Выявілася, што ісправнік, засядацель земскага суда, страпчы і пісар, таксама як Уладзімір Дуброўскі, няня Егораўна, дваровы чалавек Грыгорый, фурман Антон і каваль Архіп зніклі невядома куды. Усе дваровыя паказалі, што прыказныя згарэлі ў той час, калі абваліўся дах, абгарэлыя іх косці былі знойдзены. Бабы Васіліса і Лукер'я сказалі, што Дуброўскага і Архіпа каваля бачылі яны за некалькі хвілін да пажара. Каваль Архіп, як гаварылі ўсе, быў жывы і напэўна галоўны, калі не адзіны віноўнік пажара. На Дуброўскага клалася моцная падазронасць. Кірыла Пятровіч паслаў губернатару падрабязнае апісанне ўсяго здарэння і новая справа пачалася.

Неўзабаве іншыя весткі далі іншую прычыну для цікаўнасці і гутарак. У ** з'явіліся разбойнікі і навялі жах на ўсю навакольнасць. Захады, якія ўжыла супроць іх улада, нічога не памаглі. Грабежніцтвы, адно за другое большае, адбываліся адно за другім. Было страшна па дарогах і па вёсках. Некалькі троек, поўных разбойнікаў, раз'язджалі днём па ўсёй губерніі—спынялі падарожных і пошту, прыязджалі ў сёлы, грабілі памешчыцкія дамы і палілі іх. Начальнік шайкі выславіўся розумам, адвагай і нейкім вялікадушшам. Расказвалі пра яго цуды; імя Дуброўскага было ў ва ўсіх на языку, усе былі ўпэўнены, што ён, а ніхто іншы, быў начальнік адважных злачынцаў. Дзівіліся з аднаго: маёнткаў Траекурава разбойнікі не кранулі, яны не аграбілі ў яго ніводнага

хлява, не запынілі ніводнага воза. З звычайнай сваёй ганарыстасцю, Траекураў знаходзіў прычыну гэтаму выключэнню ў тым страху, з якім на яго глядзелі па ўсёй губерніі, а таксама вельмі добрай паліцыі, якую ён завёў у сваіх вёсках. Спачатку суседзі смяяліся між сябе з гордасці Траекурава і кожны дзень чакалі, каб няпрошаныя госці завіталі ў Пакроўскае, дзе было ім чым пажывіцца, але нарэшце вымушаны былі з ім згадзіцца і прызнацца, што і разбойнікі ставіліся да яго з незразумелай павагай... Траекураў ганарыўся і пры кожнай вестцы аб новым грабежніцтве Дуброўскага, сыпаў насмешкамі наконт губернатара, ісправнікаў і ротных камандзіраў, ад якіх Дуброўскі знікаў заўсёды без следу.

Тымчасам надыйшло 1-е кастрычніка—фэст у сяле Траекурава. Але раней чым пачнем апісваць гэтую ўрачыстасць і далейшыя падзеі, мы павінны пазнаёміць чытача з асобамі, для яго новымі, або пра якіх мы злёгку толькі сказалі ў пачатку нашай аповесці.

## РАЗДЗЕЛ VIII

Чытач напэўна ўжо здагадаўся, што дачка Кірылы Пятровіча, пра якую сказалі мы толькі некалькі слоў, ёсць гераіня нашай аповесці. У эпоху, якую мы апісваем, ёй было семнаццаць год, і прыгажосць яе была ў поўным росквіце. Бацька любіў яе да шаленства, але абыходзіўся з ёю з уласцівымі яму норавамі, то стараючыся дагаджаць кожнаму яе капрызу, то палохаючы яе суровым, а часам і жорсткім абыходжаннем. Упэўнены ў яе адданасці, ніколі не мог ён дамагчыся яе давер'я. Яна прывыкла хаваць ад яго свае пачуцці і думкі, бо ніколі не магла ведаць напэўна, як яны будуць спатканы. Яна не мела сяброўак і вырасла ў адзіноце. Жонкі і дочкі суседзей мала калі ездзілі да Кірылы Пятровіча, звычайныя гаворкі і забавы якога патрабавалі мужчынскага таварыства, а не дамскага. Мала калі наша красуня з'яўлялася сярод гасцей на піру ў Кірылы Пятровіча. Вялізная бібліятэка, складзеная найбольш з твораў французскіх пісьменнікаў XVIII стагоддзя, была аддадзена ў яе рукі. Бацька яе, які ніколі не чытаў нічога апроч Дасканалай Павархі[1]) не мог кіраваць ёю ў выбары кніг, і Маша, натуральным чынам, перабраўшы творы ўсялякіх гатункаў, спынілася на раманах. Такім чынам закончыла яна сваё выхаванне, пачатае калісьці пад наглядам мамзель Мімі, да якой Кірыла Пятровіч выяўляў вялікую шчырасць і прыхільнасць і якую вымушан ён быў нарэшце выслаць ціхом у другі маёнтак, калі вынікі гэтага сяброўства сталі вельмі выразнымі. Мамзель Мімі пакінула пасля сябе ўспаміны даволі прыемныя. Яна была добрая дзяўчына і ніколі на кепства не скарыстоўвала ўплыву, які відаць мела на Кірылу Пятровіча—чым і адрознівалася яна ад іншых сяброван Кірылы Пятровіча, якіх ён бесперапынна зменьваў. Сам Кірыла

[1]) Напэўна гаворыцца аб кнізе „Прыгожая павархха, або прыгоды разбэшчанай жанчыны“—раман М. Чулкова (1770—1793), які быў у свой час вельмі папулярны.

Пятровіч, здавалася любіў яе больш, як іншых, а чорнавокі хлапчук, свавольнік год дзевяці, падобны з твару на пайднёвы твар m-lle Мімі, выхоўваўся пры ім і прызнан быў за яго сына, не гледзячы на тое, што мноства босых дзяцей, як дзве кроплі вады падобных да Кірылы Пятровіча, бегалі перад яго вокнамі і лічыліся дваровымі. Кірыла Пятровіч выпісаў з Масквы свайму маленькаму Сашу французскага настаўніка, які і прыехаў у Пакроўскае ў часе падзей, якія мы цяпер апісваем.

Гэты настаўнік спадабаўся Кірылу Пятровічу сваім прыемным выглядам і простымі манерамі. Ён паказаў Кірылу Пятровічу свае атэстаты і пісьмо ад аднаго з сваякоў Траекурава, у якога чатыры гады жыў ён за гувернёра. Кірыла Пятровіч усё гэта пераглядзеў і быў нездаволен адной маладосцю свайго француза, не таму, што лічыў гэтую прыемную загану несумяшчальнай з цярплівасцю і спрактыкаванасцю, так патрэбнымі ў няшчаснай годнасці настаўніка, але ў яго былі свае думкі, якія адразу яму і растлумачыў. Для гэтага загадаў ён паклікаць да сябе Машу (Кірыла Пятровіч па-французску не гаварыў і яна была яму за перакладчыка).

— Хадзі сюды, Маша: скажы ты гэтаму мусье, што няхай так— прымаю яго; толькі з тым, каб ён у мяне за маімі дзяўчатамі не адважыўся цягацца, бо я яго, сабачага сына... перакладзі яму гэта, Маша.

Маша пачырванела і, звярнуўшыся да настаўніка, сказала яму па-французску, што бацька яе спадзяецца на яго далікатнасць і прыстойныя паводзіны.

Француз ёй скланіўся і адказаў, што ён спадзяецца заслужыць павагу, нават калі адмовяць яму ў прыхільнасці.

Маша слова ў слова пераклала яго адказ.

— Добра, добра,—сказаў Кірыла Пятровіч,—не трэба для яго ні прыхільнасці, ні павагі. Яго справа наглядаць за Сашам і навучаць граматыцы і геаграфіі, перакладзі гэта яму.

Мар'я Кірылаўна змякчыла ў сваім перакладзе грубыя бацькавы выразы і Кірыла Пятровіч адпусціў свайго француза ў флігель, дзе вызначан быў яму пакой.

Маша не аддала ніяк увагі маладому французу, выхаваная ў арыстакратычных забабонах. Настаўнік быў для яе накшталт слугі або рабочага, а слуга ці рабочы не здаваўся ёй за мужчыну. Яна не заўважыла і ўражання, зробленага ёю на m-r Дэфоржа, ні яго збянтэжанасці, ні яго ўтрапення, ні зമененага голасу. Некалькі дзён засаб пасля яна спатыкала яго даволі часта, не даючы яму большай уважлівасці. Нечаканым чынам атрымала яна аб ім зусім новае разуменне.

На двары ў Кірылы Пятровіча выхоўвалася звычайна некалькі мядзведзенят, яны былі адной з галоўных забавак пакроўскага пана. У першай сваёй маладосці мядзведзенята штодзённа прыводзіліся ў гасцінную, дзе Кірыла Пятровіч цэлымі гадзінамі важдаўся з імі, нацкоўваючы іх на катоў і сабак. Вырасшы, яны сядзелі на ланцугу, чакаючы сапраўднага цкавання. Часамі іх выводзілі пад вокны панскага дома і падкочвалі ім парожнюю бочку з-пад віна, з паўтыканымі цвікамі; мядзведзь абнюхваў яе,

пасля ціхом да яе дакранаўся, калоў сабе лапы, раззлаваўшыся, штурхаў яе мацней, і мацнейшы рабіўся боль. Ён даходзіў да сапраўднага шаленства, зароўшы кідаўся на бочку, пакуль не адбіралі ў небаракі звера прычыны дарэмнай яго злосці. Здаралася, што ў воз упрагалі пару мядзведзяў, сілком саджалі ў яго гасцей і пускалі іх бегчы на волю-божую. А за лепшы жарт лічылася ў Кірылы Пятровіча вось што.

Галоднага мядзведзя замкнуць, бывала, у пустым пакоі, прывязаўшы яго вяроўкай за колца, ушрубованае ў сцяну. Вяроўка была даўжынёй амаль на ўвесь пакой, так што ў адным толькі супроцьлеглым кутку можна было быць смелым ад нападу страшнага звера. Падводзілі звычайна навічка да дзвярэй гэтага пакоя, зьнянацку ўпіхалі яго да мядзедзя, дзверы замыкаліся і няшчасную афяру пакідалі адну з калматым пустэльнікам. Небарак госць, з адарваным крысом, і да крыві падрапаны, хутка знаходзіў той куток, але вымушан быў часамі цэлых тры гадзіны стаяць, прыціснуўшыся да сцяны і глядзець, як раз'юшаны звер, за два крокі ад яго роў, скакаў, станавіўся на дыбкі, рваўся і стараўся да яго дацягнуцца. Вось якія былі далікатныя забаўкі рускага пана! Праз некалькі дзён пасля прыезду настаўніка, Траекураў успомніў аб ім і надумаўся пачаставаць яго ў мядзведжым пакоі: для гэтага, паклікаўшы яго аднойчы раніцой, павёў ён яго з сабой цёмнымі карыдорамі; раптам бакавыя дзверы адчыніліся, двое слуг упіхаюць у іх француза і замыкаюць ключом. Апамятаваўшыся, настаўнік убачыў прывязанага мядзведзя: звер пачаў чмыхаць, здалёк абнюхваючы свайго гасця і раптам, падняўшыся на задніх лапах, рушыў на яго... Француз не спалохаўся, не пабег, а чакаў нападу. Мядзведзь прыбліжваўся, Дэфорж выняў з кішэні маленькі пісталет, уклаў яго ў вуха галоднаму зверу і стрэліў. Мядзведзь упаў. Усе збегліся. Дзверы адчынілі—Кірыла Пятровіч увайшоў, здзіўлены развязкай свайго жарту.

Кірыла Пятровіч хацеў нейначай тлумачэння ўсёй справе—хто папярэдзіў Дэфоржа аб жарце для яго падрыхтаваным, або нашто ў яго ў кішэні быў пісталет. Ён паслаў па Машу, Маша прыбегла і пераклала французу бацькавы запытанні.

— Я не чуў пра мядзведзя,—адказаў Дэфорж,—але я заўсёды нашу пры сабе пісталеты, бо не маю намераў цярпець крыўду, за якую, паводле мае годнасці, не магу патрабаваць задавальнення.

Маша глядзела на яго са здзіўленнем і пераклала словы яго Кірылу Пятровічу. Кірыла Пятровіч нічога не адказаў, загадаў выцягнуць мядзведзя і злупіць з яго скуру; пасля, звярнуўшыся да сваіх людзей, сказаў:—„Бачыце, які маладзец! не спалохаўся, дальбог, не спалохаўся“.

З той хвіліны ён Дэфоржа ўзлюбіў і не думаў ужо з яго паджартоўваць.

Але выпадак гэты зрабіў яшчэ большае ўражанне на Мар'ю Кірылаўну. Думкі яе ўзварушыліся: яна бачыла забітага мядзведзя і Дэфоржа, які спакойна стаяў над ім і спакойна з ёю гаварыў. Яна ўбачыла, што адвага і гордасць не належаць выключна аднаму сасловію і з таго часу пачала выказваць маладому настаўніку

павагу, якая чым далей, то рабілася большая. Паміж імі пачаліся некаторыя зносіны. Маша мела цудоўны голас і вялікія музычныя здольнасці. Дэфорж пачаў вучыць яе. Пасля гэтага чытачу ўжо не цяжка здагадацца, што Маша закахалася ў яго, сама яшчэ ў гэтым сабе не прызнаючыся.

## ТОМ ДРУГІ

### РАЗДЗЕЛ IX

Напярэдадні свята госці пачалі з'язджацца. Некаторыя спыняліся ў панскім доме і ў флігелях, другія ў войта, трэція ў свяшчэнніка, чацвёртыя ў заможных сялян—стайні поўныя былі дарожных коней, двары і хлявы заграмоджаны ўсялякімі экіпажамі. У дзевяць гадзін раніцы зазванілі на імшу і ўсе пацягнуліся да новай мураванай царквы, якую пабудаваў Кірыла Пятровіч і штогодна ўпрыгожваў сваімі афярамі. Сабралася такое мноства паважных багамольцаў, што простыя сяляне не маглі змясціцца ў царкве і стаялі ў прытворы і на цвінтары. Імша не пачыналася—чакалі Кірылу Пятровіча. Ён прыехаў у фаэтоне на шасцярыку і ўрачыста пайшоў на сваё месца, разам з Марьей Кірылаўнай. Позіркі мужчын і жанчын накіраваліся на яе—першыя захапляліся яе прыгажосцю, другія ўважліва аглядалі яе ўбёры. Пачалася імша, дамашнія пеўчыя спявалі на кліросе, Кірыла Пятровіч сам падцягваў, маліўся, не аглядаючыся ні направа, ні налева, і з гордай пакорлівасцю пакланіўся ў зямлю, калі дыякан грымучым голасам успамянуў і „о зиждителе храма сего“.

Імша скончылася. Кірыла Пятровіч першы падышоў да крыжа. Усе за ім рушылі, пасля суседзі падышлі да яго з прывітаннем. Дамы абкружылі Машу. Кірыла Пятровіч, выходзячы з царквы, запрасіў усіх да сябе на абед—сеў у фаэтон і паехаў дадому. Усе накіраваліся следам. Пакоі напоўніліся гасцямі. Кожную хвіліну ўваходзілі новыя асобы і ледзь маглі праціснуцца да гаспадара. Пані селі паважным поўкругам, адзетыя па запозненай форме, у паношаных і дарагіх убёрах, усе ў жэмчугах і брыльянтах; мужчыны тоўпіліся каля гарэлкі і ікры, з шумным рознагалоссем гаворачы паміж сабой. У залі рыхтавалі стол на восемдзесят асоб. Слугі мітусіліся, расстаўляючы бутэлькі і графіны і падсцілалі сарвэткі. Нарэшце дварэцкі падаў голас: „стол гатовы“ —і Кірыла Пятровіч першы пайшоў садзіцца за стол, за ім рушылі дамы і паважна занялі свае месцы, трымаючыся некаторага старшынства; паненкі сціснуліся гуртам, як баязлівы статак козачак і выбралі сабе месца адна каля другой. Супроць іх паселі мужчыны. На анцы стала сеў настаўнік каля маленькага Сашы.

Слугі пачалі разносіць талеркі па чынах, у выпадку неспаразумення кіруючыся Лафатэрскімі здогадкамі[1]) і амаль заўсёды бес-

---

1) Лафатэр (1741—1801)—нямецкі пісьменнік, пастар, пачынальнік так званай „фізіагноміқі“—навукі аб тым, што паводле асаблівасці формы чэрапа і рысаў твару можна азначыць зусім дасканала натуру і наогул сутнасць чалавека. Тэорыя Лафатэра была адзін час вельмі папулярная.

памылкова. Звон талерак і лыжак зліўся з тлумнай гаворкай гасцей, Кірыла Пятровіч весела акідаў вачыма сваё застолле і быў шчаслівы сваім хлебасольствам... У гэты час uз'ехаў на двор фаэтон, запрэжаны на шэсць коней.

— Хто гэта?—запытаў гаспадар.

— Антон Пафнуцьіч,—адказала некалькі галасоў. Дзверы адчыніліся і Антон Пафнуцыч Спіцын, тоўсты мужчына год пяцідзесяці, з круглым і рабым тварам, упрыгожаным трайным падбародкам, усунуўся ў сталовую, вітаючыся, усміхаючыся і ўжо збіраючыся прасіць выбачэння.

— Прыбор сюды,—закрычаў Кірыла Пятровіч,—калі ласка, Антон Пафнуцыч, садзіся і скажы нам, што гэта значыць: не быў на маёй імшы і на абед спазніўся. Гэта не ў тваёй натуры, ты і багамольны, і з'есці любіш.

— Вінават,—адказаў Антон Пафнуцыч, зацягваючы сарвэтку ў штрыфель гарохавага кафтана,—вінават, бацечка Кірыла Пятровіч, я быў рана выбраўся ў дарогу, але не паспеў ад'ехаць і дзесяці вёрст, раптам шына на пярэднім коле папалам—што тут паробіш? На шчасце недалёка было да вёскі; пакуль да яе давалакліся і знайшлі каваля, ды ўсё наладзілі сяк-так--прайшло якраз тры гадзіны, нічога не зробіш. Ехаць бліжэйшай дарогай праз Кісцянёўскі лес я не адважыўся, а даў круга...

— Эге!—перабіў Кірыла Пятровіч,—ты, значыцца, адвагі не маеш, чаго ты баішся?

— Як чаго баюся, бацечка Кірыла Пятровіч? А Дуброўскага—неспадзеўкі трапіш яму ў лапы; ён хлопец удалы, нікому не перапусціць, а з мяне напэўна і дзве скуры здзярэ.

— За што-ж, браце, такая ўвага да цябе?

— Як за што, бацечка Кірыла Пятровіч? А за суд нябожчыка Андрэя Гаўрылавіча. Ці-ж не я гэта на пацеху вашу, гэта значыцца сумленна і справядліва, паказаў, што Дуброўскія ўладаюць Кісцянёўкай не маючы на тое ніякага права, толькі з ласкі вашай. Нябожчык (вечны яму спакой) абяцаў са мной пасвойску перавадацца, а сынок, напэўна, стрымае бацькава слова. Дагэтуль бог крыў. Усяго разграбілі ў мяне адзін svіран, а то могуць і да ўсёй сялібы дабрацца.

— А ў сялібе будзе ім дзе пагуляць,—заўважыў Кірыла Пятровіч,—мусіць чырвоная шкатулачка поўненькая...

— Адкуль, Кірыла Пятровіч! Была поўная, а цяпер зусім апусцела!

— Кінь хлусіць, Антон Пафнуцыч. Ведаем мы вас, куды ты можаш там грошы дзець! Дома сядзіш як свіння, нікога не прымаеш, св іх мужыкоў крыўдзіш, грошы збіраеш, і ўсё па ўсім.

— Вы ўсё маеце ласку жартаваць, паважаны Кірыла Пятровіч,—прамармытаў з усмешкай Антон Пафнуцыч,—а мы дальбог збяднелі,—і Антон Пафнуцыч пачаў заядаць панскі жарт гаспадара сытым кавалкам кулебякі.

Кірыла Пятровіч кінуў яго і звярнуўся да новага ісправніка, які першы раз да яго ў госці прыехаў, і сядзеў на другім канцы стала, поплеч пастаўніка.

— А што, зловіце хоць вы Дуброўскага, пане іспраўнік?

Іспраўнік спалохаўся, пакланіўся, усміхнуўся, заікнуўся і выгаварыў нарэшце:

— Пастараемся, ваша прэвасхадзіцельства.

— Гм, пастараемся. Даўно, даўно стараюцца, а карысці ніякай. Але праўда, нашто і лавіць яго. Дуброўскага разбоі шчасце для іспраўнікаў,—раз'езды, следствы, фурманкі, а грошы ў кішэню—нашто такога дзядзьку знішчаць? Ці не праўда-ж, пане іспраўнік?

— Шчырая праўда, ваша прэвасхадзіцельства,—адказаў зусім збянтэжаны іспраўнік.

Госці зарагаталі.

— Люблю малайца за шчырасць,—сказаў Кірыла Петровіч.— А шкада нябожчыка нашага іспраўніка Тараса Алексеевіча—каб не спалілі яго, то каля нас стала-б цішэй. А што чуваць пра Дуброўскага? Дзе яго бачылі апошні раз?

— У мяне, Кірыла Петровіч,—прапішчаў тоўсты дамскі голас,— у аўторак абедаў у мяне...

Позіркі ўсіх накіраваліся на Анну Савішну Глобаву, даволі простую ўдаву, якую ўсе любілі за добрую і вясёлую натуру. Усе з цікаўнасцю нарыхтаваліся слухаць яе расказ.

— Трэба ведаць, што таму тры тыдні паслала я прыказчыка на пошту з грашыма для майго Ванюшы. Сына я не пешчу, ды і не маю на гэта дастатку, каб і хацела: аднак самі ведаеце: афіцэру гвардыі трэба ўтрымліваць сябе прыстойным чынам і я з Ванюшай дзялюся як магу сваімі, якія маю, прыбыткамі. Вось і паслала яму 2000 рублёў, хоць Дуброўскі не раз прыходзіў мне ў галаву, але думаю: горад блізка, усяго сем вёрст, бог можа ўратуе. Гляджу: увечары мой прыказчык варочаецца бледны, абарваны і пешы—я аж ахнула—„Што такое? што з табой зрабілася?“ Ён мне: „Родная Анна Савішна—разбойнікі аграбілі; самога ледзь не забілі—сам Дуброўскі быў тут, хацеў павесіць мяне, але злітаваўся і пусціў—затое ўсяго абабраў—адабраў і каня, і воз“. Я аслупянела; божа літасцівы, што будзе з маім Ванюшам? Нічога не зробіш, напісала сыну ліст, расказала ўсё і паслала яму сваё блаславенне без капейкі грошай.

Прайшоў тыдзень, другі—раптам уз'язджае на мой двор фаэтон. Нейкі генерал просіць са мной пабачыцца: калі ласка; уваходзіць да мяне чалавек год трыццаці пяці, смуглы чорнавалосы, у вусах, у барадзе, ну якраз партрэт Кульнева [1]), адрэкамендоўваецца мне як друг і таварыш па службе нябожчыка мужа Івана Андрэевіча; ён, значыцца, ехаў поблізу і не мог не заехаць да яго ўдавы, ведаючы, што я тут жыву. Я пачаставала яго чым бог даў, разгаварылася аб тым, аб сім, нарэшце і аб Дуброўскім—я расказала яму сваё гора. Генерал мой спахмурнеў. „Гэта дзіўна,—сказаў ён,—я чуў, што Дуброўскі нападае не на кожнага, а на вядомых багатыроў, але і тут бярэ толькі частку, а не грабіць да апошняга. А ͵ забойствах ніхто яго не вінаваціць,

[1] Кульнёў Я. П.—рускі генерал (1763—1812), які атрымаў шэраг бліскучых перамог над шведамі у час вайны 1808—1809 г. Забіты на вайне ў 1 12 годзе.

ці няма тут круцельства, загадайце паклікаць вашага прыказчыка".— Пашлі па прыказчыка, ён з'явіўся; толькі ўбачыў генерала, ён так і аслупянеў. „Раскажы ты мне, браце, якім чынам Дуброўскі цябе аграбіў, і як ён хацеў цябе павесіць". Прыказчык мой задрыжаў і кінуўся генералу ў ногі.

— Паночку, вінават, д'ябал падвёў—схлусіў.—„Калі так,—адказаў генерал,—то расказвай пані, як уся справа адбылася, а я паслухаю". Прыказчык не мог апамятацца. „Ну, што-ж,—падганяў генерал,—расказвай: дзе ты спаткаўся з Дуброўскім?"—Ля двух хвояў, паночку, ля двух хвояў.—„А што-ж сказаў ён табе?"—Ён запытаў у мяне, чый ты, куды едзеш і чаго?—„Ну, а пасля?".— А пасля запатрабаваў ён ліст і грошы.—„Ну?"—Я аддаў яму ліст і грошы—а ён? „Ну а ён?"—Паночку, вінават.—„Ну, што-ж ён зрабіў?..." Ен вярнуў мне грошы і ліст і сказаў: ідзі сабе з богам—аддай гэта на пошту.—„Ну, а ты?"—Паночку, вінават.— „Я з табой, галубок, распраўлюся,—сказаў грозны генерал,—а вы, пані, загадайце абгледзець куфар гэтага абармота і аддайце яго ў мае рукі, я яго навучу. Ведайце, што Дуброўскі сам быў гвардзейскім афіцэрам, ён не захоча пакрыўдзіць таварыша". Я здагадвалася, хто быў яго прэвасхадзіцельства, няма чаго мне было з ім гаварыць. Фурманы прывязалі прыказчыка да козлаў фаэтона—грошы знайшлі; генерал у мяне паабедаў, пасля адразу паехаў і павёз з сабой прыказчыка. Прыказчыка майго знайшлі на другі дзень у лесе, прывязанага да дуба і ўсяго пашарпанага.

Усе слухалі моўчкі расказ Анны Савішны, асабліва паненкі. Шмат хто з іх употайкі яму спачуваў, бачачы ў ім героя раманічнага, —асабліва Мар'я Кірылаўна, гарачая наконт мараў. Яна начыталася таемных жахаў Радкліф [1]).

— І ты, Анна Савішна, мяркуеш, што ў цябе быў Дуброўскі?—запытаў Кірыла Петровіч.—Вельмі-ж ты памылілася. Не ведаю, хто быў у цябе ў гасцях, але толькі не Дуброўскі.

— Як гэта не Дуброўскі? А хто-ж, як не ён выедзе на дарогу і пачне запыняць падарожных і аглядаць?

— Не ведаю, а ўжо гэта напэўна, што не Дуброўскі. Я памятую яго малога, не ведаю ці пачарнелі ў яго валасы, а тады быў ён кучаравы бялявы хлопчык, але ведаю напэўна, што Дуброўскі на пяць год старэйшы за маю Машу і што, значыцца, яму не трыццаць пяць год, а каля дваццаці трох.

— Точна так, ваша прэвасхадзіцельства,—падаў голас іспраўнік,—у мяне ў кішэні і прыметы Уладзіміра Дуброўскага. У іх выразна сказана, што яму ад роду дваццаць трэці год.

— А!—сказаў Кірыла Петровіч,—дарэчы прачытайце, а мы паслухаем, не пашкодзіць і нам ведаць яго прыметы, часамі на вочы трапіцца, то не выкруціцца.

Іспраўнік дастаў з кішэні даволі зашмальцаваны ліст паперы, разгарнуў яго з паважным выглядам і пачаў чытаць нараспеў:

---

[1]) Радкліф (1764—1823)—англійская пісьменніца, якая практыкавала з вялікім поспехам жанр „рамана жахаў".

„Прыметы Уладзіміра Дуброўскага, складзеныя паводле апавяданняў былых яго дваровых людзей.

Ад роду 22 гады, росту сярэдняга, з твару чысты, бараду голіць, вочы мае карыя, валасы русыя, нос просты. Прыметы адмысловыя: такіх не знойдзена".

— І толькі?—сказаў Кірыла Петровіч.

— Толькі,—адказаў ісправнік, згортваючы паперу.

— Вітаю, пане ісправнік. От дык паперы! Па гэтых прыметах няцяжка будзе знайсці Дуброўскага. Хто-ж гэта не сярэдняга росту, у каго не русыя валасы, не просты нос, не карыя вочы! Іду ў заклад, тры гадзіны адразу будзеш гаварыць з самім Дуброўскім, а не здагадаешся з кім бог цябе звёў. Няма чаго сказаць, разумныя галовы ў прыказных!

Ісправнік пакорліва паклаў у кішэню сваю паперу і моўчкі ўзяўся за гуся з капустай; тымчасам слугі паспелі ўжо некалькі разоў абыйсці гасцей,наліваючы кожнаму яго чарку. Некалькі бутэлек горскага і цымлянскага [1]) гучна былі адаткнуты і прыняты прыхільна пад імем шампанскага; твары пачыналі ружавець, гаворка рабілася званчэйшая, блытаная і вясёлая.

— Не,—гаварыў далей Кірыла Пятровіч,—не будзе ў нас ужо такога ісправніка, якім быў нябожчык Тарас Аляксеевіч! Гэты не даваў маху, не раззяўляў рота. Шкада, што спалілі малайца, а то-б ад яго не ўцёк ніводзін чалавек з усёй шайкі. Ен-бы ўсіх да аднаго пералавіў-бы, ды і сам Дуброўскі не выкруціўся-б, і не адкупіўся. Тарас Аляксеевіч грошы з яго ўзяць-бы то ўзяў, але і самога б не выпусціў. Такі быў звычай у нябожчыка. Нічога не зробіш, відаць мне трэба ўмяшацца ў гэтую справу і пайсці лавіць разбойнікаў з маімі дамашнімі. Спачатку пашлю чалавек дваццаць, дык яны і ачысцяць зладзейскі гай; народ не баязлівы, кожны адзін на мядзведзя ходзіць—разбойнікаў не збаяцца.

— Ці здароў ваш мядзведзь, Кірыла Пятровіч? — сказаў Антон Пафнуцьіч, успомніўшы пры гэтых словах свайго калматага знаёмца і некаторыя жарты, пад якія і ён калісьці быў падпаў.

— Міша цяпер нябожчык,—адказаў Кірыла Петровіч,—памёр слаўнай смерцю ад рукі непрыяцеля. Унь яго пераможца,— Кірыла Петровіч паказаў на Дэфоржа,—ён адпомсціўся за тваю... З дазволу сказаць... памятаеш?

— Дзіва што памятаю,—сказаў Антон Пафнуцьіч пачухваючыся,—вельмі памятаю. То Міша памёр—шкада Мішы, дальбог шкада! Які быў свавольнік! Які разумнік! Гэтакага мядзведзя другога не знойдзеш. Але нашто мусье забіў яго?

Кірыла Пятровіч з вялікай ахвотай стаў расказваць аб адважным учынку свайго француза, бо меў шчаслівую здольнасць хваліцца ўсім, што толькі было навокал яго. Госці з уважлівасцю слухалі аповесць аб Мішавай смерці і са здзіўленнем пaглядалі на Дэфоржа, які, не падазраючы, што гаворка ішла аб яго адвазе,

[1]) Горскае—каўказскае віно. Цымлянскае—чырвонае віно, якое выпрабляецца ў Цымлянскай станіцы, на Доне.

спакойна сядзеў на сваім месцы і рабіў выхаваўчыя заўвагі непаседліваму свайму выхаванцу.

Абед, які цягнуўся каля трох гадзін, скончыўся, гаспадар паклаў сарвэтку на стол, усе ўсталі і пайшлі ў гасціную, дзе чакала іх кава, карты і працяг выпіванкі, так слаўна пачатай у сталовай.

## РАЗДЗЕЛ Х

Каля сямі гадзін вечара некаторыя госці хацелі ехаць, але гаспадар, развяселены пуншам, загадаў замкнуць браму і заявіў, што да наступнае раніцы нікога з двара не выпусціць. Неўзабаве грымнула музыка, дзверы ў зал адчыніліся і пачаўся баль. Гаспадар і яго сябры сядзелі ў кутку, выпіваючы шклянку за шклянкай і цешачыся з вясёлай моладзі. Старэнькія жанчыны гулялі ў карты. Кавалераў, як і ўсюды, дзе не кватаруе якая-небудзь уланская брыгада, было менш чым дам, усе мужчыны годныя для танцаў, былі завербаваны. Настаўнік паміж усіх вельмі кідаўся ў вочы, ён танцаваў больш за ўсіх, усе паненкі выбіралі яго і знаходзілі, што з ім вельмі лёгка вальсаваць. Некалькі разоў кружыўся ён з Мар'ей Кірылаўнай—і паненкі насмешліва за імі наглядалі. Нарэшце, каля поўначы, стомлены гаспадар спыніў танцы, загадаў даваць вячэру, а сам пайшоў спаць.

Адсутнасць Кірылы Петровіча дала ўсім больш волі і жвавасці—кавалеры асмеліліся заняць месцы каля дам, дзяўчата смяяліся і перашэптваліся з сваімі суседзьмі; дамы моцна гаварылі цераз стол. Мужчыны пілі, спрачаліся і рагаталі—словам, вячэра была вельмі вясёлая і пакінула пасля сябе многа прыемных успамінаў.

Адзін толькі чалавек не ўдзельнічаў у агульнай радасці. Антон Пафнуцьіч сядзеў хмурны і маўклівы на сваім месцы, еў вяла і здаваўся вельмі неспакойным. Гаворкі аб разбойніках хвалявалі яго думкі. Мы хутка ўбачым, што ён меў грунтоўную прычыну іх баяцца.

Антон Пафнуцьіч, заклікаючы бога за сведку ў тым, што чырвоная шкатулка яго была пустая, не хлусіў і не грашыў—чырвоная шкатулка сапраўды была пустая, грошы, якія раней ў ёй хаваліся, перакладіся ў скураную торбу, якую насіў ён на грудзях пад кашуляй. Толькі гэтай асцярогаю заспакойваў ён сваю недаверлівасць да ўсіх і вечную баязнь. Вымушаны астацца начаваць у чужым доме, ён баяўся, каб не далі яму начлега дзе-небудзь у аддаленым пакоі, куды лёгка маглі залезці зладзеі, ён шукаў вачыма надзейнага таварыша і выбраў нарэшце Дэфоржа. Яго дужы выгляд, а найбольш смеласць, выяўленая ім пры спатканні з мядзведзем, пра якога небарак Антон Пафнуцьіч не мог успомніць без страху, памаглі яму ў гэтым выбары. Калі ўсталі з-за стала, Антон Пафнуцьіч стаў пакручвацца каля маладога француза, крэкчучы і адкашліваючыся і нарэшце звярнуўся да яго:—Гм, гм, ці не можна, мусье, пераначаваць мне ў вашай каморцы, бо

як самі бачыце... Que dézire, monsieur [1]),—запытаў Дэфорж, далікатна яму пакланіўшыся.

— От бяда, ты, мусье, па-руску яшчэ не навучыўся. Жэ, вэ, муа, шэву кушэ [2]) ці разумееш?

— Monsieur, trés volontiers,—адказаў Дэфорж, — veuillez donner des ordres en conséguence [3]).

Антон Пафнуцьіч, вельмі задаволены сваімі ведамі ў французскай мове, пайшоў адразу распараджацца.

Госці пачалі развітвацца між сабою і кожны накіраваўся ў пакой, яму вызначаны. А Антон Пафнуцьіч пайшоў з настаўнікам у флігель. Ноч была цёмная. Дэфорж асвятляў дарогу ліхтаром. Антон Пафнуцьіч ішоў за ім даволі рухава, прыціскаючы калі-ні-калі да грудзей патаемную суму, каб упэўніцца, што грошы яго яшчэ пры ім.

Прыйшоўшы ў флігель, настаўнік запаліў свечку і абодва пачалі раздзявацца; тымчасам Антон Пафнуцьіч пахаджаў па пакою, аглядаючы замкі і вокны,—і пакіўваючы галавой пры гэтым сумным аглядзе. Дзверы засоўваліся на адну засоўку, яшчэ не былі ўстаўлены падвойныя вокны. Ён паспрабаваў быў скардзіцца на гэта Дэфоржу, але веды яго ў французскай мове былі вельмі абмежаваныя для такой складанай гаворкі—француз яго не зразумеў, і Антон Пафнуцьіч вымушан быў спыніць свае скаргі. Пасцелі іх стаялі адна насупроць другой, абодва леглі і настаўнік патушыў свечку.

— Пуркуа ву тушэ, пуркуа ву тушэ [4])?—закрычаў Антон Пафнуцьіч, спрагаючы з грахом напалам рускі дзеяслоў „тушу“ на французскі лад.—Я не магу дормір [5]) упоцемку.

Дэфорж не зразумеў яго выгуку і пажадаў яму добрай ночы.

— Праклятьі басурман,—прамармытаў Спіцын, захутваючыся ў коўдру,—трэба яму было свечку тушыць. Яму-ж горш. Я спаць не буду без агню.—Мусье, мусье,—гаварыў ён далей,—жэ вэ авэк ву парле [6]).—Але француз не адказваў і неўзабаве захроп.

„Храпе, падла француз,—падумаў Антон Пафнуцьіч,—а мне дык і сон у галаву не лезе, боязна, каб зладзеі не ўлезлі праз дзверы, ці праз вокны, а яго падлу і гарматамі не пабудзіш“.

— Мусье! га, мусье! каб цябе д'ябал узяў.

Антон Пафнуцьіч змоўк—стомленасць і хмель пакрысе перамаглі яго баязлівасць, ён пачаў драмаць і неўзабаве глыбокі сон апанаваў яго зусім.

Дзіўнае рыхтавалася яму абуджэнне. Ён адчуваў праз сон, што хтосьці ціхенька тузае яго за каўнер кашулі. Антон Пафнуцьіч, расплюшчыў вочы і пры бледным святле асенняй раніцы ўбачыў перад сабой Дэфоржа: француз у адной руцэ трымаў кішэнны пісталет, а другой адшпільваў тую самую скураную торбу. Антон Пафнуцьіч аслупянеў.

---

1) Што вы хочаце, пане?
2) Я хачу, я, у вас спаць.
3) Вельмі ахвотна, пане, калі ласка дайце адпаведнае распараджэнне.
4) Нашто вы чапаеце, нашто вы чапаеце? (па французску toucher чапаць).
5) Спаць.
6) Я хачу з вамі пагаварыць.

— Кесь ке се, мусье, кесь ке се [1])—прагаварыў ён дрыжачым голасам.

— Цішэй, маўчаць,—адказаў настаўнік чыстай рускай мовай,—маўчаць, бо калі не, то вам канец. Я—Дуброўскі.

## РАЗДЗЕЛ XI

Цяпер папросім у чытача дазволу растлумачыць апошнія падзеі аповесці нашай папярэднімі акалічнасцямі, аб якіх не паспелі мы яшчэ расказаць.

На станцыі **, у доме сматрыцеля, пра якога мы ўжо ўспамянулі, сядзеў у кутку падарожны, з выглядам ціхім і цярплівым—падобна, што гэта быў разначынец або чужаземец, гэта значыцца чалавек, які не мае голаса на паштовым тракце. Брычка яго стаяла на двары, чакаючы падмазкі. У ёй ляжаў маленькі чамадан, мізэрны доказ яго не вельмі вялікага багацця. Падарожны не браў сабе ні чаю, ні кофія, пазіраў у акно і пасвістваў, на вялікае нездаваленне сматрыцеліхі, якая сядзела ў бакоўцы.

— От бог даў свістуна,—гаварыла яна сама сабе,—пасвіствае, каб ён лопнуў, халерны басурман.

— Чаму,—сказаў сматрыцель,—што за бяда, няхай сабе свішча.

— Што за бяда?—адказала сярдзітая жонка,—а хіба не ведаеш прыметаў?

— Якіх прыметаў? Што свіст грошы зводзіць? Э, Пахомаўна, у нас ці свішчы, ці не—а грошай ніколі няма ўсёроўна.

— Адпраў ты яго, Сідарыч. Што табе за ахвота яго трымаць. Дай яму коней і няхай праваліцца к чорту.

— Пачакае, Пахомаўна; на стайні ўсяго тры тройкі, чацвёртая адпачывае. Сюд-туд і могуць натрапіцца добрыя падарожныя; не хачу сваёй шыяй адказваць за француза. О, так і ёсць! Унь едуць! Эгэ-гэ, як шпарка; ці не генерал які.

Брычка спынілася каля ганку. Слуга саскочыў з козлаў, адчыніў дзверцы і праз хвіліну малады чалавек у вайсковым шынелю і ў белай шапцы ўвайшоў да сматрыцеля, следам за ім слуга ўнёс шкатулку і паставіў яе на акно.

— Коней,—сказаў афіцэр грозным голасам.

— Зараз,—адказаў сматрыцель.—Калі ласка падарожную [2]).

— Няма ў мяне падарожнай. Я еду ўбок... Хіба ты мяне не пазнаеш?

Сматрыцель заклапаціўся і кінуўся падганяць фурманоў. Малады чалавек пачаў расхаджваць узад і ўперад па пакоі, зайшоў у бакоўку і запытаў ціха ў сматрыцеліхі, хто такі падарожны.

— Бог яго ведае,—адказала сматрыцеліха,—нейкі француз. Ужо вось пяць гадзін чакае коней і свішча. Надакучыў пракляты.

Малады чалавек загаварыў з падарожным па французску.

— Куды маеце ласку ехаць?—запытаў ён у яго.

---

[1] Што гэта значыць, пане, што гэта значыць?

[2] Падарожная—ліст, які даваў права на атрыманне паштовых коней.

— У бліжэйшы горад,—адказаў француз,—адтуль выеду да аднаго памешчыка, які наняў мяне завочна ў настаўнікі. Я думаў сёння быць ужо на месцы, але пан сматрыцель, здаецца, думае інакш—у гэтай краіне цяжка дастаць коней, пане афіцэр.

— А да каго з тутэйшых памешчыкаў накіраваліся вы?—запытаў афіцэр.

— Да пана Траекурава,—адказаў француз.

— Да Траекурава? Хто такі гэты Траекураў?

— Ma foi, monsieur [1])... я чуў пра яго мала добрага. Гавораць, што пан горды і зноравам, жорсткі ў абыходжанні з сваімі хатнімі, што ніхто не можа з ім ужыцца, што ўсе дрыжаць ад яго, што з настаўнікамі (avec les outchitels) ён не асабліва далікатны і ўжо двох прыкончыў да смерці.

— І вы адважыліся астацца да такога страхоцця?

— Што-ж зробіш, пане афіцэр. Ён дае мне добрую пенсію—3 000 рублёў на год і ўсё гатовае. Быць можа я буду шчаслівейшы за другіх. У мяне старэнькая маці, палавіну пенсіі буду адсылаць ёй на пражыццё, а з рэшты грошай за пяць год магу сабраць маленькі капітал, якога будзе даволі, на тое, каб надалей быць незалежным—і тады bonsoir [2]), паеду ў Парыж і пускаюся ў камерцыйныя справы.

— Ці ведае вас хто-небудзь у доме Траекурава?—запытаў ён.

— Ніхто,—адказаў настаўнік,—мяне ён выпісаў з Масквы праз аднаго з сваіх прыяцеляў, кухар якога, мой зямляк, мяне рэкамендаваў. Трэба вам ведаць, што я рыхтаваўся не ў настаўнікі, а ў кандытары, але мне сказалі, што ў вашай краіне настаўніцкая годнасць не ў прыклад выгадней...

Афіцэр задумаўся.

— Паслухайце,—перабіў ён, зварочваючыся да француза,—што-б калі замест гэтай будучыні прапанавалі вам 10 000 чыстымі грашыма, з тым, каб адразу-ж выехалі назад у Парыж.

Француз пагглядзеў на афіцэра са здзіўленнем, усміхнуўся і паківаў галавой.

— Коні гатовы,—сказаў, увайшоўшы, сматрыцель.

Слуга пацвердзіў тое-ж самае.

„Зараз,—адказаў афіцэр,—выйдзіце вон на хвіліну“.

Слуга і сматрыцель выйшлі.—„Я не жартую,—гаварыў ён па французску,—10 000 магу я вам даць, мне патрэбна толькі ваша адсутнасць і вашы паперы“.

Пры гэтых словах ён адамкнуў шкатулку і дастаў некалькі кіп асігнацый.

Француз вытрашчыў вочы. Ён не ведаў, што і думаць.

— Мая адсутнасць... мае паперы... але вы жартуеце: нашто вам мае паперы?

— Да вас гэта не належыць. Пытаю, згодны вы ці не?

Француз, усё яшчэ не верачы сваім вушам, працягнуў свае паперы маладому афіцэру, які хутка іх пераглядзеў.

[1] Сапраўды, пане.
[2] Да пабачэння.

— Ваш пашпарт... добра—ліст рэкамендацыйны, паглядзім—сведчанне аб нараджэнні, цудоўна. Ну, вось-жа вам вашы грошы, выязджайце назад. Бывайце...

Француз стаяў як укопаны.

Афіцэр вярнуўся.

— Я забыўся на самае важнае: дайце мне шчырае слова, што ўсё гэта астанецца паміж намі—шчырае ваша слова.

— Шчырае маё слова,—адказаў француз.—Але мае паперы, што мне рабіць без іх?

— У першым горадзе заявіце, што вы былі аграблены Дуброўскім. Вам паверацъ і дадуць патрэбныя пасведчанні. Бывайце, дай вам божа хутчэй даехаць да Парыжа і знайсці маці ў добрым здароўі.

Дуброўскі выйшаў з пакоя, сеў у брычку і паімчаўся.

Сматрыцель глядзеў у акно і калі брычка ад'ехала, гукнуў да жонкі:

— Пахомаўна, ці ведаеш ты? Гэта-ж быў Дуброўскі.

Сматрыцеліха кінулася ў акно, але ўжо было позна—Дуброўскі быў ужо далёка. Яна ўзялася сварыцца на мужа:

— Бога ты не баішся, Сідарыч, чаму ты не сказаў мне таго раней, я хоць-бы зірнула на Дуброўскага, а цяпер чакай, каб ён зноў заехаў. Гад ты, сапраўды, гад!

Француз стаяў як укапаны. Умова з афіцэрам, грошы, усё здавалася яму сном. Але кіпы асігнацый былі ў яго ў кішэні і красамоўна гаварылі яму аб сапраўднасці дзіўнага здарэння.

Ён наняў коней да горада. Фурман павёз яго паволі і ўночы дацягнуліся яны да горада.

Не даязджаючы да заставы, пры якой, замест вартавога, стаяла раскіданая будка, француз сказаў спыніцца, вылез з брычкі і пайшоў пешкі, растлумачыўшы kівамі і моргамі фурману, што брычку і чамадан дарue яму на гарэлку. Фурман быў у такім здзіўленні ад яго шчодрасці, як і сам француз ад прапановы Дуброўскага. Але дадумаўшыся да таго, што „немец“ узвар'яцеў, фурман падзякаваў яго шчырым паклонам і, вымеркаваўшы, што будзе лепш не ўязджаць у горад, рушыў у вядомае яму вясёлае месца, гаспадар якога быў яму знаёмы. Там быў ён цэлую ноч, а на другі дзень з ранку на голай тройцы выехаў у свой бок—без брычкі і без чамадана, з падпухлым тварам і чырвонымі вачыма.

Дуброўскі, заўладаўшы паперамі француза, смела з'явіўся, як мы ўжо бачылі да Траекурава і астаўся жыць у яго доме. Якія-б не былі яго патаемныя намеры (мы аб іх даведаемся пасля), але ў яго паводзінах не было нічога нядобрага. Праўда, ён мала займаўся выхаваннем малога Сашы, даваў яму поўную волю сваволіць і не вельмі прыціскаў да навукі, даючы заданні толькі для формы—затое з вялікай адданасцю сачыў за музычнымі поспехамі сваёй вучнёўкі і часта цэлымі гадзінамі праседжваў з ёю за фартэпіяно. Усе любілі маладога настаўніка—Кірыла Петровіч за яго смеласць і ўдаласць на паляванні, Мар'я Кірылаўна за вялікую адданасць і сціплую ўважлівасць, Саша за тое, што не перашкаджае яму сваволіць, дамашнія за дабрату і за шчодрасць, напэўна супярэчлівую яго сродкам. Сам ён, здавалася, быў адданы усёй сям'і і лічыў ужо сябе за члена яе.

Прайшло каля месяца ад таго, калі ён пачаў быць настаўнікам і да памятнага свята, і ніхто не падазраваў, што ў ціхім маладым французе стаіўся грозны разбойнік, імя якога наводзіла жах на ўсіх навакольных уласнікаў. За ўвесь гэты час Дуброўскі не выязджаў з Пакроўскага, але чутка аб яго разбоях не заціхала, з прычыны вострай фантазіі і ўяўлення мясцовых насельнікаў, але магло стацца і тое, што яго шайка не пакідала дзейнічаць, хоць і без начальніка.

Начуючы ў адным пакоі з чалавекам, якога мог ён лічыць асабістым сваім ворагам і адным з галоўных віноўнікаў яго няшчасця, Дуброўскі не мог утрымацца ад спакусы. Ён ведаў аб існаванні скуранай торбы і надумаўся ёю заўладаць. Мы бачылі як ён збянтэжыў небараку Антона Пафнуцьіча нечаканым сваімператварэннем з настаўніка ў разбойніка.

У дзевяць гадзін раніцы госці, што начавалі ў Пакроўскім, сабраліся адзін за другім у гасцінай, дзе кіпеў ужо самавар, перад якім у ранішнім адзенні сядзела Мар'я Кірылаўна; а Кірыла Пятровіч у байкавым сурдуце і ў туфлях выпіваў свой шырокі кубак, падобны да паласкальнай міскі. Апошнім з'явіўся Антон Пафнуцьіч; ён быў такі бледны і здаваўся такі ўтрапёны, што выгляд яго ўсіх здзівіў, і Кірыла Пятровіч запытаўся аб яго здароўі. Спіцын адказаў штосьці без усялякага сэнсу і з жахам паглядаў на настаўніка, які тут-жа сядзеў, як-бы нічога і не было. Праз некалькі хвілін слуга ўвайшоў і сказаў Спіцыну, што брычка яго гатова. Антон Пафнуцьіч заспяшаўся развітацца і, не слухаючы гаспадарскіх угавораў, выйшаў шпарка з пакою і адразу паехаў. Не разумелі, што з ім зрабілася, і Кірыла Пятровіч падумаў, што ён аб'еўся. Пасля чаю і развітальнага снедання астатнія госці пачалі раз'язджацца. Неўзабаве Пакроўскае апусцела і ўсё ўвайшло ў звычайны парадак.

## РАЗДЗЕЛ XII

Прайшло некалькі дзён і не адбылося нічога цікавага. Жыццё насельнікаў Пакроўскага было аднастайнае. Кірыла Пятровіч штодзённа выязджаў на паляванне; чытанне, прагулкі і музычныя заняткі займалі Мар'ю Кірылаўну—асабліва музычныя заняткі. Яна пачынала разумець уласнае сэрца і прызнавалася з нявольнай прыкрасцю, што яно не было абыякавым да дадатнасцей маладога француза. Ён з свайго боку не выходзіў з межаў павагі і дасканалай прыстойнасці, і тым заспакойваў яе гордасць і баязлівыя хістанні. Яна з большай і большай даверлівасцю аддавалася прывабнай прывычцы. Яна сумавала без Дэфоржа, заўсёды цікавілася ім, аб усім хацела ведаць яго думку і заўсёды з ім згаджалася. Можа быць яна не была яшчэ закаханая, але пры першай выпадковай перашкодзе або раптоўным няшчасці полымя кахання павінна было ўспыхнуць у яе сэрцы.

Аднойчы, прышоўшы ў зал, дзе чакаў яе настаўнік, Мар'я Кірылаўна са здзіўленнем заўважыла збянтэжанасць на бледным яго твары. Яна адкрыла фартэпіано, праспявала некалькі нот, але Дуброўскі быццам з-за галаўной болі, папрасіў прабачэння, спыніў

заняткі і, загортаючы ноты, падаў ёй ціхом запіску. Мар'я Кірылаўна, не паспеўшы адумацца, узяла яе і раскаялася, у тую-ж хвіліну, але Дуброўскага не было ўжо ў зале. Мар'я Кірылаўна пайшла ў свой пакой, разгарнула запіску і прачытала:

„Будзьце сёння ў сем гадзін у альтанцы каля рэчкі. Мне трэба з вамі гаварыць".

Цікаўнасць яе была вельмі ўзбуджана. Яна даўно чакала прызнання, жадаючы і баючыся яго. Ёй прыемна было б пачуць пацверджанне таго, аб чым яна здагадвалася, але яна адчувала, што ёй было-б непрыстойна чуць такое прызнанне ад чалавека, які паводле таго кім ён быў, не мог спадзявацца калі-небудзь атрымаць яе руку. Яна надумалася ісці на спатканне, але хісталася ў адным: як прыме яна прызнанне настаўніка—ці з арыстакратычным гневам, ці з угаварваннем аб дружбе, з вясёлымі жартамі, ці з бязумоўнай шчырасцю. Тымчасам яна што-хвіліны паглядала на гадзіннік. Змяркалася, падалі свечкі, Кірыла Петровіч сеў гуляць у бастон з прыезджымі суседзямі, сталовы гадзіннік выбіў чвэрць восьмага—і Мар'я Кірылаўна ціхенька вышла на ганак—азірнулася на ўсе бакі і пабегла ў сад.

Ноч была цёмная, неба ўкрыта хмарамі—за два крокі ад сябе нельга было нічога бачыць, але Мар'я Кірылаўна ішла ў цемені знаёмымі дарожкамі і праз хвіліну апынулася ля альтанкі; тут спынілася яна, каб адыхацца і з'явіцца перад Дэфоржам з выглядам абыякаватым і разважлівым. Але Дэфорж ужо стаў перад ёю.

— Дзякую вам,—сказаў ён ёй ціхім і сумным голасам,—што вы не адмовілі мне ў маёй просьбе. Я быў-бы ў роспачы, каб вы на тое не згадзіліся.

Мар'я Кірылаўна адказала загадзя нарыхтаванай фразай:

— Спадзяюся, што вы не прымусіце мяне каяцца ў маёй дабраце.

Ён маўчаў і, здавалася, набіраўся духу.

— Акалічнасці вымагаюць... я павінен вас пакінуць,—сказаў ён нарэшце,—вы неўзабаве можа быць пачуеце... Але перад разлукай я павінен з вамі сам пагаварыць...

Мар'я Кірылаўна не адказала нічога. У гэтых словах бачыла яна прадмову да прызнання, якога чакала.

— Я не той, што вы думаеце,—гаварыў ён, унурыўшы галаву,—я не француз Дэфорж, я Дуброўскі.

Мар'я Кірылаўна ўскрыкнула.

— Не бойцеся, калі ласка, вы не павінны баяцца майго імя. Так, я той няшчасны, ад якога ваш бацька адабраў кавалак хлеба, выгнаў з бацькаўскага дома і паслаў грабіць на шырокіх дарогах. Але вам не трэба мяне баяцца—ні за сябе, ні за яго. Усё скончана. Я яму дараваў. Паслухайце, вы выратавалі яго. Першы мой крывавы ўчынак павінен быў адбыцца над ім. Я хадзіў каля яго дома, вымяркоўваючы, дзе павінен успыхнуць пажар, адкуль увайсці ў яго спальню, каб загарадзіць яму ўсе дарогі да ўцякання—у тую хвіліну вы прайшлі паўз мяне, як нябесная здань, і сэрца маё сці-

шылася, я зразумеў, што дом, дзе жывеце вы, святы, што ні адна істота, звязаная з вамі крывёй, не падлягае пад маё праклянцце. Я адмовіўся ад помсты як ад шаленства. Цэлыя дні я блукаў каля садоў Пакроўскага, спадзяючыся ўбачыць здалёк вашу белую сукенку. У часе вашага неасцярожнага спацыравання хадзіў следам за вамі, крадучыся ад куста да куста, шчаслівы ад думкі, што вас ахоўваю, што для вас няма небяспекі там, дзе я прысутнічаю ўпотайкі: нарэшце выпадак здарыўся. Я пачаў жыць у вашым доме. Гэтыя тры тыдні былі мне днямі шчасця—успаміны аб іх будуць радасцю сумнага майго жыцця... Сёння я атрымаў вестку, пасля якой мне нельга далей тут быць. Я пакідаю вас сёння... зараз-жа... Але раней я павінен быў вам прызнацца, каб вы не пракліналі мяне, не ганьбілі ненавісцю. Думайце часамі аб Дуброўскім. Ведайце, што ён радзіўся, быў дзеля іншых спраў, што душа яго ўмела вас любіць, што ніколі...

Тут пачуўся лёгкі свіст і Дуброўскі змоўк... Ён хапіў яе руку і прыцісную да агністых вуснаў. Свіст пачуўся другі раз.

— Даруйце,—сказаў Дуброўскі,—мяне клічуць, хвіліна можа загубіць мяне.

Ён адышоўся. Мар'я Кірылаўна стаяла нерухома—Дуброўскі вярнуўся і зноў узяў яе руку.

— Калі часамі,—сказаў ён ёй ціхім і чулым голасам,—калі часамі здарыцца, што няшчасце вас спасцігне і вы ні ад каго не будзеце чакаць дапамогі, у такім выпадку ці абяцаеце вы звярнуцца да мяне, патрабаваць ад мяне ўсяго для вашага ратунку? Ці абяцаеце вы не адкінуць мае адданасці?

Мар'я Кірылаўна плакала моўчкі. Свіст пачуўся трэці раз.

— Вы мяне губіце!—закрычаў Дуброўскі.—Я не адыдуся ад вас, пакуль не дасце мне адказу—абяцаеце вы ці не?

— Абяцаю,—прашаптала небарака красуня.

Усхвалёваная спатканнем з Дуброўскім, Мар'я Кірылаўна варочалася з саду. Ёй здалося, што ўсе людзі разбегаліся, у доме быў рух, на двары было многа народу, ля ганку стаяла тройка—здалёк пачула яна голас Кірыла Пятровіча—і спяшалася ўвайсці ў пакоі, баючыся, каб яе адсутнасць не заўважылі. У зале спаткаў яе Кірыла Пятровіч, госці абкружылі ісправуніка, нашага знаёмца і засыпалі яго пытаннямі. Ісправунік, адзеты як у дарогу, узброены з ног да галавы, адказваў ім з выглядам таемным і сумятлівым.

— Дзе ты была, Маша?—запытаў Кірыла Пятровіч,—ці не спаткала ты м-р Дэфоржа?

Маша ледзьве магла даць адмоўны адказ.

— Уяві,—гаварыў Кірыла Пятровіч,—ісправунік прыехаў яго схваціць і ўпэўняе мяне, што гэта сам Дуброўскі.

— Усе прыметы, ваша прэвасхадзіцельства,—сказаў з павагаю ісправунік.

— Эх, браток,—перабіў Кірыла Пятровіч,— вымятайся, ведаеш куды, з сваімі прыметамі. Я табе майго француза не выдам, пакуль сам не разбяру справы. Як можна верыць на слова Антону Пафнуцьічу, баязліўцу і хлусу: яму здалося, што настаўнік хацеў аграбіць яго. Чаму-ж ён у тую-ж раніцу не сказаў мне пра тое ні слова?

— Француз запалохаў яго, ваша прэвасхадзіцельства,—адказаў іспраўнік,—і прымусіў яго прысягнуць, што будзе маўчаць...

— Хлусня,—заявіў Кірыла Пятровіч,—зараз я ўсё выведу на чыстую воду. Дзе-ж настаўнік?—запытаў ён у ўвайшоўшага слугі.

— Нідзе не знайсці,—адказаў слуга.

— То знайсці яго!—закрычаў Траекураў, пачынаючы ўпадаць у падазронасць.—Пакажы мне твае славутыя прыметы,—сказаў ён іспраўніку, які адразу і падаў яму паперу.

— Гм, гм, дваццаць два гады, росту сярэдняга, з твару чысты, бараду голіць, вочы мае карыя, валасы русыя, нос просты. Прыметы адмысловыя: іх не выявілася. Яно так, але гэта яшчэ нічога не даводзіць. Дзе-ж настаўнік?

— Не могуць знайсці,—зноў быў адказ.

Кірыла Пятровіч пачынаў трывожыцца, Мар'я Кірылаўна была ні жывая, ні мёртвая.

— Ты бледная, Маша,—заўважыў ёй бацька,—цябе перапалохалі.

— Не, татуля,—адказала Маша,—у мяне галава баліць.

— Ідзі, Маша, у свой пакой і не трывожся.—Маша пацалавала яго ў руку і пайшла хутчэй у свой пакой; там яна кінулася на пасцель і закалацілася ў істэрычным прыпадку. Служанкі збегліся, сілком яе раздзелі, ледзьве яе суцішылі халоднай вадой і ўсялякімі спірытусамі. Яе паклалі ў пасцель, і яна ўпала ў санлівасць.

Тымчасам француза не знаходзілі. Кірыла Пятровіч хадзіў узад і ўперад па залу, грозна пасвістваючы Г р о м  п о б е д ы  р а з д а в а й с я. Госці шапталіся між сабой, іспраўнік тупаў як дурань—француза не знайшлі. Напэўна ён паспеў знікнуць, папярэджаны загадзя. Але хто і як яго папярэдзіў? Гэта аставалася таемным.

Было адзінаццаць, але ніхто і не думаў пра сон. Нарэшце Кірыла Пятровіч сказаў злосна іспраўніку:

— Ну што? Не да дня-ж табе тут сядзець, дом мой не карчма, не з тваім спрытам, браце, злавіць Дуброўскага, калі гэта сапраўды Дуброўскі. Едзь ты дадому і надалей будзь ты рухавейшы. Вам таксама пара дадому,—гаварыў ён далей, звярачаючыся да гасцей.—Загадайце запрагаць, а я хачу спаць.

Так недалікатна развітаўся Траекураў з сваімі гасцямі.

## РАЗДЗЕЛ XIII

Прайшло некалькі часу без ніякага выдатнага здарэння. Але ў пачатку наступнага лета адбылося шмат змен у сямейным побыце Кірылы Пятровіча.

За трыццаць вёрст ад яго быў багаты маёнтак князя Вярэйскага. Князь доўгі час быў у чужых краёх—усім маёнткам яго кіраваў адстаўны маёр, і ніякіх дачыненняў не было паміж Пакроўскім і Арбатавым. Але ў канцы мая месяца князь вярнуўся з-за граніцы і прыехаў у сваю вёску, якое зроду яшчэ не бачыў. Прывыкнуўшы да люднасці, ён не мог пераносіць адзіноты і на трэці дзень пасля свайго прыезду паехаў абедаць да Траекурава, з якім быў калісьці знаёмы.

Князю было каля пяцідзесяці год, але ён здаваўся куды старэйшы. Усялякія непатрэбствы сапсавалі яго здароўе і паклалі на ім сваю печаць. Ён меў несупынную патрэбу ў разрыўцы і бесперапынку сумаваў. Не гледзячы на гэта, выгляд яго быў прыемны, прывабны, а прывычка быць заўсёды ў грамадзе рабіла яго ветлівым, асабліва з жанчынамі. Кірыла Пятровіч быў надзвычай рад яго прыезду, прыняўшы гэта за адзнаку павагі ад чалавека, які ведае свет. Ён як зазвычай пачаў частаваць яго аглядам сваіх уладанняў і павёў на сабачы двор. Але князь ледзь не задыхнуўся ў сабачым паветры і спяшаўся выйсці вон, заціскаючы нос хустачкай, апырсканай духамі. Старасвецкі сад з яго стрыжанымі ліпамі, чатырохкутнай сажалкай і правільнымі дарожкамі яму не спадабаўся; ён любіў англійскія сады і так званую прыроду, але хваліў і захапляўся; слуга прыйшоў сказаць, што абед пададзен. Яны пайшлі абедаць. Князь пакульгваў, стаміўшыся сваім спацырам і ўжо каючыся, што прыехаў сюды.

Але ў зале спаткала іх Мар'я Кірылаўна і стары гуляка быў здзіўлен ад яе хараства. Траекураў пасадзіў гасця каля яе. Князь ажывіўся ад блізасці яе, быў вясёлы і паспеў некалькі разоў прыцягнуць яе ўвагу цікавымі сваімі расказамі. Пасля абеда Кірыла Пятровіч прапанаваў ехаць конна, але князь папрасіў прабачэння, паказваючы на свае аксамітавыя боты і жартуючы з свае падагры; ён захацеў лепш праехацца ў лінейцы, з тым каб не разлучацца з любай сваёй суседкай. Лінейку запраглі. Два старыя і красуня селі і паехалі. Гаворка не спынялася. Мар'я Кірылаўна з прыемнасцю слухала далікатныя і вясёлыя пахвальбы свецкага чалавека, як раптам Вярэйскі, павярнуўшыся да Кірылы Пятровіча, запытаў у яго, што значыць гэты пагарэлы будынак, і ці яму ён належыць. Кірыла Пятровіч нахмурыўся; успаміны, абуджаныя ў ім пагарэлай сялібай, былі яму непрыемныя. Ён адказаў, што зямля цяпер яго і што раней яна належала Дуброўскаму.

— Дуброўскаму,—перапытаў Вярэйскі,—як, гэтаму славутаму разбойніку?

— Яго бацьку,—адказаў Траекураў,—але і бацька быў не малы разбойнік.

— Куды-ж дзеўся наш Рынальдо?[1]) Ці жыў ён, ці злавілі яго?

— І жыў, і на волі, і пакуль у нас будуць іспраўнікі спрыяць у руку зладзеям, да тых часоў не будзе ён злоўлены; дарэчы, князь, Дуброўскі, здаецца, быў у цябе ў Арбатаве?

— Так, леташнім годам, ён, здаецца, штосьці спаліў, ці разграбіў. Ці не праўда, Мар'я Кірылаўна, што было-б цікава пазнаёміцца бліжэй з гэтым рамантычным героем?

— Што там цікава!—сказаў Траекураў,—яна знаёма з ім: ён цэлыя тры тыдні вучыў яе музыцы, але дзякуй богу не ўзяў нічога за ўрокі.

Тут Кірыла Пятровіч пачаў расказваць пра свайго француза-настаўніка. Мар'я Кірылаўна сядзела як на іголках, Вярэйскі вы-

---

1) Рынальдо—герой вельмі вядомага ў свой час рамана нямецкага пісьменніка Вульпіуса (1762—1827) „Рынальдо-Рынальдзіні, атаман разбойнікаў“.

слухаў з глыбокай увагай, знайшоў, што ўсё гэта вельмі дзіўна і змяніў гаворку. Вярнуўшыся, ён загадаў падаваць сваю карэту і, не гледзячы на гарачыя просьбы Кірылы Пятровіча астацца начаваць, паехаў адразу пасля чаю. Але раней прасіў Кірылу Пятровіча прыехаць да яго ў госці з Мар'яй Кірылаўнай—і горды Траекураў абяцаў, бо, узяўшы на ўвагу княжную годнасць, дзве звязды і 3 000 душ фамільнага маёнтка, ён да некаторай ступені лічыў князя Вярэйскага роўным сабе.

Праз два дні пасля гэтага Кірыла Пятровіч паехаў з дачкой у госці да князя Вярэйскага. Пад'язджаючы да Арбатава, ён не мог не цешыцца з чыстых і вясёлых сялянскіх хат і з мураванага панскага дома, пабудаванага ў гусце англійскіх замкаў. Перад домам быў густы-зялёны поплаў, на якім пасвіліся швейцарскія каровы, пазвоньваючы сваімі званкамі. Шырокі парк абкружваў дом з усіх бакоў. Гаспадар спаткаў гасцей ля ганку і падаў руку маладой красуні; яны ўвайшлі ў цудоўны зал, дзе стол быў падрыхтаваны на тры асобы. Князь падвёў гасцей да акна і перад ім разбеглася найпрыгажэйшая карціна. Волга цекла перад вокнамі, па ёй ішлі нагружаныя лайбы пад нацягненымі ветразямі і мільгацелі рыбацкія чаўны, так трапна празваныя душагубкамі. За ракой цягнуліся ўзгоркі і поле, некалькі вёсак ажыўлялі навакольнасць. Пасля яны заняліся разглядам галерэй карцін, купленых князем у чужых краях. Князь растлумачыў Мар'і Кірылаўне аб іх каштоўнасцях, аб змесце, гаварыў аб гісторыі жывапісцаў, расказваў пра недахопы; ён гаварыў аб карцінах не на ўмоўленай мове педантычнага знаўцы, але з пачуццём і фантазіяй. Мар'я Кірылаўна слухала яго з прыемнасцю. Пайшлі за стол. Траекураў аддаў поўную ўвагу вінам свайго Амфітрыона[1]) і ўмельству яго кухара, а Мар'я Кірылаўна не адчувала ніякай збянтэжанасці або штучнасці ў гаворцы з чалавекам, якога бачыла яна толькі другі раз зроду. Пасля абеда гаспадар запрасіў гасцей пайсці ў сад. Яны пілі каву ў альтанцы на беразе шырокага возера, усыпанага астравамі. Раптам пачулася духавая музыка і шасцівеславы човен пристаў да самай альтанкі. Яны паехалі па возеру, каля астраўкоў, выходзілі на некаторыя з іх; на адным знаходзілі мармуравую статую, на другім—пустэльную пячору, на трэцім—помнік з таемным надпісам, які абуджваў у Мар'і Кірылаўне дзявочую цікаўнасць, не зусім задаволеную далікатным князёвым недагаварваннем. Час прайшоў хутка, пачало змяркацца. Князь, з прычыны халоднай расы, паспяшыў вярнуцца дадому—самавар іх чакаў. Князь прасіў Мар'ю Кірылаўну гаспадарыць у доме старога халасцяка. Яна разлівала чай, слухаючы няспынныя расказы ветлівага гаваруна, раптам пачуўся стрэл і ракета асвятліла неба. Князь падаў Мар'і Кірылаўне шаль і паклікаў яе і Траекурава на балкон. Перад домам у цемені ўспыхнулі каляровыя агні, закружыліся, падняліся ўгару зорамі, патухалі і зноў успыхвалі. Мар'я Кірылаўна весялілася як дзіця. Князь Вярэйскі рада-

---

[1]) Амфітрыон—ветлівы, гасцінны гаспадар; ад імя героя камедый старарымскага пісьменніка Плаўта (259—184 да н. э.) і славутага французскага пісьменніка Мольера (1622—1673).

ваўся, што яна ў захапленні, а Траекураў быў вельмі ім задаволен, бо прымаў tous les frais [1]) князя, як адзнакі павагі і жадання яму дагадзіць.

Вячэра была не горшая за абед. Госці накіраваліся ў пакоі, ім вызначаныя, і на другі дзень зранку развіталіся з ветлівым гаспадаром, даўшы ўзаемнае абяцанне неўзабаве зноў убачыцца.

## РАЗДЗЕЛ XIV

Мар'я Кірылаўна сядзела ў сваім пакоі, перад адчыненым акном і вышывала. Яна не пераблытала колеры шоўку, як гэта рабіла палюбоўніца Конрада [2]), якая ў любоўным утра сенні вышыла ружу зялёным шоўкам. Пад яе голкай на канве беспамылкова клаліся дасэні, не гледзячы на гэта яе думкі не сачылі за работай, яны былі далёка.

Раптам у акно ціха працягнулася рука і хтосьці паклаў на пяльцы ліст і знік, раней чым Мар'я Кірылаўна паспела адумацца. У гэты самы час да яе ўвайшоў слуга і паклікаў яе да Кірыла Петровіча. Яна з трывогай схавала ліст за касынку і пайшла да бацькі ў габінет.

Кірыла Пятровіч быў не адзін. Князь Вярэйскі сядзеў у яго. Як толькі ўвайшла Мар'я Кірылаўна, князь устаў і моўчкі скланіўся ёй, са збянтэжанасцю для яго незвыклай.

— Падыдзі сюды, Маша,—сказаў Кірыла Пятровіч,—скажу табе навіну, якая, спадзяюся, цябе ўзрадуе. Вось твой жаніх, князь да цябе сватаецца.

Маша аслупянела, смяротная бледнасць укрыла яе твар. Яна маўчала. Князь да яе падыйшоў, узяў яе за руку і з выглядам расчуленым запытаў, ці згодна яна ствaрыць яго шчасце. Маша маўчала.

— Згодна, вядома, згодна,—сказаў Кірыла Пятровіч,—але ведаеш, князь: дзяўчыне цяжка выгаварыць гэтае слова. Ну, дзеці, пацалуйцеся і жывіце шчасліва.

Маша стаяла нерухома, стары князь пацалаваў ёй руку, раптам слёзы пабеглі па бледным яе твары. Князь злёгку нахмурыўся.

— Пашла, пашла, пашла,—сказаў Кірыла Пятровіч,—асушы свае слёзы і вярніся да нас вясёлая. Яны ўсе плачуць у гэты момант,—гаварыў ён да Вярэйскага,—гэта ў іх ужо такі звычай... Цяпер, князь, пагаворым пра справу—гэта значыцца пра пасаг.

Мар'я Кірылаўна прагна скарыстала дазвол выйсці. Яна пабегла ў свой пакой, зачынілася і дала волю слязам сваім, уяўляючы сябе жонкай старога князя; ён раптам здаўся ёй агідным і зненавідным... Шлюб палохаў яе як шыбеніца, як магіла... „Не, не,— гаварыла яна ў роспачы,—лепш памерці, лепш у манастыр, лепш пайду за Дуброўскага“. Тут яна ўспомніла пра ліст і прагна кінулася яго чытаць, адчуваючы, што ён быў ад яго. Сапраўды гэта пісаў ён. Было напісана толькі некалькі слоў: „Увечары ў дзесяць, на ранейшым месцы“.

---

[1]) Усе выдаткі.

[2]) Конрад—герой поэмы найвыдатнейшага польскага паэта Міцкевіча (1798—1855) „Конрад Валлеврод“.

## РАЗДЗЕЛ XV

Месяц свяціў; ліпеньская ноч была ціхая; калі-ні-калі ўзнімаўся ветрык і лёгкі шум прабегаў па ўсім садзе.

Як лёгкі цень, маладая красуня падыйшла да месца, вызначанага для спаткання. Яшчэ нікога не было відно, раптам з-за альтанкі з'явіўся Дуброўскі перад ёю.

— Я ўсё ведаю,—сказаў ён ёй ціхім і сумным голасам.—Успомніце аб вашым абяцанні.

— Вы прапануеце мне сваю дапамогу,—адказала Маша,—але не злуйце: яна палохае мяне. Якім чынам вы дапаможаце мне?

— Я мог-бы пазбавіць вас ад ненавіднага чалавека.

— Не чапайце яго, не смейце яго чапаць, калі вы мяне кахаеце—я не хачу быць вінаватай у якім-небудзь жаху...

— Я не крану яго, воля ваша для мяне святая. Вам абавязан я за жыццё. Ніколі злачынства не будзе зроблена ў імя ваша. Вы павінны быць чыстая нават і ў маіх злачынствах. Але як-жа я выратую вас ад жорсткага бацькі?

— Яшчэ ёсць надзея. Я спадзяюся расчуліць яго маімі слязьмі і роспаччу. Ён упарты, але ён так мяне любіць.

— Не спадзявайцеся дарэмна: у гэтых слёзах убачыць ён толькі звычайную баязлівасць і прыкрасць, уласцівае усім маладым дзяўчатам, калі ідуць яны замуж не з кахання, а з сталай практычнасці, што калі возьме ён сабе ў галаву стварыць шчасце ваша без вас саміх; калі сілком павязуць вас да шлюбу, каб навек аддаць лёс ваш пад уладу старога мужа...

— Тады, тады нічога не зробіш, з'явіцеся па мяне, я буду ваша жонка.

Дуброўскі задрыжэў: бледны твар укрыўся густой ружовасцю і ў тую-ж хвіліну стаў бляднейшы як калі. Ён доўга маўчаў, унурыўшы галаву.

— Збярыце ўсе сілы душы, упрошвайце бацьку, кінцеся да яго ног: давядзіце яму ўвесь жах будучыні, вашу маладосць, счэзлую каля гнілога і распуснага старога; адважцеся на жорсткую гаворку: скажыце, што калі ён не паслухае вашых просьбаў, то... то вы знойдзеце жахлівую абарону... скажыце, што багацце не дасць вам ніводнай хвіліны шчасця; раскоша цешыць толькі беднасць, і то з непрывычкі, на адзін момант, не згаджайцеся з ім, не палохайцеся ні яго гневу, ні пагроз—пакуль будзе аставацца хоць цень надзеі, прашу вас, не згаджайцеся. Калі-ж не будзе ўжо іншага ратунку...

Дуброўскі закрыў твар рукамі; ён, здавалася, задыхаўся. Маша плакала...

— Няшчасная, няшчасная мая доля,—сказаў ён, цяжка ўздыхнуўшы... —За вас аддаў-бы я жыццё, бачыць вас здалёк, крануць вашу руку было мне асалодай. І калі адкрываецца мне магчымасць лепшае стварэнне прыцісьнуць да ўсхвалёванага сэрца і сказаць: „Анел, памрэм!“—небарак, я павінен усцерагацца ад шчасця, я павінен аддаляць яго ўсімі сіламі... Я не асмельваюся ўпасці да вашых ног, дзякаваць небу за неразумную, незаслужаную нагароду.

О як павінен я ненавідзець таго... але адчуваю—цяпер у сэрцы маім няма месца для нянавісці.

Ён ціха абняў стройны яе стан і ціха прыціснуў яе да свайго сэрца. Даверліва схіліла яна галаву на плячо маладога разбойніка. Абое маўчалі.

Час імчаўся.

— Пара,—сказала нарэшце Маша. Дуброўскі быццам вышаў з санлівасці. Ён узяў яе руку і надзеў ёй на палец пярсцёнак.

— Калі надумаецеся прыйсці да мяне,—сказаў ён, то прынясіце пярсцёнак сюды, пакладзіце яго ў дупло гэтага дуба—я буду ведаць, што рабіць.

Дуброўскі пацалаваў яе руку і знік між дрэў.

## РАЗДЗЕЛ XVI

Заляцанне князя Верэйскага не было ўжо сакрэтам для суседзяў—Кірыла Пятровіч прымаў він шаванні, да вяселля рыхтаваліся. Маша з дня на дзень адкладала канчатковае агалашэнне. Тымчасам абыходжанне яе з старым жаніхом было халоднае і штучнае. Князь пра гэта не дбаў. Ён аб каханні не клапаціўся, задаволены яе маўклівай згодай.

Але час ішоў. Маша нарэшце адважылася дзейнічаць—і напісала ліст да князя Вярэйскага; яна старалася абудзіць у яго сэрцы пачуццё вялікадушша, шчыра прызнавалася, што не мела да яго аніякай схільнасці, упрашвала яго адмовіцца ад яе, і самому абараніць яе ад бацьковай улады. Яна ціхом аддала ліст князю Вярэйскаму, той прачытаў яго і ніяк яго не кранула шчырасць яго нявесты. Наадварот, ён убачыў патрэбу хутчэй зрабіць вяселле і для гэтага палічыў патрэбным паказаць ліст будучаму цесцю.

Кірыла Пятровіч узвар'яваўся: князь ледзь мог угаварыць яго не паказваць Машы і выгляду, што ён ведае пра яе ліст. Кірыла Пятровіч згадзіўся ёй пра гэта не гаварыць, але меў намер не траціць часу і вызначыў адбыцца вяселлю на другі-ж дзень. Князь сказаў, што гэта вельмі разумна, пайшоў да свае нявесты, сказаў ёй, што ліст яе абудзіў у ім сум, але што ён спадзяецца з цягам часу заслужыць яе прыхільнасць, што думка страціць яе вельмі яму цяжкая і што ён не мае сіл згадзіцца на свой смяротны прысуд. Пасля гэтага ён далікатна пацалаваў яе руку і паехаў, не сказаўшы ёй ні слова аб тым, што вырашыў Кірыла Пятровіч.

Але ледзь паспеў ён выехаць з двара, як бацька яе ўвайшоў і адразу загадаў ёй падрыхтавацца да заўтрашняга дня. Мар'я Кірылаўна, ужо ўсхвалёваная словамі князя Вярэйскага, аблілася слязьмі і кінулася да бацькавых ног.

— Татуля,—закрычала яна сумным голасам,—татуля, не губіце мяне, я не люблю князя, я не хачу быць яго жонкай...

— Гэта што значыць,—сказаў грозна Кірыла Пятровіч,—дагэтуль ты маўчала і была згодна, а цяпер, калі ўсё вырашана, ты ўздумала капрызнічаць і адмаўляцца. Пакінь дурыцца, гэтым ты нічога не выйграеш.

— Не губіце мяне,—гаварыла ўсё небарака Маша,—за што гоніце мяне ад сябе прэч і аддаеце чалавеку нелюбаму? Хіба я вам надакучыла? Я хачу астацца з вамі як дагэтуль. Татуля, вам без мяне будзе сумна, яшчэ сумней, калі падумаеце, што я няшчасная; татуля: не прымушайце мяне, я не хачу ісці замуж...

Кірыла Пятровіч расчуліўся, але не выказаў свае збянтэжанасці і, адпіхнуўшы яе, сказаў жорстка:

— Усё гэта глупства, чуеш ты? Я ведаю лепш за цябе, што трэба для твайго шчасця. Слёзы табе не памогуць, паслязаўтра будзе тваё вяселле.

— Паслязаўтра!--крыкнула Маша,—божа мой! Не, не, нельга, гэтага не будзе. Татуля, паслухайце, калі ўжо вы надумалі згубіць мяне, то я знайду абаронцу, пра якога вы і не думаеце, вы ўбачыце, вас апануе жах, да чаго вы мяне давялі.

— Што? Што?—сказаў Траекураў,—пагрозы? Мне пагрозы, шалёная дзяўчушка! Але ці ведаеш ты, што я з табой зраблю тое, чаго ты і не ўяўляеш. Ты асмелілася мяне палохаць нейкім абаронцам. Паглядзім, хто будзе гэты абаронца.

— Уладзімір Дуброўскі,—адказала Маша ў роспачы.

Кірыла Пятровіч падумаў, што яна ўзвар'яцела і глядзеў на яе са здзіўленнем.

—*Добра,--сказаў ён ёй, памаўчаўшы,—чакай сабе каго хочаш на паратунак, а пакуль што сядзі ў гэтым пакоі, ты з яго не выйдзеш да самага вяселля.—З гэтым словам Кірыла Пятровіч вышаў і замкнуў за сабой дзверы.

Доўга плакала небарака дзяўчына, уяўляючы ўсё, што чакала яе, але бурная гаворка зняла з душы цяжар і яна спакайней магла думаць аб сваёй долі і аб тым, што трэба ёй рабіць. Найважней было ёй—выратавацца ад агіднага шлюбу; доля жонкі разбойніка здавалася ёй раем у параўнанні з лёсам, ёй нарыхтаваным. Яна зірнула на пярсцёнак, дадзены ёй Дуброўскім. Горача жадала яна з ім пабачыцца сам-на-сам і яшчэ раз перад рашучай хвілінай параіцца. Адчуванне падказвала ёй, што ўвечары знойдзе яна Дуброўскага ў садзе, каля альтанкі; яна адважылася ісці чакаць яго там, як толькі пачне змяркацца. Змерклася. Маша нарыхтавалася— але дзверы яе замкнёны на ключ. Пакаёўка адказала ёй з-за дзвярэй, што Кірыла Пятровіч не загадаў яе выпускаць. Яна была пад арыштам. Глыбока зневажаная, яна села пры акне і да глыбокай ночы сядзела, не раздзяючыся, нерухома гледзячы ў цёмнае неба. На світанні яна задрамала, але чулы сон яе быў устрывожан сумнымі ўяўленнямі, і праменні ранішняга сонца пабудзілі яе.

## РАЗДЗЕЛ XVII

Яна прачнулася і з першай думкай уявіўся ёй увесь жах яе стану. Яна пазваніла, дзеўка ўвайшла і на запытанні яе адказала, што Кірыла Пятровіч увечары ездзіў у Арбатава і вярнуўся позна: што ён даў жорсткі загад не выпускаць яе з пакою і наглядаць за тым, каб ніхто з ёю не гаварыў; што, дарэчы, не відаць ніякіх асаблівых падрыхтовак да вяселля, апроч таго, што загадана было

тапу не адлучацца з вёскі ні з якіх прычын. Пасля гэтых вестак, дзеўка пакінула Мар'ю Кірылаўну і зноў замкнула дзверы.

Яе словы загартавалі злосць маладой нявольніцы; галава яе кіпела, кроў хвалявалася; яна вырашыла даць ведаць аб усім Дуброўскаму і пачала шукаць спосабу адправіць пярсцёнак у дупло таго дуба. У гэты час каменчык стукнуўся ў яе акно, шкло зазвінела і Мар'я Кірылаўна глянула на двор і ўбачыла малога Сашу, які рабіў ёй таемныя знакі. Яна ведала яго прывязанасць і ўзрадавалася яму. Яна адчыніла акно.

— Добры дзень, Саша,—сказала яна,—нашто ты мяне клічаш?

— Я прышоў, сястрыца, даведацца ад вас, ці не трэба вам чаго небудзь. Татуля злосны і забараніў усяму дому вас слухаць, але скажыце мне зрабіць што хочаце і я для вас усё зраблю.

— Дзякуй, любы мой Сашачка, слухай: ты ведаеш стары дуб з дуплом, што каля альтанкі?

— Ведаю, сястрыца.

— То калі ты мяне любіш, збегай туды хутчэй і пакладзі ў дупло вось гэты пярсцёнак, але глядзі, каб ніхто цябе не бачыў.

З гэтым словам яна кінула яму пярсцёнак і зачыніла акно.

Хлопчык падняў пярсцёнак і з усіх сіл кінуўся бегчы—і за тры хвіліны апынуўся ля патрэбнага дрэва. Тут ён спыніўся, аддыхваючыся, азірнуўся на ўсе бакі і паклаў пярсцёнак у дупло. Скончыўшы справу шчасліва, хацеў ён адразу-ж паведаміць пра гэта Мар'і Кірылаўне, як раптам рыжы і касавокі абарваны хлапчук мільгнуў з-за альтанкі, кінуўся да дуба і запусціў руку ў дупло. Саша хутчэй за вавёрку кінуўся да яго і ўчапіўся за яго абедзвюма рукамі.

— Што ты тут робіш?—сказаў ён грозна.

— А табе што да таго?—адказаў хлапчук, стараючыся ад яго вызваліцца.

— Пакінь гэты пярсцёнак, рыжы заяц!—крычаў Саша,—бо я расправлюся з табой па-свойму.

Замест адказу той даў яму кулаком па твары, але Саша яго не выпусціў і закрычаў ва ўсё горла:

— Зладзеі, зладзеі! Сюды, сюды!

Хлапчук стараўся ад яго вырвацца. Ён быў, відаць на два гады старэйшы за Сашу і нашмат за яго дужэйшы, але Саша быў больш вёрткі. Яны змагаліся некалькі хвілін, нарэшце рыжы хлапчук перамог. Ён пакаціў Сашу на зямлю і схапіў яго за горла.

Але ў гэты час моцная рука ўчапілася ў яго рыжыя і пруткія валасы, і садоўнік Сцяпан падняў яго на поўаршына ад зямлі...

— Ах ты, рыжая шэльма,—гаварыў садоўнік,—як гэта ты асмеліўся біць малога пана...

Саша паспеў падняцца і агледзецца.

— Ты мяне хапіў пад бакі,—сказаў ён,—а то-б ніколі мяне не пакаціў. Аддай зараз пярсцёнак і ідзі.

— Дзіва што,—адказаў рыжы і, раптам перакруціўшыся на адным месцы, вызваліў сваю шчэць з сцяпанавых пальцаў.

Тут ён кінуўся быў бегчы, але Саша дагнаў яго, пхнуў у спіну

і хлапчук упаў з усяго маху, садоўнік зноў яго схапіў і звязаў папружкай.

— Аддай пярсцёнак,—крычаў Саша.

— Чакай,—сказаў Сцяпан,—мы павядзем яго на расправу да прыказчыка.

Садоўнік павёў палонніка на панскі двор, а Саша пайшоў следам, з трывогай пагладаючы на свае шаравары, разарваныя і запэцканыя зяленівам. Раптам усе ўтрох апынуліся перад Кірылам Пятровічам, які ішоў аглядаць сваю стайню.

— Гэта што?—запытаў ён у Сцяпана.

Сцяпан у кароткіх словах расказаў аб здарэнні.

Кірыла Пятровіч выслухаў яго з уважлівасцю.

— Ты, свавольнік,—сказаў ён, павярнуўшыся да Сашкі,—за што ты з ім звязаўся?

— Ён украў у дупле пярсцёнак, татуля, загадайце аддаць пярсцёнак.

— Які пярсцёнак, з якога дупла?

— Мне Мар'я Кірылаўна... той пярсцёнак...

Саша збянтэжыўся, зблытаўся. Кірыла Пятровіч нахмурыўся і сказаў, патрасаючы галавой:

— Тут умяшалася Мар'я Кірылаўна. Прызнавайся ва ўсім, бо так адлупцую цябе дубцом, што будзеш ведаць.

— Дальбог, татуля, я, татуля... Мне Мар'я Кірылаўна нічога не гаварыла, татуля.

— Сцяпан, ідзі зрэж мне добры свежы бярозавы дубец...

— Чакайце, татуля, я ўсё вам раскажу. Я сёння бегаў па двары, а сястрыца Мар'я Кірылаўна адчыніла акно і я падбег, і сястрыца неназнарок упусціла з рук пярсцёнак, а я схаваў яго ў дупле, і... гэты рыжы хлапец хацеў пярсцёнак украсці.

— Неназнарок упусціла, а ты хацеў схаваць... Сцяпан, ідзі па дубцы.

— Татуля, пачакайце, я ўсё раскажу. Сястрыца Мар'я Кірылаўна сказала мне збегаць да дуба і пакласці пярсцёнак у дупло; я і збегаў і паклаў пярсцёнак, а гэты брыдкі хлапчук...

Кірыла Пятровіч павярнуўся да брыдкага хлапчука і запытаў яго грозна:

— Чый ты?

— Паноў Дуброўскіх. Я дваровы чалавек Уладзіміра Андрэевіча Дуброўскага,—адказаў рыжы хлапчук.

Твар Кірыла Пятровіча спахмурнеў.

— Ты, здаецца, мяне за свайго пана не прызнаеш? Добра,— адказаў ён.—А што ты рабіў у маім садзе?

— Маліну краў,—адказаў хлапчук з вялікай абыякавасцю.

— Ага, слугі пашлі па пану, які поп, такая і парафія; а маліна хіба расце ў мяне на дубах?

Хлапчук нічога не адказаў.

— Татуля, скажыце яму аддаць пярсцёнак,—сказаў Саша.

— Маўчы, Александр,—адказаў Кірыла Пятровіч,—не забывайся, што я збіраюся з табой расправіцца. Ідзі ў свой пакой. Ты,

касавокі, ты мне здаешся хлопцам спрытным. Аддай пярсцёнак і ідзі дадому.

Хлапчук распростаў кулак і паказаў, што ў яго руцэ нічога не было.

— Калі ты мне ва ўсім прызнаешся, то я цябе не буду сцябаць, дам яшчэ пяць капеек на арэхі. А не то я з табой зраблю тое, чаго ты не спадзяешся. Ну?

Хлапчук не адказаў ні слова, стаяў, унурыўшы галаву і напусціў на сябе выгляд сапраўднага дурнога.

— Добра,—сказаў Кірыла Пятровіч,—замкніце яго куды-небудзь, ды глядзіце, каб ён не ўцёк, бо з усяго дому скуру спушчу.

Сцяпан адвёў хлапчука на галубятню, замкнуў яго там і прыставіўназіраць за ім старую наглядчыцу птушак Агафію.

— Зараз-жа ехаць у горад па ісправніка,—сказаў Кірыла Пятровіч, правёўшы хлопчыка вачыма,—і як мага хутчэй.

— Тут так і ёсць. Яна захавала зносіны з праклятым Дуброўскім. Але няўжо і сапраўды яна клікала яго на дапамогу?—думаў Кірыла Пятровіч, пахаджаючы па пакоі і злосна высвістваючы Гром победы.—Можа быць я нарэшце напаў на яго гарачыя сляды, і ён ад нас не ўцячэ. Мы скарыстаем гэты выпадак. Ага! званок, дзякуй богу, гэта ісправнік.—Эй, прывесці сюда хлапчука злоўленага.

Тым часам драбінкі ўз'ехалі на двор, і знаёмы ўжо нам ісправнік увайшоў у пакой увесь абпылены.

— Добрая вестка,—сказаў яму Кірыла Пятровіч.—Я злавіў Дуброўскага.

— Дзякуй богу, ваша прэвасхадзіцельства,—сказаў ісправнік з выглядам узрадаваным,—дзе-ж ён?

— Значыцца, не Дуброўскага, а аднаго з яго шайкі. Зараз яго прывядуць. Ён пасобіць нам злавіць самога атамана. Вось яго і прывялі.

Ісправнік, які чакаў грознага разбойніка, быў здзіўлен, убачыўшы трынаццацігодняга хлапчука, даволі слабога выгляду. Ён з непаразуменнем звярнуўся да Кірылы Пятровіча і чакаў тлумачэння. Кірыла Пятровіч пачаў тут-жа расказваць ранішняе здарэнне, не ўспамінаючы аднак-жа пра Мар'ю Кірылаўну.

Ісправнік выслухаў яго ўважліва, штохвілінна паглядаючы на малога шэльму, які, прыкінуўшыся дурненькім, здавалася, не браў на ўвагу ўсё, што рабілася каля яго.

— Дазвольце, ваша прэвасхадзіцельства, перагаварыць з вамі сам-на-сам,—сказаў нарэшце ісправнік.

Кірыла Пятровіч павёў яго ў другі пакой і замкнуў за сабой дзверы.

Праз паўгадзіны яны вышлі зноў у зал, дзе нявольнік чакаў вырашэння свайго лёсу.

— Пан хацеў,—сказаў яму ісправнік,—пасадзіць цябе ў гарадскі астрог, высцябаць нагайкамі і выслаць пасля на пасяленне, але я заступіўся за цябе і выпрасіў табе волю; развязаць яго.

Хлапчука развязалі.

— Падзякуй-жа пану,—сказаў ісправнік.

Хлапчук падышоў да Кірылы Пятровіча і пацалаваў у яго руку.

— Ідзі сабе дадому,—сказаў яму Кірыла Пятровіч,—і больш не крадзь маліны ў дупле.

Хлапчук вышаў, весела саскочыў з ганку і кінуўся бегчы, не азіраючыся, цераз поле ў Кісцянёўку. Дабегшы да вёскі, ён спыніўся каля разваленай хацінкі, першай ад краю, і пастукаў у аконца. Аконца паднялося і старая паказалася.

— Бабулька, хлеба,—сказаў хлопчык,—я ад ранку нічога не еў, уміраю з голаду.

— Ах, гэта ты, Міця. Дзе-ж ты быў, чарцючок?—адказала старая.

— Пасля раскажу, бабуля, злітуйся, хлеба.

— Увайдзі-ж у хату.

— Няма калі, бабуля—мне трэба збегаць яшчэ ў адно месца. Хлеба, злітуйся, хлеба.

— От урвіцель,—прамармытала старая,—на, вось табе лустачку,—і сунула ў вакенца лусту чорнага хлеба.

Хлапчук прагна яго адкусіў і жуючы ў момант накіраваўся далей.

Пачынала змяркацца. Міця браўся паўз гумны, агародамі ў Кісцянёўскі гай. Дайшоўшы да двух хвояў, што стаялі перадавымі вартавымі гаю, ён спыніўся, азірнуўся на ўсе бакі, свіснуў прарэзліва і адрывіста—і пачаў прыслухоўвацца; лёгкі і доўгі свіст пачуўся яму ў адказ; хтосьці выйшаў з гаю і наблізіўся да яго.

## РАЗДЗЕЛ XVIII

Кірыла Пятровіч пахаджваў узад і ўперад па залу, мацней як заўсёды ён высвістваў сваю песню. Увесь дом быў ахоплен рухам—слугі бегалі, дзеўкі мітусіліся, у стайні фурманы запрагалі карэту. На двары густа стаяў народ. У паненскай прыбіральні, перад люстэркам дама, абкружаная служанкамі, убірала бледную нерухомую Мар'ю Кірылаўну; галава яе далікатна хілілася пад цяжарам брыльянтаў: яна злёгку дрыжала, калі неасцярожная рука калола яе, але маўчала, бездумна гледзячы ў люстэрка.

— Ці скора?—пачуўся за дзвярыма голас Кірылы Пятровіча.

— У момант,—адказала дама,—Мар'я Кірылаўна, устаньце, паглядзіце на сябе, ці добра?

Мар'я Кірылаўна ўстала і не адказала нічога. Дзверы адчыніліся.

— Нявеста гатова,—сказала дама Кірылу Пятровічу,—загадайце садзіцца ў карэту.

— З богам,—адказаў Кірыла Пятровіч, і, узяўшы з стала абраз,—падыдзі да мяне, Маша,—сказаў ён ёй расчуленым голасам,—бласлаўляю цябе...

Небарака дзяўчына кінулася яму ў ногі і зарыдала.

— Татулька... татулька...—гаварыла яна праз слёзы, і голас яе ледзьве быў чуцен.

Кірыла Пятровіч спяшаўся яе блаславіць—яе паднялі і амаль панеслі ў карэту. З ёю села пасажаная маці і адна з служанак. Яны паехалі ў царкву. Там жаніх ужо іх чакаў. Ён вышаў насустрач да невесты і быў здзіўлен бледнасцю яе і дзіўным выглядам. Яны разам увайшлі ў халодную, пустую царкву, за імі замкнулі дзверы. Свяшчэннік вышаў з алтара і адразу-ж пачаў. Мар'я Кірылаўна нічога не бачыла, нічога не чула, думала пра адно, з самага ранку яна чакала Дуброўскага, надзея ні на хвіліну яе не пакідала, але калі свяшчэннік звярнуўся да яе з пэўнымі пытаннямі, яна ўздрыганулася і абмерла, але яшчэ марудзіла, яшчэ чакала; свяшчэннік, не дачакаўшыся яе адказу, сказаў словы, якіх і назад нельга вярнуць.

Абрад быў скончан. Яна адчувала халодны пацалунак нелюбага мужа, яна чула вясёлыя віншаванні прысутных і ўсё яшчэ не магла паверыць, што жыццё яе было навекі скута, што Дуброўскі не прымчаўся вызваліць яе. Князь звярнуўся да яе з ласкавымі словамі, яна іх не зразумела; яны вышлі з царквы, на цвінтары стаялі сяляне з Пакроўскага. Позірк яе хутка іх акінуў, і зноў стаў як нежывы. Маладыя селі разам у карэту і паехалі ў Арбатава: туды ўжо выехаў Кірыла Пятровіч, каб спаткаць там маладых. Седзячы поплеч маладое жонкі, князь аніяк не быў збянтэжан яе халодным выглядам. Ен не надакучаў ёй прыкрай гаворкай і смешным захапленнем, словы яго былі простыя і не патрабавалі адказаў. Так праехалі яны каля дзесяці вёрст, коні імчаліся шпарка па няроўнай дарозе і карэта амаль не гойдалася на сваіх англійскіх рэсорах. Раптам пачуліся крыкі—за імі імчаліся наўздагон, карэта спынілася—натоўп узброеных людзей абкружваў яе, і чалавек з маскай на твары, адчыніў дзверцы з таго боку, дзе сядзела маладая княгіня, сказаў ёй:

— Вы вольная, выходзьце.

— Што гэта значыць!—закрычаў князь,—хто ты такі!..

— Гэта Дуброўскі,—сказала княгіня.

Князь, не трацячы адвагі дастаў з бакавой кішэні дарожны пісталет і стрэліў у замаскаванага разбойніка. Княгіня крыкнула і з жахам закрыла твар абедзвюма рукамі. Дуброўскі быў ранен у плячо, кроў паказалася, князь, не трацячы ні хвіліны, дастаў другі пісталет. Але яму не далі часу стрэліць, дзверцы адчыніліся і некалькі моцных рук выцягнулі яго з карэты і вырвалі ў яго пісталет. Над ім бліснулі нажы.

— Не чапаць яго!—закрычаў Дуброўскі, і змрочныя яго аднадумцы адступілі.

— Вы вольная,—яшчэ сказаў Дуброўскі да бледнай княгіні.

— Не,—сказала яна,—позна—я абвенчана, я жонка князя Вярэйскага.

— Што вы гаворыце!—закрычаў у роспачы Дуброўскі,—не, вы не жонка яго, вы былі сілком прымушаны, вы ніколі не маглі згадзіцца...

— Я згадзілася, я дала клятву,—сказала яна з цвёрдасцю,—князь мой муж, загадайце вызваліць яго і пакіньце мяне з ім. Я не

ашуквала. Я чакала вас да апошняй хвіліны... але цяпер, кажу вам, цяпер позна. Пусціце нас.

Але Дуброўскі ўжо яе не чуў, боль ад раны і моцнае хвалянанне душы—адабралі ў яго сілы. Ён упаў ля кола, разбойнікі абкружылі яго. Ён паспеў сказаць ім некалькі слоў, яны пасадзілі яго конна, двое з іх яго падтрымлівалі, трэці узяў каня за аброць і ўсе паехалі ў бок, пакінуўшы карэту пасярод дарогі, людзей звязаных, коней выпражаных, але не разграбіўшы нічога, і не праліўшы ніводнай кроплі крыві на помсту за кроў свайго атамана.

## РАЗДЗЕЛ XIX

Пасярод цёмнага лесу, на вузкай прагаліне, узвышалася малое земляное ўмацаванне, створанае з вала і рова, за якімі было некалькі шалашоў і землянак.

На двары мноства людзей, якіх паводле ўсялякіх гатункаў адзежы і агульнаму ўзброенню, можна было адразу палічыць за разбойнікаў, абедала, седзячы без шапак каля агульнага катла. На вале, каля, маленькай гарматы, сядзеў вартавы; падабраўшы пад сябе ногі, ён латаў сваю адзежу, уладаючы голкай з умельствам, уласцівым спрактыкаванаму краўцу, і што хвіліны паглядаў ва ўсе бакі.

Хоць пэўная пасудзіна некалькі разоў і пераходзіла з рук у рукі, дзіўнае маўчанне панавала ў гэтым натоўпе; разбойнікі паабедалі, адзін за адным уставалі і маліліся богу, некаторыя разышліся па шалашах, а некаторыя разбрыліся па лесе або прылеглі заснуць, паводле рускага звычаю.

Караульшчык скончыў сваю работу, патрос свой лахман, пацешыўся з латкі, ушпіліў у рукаў голку, сеў на гармату верхам і заспяваў ва ўсё горла меланхалічную старую песню.

Не шуми мати зеленая дубровушка,
Не мешай мне молодцу думу думати.

У гэты час дзверы аднаго з шалашоў адчыніліся і старая жанчына ў белым чапцы, ахайна і густоўна адзетая, з'явілася ля парогу.

— Даволі табе, Сцёпка,—сказала яна злосна,—пан адпачывае, а ты гарлапаніш—няма ў вас ні сумлення, ні спачування.

— Вінават, Егораўна,—адказаў Сцёпка,—добра, больш не буду, няхай ён сабе, наш бацюхна, адпачывае і правіцца.

Старая пайшла, а Сцёпка пачаў расхаджваць па вале.

У шалашы, з якога выходзіла старая, за перагародкай, ранены Дуброўскі ляжаў на паходным ложку. Перад ім на століку ляжалі яго пісталеты, а шабля вісела ў галавах. Зямлянка выслана і абвешана багатымі дыванамі, у кутку быў жаночы срэбны туалет і трумо. Дуброўскі трымаў у руцэ разгорненую кнігу, але вочы яго былі заплюшчаны. І старая, што паглядвала на яго з-за перагародкі, не магла ведаць, ці заснуў ён, ці толькі задумаўся.

Раптам Дуброўскі здрыгануўся... пачулася трывога і Сцёпка усунуў да яго галаву ў вакенца.

— Бацюхна, Уладзімір Андрэевіч!—закрычаў ён,—нашы знак падаюць, нас шукаюць.

Дуброўскі рвануўся з ложка, хапіў зброю і вышаў з шалаша. Разбойнікі з шумам стоўпіліся на двары, як толькі ён вышаў,—пачалося глыбокае маўчанне.

— Ці ўсе тут?—запытаў Дуброўскі.

— Усе, апроч дазорных,—адказалі.

— Усе на месцы!—закрычаў Дуброўскі. І разбойнікі занял кожны пэўнае месца.

У гэты час трое дазорных прыбеглі да брамы. Дуброўскі пайшоў да іх насустрач.

— Што такое?—запытаў ён іх.

— Салдаты ў лесе,—адказалі яны,—нас абкружваюць.

Дуброўскі загадаў замкнуць браму і сам пайшоў агледзець гарматку. У лесе пачулася некалькі галасоў—і пачалі набліжацца; разбойнікі чакалі моўчкі. Раптам тры ці чатыры салдаты паказаліся з лесу—і адразу падаліся назад, стрэламі падаўшы знак таварышам.

— Рыхтавацца да бою,—сказаў Дуброўскі і сярод разбойнікаў пачуўся шоргат і зноў усё заціхла.

Тады пачулі шум каманды, зброя бліснула паміж дрэў, чалавек паўтараста салдат высыпала з лесу і з крыкам кінуліся на вал. Дуброўскі прыткнуў кнот, стрэл быў удалы: аднаму адарвала галаву, двое былі ранены. Паміж салдат зрабілася збянтэжанасць, але афіцэр кінуўся наперад, салдаты за ім рушылі і збеглі ў роў; разбойнікі стралілі ў іх з стрэльбаў і пісталетаў і пачалі, з сякерамі ў руках, абараняць вал, на які лезлі раз'ятраныя салдаты, пакінуўшы ў рове чалавек дваццаць раненых таварышоў. Рукапашны бой пачаўся; салдаты ўжо былі на вале—разбойнікі пачалі падавацца. Але Дуброўскі, падышоўшы да афіцэра, прыставіў яму пісталет да грудзей і стрэліў, афіцэр грымнуўся вобземлю, некалькі салдат падхапілі яго на рукі і спяшаліся аднесці ў лес, а рэшта, страціўшы начальніка, спыніліся. Падбадзёраныя разбойнікі скарысталі гэтую хвіліну збянтэжанасці, змялі іх, адціснулі ў роў, салдаты пабеглі, разбойнікі з крыкам рушылі за імі. Перамога была поўная. Дуброўскі, спадзяючыся на перамогу над ворагам, спыніў сваіх і зачыніўся ў крэпасці, загадаўшы пабраць раненых, падвоіўшы варту і загадаўшы нікому не адлучацца.

Апошнія падзеі прыцягнулі ўжо не на жарты ўвагу ўлады на смелыя разбоі Дуброўскага. Сабраны былі весткі аб месцы яго знаходжання. Накіравана была рота салдат, каб узяць яго—мёртвага ці жывога. Злавілі некалькі чалавек з яго шайкі і даведаліся ад іх, што ўжо Дуброўскага паміж імі не было. Праз некалькі дзён, ён сабраў усіх сваіх аднадумцаў, сказаў ім, што мае намер назаўсёды з імі развітацца, раіў і ім змяніць спосаб жыцця.

— Вы забагацелі пад маім начальствам, кожны з вас мае дакументы, з якімі смела можа выбрацца ў якую-небудзь далёкую губерню і там пражыць рэшту жыцця ў сумленнай працы і ў дастатку. Але вы ўсе шэльмы і, напэўна, не захочаце кінуць ваша рамяство.

Пасля гэтай прамовы ён пакінуў іх, узяўшы з сабой аднаго**. Ніхто не ведаў, куды ён дзеўся. Спачатку не верылі ў праўду гэтых паказанняў—адданасць разбойнікаў атаману была вядома. Меркавалі, што яны стараліся выратаваць яго, але пасля іх апраўдалі: грозныя наведванні, пажары і грабежніцтвы спыніліся—дарогі сталі вольныя. Паводле другіх вестак дазналіся, што Дуброўскі знік за граніцу.

Пераклад з рускае мовы
*КУЗЬМЫ ЧОРНАГА*

# *Домік у Каломне*

А. С. ПУШКІН

I

Чатырохстопны ямб дакучыў мне:
Ім піша ўсякі. Хлопчыкам ў забаву
Пара-б яго пакінуць. Шчэ раней
Хацелася мне ўзяцца за актаву.
А сапраўды: я спраўлюся ці не
З трайным сугуччам? Рушуся на славу!
Бо рыфмы-ж у ладах са мной жывуць;
Прыходзяць дзве і трэцюю вядуць.

II

А каб ім шлях адкрыць шырокі, вольны,
Дазволю зараз-жа я дзеясловы ім...
Вы знаеце, што рыфмы дзеяслоўнай
Цураемся мы, кінулі зусім.
А так пісаў (Шыхматаў) багамольны;
Пісаць даводзіцца і нам самім.
Чаму-ж? Скажыце; хіба то не словы?
Ад сёння ў рыфмы возьмем дзеясловы.

III

Не стану іх звысоку бракаваць,
Як рэкрутаў—калек па ўласнай волі,
Ці быццам коней за благую стаць,—
А злучнікі, прыслоўі браць паволі,
Я з дробнай сволачы вярбую раць.
Патрэбны рыфмы мне; любой здаволен
Са слоўніка; што склад, то і салдат—
Усе варты ў строй: бо ў нас-жа не парад.

IV

Ну, рыфмы лад, мужчынскі і жаночы!
На шчасце нам паспробуем: зважай!
Раўняйцеся, а потым, з усёй моцы,
І ў рад па тры ў актаву заязджай!
Не бойцеся трапляцца нам на вочы;
Вось не падгадзь, другому не мяшай,
А там ужо прывыкнем, дзякуй богу,
І выедзем на роўную дарогу.

V

Як люба вершы нам свае вясці
Пад лічбамі, ў парадку, строй за строем,
Не дазваляць ім у бакі брысці,
Як войску, ў пух рассыпанаму боем!
Тут кожны склад прыкметны, каб знайсці,
Тут кожны верш глядзіць сабе героем,
А вершатворац... з кім-жа ровен ён?
Ён Тамерлан, ці сам Напалеон.

VI

Крыху вось адпачнем на гэтай кропцы.
Што? Супыніцца ці *пусціць на пе?*
Прызнацца вам, я ў пяцістопнай строчцы
Люблю цэзуру на другой стапе.
Іначай верш то ў яме, то на копцы,
І хоць ляжу цяпер на канапе́,
Усе здаецца мне, што воляй лёсу
Па мёрзлым ворыве імчуся на калёсах.

VII

Што за бяда? Не ўсё-ж шпацыраваць
Па неўскаму граніту, ці на бале
Глянсіць паркет, ці верхам гайсаваць
Цераз кіргізскі стэп. Пакрочу далей
Па станцыях чарговых вандраваць,
Як кажуць вось аб тым арыгінале,
Які, не кормячы, на рысаку
З Масквы прыехаў на Неву-раку.

VIII

Скажу, рысак! Парнаскі інаходзец
Яго не абагнаў-бы. А Пегас
Стары, без зуб. Ім копаны калодзеж
Змялеў. Парос крапіваю Парнас;
У адстаўцы Феб жыве, а карагодзец
Старэнькіх муз ужо не вабіць нас.
І табар свой з класічных верхавінак
Мы перанеслі на таўкучы рынак.

IX

Усядзься, муза, ручкі ў рукавах,
Пад лаўкай ножкі патрымай, вяртулька!
Цяпер пачнем. Жыла-была ўдава,
Таму год восем, бедная бабулька,

З адной дачкою. Побліз Пакрова
Стаяла іх зацішная хатулька
За самай будкай. Бачу як цяпер
Святліцу, ганак, тры акны і дзверы.

X

Дзён тры таму, здарылася правесці
Знаёмага туды мне вечарком.
Хатулькі гэтай там няма. На месцы
Яе стаіць трохпавярховы дом.
Згадаў я пра старую, аб нявесце,
Калісьці тут сядзеўшых пад акном,
Аб той пары, як быў я маладзей,
І думаў: ці жывуць яны?—І дзе?

XI

Мне стала сумна: на высокі дом
Глядзеў я скоса. Каб у гэту пору
Ён быў увесь ахоплены агнём,
То полымя, ўзлятаючае ўгору
Было-бы мне прыемна. Дзіўным сном
Часамі сэрца поўніць; без разбору
На розум лезе глупства з недабром,
Калі ідзеш адзін, ці ўдвух з сябром.

XII

Шчаслівы той, хто моцна словам рушыць,
Трымае мысль на прывязі сваю;
Хто ў сэрцы прысыпляе або душыць
У момант прашыпеўшую змяю,
Але баўтлівага праславіць мусяць
Адразу злыднем... Воды Леты п'ю,
Забараніў мне доктар быць журботным,
Пакінем гэта і не ўспомнім потым.

XIII

Старая (твару вось якраз такой
Я ў Рэмбранда карцінах мог дзівіцца)
Насіла акуляры. А дачкой
Ну, далібог, мажліва захапіцца,
Яе вачэй глыбокай цемнатой;
Сама-ж пяшчотная, як галубіца.
Была адукаванаю. Яна
Чытала часам творы Эміна,

## XIV

Іграць таксама ўмела на гітары
І пела: „*Стогне шызы галубок*“
І „*Выду я*“ і тое, што састарэць
Паспела, ўсё, што ў зімні вечарок
Ці нуднай восенню пры самавары
Або вясной, абходзячы лясок,
Пяе маркотна руская дзяўчына,
Як муза сумная сваёй айчыны.

## XV

Фігурна-літаральна: ўсёй сям'ёй
Ад фурмана да першага паэта
Спяваем мы тужліва. Сумны вой
Спеў рускі наш. Вядомая прыкмета!
Пачаўшы здравіцу, за упакой
Звядзем якраз. Журботаю сагрэта
Гармонія дзяўчат і музы спеў,
Але нам люб іх жаласны напеў.

## XVI

Параша (звалі так красуню нашу)
Умела мыць і гладзіць, шыць, плясці;
Лягла ўся гаспадарка на Парашу,
Разлікі даручылі ёй вясці
І грэцкую пры ёй варылі кашу,
(Дапамагала працу ёй нясці
Кухарка Фёкла, добрая бабуля,
Якая дрэнна бачыла і чула).

## XVII

Старая маці часам пад акном
Сядзела; ўдзень панчошку ўсё вязала,
А ўвечары за нізенькім сталом
Раскладывала карты і гадала.
Дачка, між тым, аблётваючы дом,
То ля акна, то на дварэ мільгала,
І хто-б ні йшоў, ці ехаў ля варот,
Усіх паспее бачыць (зоркі род)!

## XVIII

Зімой закрыты акяніцы рана,
Але да ночы ўлетку ўсё адно
Раскрыта хата. Бледная Дыяна
Дзяўчыну доўга бачыла ў акно.

(Без гэтага ні аднаго рамана
Не можа быць; вядзецца так яно!)
Бывала маці ўжо даўно храпела,
Але дачка на месяц шчэ глядзела,

XIX

І слухала мяуканне катоў
Пад стрэхамі, сустрэчы знак няскромны
Ды варты крык, ды бой гадзін ізноў,—
І толькі. Ноч над сцішнаю Каломнай
Выключна ціхая. Сям-там з дамоў
Мільгнуць два цені. Сэрца дзевы томнай
Мажліва чуць было ёй, як яно
Напружана кранала палатно.

XX

Нядзелямі і ўлетку і зімою
Ўдава з дачкой наведвалі царкву
І станавіліся перад таўпою
Ля крыласа налева. Я жыву
Цяпер не там, але не раз такою
Захоплен марай быў, нібы стаю
Ў Каломне зноў я і ў царкве ў нядзелю
Там слухаю набожную капэлю.

XXI

Я помню, часта ездзіла туды
Графіня... (Мне назваць—цяжкая справа!)
Яна была багатай. Усягды
Уваходзіла ў царкву, як тая пава,
Малілася так горда сапраўды.
Бывала, грэшан! Ўсё гляджу направа,
Ўсё на яе. Параша перад ёй
Была бядней у беднасці сваёй.

XXII

Графіня часам на яе так важна
Кідала погляд свой. Але яна
Малілася так ціха і паважна,
Нібы і погляду таго няма;
Валодала пакора ёй усцяжна;
Графіня-ж(а) паглыблена да дна
Ў самой сабе, у чарах моды новай,
Сваёй красе надменнай і суровай.

XXIII

Яны нібы халодны ідэал
Ганорнасці. Яго-б вы ў ёй прызналі;
А я праз ганарлівасць прачытаў

Аповесць іншую: глыбокасць жалю,
Пакору скаргі... Ў іх я пранікаў,
Яны мой зрок нявольна прыгарталі...
Хоць гэта знаць графіня не магла
І, пэўна, ў спіс ахвяр мяне ўнясла.

XXIV

Яна журылася, хоць маладою
Была красуняй, і ў жыцці цякла
Пяшчота роскашы: дала даволі
Фортуна ёй; хоць мода ёй нясла
Свой фіміям,—яна не мела долі.
Шчаслівей за яе ў сто раз была,
Чытач, знаёмая другая ваша,
Такая добрая мая Параша.

XXV

Каса змяёй над рагавым грабнём,
А з-за вушэй змяёю кудры русы,
Касыначка крыж-на-крыж ці вузлом,
На тонкай шыі васкавыя бусы—
Звычайны ўбор: але перад акном,
Бач, ездзілі гвардзейцы чарнавусы,—
Прываблівацъ дзяўчына ўмела іх
Без дапамогі ўбораў дарагіх.

XXVI

Між імі хто яе быў сэрцу бліжай
Ці ўсё адно для ўсіх яна была
Душой халодная? Убачым ніжай.
Тым часам ціхае жыццё вяла
Без думак тых аб балях, аб Парыжы,
Ні аб двары (хоць пры двары жыла
Парашы стрэчная сястра, то Вера
Іванаўна, дружына гоф-фур'ера).

XXVII

Але бяда прышла раптоўна ў дом:
Кухарка, пабываўшы ў лазні жаркай,
Злягла. Дарэмна чаем і віном,
І воцатам, і мятнаю прыпаркай
Яе лячылі. Уноч прад Ражаством
Яна памерла. З беднаю кухаркай
Прасціліся. У той-жа дзень прышлі,
Яе труну на Охту адвязлі.

XXVIII

Кухарку шкадавалі, ўсіх-жа болей
Кот Васька. Потым удава мая
Падумала, што два, тры дні, не болей
Жыць можна без кухаркі, што сям'я
Не можа харчавацца боскай воляй.
Заве яна дачку: „Параша!"—„Я!"
— „Дзе ўзяць кухарку? Зведай у суседкі,
Мо ведае? Дзяшовыя так рэдкі".

XXIX

„Спытаю, маманька". І вышла вон,
Адзеўшыся. (Зіма стаяла грозна,
І снег скрыпеў, і неба сіні тон,
Бясхмарны, зорны, так блішчэў марозна.)
Дачку чакала маці доўга; сон
Яе хіліў пацiху; стала позна,
Калі Параша да яе ўвайшла,
Сказаўшы:—„Вось кухарку прывяла".

XXX

За ёю ўслед нясмела выступала
Прыбраная ў спаднічцы недаўгой,
Высокая, сабой даволі ўдала,
Дзяўчына і з паніклай галавой,
У куце стаўшы, фартух разбірала.
— „А колькі возьмеш?"—кажа гэта ёй
Старая.—„Колькі будзе вам не шкода",
Сказала тая ціха і свабодна.

XXXI

Да густу быў такі ўдаве падход.
—„А як завуць?"—„А Маўрай".—„Ну, Маўруша,
Жыві пры нас; ты молада, ну от:
Ганяй мужчын. Нябошчыца Феклуша
Служыла мне кухаркай дзесяць год,—
Ніразу чэсці доўг не быў парушан.
Хай будзе догляд і дачцы і мне,
Працуй ды не аблічывай мяне".

XXXII

Мінае дзень, другі. У кухарцы толку
Даволі мала: то яно згарыць,
То недаварыць, то з пасудай полку

Упусціць, то забудзе пасаліць,
Шыць сядзе—дык не ўмее ўзяць іголку;
Ей уцікнуць—яна сабе маўчыць;
Ва ўсім і ўсюды што-нібудзь падгадзіць.
Параша б'еццa, а ніяк не зладзіць.

XXXIII

Вось давялося матцы і дачцы
Пайсці ў абедню. Дома-жа сядзела
Маўруша. Бачыце: ў яе ўначы
Балелі зубы; ледзь жыва ліпела;
І трэба ёй карыцы натаўчы,—
Пірожнае спячы яна хацела.
Яе пакінулі; але ў царкве
Пужліва раптам сталася ўдаве.

XXXIV

Яна падумала: „ў Маўрушы лоўкай
Адкуль з'явіўся да пірожных пал?
Пірожніца-круцельская галоўка!..
За ёю каб і дом наш не прапаў...
І будзем мы з цікаваю абноўкай
Пад дзень святы! Вось клопат мне прыпаў!“
Ад думак тых старэнькая стагнала,
Нарэшце, не стрымаўшыся, сказала:

XXXV

—„Стой тут, Параша. Я схаджу дамоў,
Мне страшна нечага“. Не зразумела
Дачка нічога. З паперці далоў
Ледзь-ледзь старэнькая не паляцела;
А сэрца стукала нібы перад бядой...
Прышла ў хатульку, ў кухню паглядзела,—
Няма Маўрушы. Да сябе ў пакой
Пайшла і што-ж? От жах! А божа-ж мой!

XXXVI

Прад люстаркам Парашы, ўсё чын-чынам,
Кухарка брылася. Што з ўдавой?
„Ах, ах!“—і грымнула. З тае прычыны
Кухарка, бач, з намыленай шчакой,
(Парушыўшы і гонар удавіны)
Скакнула ў сенцы, нібы на пажар,
Ды ну ўцякаць, закрыўшы сабе твар.

## XXXVII

Абедня скончана; прышла Параша.
—„Што, маманька?“—„Ах, Пашанька мая!
Маўруша...“—„Што, што з ёй?“—„Кухарка наша...
Дагэтуль не ачухаюся я...
За люстаркам... у мыле...“—„Воля ваша,
Вас разумець я не магу ніяк.
Да дзе-ж Маўруша?“—„Ах, яна разбойнік!
Яна тут брылася!.. як мой пакойнік!..“

## XXXVIII

Параша счырванелася тады,
Ці не—вам не скажу; але Маўрушкі
Як не было—прапалі і сляды:
Пайшла, не ўзяўшы нават і палушкі
І не паспеўшы нарабіць бяды.
А хто ў старэнькай і красы-дачушкі
Змяніў Маўрушу? Не магу сказаць
І зараз я спяшаюся канчаць.

## XXXIX

—„Як! хіба ўсё тут? Жарты!“—„Верце богу“.
—„Дык вось куды актавы нас вялі!
Чаго-ж такую паднялі трывогу,
Склікалі раць і з пахвальбой ішлі?
Зайздросную-ж вы выбралі дарогу!
Няўжо-ж прадметаў іншых не знайшлі?
А ці няма у вас тут настаўлення?“
—„Няма... ці ёсць: мінутачку цярпення...

## XL

Вось вам мараль: па розуму майму,
Наймаць кухарку дарма невыгодна;
Радзіўся-ж хто мужчынаю, таму
Ўбірацца ў юбку дзіўна і нягодна:
Хоць калі-небудзь прыдзецца яму
Брыць бараду сабе, што так нязгодна
З прыродай дамскай... Ну, а больш чаго
Не выціснеш з расказу тут майго“.

Пераклад
*АЛЕСЯ ВЕЧАРА*

# *Станцыённы смятрыцель*

А. С. ПУШКІН

Калежскі рэгістратар, [1]
Паштовай станцыі дыктатар.

*Князь Вяземскі.*

Хто не праклінаў станцыённых смятрыцелеў, хто з імі не сварыўся? Хто ў хвіліну гнева не патрабаваў ад іх пэўнай кнігі, каб упісаць у яе сваю дарэмную скаргу на тое, што цябе заціскаюць, груба абыходзяцца і дрэнна абслугоўваюць? Хто не лічыць іх ворагамі чалавечага рода, роўнымі нябожчыкам пад'ячым [2]) або, прынамсі, мурамскім разбойнікам. [3]) Будзем аднак справядлівымі, пастараемся прыгледзецца да іх бліжэй і, можа быць, станем думаць аб іх куды лепш. Што такое станцыённы смятрыцель? Сапраўдны пакутнік чатырнаццатага класа, [4]) абаронены сваім чынам толькі ад забойства, і то не заўсёды (спасылаюся на сумленне маіх чытачоў). Якая-ж служба гэтага дыктатара, як называе яго жартаўліва князь Вяземскі? Ці не сапраўдная катарга? Спакою ні ўдзень, ні ўночы. Усю прыкрасць, сабраную за час нуднай язды, падарожны спаганяе на смятрыцелю. Надвор'е брыдкае, дарога дрэнная, фурман упарты, коні не вязуць—а вінават смятрыцель. Уваходзячы ў беднае яго жыллё, падарожны глядзіць на яго як на ворага; добра калі ўдасца яму хутка пазбавіцца ад непрошанага госця; але калі няма коней?.. Божа! якая лаянка, якія пагрозы сыплюцца на яго галаву! У дождж і слоту прымушан ён бегаць па дварах, у буру і калядны мароз выходзіць ён у сені, каб толькі на хвіліну адпачыць ад крыку і штурхачоў раздражненага чакальніка. Прыязджае генерал; смятрыцель дрыжыць і аддае яму дзве апошнія тройкі, у тым ліку і кур'ерскую. Генерал едзе, не сказаўшы яму дзякуй. Праз пяць хвілін—званок!.. і фельд'егер кідае яму на стол сваю падарожную!.. Падумаем аб усім гэтым добра, і замест гневу, сэрца наша напоўніцца шчырым спачуваннем. Яшчэ некалькі слоў. На працягу дваццаці год, аб'ездзіў я Расію па ўсіх кірунках; амаль усе паштовыя тракты мне вядомы; некалькі пакаленняў фурманоў мне знаёмы; мала якога смятрыцеля не ведаю ў твар, з мала якім не меў я справы, цікавы запас падарожных маіх назіранняў спадзяюся надрукаваць у хуткім часе; пакуль што скажу толькі, што саслоўе станцыённых смятрыцеляў пададзена на агульную думку ў самым знепраўджаным выглядзе. Гэтыя так абгавораныя смятрыцелі на-

---

[1]) Калежскі рэгістратар—ніжэйшы грамадзянскі чын у царскай Расіі.

[2]) Пад'ячы—судзейскі пісар. Пад'ячыя выславіліся сваім кручкатворствам хабарніцтвам.

[3]) Мурамскія лясы—на правым беразе ракі Акі, вядомыя ў старасветчыну сваімі разбойнікамі.

[4]) Класы, або ступені грамадзянскіх чыноў у царскай Расіі.

огул людзі мірныя, ад прыроды свае стараюцца ўсім дагадзіць, схільныя да грамады, сціплыя ў імкненні да павагі і не вельмі срэбралюбцы. З іх гаворкі (якое дарма ухіляліся панове падарожныя) льга узяць шмат цікавага і павучальнага. Што да мяне, то, прызнаюся, я лепш люблю гаворку з імі, гаворцы якога-небудзь чыноўніка 6-га класа, які едзе за казённай патрэбай.

Лёгка можна здагадацца, што ёсць у мяне прыяцелі з шаноўнага саслоўя сматрыцеляў. Сапраўды, памяць аб адным з іх мне дарагая. Акалічнасці зблізілі калісьці нас, і пра яго гэта маю намер я пагутарыць з паважным чытачом.

У 1816 годзе, у маі месяцы, здарылася мне праяздждаць праз *** скую губэрню, трактам, які цяпер знішчан. Быў я ў дробным чыне, ехаў на зменных конях і плаціў прагоны[1]) за двое коней. З прычыны гэтага сматрыцелі са мной не былі вельмі ласкавыя і часта браў я з бою тое, што, як я думаў, належала мне паводле права. Будучы маладым і порсткім, я гневаўся на сматрыцеля за нізасць і баязлівасць, калі ён аддаваў падрыхтаваную мне тройку пад брычку чыноўнага пана. Так жа доўга не мог я прывыкнуць і да таго, каб напрактыкаваны халоп мінаў мяне, калі падаваў патраву на губернатарскім стале. Цяпер і тое, і другое, здаецца мне ў парадку рэчаў. Сапраўды, што было-б з намі, каб замест агульнавыгоднага правіла: чын чына паважай, павялося на ўжытак іншае, напрыклад: розум розума паважай? Якія ўзніклі-б спрэчкі! І слугі з каго-б пачыналі яду падаваць? Але варочаюся да мае аповесці.

Дзень быў гарачы. З тры вёрсты ад станцыі *** пачаў цярусіць дождж, і праз хвіліну паліўся і вымачыў мяне да апошняй ніткі. Прыехаўшы на станцыю, першы мой клопат быў—хутчэй пераадзецца, другі—сказаць каб далі чаю. „Эй, Дуня!—закрычаў сматрыцель,—пастаў самавар, і схадзі па салодкую сметану“. Пры гэтых словах вышла з бакоўкі дзяўчынка год чатырнаццаці і пабегла ў сенцы. Прыгожасць яе мяне здзівіла. „Гэта твая дачка?“—запытаў я сматрыцеля.—„Дачка,—адказаў ён з выглядам задаволенага гонару;—і такая разумная, такая рухавая, уся ў нябожчыцу маці“. Тут ён узяўся перапісваць маю падарожную, а я заняўся разглядам малюнкаў, што ўпрыгожвалі яго ціхі і ахайны прытулак. Яны паказвалі гісторыю блуднага сына: на першым паважны стары ў каўпаку і шлафроку адпускае неўседлівага юнака, які спешна прымае ад яго бласлаўленне і торбу з грашыма. На другім яскравымі рысамі паказаны распусныя паводзіны маладога чалавека: ён сядзіць за сталом, абкружаны фальшывымі сябрамі і распуснымі жанчынамі. Далей, распусціўшы грошы, юнак, абшарпаны і ў трохкутным капялюшы, пасе свіней і есць іхнюю яду; на яго твары—глыбокі сум і раскаянне. Нарэшце паказан зварот яго да бацькі; добры стары ў тым-жа каўпаку і шлафроку выбягае да яго насустрач; блудны сын стаіць на каленях; у перспектыве кухар рэжа адкормленае цяля, а старэйшы брат пытае ў слуг аб прычыне

[1]) Прагонныя—казённыя коні, якія зменьваліся на станцыях. Прагоны—праездныя грошы, якія плаціліся, з разліку за кожнага каня і вярсту.

такой радасці. Пад кожным малюнкам прачытаў я прыстойныя нямецкія вершы. Усё гэта захавалася ў маёй памяці дагэтуль, таксама як і бальзамінавыя вазоны, і ложак з стракатай фіранкай, і іншыя рэчы, якія былі тады навокал мяне. Бачу, як цяпер, самога гаспадара, чалавека год пяцідзесяці, свежага і бадзёрага, і яго доўгі зялёны сурдут з трымя медалямі на злінялых істужках.

Не паспеў я расплаціцца з старым маім фурманам, як Дуня вярнулася з самаварам. Малая какетка з другога позірку заўважыла ўражанне, зробленае ёю на мяне; яна ўнурыла вялікія блакітныя вочы, я стаў з ёю гаварыць, яна адказала мне без усялякай несмеласці, як дзяўчына, што бачыла свет. Я прапанаваў бацьку яе шклянку пуншу; Дуні падаў я шклянку чаю, і мы ўтраіх пачалі гутарыць, быццам век былі знаёмыя.

Коні былі даўно гатовы, а мне ўсё не хацелася развітвацца з сматрыцелем і яго дачкой. Нарэшце я з ім развітаўся; бацька пажадаў мне шчаслівай дарогі, а дачка правяла да воза. У сенцах я спыніўся і папрасіў дазволу яе пацалаваць. Дуня дазволіла... Шмат магу я налічыць пацалункаў

С тех пор, как этим занимаюсь,

але ніводзін не пакінуў ува мне такога доўгага, такога прыемнага ўспаміну.

Прайшло некалькі год і справы прывялі мяне на той самы тракт, у тыя мясціны. Я ўспомніў дачку старога сматрыцеля і ўзрадаваўся ад думкі, што ўбачу яе зноў. Але, падумаў я, стары сматрыцель, можа быць, ужо зменены; напэўна Дуня ўжо замужам. Думка аб смерці таго ці другога таксама мільганула ў галаве маёй і я набліжаўся да станцыі *** з сумным адчуваннем. Коні спыніліся ля паштовага доміка. Увайшоўшы ў пакой, я адразу пазнаў малюнкі, што паказвалі гісторыю блуднага сына; стол і ложак стаялі на ранейшых мясцох; але на вокнах ужо не было кветак і ўсё навокал нагадвае старасць і неахайнасць. Сматрыцель спаў пад кажухом; мой прыезд абудзіў яго, ён прыўзняўся... Гэта быў сапраўды Сімеон Вырын, але як ён пастарэў! Пакуль збіраўся ён перапісаць маю падарожную, я глядзеў на яго сівізну, на глыбокія маршчыны даўно неголенага твару, на згорбленыя плечы—і не мог надзівіцца, як тры, ці чатыры гады маглі ператварыць бадзёрага мужчыну ў чэзлага старога. „Ці пазнаў ты мяне?—запытаў я ў яго;—мы з табой старыя знаёмыя“.—„Можа стацца,—адказаў ён панура,—тут дарога вялікая; многа падарожных у мяне перабывала“.—„Ці здарова твая Дуня?“—гаварыў далей я. Стары спахмурнеў. „А бог яе ведае“,—адказаў ён.—„То відаць яна замужам?“—сказаў я. Стары прыкінуўся што быццам-бы не чуў майго запытання і чытаў сабе потайкам маю падарожную. Я спыніў свае запытанні і загадаў паставіць чайнік. Цікаўнасць пачынала мяне непакоіць і я спадзяваўся, што пунш развяжа язык майму старому знаёмцу.

Я не памыліўся: стары не адмовіўся ад прапанаванай яму шклянкі. Я заўважыў: што ром прасвятліў яго панурасць. За другой шклянкай ён стаў гаваркім; успомніў, ці зрабіў выгляд, што ўспомніў мяне, і я пачуў ад яго расказ, які ў той час вельмі мяне зацікавіў і крануў.

„То вы ведалі Дуню?—пачаў ён.—Хто-ж і не ведаў яе? Ах, Дуня, Дуня! Што гэта за дзеўка была! Бывала, хто ні праедзе, кожны пахваліць, ніхто не абгаворыць. Пані давалі ёй то хусттачкі, то завушніцы. Падарожныя паны сумысля спыняліся, быццам бы паабедаць, ці павячэраць, а сапраўды—каб на яе больш паглядзець. Бывала пан, які-б злосны не быў, пры ёй ласкавее і добра са мной гаворыць. Ці паверыце, паважаны: кур'еры, фельд'егеры з ёю па поўгадзіны загаварваліся. На ёй дом трымаўся: што прыбраць, што прыгатаваць—з усім упраўлялася. А я стары дурань, не нагляджуся, бывала, не нарадуюся; ці-ж я не любіў свае Дуні; ці-ж я не песціў сваё дзіця, ці-ж ёй дрэнна было? Але не, ад бяды не адкруціцца, што суджана, ад таго не ўцячэш". Тут ён пачаў падрабязна расказваць мне аб сваім горы. „Тры гады таму назад, аднойчы ў зімовы вечар, калі сматрыцель разлінейваў новую кнігу і дачка яго ў бакоўцы шыла сабе сукенку, пад'ехала тройка і падарожны ў чаркескай шапцы, у вайсковым шынелю, абвязаны шалем, увайшоў у пакой, патрабуючы коней. Коні ўсе былі ў разгоне. Дачуўшыся пра гэта падарожны ўзняў быў ужо голас і нагайку, але Дуня, прывыклая да такіх сцэн, выбегла з бакоўкі і ласкава звярнулася да падарожнага з запытаннем: ці не хоча ён чаго-небудзь з'есці? З'яўленне Дуні зрабіла звычайную сваю справу. Гнеў падарожнага скончыўся, ён згадзіўся чакаць коней і заказаў сабе вячэру. Зняўшы мокрую калматую шапку, раскруціўшы шаль і сцягнуўшы шынель, падарожны стаў маладым стройным гусарам з чорнымі вусікамі. Ён асталяваўся ў сматрыцеля, пачаў весела гаварыць з ім і яго дачкой. Падалі вячэраць. Тымчасам коні прышлі і сматрыцель загадаў, каб адразу, не кормячы, запраглі іх у вазок падарожнага, але вярнуўшыся, знайшоў ён маладога чалавека амаль без памяці на лаўцы: яму стала дрэнна, галава разбалелася, нельга было ехаць... Што рабіць! Сматрыцель саступіў яму свой ложак і дагаворана было, калі хвораму не будзе лягчэй, на другі дзень зранку паслаць у С *** па лекара.

На другі дзень гусару стала горш. Чалавек яго паехаў конна ў горад па лекара. Дуня абвязала яго галаву хусткай, абмочанай ў воцаце і села шыць ля яго ложка. Хворы пры сматрыцелю вохкаў і не гаварыў амаль ні слова, аднак-жа выпіў два кубкі кавы і, вохкаючы, заказаў сабе абед. Дуня ад яго не адыходзіла. Ён штохвілінна прасіў піць і Дуня падносіла яму кубак ёю прыгатаванага ліманаду. Хворы абмочваў губы і кожны раз, аддаючы кубак, у знак удзячнасці, слабай сваёй рукою паціскаў Дунюшчыну руку. У абед прыехаў лекар. Ён памацаў пульс хворага, пагаварыў з ім па-нямецку і па-руску заявіў, што яму трэба толькі спакой і што дзён праз два яму можна будзе рушыць у дарогу. Гусар даў яму дваццаць пяць рублёў за візіт, запрасіў яго паабедаць, лекар згадзіўся, абодва елі з вялікім апетытам, выпілі бутэльку віна і развіталіся вельмі задаволеныя адзін адным.

Прайшоў яшчэ дзень і гусар зусім ачуняў. Ён быў вельмі вясёлы, бесперастанку жартаваў то з Дуняй, то з сматрыцелем; высвістваў песні, гаварыў з праезджымі, упісваў іх падарожныя ў паштовую кнігу і так спадабаўся сматрыцелю, што на трэцюю

раніцу шкада было яму разлучацца з ветлівым сваім пастаяльцам. Была нядзеля; Дуня збіралася да абедні. Гусару падалі вазок. Ён развітаўся з сматрыцелем, шчодра ўзнагарадзіўшы яго за пастой і частаванне, развітаўся з Дуней і прапанаваў давезці яе да царквы, якая была на краю вёскі. Дуня стаяла ў нерашучасці... „Чаго-ж ты баішся?--сказаў ёй бацька;—яго-ж высокаблагародзіе не воўк і цябе не з'есць; праедзься да царквы". Дуня села ў вазок побач гусара, слуга ўскочыў на козлы, фурман свіснуў і коні паімчаліся.

Небарак сматрыцель не разумеў, якім чынам мог ён сам дазволіць сваёй Дуні ехаць разам з гусарам, як найшло на яго асляпленне і што тады было з яго розумам? Не прайшло і поўгадзіны, як сэрца яго пачало ныць, ныць, і неспакой апанаваў ім да такой ступені, што ён не вытрымаў і пайшоў сам у царкву. Але падышоўшы, убачыў ён, што народ ужо разыходзіцца, але Дуні не было ні на цвінтары, ні на ганку. Ён шпарка ўвайшоў у царкву: свяшчэннік выходзіў з алтара; дзяк тушыў свечкі; дзве бабулі маліліся яшчэ ў кутку, але Дуні і ў царкве не было. Небарак бацька ледзьве адважыўся запытаць у дзяка ці была яна на імшы. Дзяк адказаў, што не была. Сматрыцель пайшоў дадому як нежывы. Адна аставалася яму надзея: Дуня, з несталасці маладых год, уздумала можа быць праехацца да наступнай станцыі, дзе жыла яе хрышчоная маці. У пакутным хваляванні чакаў ён звароту тройкі, на якой ён пусціў яе. Фурман не варочаўся. Нарэшце з вечара прыехаў ён адзін і выпіўшы, з жудаснай весткай: „Дуня з той станцыі паехала далей з гусарам".

Стары не вытрымаў ад свайго няшчасця; ён адразу злёг у тую самую пасцель, дзе напярэдадні ляжаў малады ашуканец. Цяпер сматрыцель, абдумваючы ўсе акалічнасці, здагадваўся, што хвароба была выдуманая. Небарак захварэў на моцную гарачку. Яго завезлі ў С *** і на яго месца паставілі да часу іншага. Той-жа лекар, што прыязджаў да гусара, лячыў яго. Ён упэўніў сматрыцеля, што малады чалавек быў зусім здаровы, і што тады яшчэ здагадваўся ён аб яго злосных намерах, але маўчаў, баючыся яго нагайкі. Ці праўду гаварыў немец, ці толькі хацеў пахваліцца кемлівасцю, але ён аніяк гэтым не ўсцешыў небараку хворага. Ледзьве паправіўшыся ад хваробы, сматрыцель выпрасіў у С *** пачмейстра водпуск на два месяцы і, не сказаўшы нікому ні слова аб сваіх намерах, пешкі рушыў за сваёй дачкой. З падарожнай ведаў ён, што ротмістр Мінскі ехаў з Смаленска ў Пецербург. Фурман, што вёз яго, расказваў, што ўсю дарогу Дуня плакала, хоць, здавалася, ехала з свае ахвоты. „А можа,—думаў сматрыцель,—прывяду я дадому блукальніцу—авечку маю". З гэтай думкай з'явіўся ён у Пецербург, спыніўся ў Ізмайлаўскім палку, у доме адстаўнога унцер афіцэра, свайго старога службовага таварыша, і пачаў свае пошукі. Неўзабаве даведаўся ён, што ротмістр Мінскі ў Пецербурзе і жыве ў Дземутавым тракціры [6]).

Сматрыцель адважыўся да яго з'явіцца.

---

[6]) Дземутаў тракцір—вядомая тагочасная пецербургская гасцініца.

З самага ранку прышоў ён у яго пярэднюю і прасіў сказаць яго высокаблагародзію, што стары салдат просіць з ім пабачыцца. Вайсковы лёкай, ваксуючы бот на капылу, сказаў, што пан спачывае і што раней адзінаццаці гадзін не прымае нікога... Сматрыцель пашоў і вярнуўся ў вызначаны час. Мінскі вышаў сам да яго ў халаце, у чырвонай скуф'і [1]). „Чаго, браце, табе трэба?—запытаў ён у яго. Сэрца старога закіпела, слёзы блiснулі на вачах і ён дрыжачым голасам выгаварыў толькі: „Ваша высокаблагародзіе!.. Зрабіце такую божую ласку!..“ Мінскі зірнуўшы на яго шпарка, успыхнуў, узяў яго за руку, павёў у габінет і замкнуў за сабой дзверы. „Ваша высокаблагародзіе!—гаварыў стары:—што з воза ўпала, то прапала, аддайце мне, прынамсі, небараку маю Дуню. Вы-ж нацешыліся з яе, не губіце-ж яе дарэшты“.—„Што зроблена, то не вернеш,—сказаў малады чалавек у вострай збянтэжанасці;—вінават перад табой і рад прасіць, каб ты дараваў мне, але не думай, каб я Дуню мог пакінуць: яна будзе шчаслiва, даю табе шчырае слова. Нашто табе яна? Яна мяне любіць, яна адвыкла ад ранейшага свайго жыцця. Ні ты, ні яна,—вы не забудзеце таго, што здарылася“. Пасля, сунуўшы яму штосьці за рукаў, ён адчыніў дзверы і сматрыцель, сам не памятаючы, як апынуўся на вуліцы.

Доўга стаяў ён нерухома, нарэшце ўбачыў за абшлагом свайго рукава скрутак папераў; ён выняў іх і разгарнуў некалькі пяцідзесяці рублёвых змятых асігнацый. Слёзы зноў блiснулі на вачах яго, слёзы гневу! Ён сціснуў паперкі ў жмут, кінуў іх вобземлю, прытаптаў абцасам і пашоў... Адышоўшыся некалькі крокаў, ён спыніўся, падумаў... і вярнуўся... але асігнацый ужо не было. Добра адзеты малады чалавек, убачыўшы яго, падбег да рамізніка, сеў хутка і закрычаў: „Пашоў“!.. Сматрыцель за ім не пагнаўся. Ён надумаўся рушыць дадому на сваю станцыю, але раней хацеў хоць раз яшчэ ўбачыць небараку сваю Дуню. Для гэтага дзён праз два, вярнуўся ён да Мінскага, але вайсковы лёкай сказаў яму жорстка, што пан нікога не прымае, грудзьмі выпхнуў яго з пярэдняй і грукнуў дзвярыма ў яго перад носам. Сматрыцель пастаяў пастаяў і пайшоў.

У гэты самы дзень, увечары, ішоў ён па Ліцейнай, адслужыўшы малебен у „Всех скорбящих“. Раптам праімчаўся паўз яго дасціпны фаэтончык і сматрыцель пазнаў Мінскага. Фаэтончык спыніўся перад трохпавярховым домам, ля самага пад'езда і гусар ўзбег на ганак. Шчаслівая думка мільганула ў галаве сматрыцеля. Ён вярнуўся, і спыніўшыся ля фурмана: „Чый, браце, конь?—запытаў ён,—ці не Мінскага?“—„Точна так,—адказаў фурман,—а чаго табе?“—„А вось чаго: пан твой загадаў мне аднесці да яго Дуні запісачку, а я і забыўся, дзе Дуня яго жыве“.—„А вось тут, на другім паверсе. Спазніўся ты, браце, з сваёй запіскай; цяпер ужо ён сам у яе“.—„Нічога,—адказаў сматрыцель з вялікім дрыжаннем сэрца,—дзякуй, што растлумачыў, а я сваю справу зраблю“. І з гэтым словам пайшоў ён па ўсходах.

---

[1]) Скуф'я, скуфейка—круглая маленькая хатняя шапачка.

Дзверы былі замкнены; ён пазваніў, прайшло некалькі секунд у цяжкім для яго чаканні. Ключ забразгаў, яму адчынілі. „Тут стаіць Аўдоцця Сімеонаўна?"—запытаў ён. „Тут,—адказала маладая служанка,—нашто табе яна трэба?"—Сматрыцель, не адказваючы ўвайшоў у зал. „Не можна, не можна!—закрычала ўслед яму служанка,—у Аўдоцці Сімеонаўны госці". Але сматрыцель, не слухаючы, ішоў далей. Два першыя пакоі былі цёмныя, у трэцім быў агонь. Ён падышоў да адчыненых дзвярэй і спыніўся. У пакоі, цудоўна прыбраным, Мінскі сядзеў у задуменнасці. Дуня, адзетая з усёй раскошай моды, сядзела на ручцы яго крэсла, як конніца на сваім англійскім сядле. Яна з пяшчотнасцю глядзела на Мінскага, накручвала яго чорныя кучаравыя валасы на свае бліскучыя пальцы. Небарак сматрыцель! Ніколі дачка яго не здавалася яму такой цудоўнай, ён мімаволі з яе цешыўся. „Хто гэта?"—запытала яна, не падымаючы галавы. Ён усё маўчаў. Не чуючы адказу, Дуня ўзняла галаву... і з крыкам упала на дыван. Спалоханы Мінскі кінуўся яе падымаць і, раптам убачыўшы у дзверах старога сматрыцеля, пакінуў Дуню і падышоў да яго, дрыжучы ад гневу. „Чаго табе трэба?" сказаў ён яму, сціснуўшы зубы;—чаго ты за мной усюды крадзешся, як разбойнік? Можа хочаш мяне зарэзаць? Пашоў вон" і дужай рукой хапіўшы старога за каўнер, выштурхнуў яго на ўсходы.

Стары прышоў да сябе на кватэру. Сябар яго раіў яму скардзіцца, але сматрыцель падумаў, махнуў рукой і падумаў што лепш адступіцца. Праз два дні рушыў ён з Пецербурга назад на сваю станцыю і зноў узяўся за сваю службу. Вось ужо трэці год,—скончыў ён,—як жыву я без Дуні і як аб ёй ні слуху, ні духу. Ці жывая яна, ці не—бог яе ведае. Усяк здараецца. Не яе першую, не яе апошнюю спакусіў праезджы прайдзісвет, а там патрымаў і кінуў. Многа іх у Пецербургу, маладзенькіх дурніц, сёння ў атласе і аксаміце, а заўтра, паглядзіш, падмятаюць вуліцу разам з галетніцтвам усялякім. Як падумаеш часамі, што і Дуня, можа быць, тут-жа прападае, то міжвольна сагрэшыш і пажадаеш ёй магілы..."

Такі быў расказ сябра майго, старога сматрыцеля, расказ неаднакрадзь перарываўся яго слязамі, якія маляўніча абціраў ён сваім крысам, як шчыры Цярэнціч у Цудоўнай баладзе Дмітрыева.[1]) Слёзы гэтыя крыху ўзбуджаліся пуншам, якога выцягнуў ён пяць шклянак за час свайго расказа, але як-бы там не было, яны глыб ка кранулі маё сэрца. З ім развітаўшыся, доўга не мог я забыць старога сматрыцеля, доўга думаў я пра небараку Дуню.

Нядаўна яшчэ, праязджаючы праз мястэчка ***, успомніў я пра свайго сябра і я даведаўся, што станцыя, над якой быў ён начальнік, ужо скасавана. На пытанне маё: „Ці жыве стары сматрыцель?"—ніхто не мог даць пэўнага адказу. Я надумаўся наведацца ў знаёмую мясціну, узяў вольных коней і рушыў у сяло Н.

---

[1]) Паэма „Адстаўны вахмістр"—паэта Дмітрыева (1760—1837).

Гэта здарылася ўвосень. Шэранькія хмары ўкрывалі неба; халодны вецер дзьмуў з пустога поля, несучы чырвонае і жоўтае лісце з сустрэчных дрэў. Я прыехаў у сяло на захадзе сонца і спыніўся ля паштовага дамка. У сені (дзе калісьці пацалавала мяне небарака Дуня) выйшла тоўстая баба, і на пытанні мае адказала, што стары сматрыцель з год як памёр, што ў доме яго асталяваўся півавар, што яна півапарава жонка. Мне стала шкада мае дарэмнай паездкі і сямі рублёў, выдаткаваных дарма. „З чаго ён памёр?“—запытаўся я ў півапаравай жонкі.—„Спіўся, бацечка,“—адказала яна.—„А дзе яго пахавалі?“—„За вёскай, каля нябожчыцы жонкі яго.“—„Ці нельга давесці мяне да яго магілы?“—„Чаму-ж нельга: Гэй, Ванька! даволі табе з катом важдацца. Правядзі пана на могілкі, пакажы яму сматрыцелеву магілу“.

Пры гэтых словах, абарваны хлапчук, рыжы і касавокі, выбег да мяне і адразу павёў мяне за вёску.

— Ты ведаў нябожчыка?—запытаў я яго па дарозе.

— Чаму не ведаў! Ён навучыў мяне дудачкі вырэзваць. Бывала (пухам яму зямля) ідзе з шынка, а мы за ім: „Дзядуля, дзядуля! арэшкаў!“—а ён нас арэшкамі і частуе. Усё бывала з намі важдаўся.

— А падарожныя ці ўспамінаюць яго?

— А цяпер мала падарожных, хіба заседацель заедзе, але таму не да мерцвякоў. Вось улетку прыязджала пані, то тая пыталася аб старым сматрыцелю і хадзіла да яго на магілу.

— Якая пані?—запытаў я з цікаўнасцю.

— Цудоўная пані,—адказаў хлапчук;—ехала яна ў карэце на шэсць коней, з трымя маленькімі паненятамі і з карміліцай, і з чорным сабачкам, і як ёй сказалі, што стары сматрыцель памёр, то яна заплакала і сказала дзецям: „Сядзіце ціха, а я схаджу на могілкі“. А я ўзяўся быў давесці яе. А пані сказала: „Я сама дарогу ведаю“. І дала мне пятак срэбрам—такая добрая пані!

Мы прышлі на могілкі, голае месца, нічым не агароджанае, з густа пастаўленымі драўлянымі крыжамі, не закрытымі ніводным дрэўцам. Зроду не бачыў я такога сумнага могільніку.

— Вось магіла старога сматрыцеля,—сказаў мне хлапчук,—ускочыўшы на кучу пяску, у якую ўкапаны быў чорны крыж з медным вобразам.

— І пані прыходзіла сюды?—запытаў я.

— Прыходзіла,—адказаў Ванька:—я глядзеў на яе здалёк. Яна лягла тут і ляжала доўга. А пасля пані пайшла ў сяло і паклікала папа, дала яму грошай і паехала, а мне дала пятак срэбрам—добрая пані!“

І я даў хлапчуку пяць капеек і не шкадаваў ужо ні аб паездцы, ні аб сямі рублях, мной страчаных.

Пераклад з рускае мовы

*КУЗЬМЫ ЧОРНАГА*

# Бахчысарайскі фантан

### А. С. ПУШКІН

Многія таксама як і я, наведвалі гэты фантан;
але адных ужо няма, другія ў далечы вандруюць.

*Садзі.*

Гірэй насуплены сядзеў;
Янтар у зубах яго дыміўся;
Лісліва ў вочы двор глядзеў,
Ля хана грознага цясніўся.
У палацы цішыня была;
Пакорна ўсе чыталі ўпотай
Прыкметы гневу і сумоты
З яго пахмурнага чала.
Але ўладарац ганарлівы
Махнуў рукою нецярплівай:
І ўсе, схіліўшыся, йдуць вон.

Адзін у сваіх палацах ён;
Вальней грудзямі уздыхае.
Больш жвава строгае чало
Трывогі сэрца выяўляе.
Так бурнасць хмараў адбівае
Затокі зыбістае шкло.

Што рушыць гордаю душою?
Якой заняты думкай ён?
Мо' зноў на Русь ідзе вайною,
Ці Польшчы свой нясе закон,
Ці помстаю гарыць крывавай,
Ці ў войску выкрыў дзе згавор,
Баіцца мо' народаў гор,
Падкопаў Генуі лукавай?

Не, ён сумуе збройнай славай,
Рука стамілася; вайна—
Ад дум далёка ўжо яна.
Няўжо, няўжо ў гарэм ягоны
Патайна здрада увайшла,
Дачка няволі, ласк, палона
Гяуру сэрца аддала.

Не, жонкі ціхія Гірэя,
Без дум, жаданняў і надзеі,
Цвітуць у нуднай цішыні;
Пад вартай пільнай і маўклівай,
На ўлонні пышнасці сумлівай
Тут здрад не ведаюць ані.
Ў цяньку захоўнае цямніцы
Схавана іхняя краса:
Так аравійскіх кветак сад
Жыве пад шыбамі цяпліцы.
Для іх панурай чарадой
Дні, месяцы, гады праходзяць
І непрыкметна за сабой
Каханне і юнацтва зводзяць.
Тут аднастайны кожны дзень,
І час ідзе марудным ходам.
Лянота тут жыццё вядзе;
Мільгае рэдка асалода.
Як-небудзь жонкі ў цішыні,
Ў жаданні сэрца падманіць,
Мяняюць пышныя абновы,
Заводзяць гульні, ці размовы,
Альбо пры шуме вод жывых,
Над іх празрыстымі струмнямі
Пад ценем явараў густых
Гуляюць лёгкімі раямі.
Між імі ходзіць злы еўнух,
І ад яго ўцякаць дарэмна;
Яго рэўнівы зрок і слух
За ўсімі крадзецца таемна.
Яго стараннем завядзён
Парадак вечны. Воля Хана
Адзіны для яго закон;
Святую запаведзь Карана
Пільней не наглядае ён.
Яго душа кахаць не просіць;
Як статуй—ціха пераносіць
Нянавісць, і насмешак яд,
Крыўд жартаўлівыя праявы,
Пагарды, просьбы і пагляд,
І ціхі ўздых, і шэпат млявы.
Жаночы нораў ён пазнаў;
Ён іх хітрошчы вывучаў
І на прыволлі, і ў няволі:
І зірк з пяшчотлівай смугой
Няўладны над душой яго;—
Не давярае ім ніколі.

Калі расплёўшы валасы,
Йдуць паланянкі маладыя

Купацца ў спёчныя часы,
І плешчуць хвалі залатыя
На іх чароўныя красы,
Забаў наглядчык іх паслушны
Ён тут; ён бачыць, раўнадушны,
Чароўніц голых лёгкі рой;
Ў гарэме ў змрочнасці начной
Нячутнымі шагамі ходзіць:
Ступаючы па дыванах,
Цішком ён з'явіцца ў дзвярах,
Ад ложка к ложку пераходзіць;
Ў клапотах вечных ханскіх жон
Раскошны наглядае сон,
Падслухвае ўначы іх шолах;
Дыханне, ўздых, ледзь значны сполах,
Ўсё прагна прыкмячае ён:
І гора той, чый шэпат сонны
Імя чужое заклікаў,
Або сяброўцы улюбёнай
Благія думкі давяраў!

Што-ж думкі сумныя ў Гірэя?
Цыбук ў руках яго патух;
Каля дзвярэй дыхнуць не смее,
Наказ чакаючы еўнух.
Ўстае ўладар ў нямым спакоі:
І дзверы—насцеж. Моўчкі ён
Ідзе ў прывабныя пакоі
Яшчэ нядаўна мілых жон.

Ў чаканні бестурботным хана,
Вакол гуллівага фантана,
На дыванах з шаўку яны
Гуртом гарэзна там сядзелі,
З дзіцячай радасцю глядзелі,
Як рыба ў глыбіню імкне,
Па мармуровым ходзіць дне.
Часом наўмысна чараўніцы
Да іх пускалі завушніцы.
Вакол нявольніцы ў той час
Шэрбет разносілі пахучы
І спевам звонкім, мілагучным
Гарэм агаласілі ўраз.

## ТАТАРСКАЯ ПЕСНЯ

1

„Даруе неба чалавеку—
Замену слёз і ўсіх бядот:
Шчасліў факір, што ўбачыў Меку
На старасці сумотных год.

2

„Шчасліў, хто бераг вод Дуная
Змог смерцю ўласнай асвяціць:
Яму насустрач дзева рая
З усмешкай палкай паляціць.

3

Ды больш шчаслівы той, Зарэма,
Хто пешчам ўвесь аддаў сябе,
Як ружу ў цішыні гарэма
Галубіць любая цябе“.

Яны пяюць. Ды дзе Зарэма,
Кахання зорка, цвет гарэма?
Сядзіць сумотная адна
Хвальбы не слухае яна;
Як пальма скрышаная бурай,
Панікла галавой панурай;
Нішто не цешыць ёй вачэй:
Зарэму разлюбіў Гірэй.
Ён здрадзіў!.. Але хто з табою,
Грузінка, зроўніцца красою?
Вакол лілейнага чала
Касу ты двойчы абвіла;
Твае прываблівыя вочы
Ясней за дзень, чарней ад ночы.
Чый голас выкажа мацней
Парывы палкія жаданняў?
Чый вуснаў дотык агнявей
Тваіх пякучых цалаванняў?
Як сэрца, поўнае табой,
Заб'ецца для красы чужой?
Але суровы, раўнадушны
Зня́відзеў твой Гірэй цябе,
Адзін начамі у сябе
Сядзіць ён змрочны і нязрушны,
З тых дзён, як польская княжна
Ў гарэм пасаджана адна.

Нядаўна юная Марыя
Нябёсы ўбачыла чужыя;
Нядаўна любаю красой
Яна цвіла ў сям'і сваёй;
Сівы хваліўся бацька ёю

І зваў уцехаю сваёю.
Была старому як закон
Яе гарэзлівая воля.
Адзіны клопат ведаў ён,
Дачушкі каб любімай доля
Была як светлая вясна,
Каб і хвіліны смутку, жалю
Яе душы не засмучалі,
Каб нават замужам яна
Успамінала з захапленнем
Часы дзявоцтва, дні забаў,
Што прамільгнулі лёгкім ценем.
Яе характар захапляў;
І стройны стан яе дзявочы,
І з яснага блакіту вочы.
Прыроды мілыя дары
Яна мастацтвам аздабляла;
Яна дамашнія піры
Чароўнай арфай ажыўляла;
Натоўпы знатных багачоў
Рукі Марыінай шукалі,
І многа, многа юнакоў
Цішком пакутна сумавалі.
Але ў глыбі дзявочых схоў
Яна кахання шчэ не знала,
І ў замку бацькі вольны час
Паміж сяброўак кожны раз
Адным забавам прысвячала.

А ці даўно?.. Гурты татар
На Польшчу хлынулі ракою:
Не з гэткай страшнай быстрынёю
Па ржышчу сцелецца пажар.
Увесь зруйнованы вайною,
Квяцісты край асірацеў;
Забавы зніклі ў дзень суровы;
У смутку сёлы і дубровы,
І пышны замак апусцеў.
Марыі ціхая святліца...
У хатняй царкві, дзе кругом
Паснулі продкі вечным сном,
З каронай, з княжацкім гербом
Паўстала новая грабніца...
Загінуў бацька, ёй—палон,
Скупы наследнік замкам правіць
І жудасным ярмом няславіць
Краіну змучаную ён.

І вось, палац Бахчысарая
Княжны хавае ціхі сон:

Марыіна краса згарае,
Ў няволі сум заўсёды з ей.
Шануе бедную Гірэй:
Яе панурасць, слёзы, стогны
Трывожаць Хана ціхі сон,
І для яе змякчае ён
Гарэма строгія законы.
Наглядчык хмуры ханскіх жон
Ні ўдзень, ні ўночы к ёй не ходзіць;
Рукой стараннаю не ён
На ложак сну яе узводзіць;
І нават ў бок не смее той
Ён кінуць крыўдны погляд свой;
Яна ў купальні патаёнай
Адна з нявольніцай сваёй;
Баіцца нават хан палоннай
Журботны парушаць спакой.
Ў гарэме ў дальнім аддзяленні
Чатыры дадзены сцяны;
І здэцца, ў тым адасабленні
Захован хтосьці незямны.
І дзень, і ноч гарыць лампада
Там перад дзевай прасвятой;
Адзіная ў журбоце радасць,
Там спадзяванне, як у сне,
З пакорнай верай лунае,
І сэрцу ўсё напамінае
Аб лепшай, блізкай старане...
Там дзева слёзы пралівае
Здалёк ад зайздрасных падруг;
І паміж тым, як ўсё наўкруг
У пешчах дзіўных замірае,
Святыню строгую хавае
Ўцалелы дзівам той куток;
Так сэрца ў путах заблуканняў,
Сярод заганных хваляванняў,
Нясе адзін святы зарок,
Адно высокае пачуцце...

Настала ноч; у змроках сонных
Таўрыды сонечнай палі;
Ў аддалях лаўравых, зялёных
Спяваюць песні салаўі;
Між зорак месяц узыходзіць;
І ён з бязвоблачных нябес
На долы, ўзгор'і і на лес
Зіхценне млявае наводзіць.
Пад белай хусткай, між дамоў,
Як цені лёгкія мільгаюць
Па вуліцах Бахчысарая,

Адна к адной спяшаюць зноў
Таркі—простыя жанчыны,
Дзяліць вячернія навіны.

Палац маўчыць. Гарэм заснуў,
Лунае змрочнасць ночы мерна;
Скроць цішыня і ўсё наўкруг
У ночы спіць. Наглядчык верны
Дазорам абышоў еўнух.
Цяпер ён спіць, ды страх празмерны
Трывожыць ў ім і сонны дух...
Штачасных здрад заўжды чаканне,
Ужо спакой прапаў таму:
То нечы шорах, то шаптанне,
То крыкі мрояцца яму;
Падмануты хлуслівым слухам,
Ен прачынаецца, дрыжыць,
Спалоханым прынікшы вухам...
Ды ўсё вакол яго маўчыць;
Адны фантаны мілагучна
З цямніцы мармуровай б'юць,
І з мілай ружай неразлучна
У змроку салаўі пяюць;
Еўнух іх доўга успрымае,
Але й яго ўжо сон схіляе.

О, вы раскошныя красы,
Начы Усхода, што навокал!
Як саладка імкнуць часы
Для ўсіх прыхільнікаў прарока!
Як добра там у іх дамах,
У іх чаруючых садах,
У цішы гарэмаў недасяжных,
Дзе ў бляску месяца мігціць
Чароўнасць кволых таямніц,
І захапленняў невыказных!

. . . . . . . . . . . . . .

Усе жонкі спяць. Не спіць адна.
Ледзь дышучы, ўстае яна;
Ідзе; рукою пахаплівай
Раскрыла дзверы; ў цьме начной
Ступае лёгкаю нагой...
У дрымоце чулай, палахлівай
Ляжыць сівы еўнух прад ёй.
Ён літасці ў сабе не мае;
Манлівы сну яго спакой!..
Як дух, яна яго мінае,

Ідзе к дзвярам з неўразуменнем;
Яе дрыготная рука

Кранулася цішком замка...
Зайшла, і сочыць са здзіўленнем
Спалоханая, поўна мар.
Лампады свет адасаблёны,
Ківот, журботна асвятлёны
Прачыстай дзевы ціхі твар
І крыж, любові знак сьвянцоны;
Грузінка, ўсё ў душы тваёй
Радзімы вобраз абудзіла,
Даўно знаёмаю вясной
Нячутна ўсё загаварыла.
Прад ёй салодка спіць княжна,
І палкасцю дзявочай сна
Красуні шчокі ажывалі
І, слёз паказваючы след,
Усмешкай кволай асвятлялі:
Так месячны залоціць свет
Акроплены дажджамі цвет;
Зляцеўшы з неба, сын эдэма,
Здавалася, што анел спаў
І слёзы сонна праліваў
Над паланянкаю гарэма...
Але, Зарэма, што з табой!
Сціскае грудзі ёй журбой,
Міжвольна хіляцца калені,
„Злітуйся,—просіць,—нада мной,
Не адхіляй маіх маленняў!..“
І слёзы горкія і стогн
Разве́ялі дзяўчыны сон.
Княжна спыняе прад сабою,
На незнаёмай погляд свой.
Ў трывозе, трапяткой рукою
Падняўшы з долу, кажа ёй:
„Хто ты?.. Адна парой начною,
Чаму ты тут?“— К табе я йшла:
Ратуй мяне; сюды вяла
Мяне апошняя хвіліна...
Піла я шчасце безупынна,
Быў кожны новы дзень ясней...
Мінула ўсё: і сэрца стыне,
Я гіну, выслухай мяне.
Я нарадзілася далёка,
Далёка... і мінулых дзён
Любімы вобраз гэта ён
Дагэтуль ў памяці глыбока.
Я помню неба, скалаў гмах,
Патокі шумныя ў гарах,
І непраходныя дубровы,
Другі закон, інакшы нораў·

Але чаму, ты адгадай,
Пакінула я родны край,
Не ведаю; я помню мора
І чалавека ў вышыні
Пад ветразямі...
Страх і гора —
Я іх не знала ў тыя дні;
Я ў бесклапотнай цішыні
Ў цяньку гарэма расквітала,
Каханне першае сваё
Паслушным сэрцам я чакала.
Надзеі спраўдзілі мае.
Гірэй для мірнае пяшчоты
Крывавай занядбаў вайной,
Спыніў жахлівыя налёты
І зноў гарэм убачыў свой.
Прад ханам сумна у чаканні
Стаялі мы. Святлей зары
Спыніў ён зірк на мне ў маўчанні,
Прызваў мяне... і з тэй пары
Мы ў несупынным захапленні
Дзялілі шчасце; і ні раз
Ні плёткі і ні падазрэнні,
Ні злоснай рэўнасці мучэнні,
Нішто не засмучала нас.
Марыя, ты прад ім паўстала...
І вось з таго ў душу яму
Смуга злачынная запала!
Гірэй мне здрадзіў і таму,
Не слухае маіх дакораў;
Яму дакучыў сэрца стогн;
І слоў развагі ў маім горы
Са мною не знаходзіць ён.
Ты да злачынства не прычына;
Я знаю, не твая віна...
Ды я-ж дзівосная жанчына;
Ва ўсім гарэме ты адна
Пагрозай стала несупыннай.
Але табе мой пал не знаць,
Ты так кахаць, як я, не можаш;
Нашто-ж халоднаю красой
Ты сэрца слабае трывожыш?
Пакінь Гірэя мне: ён мой;
На мне гараць яго цалункі,
Прысягі страшныя мне даў,
Даўно ўсе думы, ўсе лятункі
Гірэй з маімі спалучаў;
Загіну я ад гэтай здрады...
Я плачу; бачыш без спагады
Я на каленях прад табой,

Малю, адна ў мяне надзея,
Аддай мне радасць і спакой,
Аддай ранейшага Гірэя...
Ты супярэчанні спыні;
Ён мой; захоплен ён табою.
Пагардай, просьбаю, журбою
Яго чым хочаш адвярні;
Кляніся... (хоць для Алкарана,
Паміж нявольніцамі хана,
Зраклася веры я свае;
Ды вера мацеры мае
Была твая) кляніся ею
Зарэму ты вярні Гірэю...
Ды слухай-жа, а калі не...
Кінжалам я ўладаць умею,
Каўказа кроў бяжыць ва мне".

Сказаўшы, знікла. А за ёю
Не можна ўследісці княжне.
Зусім дзяўчыне неуяўна
Як шмат каханне мук дае:
Ды голас іх, знаёмы здаўна,
Здзівіў яе, жахнуў яе.
Якія слёзы і маленні
Дадуць ад сораму збавенне?
Няўжо няволя для яе?
Ей дні астатнія свае
Пражыць наложніцай паганай?
О, божа! Хай-бы ўжо Гірэй
Яе ў цямніцы занядбанай
Навек няшчасную забыў,
Ці можа смерцю нечаканай
Нудоту дзён яе спыніў;
З якою-б радасцю Марыя
Пакінула самотны свет!
Жыцця хвіліны дарагія
Прайшлі даўно, прастыў іх след!
Што-ж ёй рабіць ў пустэчы свету?
Яе чакаюць, ёй пара,
І ў неба яснага сусвету
Заве прывабная зара.

Цяпер Марыі ўжо няма.
Раптоўна сірата спачыла.
Даўно жаданы свет сама,
Як новы анел, асвяціла.
Ды што ў труну яе звяло?
Туга бязрадаснай няволі,
Хвароба, ці другое зло,
Як знаць? Няма Марыі болей!..
Палац пануры затужыў;

Яго Гірэй цяпер пакінуў;
З гуртом татар у край чужы
Ён зноў набегам лютым рынуў;
Ён зноў у бурах баявых
Імчыцца змрочны, крыважэрны:
Ды ў сэрцы хана шмат другіх
Пачуццяў тоіцца бязмерна.
Ён часта ў сечах баявых
Узніме шаблю, і з размаху
Нязрушны доўга так стаіць,
Няўцямліва вакол глядзіць.
Бляднее ўвесь бы поўны страху,
І нешта шэпча, і парой
Лье слёзы горкія ракой.

Гарэм пракляты, занядбаны
Забыты ханам да канца;
Там на пакуты, здзек адданы,
Пад вартай вернага скапца
Старэюць жоны. Паміж імі
Няма грузінкі маладой;
Даўно наглядцамі нямымі
Спачын ёй дадзен пад вадой.
Калі сканала ўжо княжна,
Збыліся і яе пакуты.
Якою-б ні была віна,
А пакаранне было лютым!

Агнём спустошыўшы ў баі
Каўказу блізкія краі
І сёлы мірныя Расіі,
Вярнуўся у Таўрыду хан
І, ў знак пакутнае Марыі,
Паставіў з мармуру фантан
У кутку палаца запусцелым;
У з'янні крыжа там узнік
Магаметанскі маладзік
(Вядома сымбаль вельмі смелы,
Няведання ў ім след відзён).
Есць надпіс: едкімі гадамі
Яшчэ не выпетрыўся ён.
За цьмянымі яго радкамі
Вада па мармуру журчыць
І капае на дол слязамі,
Заўжды не ціхнучы бяжыць.
Так маці плача ў горкім жалі
Па сыне, што няма з вайны.
Дзяўчаты з роднай старany
Паданне даўніны пазналі,
І помнік змрочлівы яны
Фантанам слёз тагды празвалі.

Пакінуўшы паўночы дні,
Піры і весялосці края
Наведаў я Бахчысарая
Палац забыты ў цішыні.
Сярод бязмоўных пераходаў
Хадзіў я там, дзе біч народаў,
Татарын буйны балякаў
І пасля страшнага налёту
Ў ляноце пышнай спачываў.
Дасюль яшчэ павеў пяшчоты
Чуваць ў пакоях і садах;
Бруяцца воды, ружы ў цвеце;
Віецца вінаграда веццe,
Зіхціць у пазалоце гмах.
Там бачыў краты дзён суровых,
За імі, ў веснавыя дні
За зборам чотак янтаровых,
Ўздыхалі жоны ў цішыні.
Там бачыў могільнік я ханаў,
Апошні ўладароў прыстанак.
Магільныя слупы наўсцяж
Пад мармуроваю чалмою,
Здаецца мне пра лёс жыцця
Гавораць моваю жывою.
Дзе хан з гарэмам залатым?
Навокал ціха ўсё маўчала,
Усюды змены... ды не тым
Раней тут сэрца хвалявала.
Дыханне руж, фантанаў шум—
Другія вабілі імкненні,
Мой розум расквітаў ад дум
І невыказных лятуценняў,
І па палацу лёгкім ценем
Мільгала дзева прада мной!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чый цень, сябры, убачыў я?
Скажыце мне: чый вобраз дзіўны
Хадзіў за мной, як здань мая,
Неуявімы й незабыўны?
А мо' Марыі вобраз той
З'яўляўся мне, ці мо Зарэма
Лятала ў рэўнасці сваёй,
Сярод пустэльнага гарэма?
Я помню любы мне пагляд
І хараство яшчэ зямное...
. . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
Паклоннік муз, паклоннік міра,
Забыўшы славу і любоў,

Ці хутка вас убачу зноў,
Крутыя берагі Салгіра!
Прыду на схіл сюды знарок,
Дзе успаміны след паклалі,
І зноў Таўрычаскія хвалі
Узрадуюць мой прагны зрок.
Дзівосны край, вачэй прынада!
Усё люба там: палі, лясы,
Янтар і яхант вінаграда,
Даліны ў росквіце красы,
І стройных топаляў прахлада
Прытулкам путніку шуміць
Калі на золку спяць прасторы,
Між гор, дарогаю над морам,
Прывычны конь яго бяжыць,
І зелянеючых прасцягаў
Прад ім бліскучы вал бурліць
Вакол уцёсаў Аю-дага...

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ



Зарысоўкі дзекабрыстаў, зробленыя рукою А. С. ПУШКІНА

# *Мяцеліца*

## А. С. ПУШКІН

Кони мчатся по буграм,
Топчут снег глубокой...
Вот, в сторонке божий храм
Виден одинокой...
. . . . . . . . . . . . .
Вдруг метелица кругом;
Снег валит клоками;
Черный вран, свистя крылом,
Вьется над санями;
Вещий стон гласит печаль!
Кони торопливы
Чутко смотрят в темну даль,
Воздымая гривы...

*Жукоўскі* [1])

У канцы 1811 года, у эпоху добра нам помную, жыў у сваім памесці Ненарадаве добры Гаўрыла Гаўрылавіч Р. Ён славіўся на ўсю акругу гасцінасцю і паслужнасцю; суседзі часта ездзілі да яго пад'есці, выпіць, пайграць на пяць капеек у бастон[2]) з яго жонкаю, а некаторыя для таго, каб зірнуць на дачку іх Мар'ю Гаўрылаўну, стройную, бледную і семнаццацігадовую дзяўчыну. Яна лічылася багатай нявестай, і многія вызначалі яе або сабе або для сыноў.

Мар'я Гаўрылаўна была выхавана на французскіх раманах і таму была закахана. Прадмет, выбраны ёю, быў бедны армейскі прапаршчык, які знаходзіўся ў водпуску ў сваёй вёсцы. Само па сабе зразумела, што малады чалавек палаў аднальковай страсцю і што бацькі яго ўлюбёнай, заўважыўшы іх узаемную прыхільнасць, забаранілі дачцы аб ім і думаць, а яго прыймалі горш, ніж адстаўнога заседацеля.[3])

Нашы палюбоўнікі вялі перапіску і кожны дзень сустракаліся самотна ў сасновым гаю або каля старой капліцы. Там яны абяцалі адно аднаму кахаць вечна, наракалі на лёс і рабілі розныя меркаванні. Перапісваючыся і размаўляючы такім чынам, яны (што зусім звычайна), дайшлі да такога памеркавання: калі мы адно без аднаго дыхаць не можам, а воля жорсткіх бацькоў перашкаджае нашаму шчасцю, дык ці не можна будзе нам абыйсціся без яе? Зразумела, што гэтая шчаслівая думка прышла спярша ў галаву маладому чалавеку, і што яна вельмі спадабалася рамантычнаму ўяўленню Мар'і Гаўрылаўны.

---

[1]) В. А. Жукоўскі (1783—1852)—паэт і перакладчык сантыментальна-рамантычнага кірунку, быў адным з літаратурных настаўнікаў маладога Пушкіна. Эпіграф узяты з яго балады „Светлана“.

[2]) Бастон—старынная карцёжная ігра.

[3]) Заседацель—чыноўнік ніжэйшых судовых устаноў XVIII і XIX в. да судовай рэформы“ 60-х гадоў XIX в.

Надышла зіма і прыпыніла іх спатканні: але перапіска стала з-за гэтага больш ажыўленай. Уладзімір Нікалаевіч у кожным пісьме ўпрашаў яе ісці да яго, павянчацца таемна, хавацца некаторы час, кінуцца пасля ў ногі бацькам, якія, вядома, будуць расчулены нарэшце гераічнай стрыманнасцю і няшчасцем палюбоўнікаў і скажуць ім абавязкова: „Дзеці! прыдзіце ў нашы абдымкі".

Мар'я Гаўрылаўна доўга не адважвалася: мноства планаў уцёку былі адхілены. Нарэшце яна згадзілася: у прызначаны дзень яна павінна была не вячэраць, пайсці ў свой пакой, выдумаўшы прычыну, быццам баліць галава. Прыслужніца яе была ў змове; абедзве яны павінны былі выйсці ў сад праз задні ганак, за садам знайсці нарыхтаваныя сані, садзіцца ў іх і ехаць за пяць вёрст ад Ненарадава ў сяло Жадрына, проста ў царкву, дзе ўжо Уладзімір павінен быў іх чакаць.

Перад гэтым рашучым днём Мар'я Гаўрылаўна не спала ўсю ноч; яна рыхтавала рэчы, увязвала бялізну і ўбёры, напісала доўгае пісьмо да адной чуллівай паненкі, яе сяброўкі, другое да сваіх бацькоў. Яна развітвалася з імі самымі чулымі словамі, апраўдвала свой учынак непераможнай сілаю страсці і заканчвала тым, што самай шчаслівай хвілінаю жыцця палічыць яна тую, калі дазволена будзе ёй кінуцца да ног дарагіх яе бацькоў. Запячатаўшы абодвы пісьмы тульскай пячаткай, на якой паказаны былі два палаючыя сэрцы з прыстойным надпісам, яна кінулася на пасцель перад самым досвіткам і задрамала; але і тут жахлівыя ўяўленні штохвіліну яе абуджалі. Або здавалася ёй, што ў апошнюю хвіліну, калі яна садзілася ў сані, каб ехаць вянчацца, бацька яе запыняў, пакутна шпарка цягнуў яе па снезе і кідаў у цёмнае, бяздоннае падзямелле... і яна ляцела потырч з нявымоўным заміраннем сэрца; то бачыла яна Уладзіміра, які ляжаў на траве, бледны, скрываўлены. Ён, паміраючы, упрашаў прарэзлівым голасам паспяшыць з ім павянчацца... другія брыдкія, бессэнсовыя здані праляталі перад ёю адна за адною. Нарэшце яна ўстала, бляднейшая як калі, і з непрытворным болем у галаве. Бацька і маці заўважылі яе неспакой; іх пяшчотная клапатлівасць і няспынныя распытванні, што ў цябе, Маша? Ці не хворая ты, Маша? раздзіралі яе сэрца. Яна старалася іх супакоіць, выглядаць вясёлай, і не магла. Настаў вечар. Думка, што ўжо апошні раз праводзіць яна дзень у сваёй сям'і, сціскала яе сэрца. Яна была ледзьве жывая; яна ўпотай развітвалася з усімі асобамі, з усімі рэчамі, якія яе акружалі. Падалі вячэру; сэрца яе моцна закалацілася. Дрыглівым голасам аб'явіла яна, што ёй вячэраць не хочацца, і пачала развітвацца з бацькам і маткай. Яны яе пацалавалі і, па звычаю, блаславілі: яна ледзьве не заплакала. Прышоўшы ў свой пакой, яна кінулася ў крэсла і залілася слязьмі. Прыслужніца ўгаварвала яе супакоіцца і падбадзёрыцца. Усё было гатова. Праз поўгадзіны Маша павінна была назаўсёды пакінуць бацькоўскі дом, свой пакой, ціхае дзявочае жыццё... На двары была мяцеліца; вецер выў, вакяніцы калаціліся і грукацелі; усё здавалася ёй пагрозай і тужлівым прадраканнем. Хутка ў доме ўсё сцішылася і заснула. Маша ўкуталася шаллю, адзела цёплую капоту, узяла ў рукі шкатулку сваю і вышла на задні ганак. Служанка

нясла за ёю два клункі. Яны сыйшлі ў сад. Мяцеліца не сціхала; вецер дзьмуў насустрач, як быццам намагаючыся спыніць маладую злачынніцу. Яны цераз сілу дайшлі ў канец сада. На дарозе сані чакалі іх. Коні, азябнуўшы, не стаялі на месцы: фурман Уладзіміра пахаджваў перад аглоблямі, стрымліваючы порсткіх. Ён дапамог паненцы і яе прыслужніцы ўсесціся і пакласці клункі і шкатулку, узяў лейцы, і коні паляцелі. Даручыўшы паненку на клапатлівасць лёсу і ўмельства фурмана Цярэшкі, звернемся да маладога нашага палюбоўніка.

Увесь дзень Уладзімір правёў у раз'ездзе. Раніцою быў ён у жадрынскага свяшчэнніка; ледзьве з ім дамовіўся; потым паехаў шукаць сведак між суседніх памешчыкаў. Першы, да каго з'явіўся ён, адстаўны саракагодні карнет[1]) Дравін, згадзіўся з ахвотаю. Гэтая прыгода, запэўняў ён, прыпамінала яму мінулы час і гусарскія пацехі. Ён угаварыў Уладзіміра застацца ў яго на абед і запэўніў яго, што за другімі двума сведкамі справа не затрымаецца. На самай справе, адразу-ж пасля абеду з'явіліся вусаты са шпорамі каморнік Шміт і сын капітан-ісправуніка[2]), хлопчык год шаснаццаці, які нядаўна паступіў у уланы[3]). Яны не толькі прынялі прапанову Уладзіміра, але нават далі яму клятву афяраваць для яго жыццё. Уладзімір абняў іх у вялікім узрушэнні і паехаў дадому рыхтавацца.

Ужо даўно змерклася. Ён накіраваў свайго надзейнага Цярэшку ў Ненарадава з сваёю тройкай і з падрабязным важным наказам, а для сябе загадаў запрэгчы маленькі вазок на аднаго каня, і адзін без фурмана рушыў у Жадрына, куды гадзіны праз дзве павінна была прыехаць і Мар'я Гаўрылаўна. Дарога была яму знаёмая, а язды ўсяго дваццаць хвілін.

Але ледзьве Уладзімір выехаў за сялібу ў поле, як узняўся вецер і пачалася такая мяцеліца, што ён нічога не мог бачыць. За адну хвіліну дарогу замяло: навакольнае знікла ў імгле мутнай і жоўтаватай, праз якую ляцелі белыя ахлоп'і снегу; неба злілося з зямлёю; Уладзімір апынуўся ў полі і дарэмна хацеў зноў патрапіць на дарогу; конь ступаў наўдачу і штохвіліну то ўзнімаўся на гурбу, то правальваўся ў яму; сані штохвіліну перакульваліся — Уладзімір стараўся толькі не страціць правільнага кірунку. Але яму здавалася, што ўжо мінула больш паўгадзіны, а ён яшчэ не даязджаў да жадрынскага гаю. Мінула яшчэ каля дзесяці хвілін; гаю ўсё яшчэ не было відаць. Уладзімір ехаў полем, якое было зрэзана глыбокімі ярамі. Мяцеліца не сціхала, неба не праяснялася. Конь пачынаў таміцца, а з яго пот каціўся градам, не гледзячы на тое, што ён раз-по-разу апынаўся па пояс у снягу.

Нарэшце ён убачыў, што едзе не ў той бок. Уладзімір спыніўся; пачаў думаць, прыпамінаць, меркаваць, і ўпэўніўся, што трэба было яму павярнуць управа. Ён паехаў управа. Конь яго ледзьве ступаў. Ужо больш гадзіны быў ён у дарозе. Жадрына павінна

---

[1]) Карнет—першы кавалерыйскі афіцэрскі чын у царскай арміі.
[2]) Капітан-ісправунік—начальнік павятовай паліцыі.
[3]) Уланы—назва роду конных палкоў царскай арміі.

было быць недалёка. Але ён ехаў, ехаў, а полю не было канца. Усё гурбы да яры і штохвіліны сані перакульваліся, штохвіліны ён іх падымаў. Час ішоў: Уладзімір пачынаў вельмі трывожыцца.

Нарэшце з боку штосьці пачало чарнець. Уладзімір павярнуў туды. Набліжаючыся, убачыў ён гай. Дзякаваць богу, падумаў ён, цяпер блізка. Ён паехаў паўз гай, спадзяючыся адразу патрапіць на знаёмую дарогу альбо аб'ехаць вакол гаю: Жадрына знаходзілася адразу-ж за ім. Хутка найшоў ён дарогу і ўехаў у змрок дрэў, агаленых зімою. Вецер не мог тут лютаваць; дарога была гладкая; конь падбадзёрыўся і Уладзімір супакоіўся.

Але ён ехаў, ехаў, а Жадрына не было відаць, гаю не было канца. Уладзімір жахнуўся, убачыўшы, што ён заехаў у невядомы лес. Роспач апанавала яго. Ен ударыў каня; гаротная жывёліна пашла была рыссю, але хутка пачала прыставаць і праз чвэрць гадзіны пайшла крокам, не гледзячы на ўсе намаганні няшчаснага Уладзіміра.

Мала-па-малу дрэвы пачалі радзець, і Уладзімір выехаў з лесу; Жадрына не было відаць. Павінна было быць часу пад поўнач. Слёзы пырснулі з вачэй яго; ён паехаў наўдачу. Пагода сцішылася, хмары разыходзіліся, перад ім ляжала раўніна, усланая белым дыванам. Ноч была досыць відная. Ён убачыў непадалёк засценак, які складаўся з чатырох ці пяці двароў. Уладзімір паехаў да яго. Каля першай хацінкі ён саскочыў з саней, падбег да акна і пачаў стукаць. Праз некалькі хвілін драўляная акяніца паднялася, і стары высунуў сваю сівую бараду. „Што табе трэба?"—„Ці далёка Жадрына?"—„Гэта Жадрына ці далёка?"—„Так, так! Ці далёка?"—„Недалёчка, вёрст дзесятак будзе". Пачуўшы такі адказ, Уладзімір схапіў сябе за валасы і застыў нерухома, як чалавек, прысуджаны да смерці.

„А ты адкуль-жа?"—пытаўся стары. Уладзімір не меў духу адказваць на пытанне. „Ці можаш ты, стары,—сказаў ён,—дастаць мне коней да Жадрына?"—„Якія ў нас коні",—адказаў мужык.—„Дык ці не магу ўзяць хоць праваднікa? Я заплачу, колькі ён захоча".—„Пачакай,—сказаў стары, апускаючы акяніцу,—я табе сына вышлю; ён цябе правядзе". Уладзімір стаў чакаць. Не прайшло і хвіліны, ён зноў пачаў стукаць. Акяніца паднялася, барада паказалася. „Што табе трэба?"—„Як-жа твой сын?"—„Зараз выйдзе, абуваецца. Можа ты настыў? Увайдзі пагрэцца".—„Дзякую, высылай хутчэй сына".

Вароты зарыпелі; хлопец вышаў з дубінаю і пайшоў наперад, то паказваючы, то адшукваючы дарогу, занесеную снегавымі гурбамі. „Якая гадзіна", запытаўся яго Уладзімір. „Ды ўжо хутка развіднее",—адказаў малады мужык. Уладзімір не гаварыў ужо ні слова.

Спявалі пеўні і было ўжо відна, як дайшлі яны да Жадрына. Царква была замкнёна. Уладзімір заплаціў праваднікy і паехаў на двор да свяшчэнніка. На двара тройкі яго не было. Якая навіна чакала яго!

Але вернемся да добрых ненарадаўскіх памешчыкаў і паглядзім, што-ж у іх робіцца.

А нічога.

Старыя прачнуліся і вышлі ў гасцінную, Гаўрыла Гаўрылавіч ў калпаку і байкавай куртцы, Праскоўя Пятроўна ў шлафроку на ваце. Падалі самавар, і Гаўрыла Гаўрылавіч паслаў служанку даведацца ў Мар'і Гаўрылаўны, якое яе здароўе і як яна спала. Служанка вярнулася, сказала, што паненка то спала дрэнна, але што ёй цяперака лягчэй, і што яна зараз прыдзе ў гасцінную. На самай справе дзверы адчыніліся, і Мар'я Гаўрылаўна падышла прывітацца з татунькам і мамунькай.

„Як твая галава, Маша?“—запытаўся Гаўрыла Гаўрылавіч.— „Лепш, татунька“, адказала Маша.—„Ты напэўна, Маша, учора ўчадзела“, сказала Праскоўя Пятроўна.—„Магчыма, маменька“,— адказала Маша.

Дзень прайшоў добра, але ўночы Маша занядужала. Паслалі ў горад па лекара. Ён прыехаў вечарам і застаў хворую ў трызненні. Адкрылася моцная гарачка, і гаротная хворая два тыдні знаходзілася на краю магілы.

Ніхто ў доме не ведаў аб памяркоўным уцёку. Пісьмы, напярэдадні ёю напісаныя, былі спалены; яе пакаёўка нікому ні пра што не гаварыла, асцерагаючыся панскага гневу. Свяшчэннік, адстаўны карнет, вусаты каморнік і маленькі улан былі ціхманыя, і не здарма. Фурман Цярэшка ніколі нічога непатрэбнага не выказваў, нават калі быў хмельны. Такім чынам таямніца была захавана больш, як поўтузінам змоўшчыкаў. Але Мар'я Гаўрылаўна сама, у няспыннай трызні, вымаўляла сваю таямніцу. Аднак-жа яе словы былі такія супярэчлівыя ўсяму, што маці, якая не адыходзіла ад яе пасцелі, магла зразумець з іх усяго тое, што дачка яе была да смерці закахана ва Уладзіміра Нікалаевіча і што напэўна каханне было прычынаю яе хваробы. Яна раілася са сваім мужам, з некаторымі суседзямі, і нарэшце аднагалосна ўсе парашылі, што відаць такі быў лёс Мар'і Гаўрылаўны, што нарэчанага канём не аб'едзеш, што беднасць не загана, што жыць не з багаццем, а з чалавекам, і іншае. Навучальныя прыказкі бываюць на дзіва карысны ў тых выпадках, калі мы ад сябе мала чаго можам выдумаць сабе ў апраўданне.

Між тым, паненка пачала папраўляцца. Уладзіміра даўно не відаць было ў доме Гаўрылы Гаўрылавіча. Ён быў напалоханы звычайным прыёмам. Парашылі паслаць па яго і абвясціць яму пра нечаканае шчасце: згода на шлюб. Але якое было здзіўленне ненарадаўскіх памешчыкаў, калі ў адказ на іх запрашэнне яны атрымалі ад яго поўвар'яцкае пісьмо! Ён аб'яўляў ім, што нага яго не будзе ніколі ў іх доме, і прасіў забыцца на няшчаснага, для якога смерць застаецца адзінай надзеяй. Праз некалькі дзён даведаліся яны, што Уладзімір выехаў у армію. Гэта было у 1812 годзе.

Доўга не адважваліся аб'явіць гэта Машы, якая папраўлялася. Яна ніколі не напаміна ла пра Уладзіміра. Праз некалькі месяцаў пазней, знайшоўшы яго імя ў ліку герояў і цяжка раненых каля Барадзіна[1]),

---

[1]) Барадзіно, сяло каля Мажайска, Маскоўскай вобласці. На барадзінскім полі 26 жніўня 1812 г. адбыўся крывавы бой між адступаўшай рускай арміяй і войскамі французскага імператара Напалеона I.

яна апрытомнела, і баяліся, каб гарачка яе не вярнулася. Аднак, дзякаваць богу, гэтае прайшло без вынікаў.

Іншы сум яе спасціг: Гаўрыла Гаўрылавіч памёр, пакінуўшы ёй у спадчыну ўвесь маёнтак. Але спадчына не ўсцяшала яе; яна падзеляла шчыра тугу беднай Праскоўі Пятроўны, давала клятву ніколі з ёю не расставацца; абедзве яны пакінулі Ненарадава, месца сумных успамінаў, і паехалі жыць у *** скае памесце.

Жаніхі кружыліся і тут каля прыгожай багатай нявесты; але яна нікому не падавала нават самай малай надзеі. Маці часамі ўгаварвала яе выбраць сабе друга; Мар'я Гаўрылаўнаківала галавою і задумвалася. Уладзімір ужо не існаваў: ён памёр у Маскве, напярэдадні ўступлення французаў. Памяць аб ім здавалася свяшчэннаю для Машы; па крайней меры яна берагла ўсё, што магло яго напомніць: кнігі, некалі ім прачытаныя, яго малюнкі, ноты і вершы, перапісаныя ім для яе. Суседзі, даведаўшыся аб усім, здзіўляліся яе стрыманасці і з цікавасцю чакалі героя, які павінен быў нарэшце адолець журботную вернасць гэтай дзявоцкай Артэмізы.[1])

Мыж тым вайна са славаю была закончана. Палкі нашы варочаліся з-за граніцы. Народ бег ім насустрач. Музыка іграла заваяваныя песні: „Vive Henri Quatre“[2]), цірольскія вальсы, і арыі з „Жаконды“[3]). Афіцэры, якія пашлі ў паход юнакамі, варочаліся памужнеўшыя ад баявога паветра, былі ўвешаныя крыжамі. Салдаты весела размаўлялі між сабою, умешваючы штохвіліны ў гаворку нямецкія і французскія словы. Час непазабыўны! Час славы і захаплення! Як моцна білася рускае сэрца ад слова бацькаўшчына! Як соладкі былі слёзы спаткання! З якім аднадушшам мы спалучалі пачуццё народнай гордасці і любові да гасудара! А для яго, якая была хвіліна!

Жанчыны, рускія жанчыны былі тады беспадобны! Звычайная халоднасць іх знікла. Захапленне іх было сапраўды ўзрушальнае, калі, сустракаючы пераможцаў, крычалі яны: ура!

И в воздух чепчики бросали[4]).

Хто з тагочасных афіцэраў не прызнаецца, што рускай жанчыне абавязан ён быў лепшай, каштоўнейшай узнагародай?..

У гэты бліскучы час Мар'я Гаўрылаўна жыла з маткай у ***губерні і не бачыла, як абедзве сталіцы святкавалі зварот войска.

Але ў паветах і вёсках агульнае ўзрушанне, магчыма, было яшчэ мацнейшае. З'яўленне ў гэтых мясцох афіцэра было для яго сапраўднай урачыстасцю, і палюбоўніку ў фраку блага было ў яго суседстве.

Мы ўжо гаварылі, што, не зважаючы на яе халоднасць, Мар'я Гаўрылаўна гэтак-жа як і раней акружана была шукальнікамі. Але

---

1) Артэміза—Артэміда, старажытняя грэчаская багіня луны, увасабленне дзявоцкасці.

2) „Няхай жыве Генрых Чацверты!“

3) „Жаконд“—камічная опера „Жаконд або шукальнік прыгод“ Ніколо Ізуара, якая ставілася з вялікім поспехам у 1814 г. у занятым рускімі войскамі Парыжы.

4) З камедыі А. С. Грыбаедава „Гора ад розуму“: „кричали женщины: ура! и в воздух чепчики бросали“. (Дзея 2, з'ява 5).

ўсе павінны былі адступіць, калі з'явіўся ў яе замак ранены гусарскі палкоўнік Бурмін, з Георгіем [1]) у пятліцы і з цікаўнай бледнасцю, як казалі тамашнія паненкі. Яму было год дваццаць шэсць. Ён прыехаў у водпуск у свае памесці, якія знаходзіліся ў суседстве з вёскай Мар'і Гаўрылаўны. Мар'я Гаўрылаўна вельмі высока яго ставіла. Пры ім звычайная задуменнасць яе ажыўлялася. Нельга было сказаць, каб яна з ім какетнічала; але Паэт, заўважыўшы яе паводзіны, сказаў-бы:

Se amor non é, che dunche? [2])

Бурмін быў сапраўды, вельмі мілы малады чалавек. Ён меў менавіта той розум, які падабаецца жанчынам: розум прыстойнасці і назірання, без усякага патрабавання, і бесклапотна насмешлівы. Паводзіны яго з Мар'яй Гаўрылаўнай былі простыя і свабодныя; але што-б яна не сказала або не зрабіла, душа і позірк яго так за ёю і ішлі следам. Ён, здавалася, з характару быў ціхі і сарамяжы, але хадзілі чуткі, што калісьці быў ён страшэнным гулякам, і гэтае не зніжала яго ў поглядах Мар'і Гаўрылаўны, якая (як і ўсе маладыя дамы наогул) са здаваленнем прабачала дурасці, якія паказваюць смеласць і палкасць характару.

Але больш за ўсё... (больш за яго пяшчотнасць, больш за прыемную гаворку, больш за цікаўную бледнасць, больш за перавязаную руку) маўклівасць маладога гусара больш за ўсё падбухторвала яе цікавасць і ўяўленне. Яна не магла не прызнацца ў тым, што яна вельмі яму падабалася; напэўна і ён, з сваім розумам і вопытнасцю, мог ужо заўважыць, што яна была высокай да яго думкі; якім-жа гэта чынам да гэтага часу не бачыла яна яго ў сваіх ног і яшчэ не чула яго прызнання? Што стрымлівала яго? Пакора, гордасць або какетства хітрага гулякі? Гэта было для яе загадкаю. Разважыўшы добра, яна рашыла, што сарамяжасць была адзінаю гэтага прычынай, і надумалася падбадзёрыць яго большай спагадаю і, гледзячы па абставінах, нават пяшчотнасцю. Яна падрыхтоўвала развязку самую нечаканую і нецярпліва чакала хвіліны рамантычнага тлумачэння. Таямніца, якога-б роду яна не была, заўсёды цяжкая для жаночага сэрца. Яго вайсковыя дзеянні мелі жаданы поспех: па крайней меры, Бурмінам авалодала такая задуменнасць, і чорныя вочы яго з такім агнём спыняліся на Мар'і Гаўрылаўне, што рашучая хвіліна здавалася ўжо блізкай. Суседзі гаварылі пра вяселле, як пра справу ўжо вырашаную, а добрая Праскоўя Пятроўна радавалася, што дачка яе нарэшце знайшла сабе годнага жаніха.

Старэнькая сядзела аднойчы адна ў гасцінай, раскладваючы гран-пас'янс [3]), калі Бурмін увайшоў у пакой і зараз-жа запытаў

---

1) Георгій—ваенны ордэн, які выдаваўся за вайсковыя заслугі.

2) „Калі гэта не каханне, дык што-ж гэта?" Верш—славутага італьянскага паэта Петраркі. (1304—1374).

3) Гран-пас'янс—адзін з відаў пас'янса—картачнай ігры ў адзіночку, якая заключаецца ў раскладанні карт да тае пары, пакуль яны не лягуць строга акрэсленым чынам.

пра Мар'ю Гаўрылаўну. „Яна ў садзе,—адказала старушка,—пайдзіце да яе, а я буду тут вас чакаць". Бурмін пайшоў, а старушка перахрысцілася і падумала: авось справа сёння-ж скончыцца!

Бурмін знайшоў Мар'ю Гаўрылаўну каля сажалкі, пад вярбою, з кнігаю ў руках, і ў белым плацці, сапраўднай гераіняй рамана. Пасля першых запытанняў, Мар'я Гаўрылаўна наўмысля спыніла размову, узмацняючы такім чынам узаемнае замяшанне, ад якога можна было пазбавіцца хіба толькі неспадзяваным і рашучым прызнаннем. Так і здарылася; Бурмін, адчуваючы цяжкасць свайго становішча, аб'явіў, што шукаў даўно выпадку адкрыць ёй сваё сэрца, і папрасіў хвілінку ўвагі. Мар'я Гаўрылаўна закрыла кнігу і патупіла вочы ў знак згоды.

„Я вас кахаю,—сказаў Бурмін,—я вас кахаю палка..." (Мар'я Гаўрылаўна пачырванела і схіліла галаву яшчэ ніжэй). „Я паступіў неасцярожна, паддаючыся мілай прывычцы, прывычцы бачыць і слухаць вас штодзённа..." (Мар'я Гаўрылаўна успомніла першае пісьмо St. Preux)[1]). Цяпер позна ўжо пярэчыць лёсу майму; успаміны пра вас, ваш любы, непараўнальны вобраз з гэтае пары будуць пакутаю і радасцю жыцця майго; але мне яшчэ застаецца выканаць цяжкі абавязак, адкрыць вам жахлівую таямніцу і ўтварыць між нас непераможную перашкоду..." „Яна заўсёды існавала,—перапыніла з жывасцю Мар'я Гаўрылаўна,—я ніколі не магла быць вашай жонкай...".—„Ведаю,—адказаў ён ёй ціха,—ведаю, што калісьці вы кахалі, але смерць і тры гады наракання... Добрая, любая Мар'я Гаўрылаўна! Не старайцеся пазбавіць мяне апошняй уцехі, думка, што вы-б згодны былі стварыць для мяне шчасце, калі-б... маўчыце, на праміла бог, маўчыце. Вы катуеце мяне. Так, я ведаю, я адчуваю, што вы-б былі маею, але—я вельмі няшчаснае стварэнне... я жанаты!"

Мар'я Гаўрылаўна зірнула на яго здзіўлена.

„Я жанаты,—гаварыў далей Бурмін,—я жанаты ўжо чацверты год і не ведаю, хто мая жонка, і дзе яна, і ці пабачуся я з ёю калі-небудзь".

„Што вы кажаце?"—крыкнула Мар'я Гаўрылаўна,—як гэта дзіўна! Гаварыце; я раскажу пасля... але гаварыце, зрабіце ласку".

„У пачатку 1812 года,—сказаў Бурмін,—я спяшаўся ў Вільню, дзе знаходзіўся наш полк. Прыехаўшы аднойчы на станцыю позна вечарам, я загадаў быў хутчэй запрагаць коней, як раптам ускруцілася жахлівая мяцеліца, і смотрыцель і возчыкі раілі мне перачакаць. Я іх паслухаў, але незразумелая неспакойнасць апанавала мяне: здавалася, нехта мяне так і падштурхоўваў. Між тым мяцеліца не супакойвалася; я не выцерпеў, загадаў зноў запрагаць і паехаў у самую буру.

Фурман надумаўся ехаць па рэчцы, што павінна было скараціць наш шлях на тры вярсты. Берагі былі завеяны; фурман мінуў тое месца, дзе выязджалі на дарогу, і такім чынам апынуліся мы ў незнаёмай старане. Бура не сціхала. Я ўбачыў аганёк і загадаў

---

[1]) Сен-Прэ—герой славутага „рамана з пісьмаў" Ж. Ж. Руссо (1712—1778) „Юлія або новая Элоіза".

ехаць туды. Мы прыехалі ў вёску: у драўлянай царкве быў агонь. Царква была адчынена, за агарожай стаяла некалькі саней; па цвінтары хадзілі людзі. „Сюды! Сюды!“ закрычала некалькі галасоў. Я загадаў фурману пад‘ехаць. „Злітуйся, дзе ты забавіўся?—сказаў мне хтосьці:—нявеста непрытомная; поп не ведае, што рабіць, мы нарыхтаваліся ехаць назад. Выходзь-жа хутчэй!“ Я моўчкі выскачыў з саней і ўвайшоў у царкву, слаба асветленую двума ці трыма свечкамі. Дзяўчына сядзела на лавачцы ў цёмным куце царквы; другая церла ёй скроні. „Дзякаваць богу,—сказала гэта,—нарэшце вы прыехалі. Ледзьве, было, паненку не ўмарылі“. Стары свяшчэннік падышоў да мяне з запытаннем: „Загадаеце пачынаць?“—„Пачынайце, пачынайце, бацюшка,—адказаў я безуважна. Дзяўчыну паднялі. Яна паказалася мне не благою... незразумелая, недаравальная ветранасць... Я стаў каля яе перад налоем; свяшчэннік спяшаўся; трое мужчын і пакаёўка падтрымлівалі нявесту і заняты былі толькі ёю. Нас павянчалі. „Пацалуйцеся“, сказалі нам. Жонка мая павярнулася да мяне тварам. Я хацеў ужо яе пацалаваць... Яна крыкнула: „Ай, не ён! не ён!“ і ўпала непрытомная. Сведкі зірнулі на мяне спалоханымі вачыма. Я павярнуўся, вышаў з царквы бесперашкодна, кінуўся ў кібітку і закрычаў: пашоў!

„Божа мой!—закрычала Мар‘я Гаўрылаўна;—і вы не ведаеце, што сталася з беднай вашай жонкаю?“

„Не ведаю,—адказаў Бурмін,—не ведаю, як завуць вёску, дзе я вянчаўся, не памятаю, з якой станцыі паехаў. У той час я так мала надаваў значэння майму злачыннаму ўчынку, што, ад‘ехаўшы ад царквы, заснуў і прачнуўся на другі дзень раніцою, на трэцяй станцыі. Слуга, які быў тады са мною, памёр у часе паходу, так што не маю і надзеі знайсці тую, з якой пажартаваў я так жорстка і якая цяпер так жорстка адпомшчана“.

„Божа мой, божа мой!—сказала Мар‘я Гаўрылаўна, схапіўшы яго руку,—дык гэта былі вы! І вы не пазнаеце мяне?“

Бурмін пабляднеў... і кінуўся да яе ног...

Пераклад з рускае мовы

*М. ПАСЛЯДОВІЧА.*

# *Пушкін*

АЛЕСЬ ЖАЎРУК

I

Прытулак сумных дзён паэта,
Страху высокую тваю,
І шэсць акон, і хісткі гэты
Драўляны ганак пазнаю.

Дык гэта тут, ў глушы сасновай,
Выгнаннік горды дні лічыў,
Над белым вершам „Гадунова“
Сядзеў, забыўшыся ўначы.

То казкі слухаў,
то, пачуўшы
Знянацку бомы ў ночны час,
Ірваў фіранку:
—ці не Пушчын
З вятрамі неўскімі да нас?
Ці, зрэшты, у нашую святліцу,
Не Дэльвіг, лёгкі на ўспамін,
З баулам кніг, з марознай гліцай,
З бярэмам радасных навін?..
А над Расіяй пыл імглісты
Тым часам плыў.
І жудкі дзень
Пяці апухшых дэкабрыстаў
Хістаў над шыбеніцай цень.

II

Як і тады, к трыгорскім гумнам
Вядуць сцяжынкі між прысад
Туды, дзе з музаю задумнай
Блукаў самотны Александр.
Да хвой, да сініх іх павекаў
Злятае сон. Гусцее змрок.
І, здэцца, раптам чалавека
Здалёку чуцен лёгкі крок.

Вось ён падыйдзе, блізкі, просты,
З накідкай даўняй на плячы
І ўраз дыхне цяплом сяброўства
У старожкай цемені начы.

І скажа: —
Душна ў гэтых сценах,
Няма чым дыхаць.
Мне-б туды—
На берагі трывожнай Сены
Ад рускай тручанай вады..
І змоўкне ўраз. І згорбіць плечы.
А потым—
ўскіне галаву
І прачытае ў гонар стрэчы
З паэмы новую главу.

III

Прыдзі, паэт,
спрабуй—не горак
Наш хлеб, наш дзень і наш спачын.
Каб лепей—
выйдзі на прыгорак,
Дый змерай вокам далячынь.
Ад хваль Нявы—
наўсцяж да сініх
Каўказскіх гор,
да зор Крэмля,
Да ціхіх болдзінскіх будынін
Цвіце шчаслівая зямля.
Нашчэнт начы разбіты путы,
Народны гнеў сказаў: „Пара!“—
Глядзі,
над берагам пакуты—
Доўгачаканая зара.
Плыве і шырыцца,
поўнеба
Абняўшы полымем сваім,
Каб занядбаным—свежасць хлеба,
І нетры гор, мяцежным, ім.
І шум бароў, і слодыч вершаў—
Скажы, калі,
праз боль і здзек
Аб гэтым марыў нават лепш
Тваёй эпохі чалавек?

IV

Як змрок начы на золку чэзне—
Стагоддзе канула ў нябыт,
А ён ізноў—масквіч пачэсны,
Жывы паэт і барацьбіт.
Ён выракся таго сусвету
Праклятай тройчы той зямлі,

Дзе геній сонечны паэта
Глумілі каты, як маглі.
Плявалі ў твар сліной паганай,
Душылі ў ссылках колькі год,
І на дуэлі, гэтак званай,
Хацелі даканаць яго.
Каб, захлынуўшыся маркотай,
Ён паваліўся тварам ніц
З набітым ветрам снежным ротам
Пад плач здзічэлых навальніц.
А ён не змоўк, выгнаннік горды,
Ён, гнеўны, устаў з сваім пяром
У нашы мужныя кагорты
Жывым паэтам і сябром.

Масква—Пушкіна
лістапад 1936 г.



А. С. ПУШКІН У ТРУНЕ

## *А. С. Пушкіну*

**АЛЕСЬ ГУРЛО**

Даруе ласку і прывет
Зямля Совецкага Саюза.
Ў пашане ты у нас, паэт,
У нас ў пашане твая муза.

Мы цэнім твой паўстанчы кліч,
Мы цэнім голас твой лірычны.
Іронію тваю—твой біч—
Яшчэ і сёння моцнай лічым.

Каб ты устаць з магілы мог,
Каб ты асіліў ўладу смерці,
Убачыў-бы, як шмат дарог
У даль і сцелецца і ўецца.

У сад у наш прышла вясна,
Ўсё расцвілося сочным цветам,
Ўсе любяць горача у нас
Цябе, вялікага паэта.

Прайшоў ўжо век, мінуць вякі,
Ты-ж будзеш жыць і жыць адвечна!
Народ, паэты, мастакі
Твой вобраз будуць ўвекавечваць!

# *Соцыяльны сэнс канфлікта Пушкіна з рэчаіснасцю*

В. КІРПОЦІН

Да гэтага часу перавага лепшага разбору творчасці Пушкіна астаецца за Белінскім. Белінскі, к канцу жыцця, падышоў да разумення значэння класаў і класавай барацьбы ў гісторыі, але толькі падышоў. Таму Белінскі свой соцыяльны аналіз творчасці Пушкіна не мог правесці да канца і паслядоўна. За галоўнейшую рысу творчасці Пушкіна Белінскі лічыў яе мастацкую дасканаласць. Гістарычнае значэнне Пушкіна, як паэта, заключалася на думку Белінскага ў тым, каб „заваяваць, засвоіцьназаўсёды рускай зямлі паэзію, як мастацтва, так, каб руская паэзія мела пасля магчымасць быць выражэннем усякага напрамку, усякага сузірання, не баючыся перастаць быць паэзіяй і перайсці ў рыфмаваную прозу, таму Пушкін павінен быў з'явіцца выключна мастаком“. (Белінскі, т. XI, стар. 378). Геній Пушкіна праявіўся, паводле меркаванняў Белінскага, раней за ўсё ў форме, а не ў мыслі. Эстэтычная дасканаласць складае пафас паэзіі Пушкіна ў адрозненне ад другіх першаразрадных геніяў, у якіх уласна паэтычная сіла адступае на задні план перад зместам, перад філасофскай ідэяй.

Гэтага пункту гледжання Белінскі прытрымліваецца ва ўсіх сваіх артыкулах пра Пушкіна. Ён неаднаразова паўтарае „што непасрэдна-творчы элемент у Пушкіне быў мацней за свядомы, за элемент мыслення“ (том XII, стар. 29). Увесь цыкл артыкулаў пра Пушкіна заключаецца тым-жа акордам—„Пушкін быў пераважна паэт, мастак, і больш нічым не мог быць па сваёй натуры. Ён даў нам паэзію, як майстэрства, як мастацтва. І таму ён назаўсёды астанецца вялікім, узорным майстрам паэзіі, настаўнікам мастацтва“. (т. XII, стар. 218).

У высокай ацэнцы фармальных вартасцей паэзіі Пушкіна Белінскі зусім праў. І праз сто гадоў пасля смерці Пушкін у гэтых адносінах неперавышаны ўзор, недасяжны майстра. І ў сусветнай паэзіі Пушкіну тут належыць адно з самых першых месц. Пушкін даў як-бы норму мастацтва, законы гармоніі паэзіі і прозы былі дасягнуты ім з усёй дасканаласцю. Не прайшоўшы праз вывучэнне Пушкіна нельга зразумець ні прыроды, ні гісторыі літаратуры, як мастацтва (гаворка ідзе зразумела пра рускую літаратуру). Аднак, Белінскі сам не можа паставіцца да Пушкіна толькі як да „служыцеля муз“, як да прадстаўніка чыстага мастацтва. Белінскі для вытлумачэння паэзіі Пушкіна звяртаецца да вельмі дакладна выражанай класавай характарыстыкі, Белінскі знаходзіць у творах Пушкіна разгалінаваны і аформлены ідэалагічны змест.

У Белінскага атрымліваецца, што і класавая прырода Пушкіна і ідэалагічны змест яго мастацтва з'яўляюцца прэдыкатам (вызна-

чэннем) яго артыстычнасці. Класавую прыроду творчасці Пушкіна Белінскі, у главе, прысвечанай разбору „Еўгенія Онегіна", вызначае ў наступных выразах: „Заўважым адно: асоба паэта, якая так поўна і так ярка адлюстравалася ў гэтай паэме, усюды з'яўляецца такой прыгожай, гуманнай, але ў той-жа час пераважна артыстычнаю. Усюды бачыце вы ў ім чалавека, які душой і целам адданы асноўнаму прынцыпу, складаючаму сутнасць паказваемага ім класа, карацей, усюды бачыце рускага памешчыка... Ён нападае ў гэтым класе на ўсё, што супярэчыць гуманнасці, але прынцып класа для яго—вечная ісціна... І таму ў самой сатыры яго так многа любві, само адмаўленне яго так часта падобна на ўхваленне і любаванне... Успомніце апісанне сям'і Ларыных у другой главе і асабліва самога Ларына. Гэта было прычынай, што ў „Онегіне" шмат устарэла цяпер, але без гэтага, можа быць, і не вышла-б з „Онегіна", такой поўнай і падрабязнай паэмы рускага жыцця, такога пэўнага факта для адмаўлення мыслі, якая ў самым-жа гэтым грамадстве так хутка развівалася". (Белінскі, XII, стар. 144). Супярэчлівасць гэтага разважання несумненна. Калі Пушкін праяўляе сябе ў „Еўгеніі Онегіне" пераважна сваёй артыстычнай стараной, толькі як мастак формы, то нельга сказаць так пэўна, што ён выступае ў сваім творы як дваранін і як памешчык, і што раман яго ўстарэў. І як-бы ў супроцьвагу таму, што Белінскі толькі што сказаў пра Пушкіна як пра пісьменніка, які стварыў толькі форму, як сродак паэтычнага выяўлення зместу, ён яшчэ дадае: „Онегіна" можна назваць энцыклапедыяй рускага жыцця і ў вышэйшай ступені народным творам"... Гэта паэма „была актам свядомасці для рускага грамадства, амаль першым, але затое якім вялікім крокам уперад для яго". Такая ацэнка намнога перавышае прызнанне паэта толькі прадстаўніком мастацтва для мастацтва.

І ў заключнай мыслі артыкулаў пра Пушкіна, там, дзе Белінскі гаворыць пра яго, як пра ўзорнага майстра паэзіі, ён дадае ў яўнай супярэчнасці з сваёй уласнай прадпасылкай, што Пушкіну належыць роля настаўніка не толькі паэзіі, але і гуманнасці і нраўственасці не толькі для сучаснасці, але і для будучых пакаленняў. Тое, што Белінскі лічыць у паэзіі Пушкіна за здольнасць развіваць у людзей пачуццё гуманнасці,—пачуццё безгранічнай павагі да чалавечай асобы,—з'яўляецца рэзультатам прагрэсіўнага і разгалінаванага ходу ідэй, якія не маглі быць практычна рэалізаваны ў эксплаататарскім грамадстве, але якія ад гэтага не трацілі свайго перадавога характару. Такім чынам, не толькі па класавай сваёй афармленасці, але і па ідэйнаму свайму багаццю паэзія Пушкіна, нават з пункту гледжання самога Белінскага, не заслугоўвае залічэння ў разрад чыстага мастацтва.

Супярэчлівасць ацэнак Белінскага выцякае з таго, што ён да канца не мог пранікнуць у социяльную значымасць творчасці Пушкіна. З аднаго боку Белінскі бачыў у творчасці Пушкіна выражэнне дваранскага прынцыпа, а з другога боку—пропаведзь гуманнасці і роўнасці, павагі да чалавека, як да чалавека, што было несумяшчальна з памешчыцкай прыродай і ідэалогіяй. Не разумеючы дыялектыкі класавай барацьбы, Белінскі не мог растлумачыць

гэтай супярэчнасці, якая была кандэнсаваным выражэннем усіх супярэчнасцей у творчасці Пушкіна. Ен звязваў гуманнасць, чалавекалюбства з эстэтычнасцю, з мастацкай сілай, гармоніяй і мерай пушкінскай творчасці. Не толькі Белінскі—і сам Пушкін не разумеў да канца соцыяльных працэсаў, якія знашлі адлюстраванне ў яго творчасці. Яму здавалася, што ён адгароджваецца ад патрабаванняў сучаснікаў, што ён адыходзіў у сферу чыстага мастацтва, выбіраючы сюжэты гістарычныя і іншакраінныя, але голас рушыўшых часоў, асудзіўшых нікалаеўскую Расію і прыгонны лад, гучаў у яго творчасці, хоць своеасабліва, але ўсё мацней і мацней.

У зародкавай, яшчэ зусім нясталай, а таму недаступнай успрыйманню сучаснікаў форме ў пушкінскай творчасці адлюстраваліся канфлікты, якія ў далейшым выраслі ў рэволюцыйную барацьбу сусветнай важнасці. З папраўкай на рознасць эпох мы можам у адносінах да Пушкіна паўтарыць сказанае Леніным пра Талстога: „Супастаўленне імя вялікага мастака з рэволюцыяй, якой ён яўна не зразумеў, ад якой яўна адхіліўся, можа паказацца на першы погляд дзіўным і штучным. Не называць-жа люстрам таго, што відавочна не адлюстроўвае з'явы правільна? Але наша рэволюцыя—з'ява надзвычай складаная; сярод масы яе непасрэдных савяршыцеляў і ўдзельнікаў ёсць многа соцыяльных элементаў, якія таксама яўна не разумелі таго, што адбываецца, таксама адхіляліся ад сапраўдных гістарычных задач, пастаўленых перад імі ходам падзей. І калі перад намі сапраўды вялікі мастак, то некаторыя хаця-б з істотных бакоў рэволюцыі ён павінен быў адлюстраваць у сваіх творах". (Ленін, т. XII, стар. 331).

Пушкін не быў і не мог быць люстрам рускай рэволюцыі, падобна Льву Талстому—па адных ужо хранaлагічных умовах, але супастаўленне імя Пушкіна з працэсамі выспявання рэволюцыі ў Расіі выглядае зусім не так парадаксальна, як гэта можа паказацца на першы погляд.

Раней за ўсё Пушкін у сваёй творчасці шырока і поўна адлюстраваў рух дваранскіх рэволюцыянераў, дзекабрыстаў. Толькі з юрыдычнага пункту погляду можна аддзяліць паэзію Пушкіна ад руху дзекабрыстаў па той прычыне, што ён фармальна не ўваходзіў у змову. Ён адлюстраваў сілу і слабасць руху, яго перадавыя ідэі і яго баязнь мас, яго апасенні і сумненні, адлюстраваў і працэсы, выкліканыя паражэннем 14 снежня.

Але пасля паражэння дзекабрыстаў творчасць Пушкіна і з пункту гледжання соцыяльнага зместу не застывае на месцы, не павісае ў паветры.

Пушкін у некаторых адносінах таксама не разумеў таго, што адбываецца. Ён таксама адхіляўся ад сапраўдных гістарычных задач, адыходзячы ў чыстае мастацтва, імкнучыся замкнуцца ў кола свайго дому і сваіх сяброў—і ўсё-ж ён, як вялікі мастак, адлюстраваў у сваёй творчасці і сваім светапоглядзе некаторыя з істотных бакоў наспяваўшых цэнтральных класавых канфліктаў, пасля ўжо 1825 г. Якія-ж соцыяльныя супярэчнасці Пушкін адлюстраваў у сваёй творчасці?

Вызначэнне Белінскага, які назваў Пушкіна дваранскім паэтам,

з'яўляецца да гэтага часу з усіх існуючых вызначэнняў класавай сутнасці творчасці Пушкіна самым правільным, самым блізкім да ісціны. Зусім неразумна і нават бязглузда характарызаваць Пушкіна, цэнтральную фігуру рускай літаратуры як прадстаўніка дробных праслоек якіх-небудзь класаў, ператвараючы яго ў нейкага партыкулярнага ідэолага. Безумоўна, у кожным класе ёсць вядомыя супярэчнасці частковых інтарэсаў, але ў той-жа час існуе агульна-класавы інтарэс і выражаючая яго, дамінуючая, больш-менш афармленая агульнакласавая ідэалогія. Смешна дапускаць, што ўвесь Пушкін вызначаўся ушчэмленым самалюбствам адцесненага ад трона збяднеўшага арыстакрата. Пушкін вырас на дваранскай глебе, яго сімпатыі накіраваны ў першую чаргу на прадстаўнікоў класа дваран, ён часта выступае з ідэалагічнымі канцэпцыямі, вызначанымі дваранскім колам інтарэсаў. У дадатак да довадаў Белінскага можна падаць рад публіцыстычных выказванняў Пушкіна, якія з несумненнасцю пацвярджаюць дваранскі характар яго ідэалогіі, калі ўзяць яе „ўвогуле і цалкам". Як дваранскі ідэолаг, Пушкін прызнае неабходнасць саслоўнага дзялення грамадства. Усе саслоўі роўна неабходныя, але неабходнасць саслоўяў высоўвае на першы план іменна дваранства. „Агіднай уладзе дэмакратыі" Пушкін супроцьстаўляе „дэвіз Расіі suum cuique—кожнаму сваё" (аб „Истории поэзии" С. Шэвырова), г. зн. кожнаму саслоўю сваё строга вызначанае месца ў грамадскай іерархіі. У „Опыте отражения некоторых литературных обвинений" Пушкін, аглядваючыся назад, улічваючы розныя этапы свайго развіцця, у тым ліку і моманты найбольш ярка выражанага палітычнага вольнадумства, з поўнай падставай заяўляе:

„Якім-бы не быў склад маіх думак, ніколі не раздзяляў я з кім-бы то ні было дэмакратычнай нянавісці да дваранства. Яно заўсёды здавалася мне неабходным і натуральным саслоўем вялікага адукаванага народу. Гледзячы вакол сябе і чытаючы старыя нашы летапісы, я шкадаваў, бачучы, як дрэўнія дваранскія роды зніштажаліся, як астатнія упадаюць і знікаюць, як новыя прозвішчы, новыя гістарычныя імёны, заступіўшы месца папярэдніх, падаюць ужо, нічым не ахаваныя, і як імя двараніна, час-ад-часу болей прыніжанае, стала нарэшце ў прытчу і пасмяянне нават разначынцам, якія вышлі ў дваране, і дасужлівым (журнальным) балагурам"!

Пушкін шкадуе аб заняпадзе дваранства ў Заходняй Еўропе, раннія прыметы якога ён чутка ўлоўліваў таксама ў Расіі: ён свядома супроцьстаўляе саслоўны лад, з перавагаю дваранства, самай перадавой краіне буржуазнай дэмакратыі—Злучаным Штатам Паўночнай Амерыкі. Ён піша ў артыкуле „Джон Теннер": „Некалькі глыбокіх розумаў у нядаўні час узяліся за даследванне нраваў і пастанаўленняў амерыканскіх, і іхназіранні ўзбудзілі зноў пытанні, якія лічылі даўно ўжо вырашанымі. Павага да гэтага новага народу, яго ўкладу, плоду навейшай асветы, моцна пахіснулася. Са здзіўленнем убачылі дэмакратыю ў яе агідным цынізме, у яе жорсткіх забабонах, у яе нясцерпным тыранстве. Усё благароднае, бескарыслівае, усё ўзвышаючае душу чалавечую—падаўленае няўмольным эгаізмам і страсцю да забяспечанасці (comfort); большасць, нагла прыцясняючую грамадства; рабоў-неграў сярод аду-

каванасці і свабоды; радаслоўныя ганенні ў народзе, не маючым дваранства; з боку выбаршчыкаў прагнасць і зайздрасць; з боку кіруючых баязлівасць і ліслівасць; талент, з-за павагі да роўнасці, вымушаны да астракізма; багач, які надзяе абадраны каштан, каб на вуліцы не абразіць ганарлівае жабрацтва, якім ён употай пагарджае: такая карціна Амерыканскіх Штатаў, нядаўна выстаўленая перад намі".

Дваранская ідэалогія мае рэакцыйны характар. Пушкін не вычэрпваецца дваранскай ідэалогіяй. Пра гэта ўжо было сказана, да гэтага нам яшчэ прыдзецца вярнуцца ў далейшым. Пры ацэнцы Пушкіна нам трэба памятаць, што ён стаіць у пачатку працэсаў палітычнай і класавай дыферэнцыяцыі, што кола перадавых дзеячоў, сярод якіх яму даводзілася дзейнічаць, было „страшэнна вузкае" (словы Леніна) і да 14 снежня 1825 г., і што пасля 14 снежня яно проста налічвала спачатку адзінкі.

У такіх абставінах тэндэнцыі развіцця грамадскага мыслення цікавячага нас дзеяча, яго узаемаадносіны з другімі сучаснымі плынямі з'яўляюцца больш важнымі, чым фармальна вызначаны змест тых або іншых палажэнняў, узятых ізалявана, статычна. Усё-ж не гледзячы на гэтыя важныя палажэнні, мы павінны сказаць, што дваранская ідэалогія вяла нават і Пушкіна да рэзка рэакцыйных думак. Такія яго выказванні пра рэкруцтва ў артыкуле „Путешествие из Москвы в Петербург", прысвечаным ацэнцы галоўнейшага твору Радзішчэва:

„Рэкруцтва наша цяжкае: двудушнічаць няма чаго. Даволі ўспомніць пра законы супроць сялян, якія сябе калечаць, каб пазбегнуць салдацтва. Як цяжка было Пятру Вялікаму прывучыць народ да рэкруцтва! Але ці можа дзяржава абыйсціся без пастаяннага войска? Поўмеры ні да чаго добрага не прыводзяць. Канскрыпцыя па кароткатэрміновасці службы, на працягу 15 год, робіць з усяго народу адных салдат. У выпадку народных мецяжоў, мяшчане б'юцца, як салдаты; салдаты плачуць і талкуюць, як мяшчане...

Улада памешчыкаў у тым выглядзе, у якім яна цяпер існуе, неабходна для рэкруцкага набору. Без яе ўрад у губернiях не мог-бы сабраць і дзесятай долі патрэбнай колькасці рэкрутаў. Вось адна з тысячы прычын, якія вымушаюць нас прысутнічаць у нашых памесцях, а не растрачваць сродкі ў сталіцах пад выглядам шчырай службы, але на самай справе з адзінай любві да рассеянасці і да чыноў!"

Такім чынам, Пушкін—паэт, настолькі яшчэ звязаны з дваранствам, што ў некаторых выпадках ён выражае самыя рэакцыйныя ідэі свайго класа. Аднак, гэта несумненнае палажэнне выражае не ўсю праўду аб класавай прыродзе Пушкіна і нават не самую важную частку праўды. Увесь Пушкін знаходзіўся ў той-жа час у вострым канфлікце з дваранскім грамадствам і яго палітычнай сістэмай, з царом!

Пра гэты канфлікт па сутнасці справы ведаў і Белінскі.

У паданай ужо характарыстыцы Белінскага сказана, што Пушкін „нападае ў гэтым класе (памешчыкаў) на ўсё, што супярэчыць

гуманнасці, але прынцып класа для яго вечная ісціна“. Гуманнасць як сістэма поглядаў супярэчыць прынцыпу дваранства, класа памешчыкаў. Значыцца думка Белінскага зводзіцца да таго, што Пушкін не парваўшы яшчэ з дваранствам, у той-жа час ужо знаходзіцца ў супярэчнасці са сваім класам. Нават у рэакцыйных выказваннях Пушкіна мы знаходзім яўныя сляды гэтай супярэчнасці. Так „агідную ўладу дэмакратыі“ Пушкін асуджае за невуцтва, за адносіны да навукі і паэзіі, не як да мэты, а як да сродка (аб „Истории поэзии“ С. П. Шэвырова), але невуцкае трэтыраванне асветы, варожасць да асветы з'яўляецца ўласцівасцю дваранскага грамадства ў непамерна большай ступені, чым буржуазнага. Пушкін асуджае амерыканскую дэмакратыю за тыранства, за рабства неграў. Але тыранства і праізвол у феадальна-прыгонніцкім ладзе праяўляецца непамерна вастрэй, чым у асяроддзі дэмакратычных мяшчан, а рабства белых неграў было не лягчэй за рабства чорных. Значыць, у Пушкіна сама крытыка буржуазнага правапарадку з дваранскіх пазіцый змяшчала ў сабе палажэнні, якія супярэчылі асновам дваранскага светапогляду яго часу. Ідэалагічны змест канфлікта Пушкіна з дваранскай ідэалогіяй нам вядомы: гэта канфлікт прагрэсіўнага буржуазнага светапогляду, якому яшчэ была ўласціва шчырая ілюзія, што ён выступае прадстаўніком інтарэсаў усяго народу, з рэакцыйнымі поглядамі і практыкай памешчыкаў-прыгоннікаў. Пушкін у гэтым канфлікце яшчэ не парваў канчаткова з класам, да якога належыў па паходжанню і выхаванню, але канфлікт гэты настолькі кідаецца ў вочы, што прывёў шмат каго да погляду, што Пушкін стаў паэтычным выразнікам ужо другіх соцыяльных тэндэнцый—не дваранскіх, а буржуазна-капіталістычных. Думка гэта трапіла нават у „Литературную энциклопедию“, як выражэнне агульнапрызнанага пункту гледжання. У артыкуле пра Пушкіна там сказана наступнае: „Пушкін вырас на глебе дваранскай культуры і цесна звязаны з дваранскім грамадствам. Разам з тым, важнейшая рыса пушкінскай творчасці— крытыка феадальных адносін. Пушкін належаў да тых пластоў дваранства, якія станавіліся на шлях капіталістычнага развіцця“. Згодна гэтаму погляду Пушкін аказваецца прадстаўніком не дэградыруючай арыстакратыі, а другой дваранскай праслойкі—памешчыкаў, якія капіталізаваліся. І той і другі погляд з'яўляецца рэзультатам механічнага соцыялагізавання. Другі пункт гледжання, які разглядае Пушкіна як ідэолага капіталізуючагася дваранства, з'яўляецца спрашчэннем пункту гледжання пакойнага А. В. Луначарскага, выражанага значна больш гнутка, болей багатага адценнямі, маючага часткова гіпатэтычны характар. З прычыны цікавасці пункту гледжання А. Луначарскага выпісваю яго думку падрабязней:„...тая галіна, на якой сядзеў Пушкін, была гнілая і трашчала пад ім. У Болдзіне, куды Пушкін паехаў з лепшым намерам заняцца сельскай гаспадаркай, ён перажывае буру ў сваёй класавай свядомасці, вымушаны ў значнай ступені пахаваць свае надзеі нават на такое сціплае выйсце для культурнага двараніна і ўзважыць— быць можа, пакуль напоўсвядома—зусім другія шляхі, якія ўжо вялі яго прэч з лагера дваранства.

Гэтае выйсце, аднак, не было такое здзіўляючае, і, можна сказаць, тэатральнае, як выйсце Талстога. Пераломү тут напэўна не было-б, калі-б лёс і даў Пушкіну пражыць значна больш доўгае жыццё. У гэтым выпадку мы толькі ўбачылі-б гераічныя стараньні Пушкіна канчаткова стаць рэалістам, празаікам, журналістам і захаваць сваю незалежнасць шляхам продажу рукапісаў на рынку, г. зн. шляхам вольнага служэння новым разгортваючымся ў краіне сілам безымяннага, нечыноўнага, нерадавітага чытача, на якога ўжо можа, хоць і пакутліва, пачынае працаваць Белінскі; можа быць мы ўбачылі-б далейшую дружбу Пушкіна з Белінскім, можа быць, мы ўбачылі-б Пушкіна на шляхах герцэнаўскіх.

Усё гэта, вядома, не талстоўскія ўцёкі з барства ў мужыцтва, а хутчэй асцярожны і поўны сумненняў пераход з барскіх пазіцый на буржуазныя. Можна, аднак, з упэўненасцю сказаць, што буржуазны цынізм, аголеныя буржуазныя праграмы ні ў якім выпадку не былі б прыняты Пушкіным і што яго далейшы светапогляд аформіўся-б або ў якія-небудзь цікавейшыя крысталы заходніцкаславянафільскіх пераходаў і амальгам, або нават у форму спачування займаючайся зары соцыялізма ў тых утапічных і разам з тым так эстэтычна прывабных праяўленнях, якія нараджаліся ў той час на Захадзе (Сен-Сімон і інш.). Але ўсё гэта можа быць толькі гаданнем". (Уступны артыкул да шасцітомнага збору твораў Дзяржвыдата).

Луначарскі выказвае рад меркаванняў, але ўсё-ж схіляецца да таго, што Пушкін у сваім развіцці пераходзіў на буржуазныя пазіцыі.

Аднак, цэлы рад фактаў перашкаджае нам згадзіцца з палажэннем, згодна якому Пушкін, пакідаючы барска-дваранскія пазіцыі, ператвараўся ў буржуазна-капіталістычнага ідэолага. Так, Пушкін быў у канфлікце з класам, які яго ўзрасціў, Пушкін быў у асяроддзі свайго класа адшчапенцам—гэта значыць, што ён ужо рухаўся па напрамку ўперад і далей ад свайго класа. Куды рухаўся—гэта пытанне не лёгкае для даследчыкаў, адказ на яго быў няясны для самога Пушкіна. Калі працэс разрыву са сваім класам быў пакутны і поўны блуканняў для Некрасава, Шчэдрына і Талстога, якія жылі ў пазнейшую эпоху, калі аформіліся ўжо і ліберальна-буржуазны і разначынна-сялянскі напрамак грамадскай думкі, калі было што выбіраць, то як было Пушкіну, якому прыходзілася арыентавацца ў палітычнай пустэльні, сярод маўклівых або ўслаўляючых, сярод сагнутых спін, калі Белінскі і Герцэн, якія так многа пасунулі ўперад палітычную думку ў Расіі, толькі пачыналі свае шуканні. Суб'ектыўна ён гатовы быў замкнуцца ў свой дом, у сваё памесце, што нагадвае пэўны этап у біяграфіі Талстога. Гэта было заўважана ўжо Луначарскім: „Ён гатовы быў нават адмовіцца,—пісаў ён,—ад палітычнага ўплыву не толькі асабістага, але і за сваю групу, ён гатоў быў адыйсці ў партыкулярызм, гатоў быў паставіць сабе за задачу (такі перыяд быў і ў Талстога) зварот да сядзібы, да памесця, добрагаспадарчае адшэльніцтва, падфарбаванае высокай культурай для сябе, для

культурнейшых сучаснікаў і патомкаў". (Луначарскі, ужо цытаваны артыкул). Ну, а суб'ектыўна? Луначарскі, а ўслед за ім і большасць сучасных літаратуразнаўцаў лічаць, што Пушкін рухаўся да буржуазнай свядомасці. Ці так гэта? Разабрацца ў гэтым нам паможа высвятленне пытання, як Пушкін адносіўся да капіталізма, знаёмага яму з уважлівага назірання за еўрапейскім жыццём і авангардныя праяўленні якога хоць-бы ў выглядзе грошай ён сустракаў і вакол сябе ў Расіі.

Пушкін думаў пра капіталізм, ён супастаўляў соцыяльны лад Расіі з соцыяльным ладам Англіі. Дакапіталістычную структуру Расіі Пушкін ацэньваў вышэй за грамадскія адносіны Англіі, якая прайшла ўжо праз прамысловы пераварот, з яе здзіўляючым антаганізмам багацця і жабрацтва. Надзвычай важна, што адмоўныя адносіны Пушкіна да соцыяльнай структуры самай перадавой капіталістычнай краіны Еўропы былі выкліканы становішчам яе народных мас, неймавернай эксплаатацыяй пролетарыята і яго поўнай незабяспечанасцю. Становішча рускага прыгоннага селяніна Пушкін лічыў непамерна больш добрым, чым палажэнне англійскага пролетарыята.

„Прачытайце скаргі англійскіх фабрычных работнікаў,—піша ён у адным месцы,—валасы паднімуцца ад жаху. Колькі агідных катаванняў, незразумелых мучэнняў! Якое халоднае варварства з аднаго боку, з другога якая страшная беднасць! Вы падумаеце, што справа ідзе пра будову фараонавых пірамід, пра яўрэяў, якія працуюць пад бічамі егіпцян. Зусім не, справа ідзе пра сукны г-на Смідта або пра іголкі г-на Джаксона. І заўважце, што ўсё гэта ёсць не злоўжыванне, не злачынства, але адбываецца ў строгіх граніцах закона. Здаецца, што няма ў свеце болей няшчаснага, як англійскі работнік, але паглядзіце, што робіцца там пры вынаходцы новай машыны, вызваляючай раптам ад катаржнай працы тысяч пяць або шэсць народу і пазбаўляючай іх апошняга сродку да пражыцця. У нас няма нічога падобнага. Павіннасці наогул не цяжкія. Падушная плоціцца мірам, баршчына вызначана законам; аброк не разарыцельны (апрача як поблізу Масквы і Пецербурга, дзе разнастайнасць абаротаў прамысловасці ўзмацняе і раздражняе карысталюбства ў памешчыкаў). Памешчык, налажыўшы аброк, пакідае на волю свайго селяніна даставаць яго, як і дзе ён хоча. Селянін прамышляе, чым уздумае, і ідзе часам за 2000 вёрст зарабляць сабе грошы. Злоўжыванняў усюды многа; крымінальныя справы ўсюды жахлівыя". (Том VI, стар. 125—126). (Путешествие из Москвы в Петербург", гл. V, „Русская изба").

Становішча англійскіх пролетарыяў падымае ў Пушкіна валасы ад жаху! Дальнабачлівасці Пушкіна робіць гонар тое, што ён бачыў, што бядоты рабочых былі рэзультатам не злоўжыванняў і выпадковых акалічнасцей, а вынікам сістэмы і закона. Пушкін у пэўнай меры зразумеў унутраную механіку капіталістычнага прагрэса, які развіваецца на касцях пролетарыяў. Бядоты народных мас у Англіі паэт параўноўвае з карцінамі егіпецкага рабства. Іга егіпецкіх рабоў эстэтычна змякчалася ў вачах Пушкіна біблейскай аддаленасцю часоў і бажэсцвенай веліччу азіяцкага дэспатызма

фараонаў, але ўлада над народнымі масамі, аналагічная ўладзе ўладароў Егіпта! у руках абмежаваных мяшчан Смітаў і Джаксонаў надавала сучаснай соцыяльнай трагедыі адценне прыніжаючай з пункту гледжання Пушкіна, пошласці.

На думку Пушкіна рускі прыгонны разам з большай доляй забяспечанасці, захаваў болей чалавечай годнасці, кемлівасці, ініцыятыўнасці, ахайнасці. Рускі прыгонны мае сваё жыллё, свой дом, гарантыю нейкага мінімума асабістага жыцця і незалежнасці. У пролетарыя няма і гэтага.

„У Расіі няма чалавека,—піша ён,—які-б не меў свайго *ўласнага* жылля. Жабрак, ідучы вандраваць па свету, пакідае сваю хату. Гэтага няма ў чужых краях. Мець карову ўсюды ў Еўропе ёсць знак раскошы; у нас не мець каровы ёсць знак страшнай беднасці. Наш селянін ахайны па прывычцы і па правілу: кожную суботу ён ходзіць у баню; мыецца па некалькі разоў на дзень...“

П. Е. Шчоголеў лічыць, што Пушкін у сваім супастаўленні становішча рускага прыгоннага селяніна з англійскім пролетарыям накрывіў душой, свядома паграшыўшы супроць сапраўднасці: „Пушкін, ведаючы болдзінскую сапраўднасць,—пісаў ён у кнізе „Пушкин и мужики“,—жабрацкі, рабскі быт разораных маёнткаў Пушкіных, і таму сумным помнікам рэзкай неадпаведнасці жыццёвай праўдзе з'яўляецца паказ прыгоннага мужыка ў параўнанні з англійскім рабочым у тых-жа „мыслях на дороге“ (інакш—„Путешествие из Москвы в Петербург“—В. К.), паказ, які дае повад гаварыць пра абарону прыгонных устояў... у сваіх маёнтках Пушкін не мог знайсці пацверджання добраму становішчу мужыка... Сапраўды, у сваёй публіцыстыцы, якая, не гледзячы на ўсе кампрамісы, не ўбачыла свету, Пушкін перагнуў, і нават занадта“. Шчоголеў памыляецца. Пушкін не крывіў душой, ён добрасумленна заблуджаўся. Ён не замазваў цяжкага становішча сялян, але лічыў яго рэзультатам злоўжыванняў. Мы ўжо цытавалі: „Злоўжыванняў усюды многа; крымінальныя справы ўсюды жахлівыя“—і Пушкін, як-бы аберагаючы сябе ад няправільных тлумачэнняў, зноў паўтарае: „Барані мяне божа быць паборнікам і прапаведнікам рабства; я кажу толькі, што дабрабыт сялян цесна звязаны з карысцю памешчыкаў і гэта відавочна для кожнага. Злоўжыванні сустракаюцца ўсюды“.

Для ацэнкі эвалюцыі Пушкіна надзвычай цікава супаставіць паданыя разважанні Пушкіна, якія належаць да 1833—1835 г. г. з „Деревней“, напісанай у 1819 г., у перыяд вострага палітычнага вольнадумства паэта. Ацэнка становішча прыгонных сялян у абодвы перыяды зусім аднолькавая. І ў 1819 г. Пушкін аптымістычна глядзіць на матэрыяльныя ўмовы існавання сялян. Жыллё і карова ўваходзяць як атрыбуты і ў паэтычнае апісанне вёскі, удзельнічаючы ў стварэнні эстэтычнага эфэкта, афарбаванага ў светлыя тоны.

...Нивы полосаты,
Вдали рассыпанные хаты,
На влажных берегах бродящие стада,
Овины дымные и мельницы крылаты;
Везде следы довольства и труда.

Ацэнка матэрыяльнага становішча рускага селяніна амаль не змянілася ў Пушкіна, але палітычныя яго погляды змяніліся вельмі значна. Аднак, Пушкін, і шукаючы прымірэння з самаўладствам, таксама астаецца непрымірааым з прыгонным правам, як і ў перадснежаньскі перыяд. Толькі малады Пушкін спадзяваўся, што час распрыгонення блізкі, а сталы Пушкін, Пушкін—палоннік Нікалая І, з роспаччу ўбачыў, што ўмовы ліквідацыі рабства не прыспелі. „Лёс селяніна,—заканчваецца глава „Русская изба“ у артыкуле, адкуль узяты ўсе паданыя цытаты,—паляпшаецца са дня на дзень па меры распаўсюджання асветы... Дабрабыт сялян цесна звязаны з дабрабытам памешчыка; гэта відавочна для кожнага. Безумоўна, павінны яшчэ адбыцца вялікія перамены; але не трэба прыспешваць часу і без таго ўжо даволі дзейнага. Лепшыя і трывалейшыя змены гэта тыя, якія адбываюцца ад аднаго паляпшэння характараў, без гвалтоўных патрасенняў палітычных, страшных для чалавецтва...“

Пушкін патрыярхальна аб'ядноўваў інтарэсы памешчыка і селяніна. Гэта вынікала з яго становішча двараніна, але ў той-жа час настойлівае імкненне да ліквідацыі прыгоннага права і пасля разгрому дваранскай рэволюцыі дзекабрыстаў, сведчыць, што пушкінская крытыка капіталізма адлюстроўвала адмоўныя адносіны да яго прадстаўнікоў дакапіталістычнай гаспадаркі не толькі ў асобе пануючых, але часткова і ў асобе прыгнечаных, у асобе эксплаатуемых. Нас пры гэтым не павінна здзіўляць баязнь рэволюцыі ў Пушкіна. Рускі мужык, тады яшчэ рэлігійны і вернападданы, у сваей пераважнай большасці, таксама ў той час чакаў паляпшэння сваей долі зверху.

Адмоўныя адносіны да капіталістычнай маралі адлюстраваліся і ў мастацкай творчасці Пушкіна. Галоўная ідэя „Скупого рыцаря“—абесчалавечваючая ўлада грошай. Сын скупога рыцара Альбер—не дрэнны чалавек. Ён—эпікурэец, гуляка, тып, да якога Пушкін заўсёды адносіўся ў некаторай ступені спачувальна. Прапанова растаўшчыка атруціць бацьку спачатку проста не ўмяшчаецца ў яго галаву.. Зразумеўшы яго, ён прыходзіць у ярасць, тут-жа аднак ператвараючы свае абурэнне ў хітры сродак забраць грошы ў неасцярожнага мянялы. Але ў той-жа час Альбер з радасцю прымае выклік бацькі, спадзяючыся забіць яго на законнай дуэлі, каб паскорыць атрыманне спадчыны. Улада грошай разбурае маральныя ўстоі. Сына не страшыць перспектыва забойства бацькі, ён шкадуе, што герцаг перашкаджае яму забіць бацьку.

Сын ужо не можа зразумець жаху герцага, прадстаўніка разбураемых грашамі феадальных дабрачынцаў. Ён не здаволен міратворлівасцю герцага. Але і бацька Альбера, скупы рыцар, страціў чалавечы воблік пад уладай грошай. Ён жорсткі, ён дабіваецца сваіх скарбаў любой цаной. Золата разбурыла патрыярхальнасць старых часоў, прынёсшы ўзамен няпраўду і злачынства. Не буду падаваць яго маналог, дзе гэта выражана. Ён занадта вядомы.

Скупы рыцар ведае разбуральную сілу грошай, але ён ужо знаходзіцца беспадзельна пад іх уладай. Ён ва ўладзе страшнай сілы, ён трагічны—таму што ён ахвяра сваёй страсці, але ў той-жа час

ён актыўны праваднік новай бесчалавечнай маралі, якая прышла на змену разбуранай феадальнай нраўственасці. Да самых святых пачуццяў, сумлення, гонару, бацькаўскіх абавязкаў ён паставіўся зняважліва ў імя набывання. Скупы рыцар двойчы бесчалавечны. У ахвяру прагнасці да грошай ён прынёс не толькі другіх, але і сябе, сваю асобу, свае неад'емнае права на нармальныя, натуральныя пачуцці і нармальнае, натуральнае развіцце:

Кто знает, сколько горьких воздержаний,
Обузданных страстей, тяжелых дум,
Дневных забот, ночей бессонных мне
Все это стоило? Иль скажет сын,
Что сердце у меня обросло мохом,
Что я не знал желаний, что меня
И совесть никогда не грызла, совесть
Когтистый зверь, скребящий сердце, совесть
Незванный гость, докучный собеседник,
Заимодавец грубый, эта ведьма,
От коей меркнет месяц и могилы
Смущаются и мертвых высылают?

У „Скупом рыцаре“ ўлада грошай выступае пакуль толькі ў выглядзе страсці да накаплення скарбаў, але і гэтага дастаткова Пушкіну, каб паказаць, што грошы накапляюцца на касцях, на крыві, на бесчалавечнасці, што яны нясуць з сабой патокі бруду і безнраўственасці. Абвінаваўчы прысуд, вынесены капіталізму ў гэтай драме, мае маральны характар,—але ён сказаны ўпэўнена і велічна. Старая нраўственасць разбурана, а на змену ёй ідзе забойства, рабаўніцтва, подласць, сын паўстае на бацьку, бацька падымае руку на сына. Гасуб на змену Тазіту выступае прадстаўніком новай болей высокай нраўственасці—грошы-ж на думку Пушкіна нясуць толькі разбурэнне. Асуджэнне капіталізма ў Пушкіна тым мацней, тым безагаворачней, што ён не бачыць яго творчага, яго прадукцыйнага боку. Ён крытыкуе капіталізм не з пункту гледжання будучыні, а з пункту гледжання мінулага. Агульная ацэнка надыходзячых новых часоў, дзе грошы будуць уладарыць безпадзельна, рэзюміруецца ў воклічы герцага:

Ужасный век, ужасные сердца!

Ідэя „Скупого рыцаря“ па новаму паўтараецца ў „Пиковой даме“. Самы выбар галоўнага героя цікавы—Герман інжынер, хоць і ваенны, але ўсё-ж чалавек новай прафесіі, некалькі не звычайны для дваранскага кола. Герман—чалавек халоднага развважлівага разуму і моцных страсцей. „У яго профіль Напалеона і душа Мефістофеля“—але ўсе вялікія здольнасці яго сканцэнтраваны на адной думцы—на ўзбагачэнні, на грошах. „Деньги—вот чего алкала его душа“. Ад страсці да грошай Герман становіцца забойцам старой графіні, ад страсці да грошай ён топча натуральнае пачуццё кахання да жанчыны. Плач закаханай Лізы не кранае ні аднай струны ў яго сэрцы: „Герман смотрел на нее молча, сердце его также терзалось, но ни слезы бедной девушки, ни удивительная прелесть ее горести не тревожили суровой души его. Он не чувствовал угрызения со-

вести при мысли о мертвой старухе. Одно его ужасало: невозвратная потеря тайны, от которой ожидал обогащения". Герман, як і Скупы рыцар, фігура трагічная. Ён канчае вар'яцтвам—страсць да грошай і тут праяўляе сябе, як жахлівая разбураючая сіла. Адносіны Пушкіна да капіталізма, у той форме, у якой ён меў з ім справу, у вядомай ступені прадыктаваны арыстакратычнай пагардай да гандлярства, да грошай, і арыстакратычнай ідэалізацыяй феадальна-памешчыцкіх нраваў. Аднак, арыстакратычны момант далёка не вычэрпвае адмоўных адносін Пушкіна да буржуазна-капіталістычнай нраўственасці. Вядома, што і ў адносінах Герцэна да капіталізма псіхалагічныя рысы пана-арыстакрата адыгралі сваю ролю. Пакуль абмяжуемся ўстанаўленнем факта, што Пушкін адносіўся да ўзнікаючага капіталізма, да яго авангардных праяўленняў у Расіі адмоўна. Ён асуджаў капіталістычную нраўственасць, якая нараджалася. Гэтая акалічнасць многа дапамагае нам у высвятленні прыроды адзіноцтва Пушкіна. *Пушкін быў дваранскі паэт і ў той-жа час ён быў у канфлікце з дваранствам; Пушкін быў сынам буржуазнай асветы, і ў той-жа час Пушкін не прызнаваў капіталістычнай нраўственасці, якая нараджалася.*

Галоўны соцыяльны інтарэс Льва Талстога, як мастака і мысліцеля, Ленін вызначаў наступнымі словамі: „У радзе геніяльных твораў, якія ён даў на працягу сваёй больш як паўвяковай літаратурнай дзейнасці, ён рысаваў пераважна старую, дарэволюцыйную Расію, якая асталася і пасля 1861 г. у напоўпрыгонніцтве, Расію памешчыка і селяніна". (Ленін, т. XIV, стар. 400). Пушкін адлюстраваў у сваей творчасці дваранскую рэволюцыю, але мала таго. Аналізуючы творчасць і светапогляд Пушкіна, лёгка заўважыць, што вялікага паэта галоўным чынам цікавіла не дваранства само па сабе, не кафлікт паміж прыгонніцкай гаспадаркай і патрэбамі капіталістычнага рынка, які зараджаўся, а ўзаемаадносіны дваран і прыгонных, Расія памешчыка і селяніна, але тых часоў, калі пра ліквідацыю прыгоннага права можна было толькі тайком марыць. Пушкін фіксаваў сваю ўвагу на цэнтральным класавым канфлікце эпохі, на канфлікце, які і да яго і пасля яго доўга вызначаў гістарычны лёс Расіі. Пушкін не быў-бы рэалістам, калі-б ён абышоў галоўнае пытанне сучаснай яму рэчаіснасці—пытанне пра памешчыка і яго прыгоннага раба. Што ў гэтым заключаецца праблема праблем, што ўсе палітычныя пытанні ўпіраюцца ў мужыка—гэта разумелі бадай што ўсе. Аднак, пераважная маса дваранства, пачынаючы з Раманавых і канчаючы ўладарамі самых аддаленых мядзвежых кутоў Расіі, з гэтага рабілі толькі адзін вывад: усё павінна аставацца па-старому, бязлітасна і жорстка павінны знішчацца самыя зародкавыя помыслы пра змену адносін, якія ледзь не былі знішчаны паўстаннем Пугачова.

Адукаваны і ясны розум Пушкіна разумеў, што старыя адносіны не могуць быць доўга, што ўпартасць у правядзенні соцыяльнай палітыкі Нікалая I прывядзе рана ці позна да катастрофы. Вядома, як сам Пушкін жадаў вырашэння супярэчнасці паміж памешчыкамі і прыгоннымі. Яго пужала перспектыва нізавой народнай рэволюцыі. Разумная прадбачлівасць і чалавекалюб-

ства пануючых маглі-б,—меркаваў ён,—прывесці да кампраміса, задавальняючага абодва бакі. Онегін у сваіх уладаннях

Ярем от барщины старинной
Оброком легким заменил—

уже нават пасля гэтага мерапрыемства—раб свайму лёсу быў рад. Калі-б усе памешчыкі былі падобны да Онегіна або нават да бацькоў Грынева, сялянскія паўстанні тыпу руху Пугачова былі-б проста немагчымы. „Я знал,—разважае Грынёў у адным з варыянтаў „Капитанской дочки“,—что матушка была обожаема крестьянами и дворовыми людьми, батюшка, несмотря на свою строгость, был также любим, ибо был справедлив и знал истинные нужды подвластных ему людей. Бунт их был заблуждение, мгновенное пьянство, а не из‘явление их негодований“. Аднак, у чым бы ні заключаліся прычыны хваляванняў прыгонных,— Пушкін у лістах і ў публіцыстычных выказваннях і ў мастацкіх творах асуджаў паўстанне, як шлях да паляпшэння становішча сялян. Гвалтоўнае ўсмірэнне сялянскіх паўстанняў ён лічыў непазбежным, але ён у той-жа час чакаў ад перамогшай улады міласці, разважлівасці і прадбачлівасці. Няма чаго і гаварыць, што чаканні гэтыя былі дарэмныя. Цікава адзначыць, што Пушкін, як праўдзівы мастак, як рэаліст, не паказвае фактаў міласці ўраду да мужыкоў, асабліва да бунтуючых. Адмоўныя адносіны да паўстання Пугачова выражаны ў „Капитанской дочке“ зусім ясна. Мерапрыемствы ўраду да ўсмірэння паўстання апраўданы—апрача жорсткасцей, аднак. Міласць-жа і справядлівасць Екацярыны II накіраваны толькі на несправядліва асуджанага двараніна Грынёва. Міласць імператрыцы ў аповесці Пушкіна не парушае практыкі соцыяльнай сістэмы, яна не закранае ўстанавіўшагася характару адносін памешчыкаў і прыгонных. У „Дуброўскім“ сюжэт уключае ў сабе апісанне сялянскага бунту. Бунтуючыя мужыкі не ідэалізуюцца Пушкіным. У развітальную прамову Дуброўскага, з якою ён звярнуўся да пакідаемых ім саратнікаў, укладзены і такія словы: „Но вы все мошенники, и вероятно не заботитесь оставить ваше ремесло“! Пад рамяством тут разумеецца разбой. Аднак, Пушкін для развязкі не скарыстоўвае ніводнай рысы, якая змякчыла-б адмоўную характарыстыку прыгнятальнікаў сялянамі. Мірная развязка, спыненне бунту, матывавана толькі каханнем. Дуброўскі склаў зброю, таму што ён спазніўся перашкодзіць вяселлю Машы з князем Верэйскім, таму што Маша лічыць за свой абавязак быць вернай рэлігійнаму абету. Аналіз класавай пазіцыі Пушкіна нельга проста вычарпаць спасылкай на тое, што ён быў супроць сялянскіх паўстанняў. Пушкін жыў у абстаноўцы, калі супярэчліва і часта няясна для сучаснікаў ішлі пачатковыя стадыі працэсаў класавага размежавання, якое паскорылася пасля рэформы 60-х гг. і зусім вызначылася пасля ўжо ўтварэння рабочага класа, к часу рэволюцыі 1905 г. Яго гуманнасць мела яшчэ „агульначалавечы“, г. зн. адцягнены характар. Пушкін баяўся народнай рэволюцыі перш за ўсё таму, што ён беражліва ставіўся да жыцця кожнага чалавека, чалавека наогул: „Не дай

бог бачыць рускі бунт,—пісаў ён,—бяссэнсны і бязлітасны. Тыя, якія замышляюць у нас немагчымыя пераварогы, або маладыя і не ведаюць нашага народу, або ўжо людзі жорсткія сэрцам, якім чужая галовушка—палушка, ды і свая шыйка капейка". („Капитанская дочка"—прапушчаная глава).

І тым не меней Пушкін усё жыццё праяўляў неадступную цікавасць да народных рэвалюцыйных рухаў. Гэтая тэма яго ўвесь час вабіла, як зачараваны, ён да яе звяртаўся зноў і зноў. „Смутное время", Сценька Разін, Пугачоў, сялянская праграма дзекабрыстаў, паўстанне прыгонных у Заходняй Еўропе, французская рэвалюцыя, бунты супроць памешчыкаў, супроць аракчэеўскіх ваенных пасяленняў, халерныя бунты—з'яўляюцца амаль бесперапынна прадметам яго вывучэнняў, развіжанняў, творчых замыслаў. Яго цікавасць да кнігі Радзішчэва і яго лёсу—гэта цікавасць да ідэалогіі народнай сялянскай рэвалюцыі, ствараемай адукаваным чалавекам з дваранства. Яго цікаўнасць з нейкай своеасаблівай вастрынёй прыкавана да лёсу некалькіх дваран і афіцэраў, якія перайшлі на бок Пугачова. Сюжэт „Капитанской дочки" ў значнай ступені пабудован на ўзаемаадносінах Швабрына, які сапраўды перайшоў да Пугачова, і Грынёва, западозранага ў такім пераходзе. Нас не павінна здзіўляць, што Швабрын—адмоўны тып, а Грынёў, і папаўшы ў лагер Пугачова, астаецца верным Екацерыне. Важны напрамак увагі Пушкіна. Яго цікавіць, як выглядае ўнутранае жыццё саміх паўстаўшых, іх узаемаадносіны, іх распарадкі, іх псіхалогія. Пушкін разумее, што ад гэтых гістарычных фактаў нельга адмахнуцца, як ад непрыемных здарэнняў, што да іх нельга паставіцца афіцыяльна: уціхамірыў і кропка. Простым гвалтам нельга ператварыць народныя нізы ў паслухмяных і маўклівых рабоў.

Пушкін, які вандраваў па мясцінах, ахопленых паўстаннем Пугачова, знайшоў і пасля многіх дзесяцігоддзяў нязгасшае спачуванне разбітаму руху.

Пушкін адчуваў, што ва ўзаемаадносінах памешчыкаў і сялян пытанні гістарычных і асабістых лёсаў сплятаюцца ў ракавы вузел, які неабходна развязаць або рассячы, інакш няма будучыні, якую можна было-б спакойна падрыхтоўваць для будучых пакаленняў, для сваіх дзяцей. Так, у Пушкіна была свая праграма мірнага вырашэння хвалявaўшага яго соцыяльнага канфлікта, але яна не супакойвала, не завяршала трывожных разважанняў, бо Пушкін быў вельмі разумны, каб не разумець, што жыццё ўпарта складаецца паводле нейкіх сваіх жорсткіх бязлітасных законаў, а не паводле яго адцягненных гуманных настрояў. Пушкін добра бачыў, які гаручы матэрыял становіць з сябе прыгоннае насельніцтва Расіі, як яно лёгка загараецца, як часта даволі толькі поваду, каб захаваны агонь, бушуючы і спапяляючы, вырваўся наверх. У Дуброўскага забіраюць маёнтак—мужыкі яго гатовы падняцца не на жыццё, а на смерць. „Отец ты наш,—кричали они целуя ему руки,—не хотим другого барина, кроме тебя, прикажи, сударь, с судом мы управимся. Умрем, а не выдадим..." Пушкін рысуе не патрыярхальную адданасць мужыкоў свайму

барыну Дуброўскаму. Зусім не. Палітычна несвядомыя і неарганізаваныя сяляне пачатку XIX ст. не маглі яшчэ падняцца да асвядомленага выступлення супроць ладу. Яны падымаліся стыхійна, супроць канкрэтных абставін, ад якіх ім прыходзілася туга. Пушкін гэта разумее, матывы нежадання прыгонных Дуброўскага перайсці пад уладу Траекурава ён паказвае зусім цвяроза. „Во владение Кирилу Петровичу!—з жахам гаворыць прыгонны кучар Дуброўскага Антон аб самай перспектыве пераходу да новага ўладальніка.—Господь упаси и избави—у него там и своим плохо приходится, а достанутся чужие, так он с них не только шкурку, да и мясо-то отдерет“.

Пушкін, які асуджаў сялянскія бунты і пугачоўскі рух, не ўскладаў аднак за іх адказнасць на саміх прыгнечаных. Ён лічыў, што кровапралітныя і падчас жорсткія народныя абурэнні з'яўляюцца непазбежным адказам на жорсткасць памешчыкаў і ўраду. Крытыкуючы погляды Радзішчэва, Пушкін, аднак, з поваду апісання продажу прыгонных, падобна продажу бесславеснай жывёлы, заўважае: „ідзе карціна, жахлівая тым, што яна праўдападобная, не стану губляцца следам за Радзішчэвым у яго надутых, але шчырых марах, з якімі на гэты раз згаджаюся мімаволі...“ („Путешествие из Москвы в Петербург“). Хіба сатырычны летапіс прадзеда Белкіна не ўводзіць нас у разважанні Пушкіна пра становішча народных мас і пра прычыны іх пастаянных хваляванняў. Летапіс гэты адрозніваецца яснасцю і сцісласцю стыля. Напрыклад: „4 мая, Снег. Трышка за грубасць біты. 6—карова бурая пала. Сенька за п'янства біты. 8—пагода ясная. 9—дождж і снег. Трышка біты па пагодзе“. Што-ж яшчэ заставалася незлічоным Трышкам і Сенькам, як не падымацца з каламі і нажамі, калі для іх біццё было такім-жа няўхільным, як пагода. У „Капитанской дочке“ Пушкін з жахам расказвае пра меры уціхамірвання, якія ўжываліся ўрадам. Ён рэзка настройваецца супроць катаванняў. Ён з жахам расказвае пра адсечаныя насы і вушы, пра выразаныя языкі ў мяцежных башкіраў, пра плывучыя вісельні, пушчаныя па цячэнню Волгі пасля разгрому Пугачова. Да ўрадавых зверстваў ён ставіцца з такім-жа асуджэннем, як і да зверстваў Пугачова. Павучальная тырада: „Лепшыя і трывалейшыя змены гэта тыя, якія адбываюцца ад паляпшэння характараў, без усякіх гвалтоўных патрасенняў“—адрасавана не мяцежнікам, а дваранству і ўраду. Пушкін усведамляў у пэўнай меры класавы характар барацьбы паўстаўшых сялян з дваранствам і ўрадам. У „Общих замечаниях“ да „Истории Пугачева“ Пушкін гаворыць:

„*Увесь чорны народ быў за Пугачова;* духавенства яму спачувала, не толькі папы і манахі, але і архімандрыты і архірэі. *Адно дваранства было адкрытым чынам на баку ўрада.* Пугачоў і яго хаўруснікі хацелі спачатку і дваран схіліць на свой бок, але *выгады іх былі занадта процілеглыя...* Клас прыказных і чыноўнікаў быў яшчэ нешматлікі, і рашуча належаў да простага народу. Тое-ж можна сказаць і пра тых, якія выслужыліся з салдат, афіцэраў. Шмат з гэтых апошніх былі ў шайках Пугачова. Шванвіч адзін быў з добрых дваран“.

У падкрэсленых словах нельга не бачыць зараджэнне прызнання законамернасці і непазбежнасці пугачоўскага руху. Такія адносіны да прычын сялянскага руху разыходзіліся з афіцыйнымі адносінамі да яго—і з боку ўраду і з боку дваранства. Яшчэ і ў другім разыходзіўся Пушкін з афіцыйнымі і дваранскімі адносінамі да бунтаўшчыкоў і прыгонных наогул. Гэта „другое“ было не такім грунтоўным з пункту гледжання павярхоўна разглядаемых палітычных праграм, яго не так было лёгка, асабліва сучаснікам, выразіць словамі, але зацікаўленай старане яно ўдарала ў нос; у ім зноў праяўлялася „крамола“ Пушкіна, хоць з пункту гледжання фармальнага ў сваіх творах, прысвечаных сялянскаму руху, Пушкін выказваў лайяльна-манархічныя погляды. Недарма Нікалай І астаўся не вельмі задаволены гістарычнымі вышукваннямі Пушкіна ў паўстанні Емельяна Пугачова. Рознасць думак Пушкіна і Нікалая І пра тое, як павінен быць названы вучоны твор паэта, уводзіць нас у курс гэтага „другога“. Пушкін назваў прадстаўлены на цэнзуру цару твор „История Пугачева“, на што цар заўважыў, што Пугачоў не можа мець гісторыі. Паважанае слова „гісторыя“ магло быць прыменена да цароў, вельмож, да дваран, але яно рэзала слых цара ў адносінах да бунтаўшчыка, да правадыра паўстаўшых сялян. Гісторыя магла быць у *чалавека*, прыгонны-ж раб быў не чалавек, а рэч, жывёла, а тым болей паўстаўшы раб. Пушкін-жа глядзеў на прыгонных мужыкоў як на мірных, так і на паўстаўшых, як на людзей, як на асоб. Пугачоў з яго пункту гледжання меў сваю гісторыю, не меней цікавую, чым уціхамірваўшыя яго генералы. Псіхалогія паўстаўшых сялян была яму не меней цікавая, чым псіхалогія дваран, якія адны толькі і лічыліся за людзей. Псіхалагічны партрэт Пугачова абрысаван Пушкіным з вялікім спачуваннем. Ён вольналюбівы, смелы, велікадушны, памятае дабро, мае прыродную кемлівасць, у ім шмат пачуцця ўласнай годнасці. Пушкін да жаху яскрава ўяўляў сабе карціну жорсткасцей, якія рабіліся пугачоўцамі. Але ён меў дастаткова шырокі і свабодны погляд на рэчы, каб разумець, што нават эксцэсы даведзеных да крайнасці сялян не прычына для таго, каб ставіцца да соцыяльных нізоў не як да людзей. Не меншую-ж, а большую, колькасць зверстваў рабілі дваране „усмирители“, аднак-жа ніхто не сумняваўся ў тым, што яны людзі, асобы, хоць з апошніх то можна было патрабаваць шмат большага, як з цёмных людзей, якія ўсімі сродкамі абаранялі сваё жыццё і волю. Са здзіўляючай псіхалагічнай і соцыяльнай пранікліваснцю паказаў Пушкін, што жорсткасць да паноў зусім не прымета злой душы. У „Дуброўскім“ каваль Архіп падпальвае барскі дом, у якім начуюць прыказныя, папярэдне закрыўшы дзверы на запор, каб яны не маглі выратавацца, і рызыкуючы жыццём, лезе на страху, якая гарыць, каб выратаваць кошку. „Чаго смяецеся, бесяняты,—абарваў ён цікаўных хлапчукоў,—бога вы не баіцеся—божае стварэнне гіне, а вы здуру радуецеся,—і паставіўшы лесвіцу на страху, якая загарэлася, ён палез па кошку. Яна зразумела яго намер і з выглядам таропкай удзячнасці ўчапілася за яго рукаў. Напоўабгарэлы каваль са сваёй здабычай палез уніз“.

Савельіч з „Капитанской дочки“ нічым не нагадвае Пугачова. Ён—раб, задаволены сваёй рабскай доляй. Ён не жадае сабе другога апроч службы ў паноў, якім ён адданы не за страх, а па сумленню. Аднак, раб гэты абрысаваны Пушкіным, як псіхалагічна станоўчы тып, як чалавек, які мае арыгінальны нраўствены воблік. Паводле маральных сваіх якасцей Савельіч вышэй за многіх прадстаўнікоў пануючага дваранскага саслоўя, асабістыя правы якога былі забяспечаны шмат якімі ўрадавымі ўказамі. Вось гэтая старана творчасці і светапогляду Пушкіна ўспрыймалася царом і яго клікай, як крамола і бунтаўшчыцтва. Незадавальненне адносінамі Пушкіна да мужыка прымала часам анекдатычныя формы. Так яго ў друку папракалі ў тым, што ён назваў дваранскіх паненак „девчонками“, а сялянскую „девку“—„девой“. Але за анекдатычным выражэннем хавалася дваранскае класавае чуццё, якое беспамылкова адчувала ў духу паэзіі Пушкіна нешта трывожнае, неблаганадзейнае, нешта такое, што разыходзілася з традыцыйным дваранскім успрыяццем людскіх узаемаадносін. Пушкін мог колькі заўгодна называць пугачоўскае паўстанне „гнусным бунтом, коего цель была ниспровержение престола и истребление дворянского рода“ („Капитанская дочка“)—ён ацэньваў становішча сялян і праяўленні сялянскай рэволюцыйнасці не так, як гэта трэба было афіцыйна. Нікалай не мог да канца ўсвядоміць, што яму не падабалася ў адносінах Пушкіна да Пугачова—для гэтага ён не быў дастаткова праніклівы, але яны яму не падабаліся і ён рабіў заўвагі вялікаму паэту. Цар у даным выпадку выступаў толькі як выразнік агульнай думкі пануючага класа. „У публіцы вельмі лаюць майго Пугачова,—запісваў Пушкін у сваім дзённіку,—а што горай,—не купляюць. Увараў (міністр народнай асветы—*В. К.*) вялікая паскудзь. Ён крычыць пра маю кнігу як пра абураючы твор“. Для адносін да мужыка, ды яшчэ да бунтуючага, як да чалавечай асобы, неабходзен быў іншы погляд на яго, чым звычайны дваранскі. І тут—з гэтага пункту гледжання, мы зноў бачым шчыліны, якія ўзніклі між Пушкіным і ўсёй масай яго класа, і тут Пушкін выступае як адшчапенец, як адзіночка. Пушкін лічыў палітычную свабоду неразлучнай з вызваленнем сялян. Палітычнае пераўтварэнне ён лічыў шчыльна звязаным з соцыяльным. Пушкін зразумеў, што ліквідацыя прыгоннага права з'яўляецца асновай усіх імкненняў да палітычнай свабоды. Яна альфа і амега ўсякай вызваленчай праграмы, прэтэндуючай на поспех, яна—умова грамадзянскай роўнасці саслоўя. Пасля Пушкін сціснуўшы сэрца адмовіўся ад праграмы палітычнай свабоды, але думак сваіх пра неабходнасць вызвалення сялян не змяняў. Ён варочаўся да іх неаднаразова, мы ўжо гаварылі пра гэта. Пушкін не быў палітычным правадыром—ён не распрацоўваў праграм, як, на якіх умовах павінна адбыцца вызваленне сялян. Але ён ставіўся да класавага канфлікта памешчыкаў і сялян як да цэнтральнага канфлікта эпохі, ён лічыў, што ад характару яго вырашэння залежыць характар гістарычнага лёсу Расіі, ён адчуваў, што дваранская глеба зыбаецца пад нагамі, што над ёю—агнедышучыя і магутныя сілы, якія ў будучым могуць вырвацца наверх і ўсё затапіць. Ён не жадаў катастрафічнага ха-

рактару вырашэння канфлікта—яму дарагія былі і культурныя заваёвы і інтарэсы дваран—класа, да якога ён належаў. І ў той-жа час Пушкін прызнаў асноўнае патрабаванне сялянства—знішчэнне прыгоннай залежнасці—правільным, законным, якое павінна быць задаволена.

З пункту гледжання дыялектыкі класавай барацьбы Пушкін аказваўся ў працэсе руху ад аднаго класа да другога. Між яго ідэалогіяй і панаваўшай дваранскай ідэалогіяй утварылася шчыліна, якая ўсё больш пашыралася. Пушкін падняўся на такую вышыню разумення, пры якой ён прызнаў каштоўнасць асобы селяніна і правільнасць яго асноўнага патрабавання.

Тэндэнцыі класавага развіцця Пушкіна можна вызначыць, калі даследваць іх тым-жа метадам, якім даследваў Ленін эвалюцыю Льва Талстога, г. зн. суадносячы іх да цэнтральнага соцыяльнага канфлікта эпохі, зыходзячы з таго, што „калі перад намі сапраўды вялікі мастак, то некаторыя хаця-б з істотных бакоў рэволюцыі ён павінен быў адлюстраваць у сваіх творах (Ленін, „Лев Толстой, как зеркало русской революции“, т. XII, ст. 331). Класавы сэнс эвалюцыі творчасці Пушкіна неабходна шукаць не па лініі ад дваранства да буржуазіі, або ад дваранства да мяшчанства, а па лініі ад дваранства да сялянства па тыпу эвалюцыі Льва Талстога. Не трэба толькі спрашчаць гістарычнай карціны, не траціць яснага ўсведамлення ступені працэса ў розных гістарычных эпохах. Талстой пры ўсіх сваіх супярэчнасцях і забабонах пакінуў ужо рамкі класа дваран і перайшоў на бок класа сялян. Пушкін хваравіта, ідучы па прамой лініі, адрываўся ад класа дваран, але яшчэ не адарваўся ад яго, яшчэ аставаўся ў рамках класа, у якім радзіўся, але з якім ён уступіў у стан канфлікта. Пушкін—гэта не Талстой, іх пазіцыі не супадаюць. Нельга даказваць, што калі Пушкін не быў-бы забіты, ён стаў-бы такім-жа як Талстой, ахарактарызаваны вядомымі артыкуламі Леніна. Гадаць пра супярэчлівую эвалюцыю асобнага чалавека, нават калі ён геній, у неразвітым, у палітычна і соцыяльна яшчэ мала падзеленым асяроддзі цяжка і не патрэбна. Важна другое, важна ўстанавіць, што пазіцыя Пушкіна ў першай трэці XIX ст. знамянуе пачатак працэса, завяршэнне якога мы маем у творчасці Талстога. Канфлікт пачатку гэтага працэса аказваецца блізкім канфлікту Льва Талстога з рэчаіснасцю, як свайму канцу, калі ўлічыць нарастанне супярэчнасцей, якія яго выклікалі, узнаўленне іх на пашыранай аснове, ва ўмовах гістарычнага працэса ў Расіі, прычым у даным выпадку нават няважна, хто прайшоў персанальна ўсе шляхі развіцця гэтага працэса да канца і ці магчымы ён быў для чалавека аднаго пакалення. Сцвярджаць, што Пушкін развіваўся ў класавым дачыненні па лініі ад дваранства да буржуазіі, можна толькі ў тым выпадку, калі прызнаць, што Пушкін рос выключна пад уздзейнічаннем іншаземных уплываў. Пераацаніць значэнне буржуазнай прагрэсіўнай асветы Захаду для развіцця Пушкіна проста трудна, настолькі яно было вялікае. Аднак нельга сабе ўявіць, што рускі нацыяльны паэт Пушкін ёсць прадукт французскай асветы, а значыцца і французскіх соцыяльных адносін—і толькі. Гэта—бязглузда, гэта супярэчыць марксізму, які

тлумачыць развіццё ідэалогіі не філіацыяй ідэй, а рэальным уздзейнічаннем класавага працэса на ўдзельнічаючых у ім людзей. Пушкін падпаў пад уздзеянне прагрэсіўнай буржуазнай асветы і гуманізма, а разам з гэтым пачаўся не зусім усвядомлены паэтам працэс соцыяльнага ўкаранення новай ідэалогіі. Традыцыйным дваранскім поглядам яна супярэчыла, усталяваць яе на поглядах і інтарэсах рускай буржуазіі было немагчыма, як нельга паставіць вялікае, важкае, паводле законаў перадавой тэхнікі пабудаванае збудаванне на ўблюдкавыя слупкі з неабпаленай гліны: занадта нікчэмная была тады руская буржуазія, занадта ў палоне яна была ў казённай ідэалогіі. У выніку Пушкін аказаўся адшчапенцам, амаль адзіночкай паводле тых часоў, але зусім не па-за соцыяльным працэсам. Супроцьстаўленне генія эксплаататарскім класам як пачатку пазакласава-агульна-народнага вярнула-б нас да даўно пакінутых і нічога не растлумачваючых пропісей буржуазнай соцыялогіі. Выпрацаваныя заходняй буржуазнай асветай погляды, яшчэ змяшчаўшыя ў сабе ілюзіі ўсенароднасці і гуманнасці, Пушкін пераносіў на ўсіх людзей, у рускіх умовах на мужыка, у складаным спалучэнні з дваранскімі поглядамі і нават з дваранскімі забабонамі. Ідэалогія Пушкіна супярэчлівая, супярэчлівы яе соцыяльны сэнс, але яна—рэзультат супярэчнасцей самога жыцця, якое павольна, цяжка і складана фармавалася. Урэшце і погляды Талстога дзівотліва супярэчлівыя, але самыя складаныя супярэчнасці заўсёды стварала само жыццё. Супярэчнасці жыцця, аднак, тым адрозніваюцца ад адвольных канструкцый мыслення, што апошнія мёртвыя, а першыя развіваюцца і шукаюць рэальнага вырашэння.

Супярэчнасці, у якія трапіў Пушкін, штурхалі яго ў той бок, куды шмат пазней прышоў Талстой.

У поглядах і творчасці Пушкіна не цяжка заўважыць шмат момантаў, якія пасля знайшлі сабе больш поўнае і энергічнае выражэнне ў творчасці Талстога. Матыў асабістага, прыватнага ўстройства жыцця, імкнення да свайго шчасця гучыць і ў Талстога, у Талстога яно таксама пераходзіць у крытыку двара, свету, афіцыйных інтарэсаў бюракратыі, чыноўніцтва, вайны і ваеннай славы. Аднак, крытыка Пушкіна яшчэ не набывае вастрыні талстоўскай крытыкі, ён толькі гідліва адхіляецца ад таго, што ён асуджае. Талстой-жа вырастае ў асуджальніка, які паўстае супроць няправеднага жыцця і кліча яго змяніць на пачатках новай праўственасці. Пушкін шукае свабоды і незалежнасці ў сваім доме, у сваім памесці. „Тысячы прычын—пісаў ён,—вымушаюць нас прысутнічаць нам у нашых памесцях, а не растрачваць сродкі ў сталіцах пад выглядам шчырай службы, але на самай справе з адзінай любві да рассеянасці і чыноў“. Адным з матываў пушкінскага імкнення да гаспадарання былі клопаты пра тое, „что будут нищи наши внуки“. Пушкін лічыў, што можна весці прыгонную гаспадарку, захоўваючы двухбаковую выгаду памешчыка і сялянства.

Усе гэтыя фазы праходзіць і Леў Талстой, але ён не затрымліваецца на іх. Зварот у памесце, гаспадаранне ў імя інтарэсаў і сваіх дзяцей і сялян, хутка выяўляе перад ім свой утапічны змест. Талстой, які складаўся, як гістарычны дзеяч і пісьменнік, пасля

рэформы 1861 г. ужо не мог марыць пра распрыгоненне, як пра панацэю, ён выражае інтарэсы селяніна не ў форме патрабаванняў распрыгонення, а ў форме патрабаванняў зямлі. Талстой лічыць безнраўственым, каб зямлёй валодалі тыя, хто на ёй не працуе. Гэта непамерна больш рашуча і рэволюцыйна, чым погляды Пушкіна ў сялянскім пытанні, але Талстой да гэтага аб'ектыўнага рэволюцыйнага сялянскага вываду прышоў праз ступені, на якіх калісьці стаяў Пушкін.

Талстой з вялізным напружаннем перажываў мукі сумлення. Ён увабраў у сябе і выразіў і ў мастацтве, і ў сваёй філасофіі стыхійны пратэст мужыка супроць прышоўшага ў краіну капіталізма. Але тэму сумлення, кагцістага звера, які скрабе сэрца, ведаў і Пушкін. Матыў раскайвання, пакаяння, часта гучэў у яго мастацкай творчасці.

І Пушкін, як і Талстой, хай не з такой яраснай сілай, але ўсё-ж адмоўна сустрэў сімптомы капіталістычнай нраўственасці, сведкам нараджэння якой ён быў.

Цікава, што ў такіх рэчах, як „Из Пиндемонте“, мы сустракаем і ў Пушкіна даволі аформлены зародак спалучэння соцыяльнай крытыкі з адмоўнымі адносінамі да ўсякай палітычнай дзейнасці, што было так характэрна пасля для Талстога.

І, вядома, Талстой таксама пачынаў з адносін да мужыка, як да асобы, як да чалавека са сваім псіхічным складам, асаблівым і каштоўным, не менш чым псіхічны склад усякага іншага чалавека.

Ёсць шмат агульнага, не гледзячы на рознасць дараванняў і ў мастацкім метадзе абодвух геніяў: рэалізм, прастата, адносіны да гістарычнага рамана, не як да апавядання пра афіцыйныя дзеянні афіцыйных асоб, а як да апавядання пра звычайнае сямейнае, „роевае“ жыццё звычайных людзей.

Могуць сказаць, што ў геніі Пушкіна зусім не было таго, чаго так многа было ў геніі Талстога: адыходу ў бок ад сталбавых шляхоў гісторыі, нейкага налёту дзівацтва, шуканняў як-бы самавучкі, які імкнецца на свой лад вырашыць праблемы, над якімі біліся ў супольных намаганнях перадавыя і самыя адукаваныя розумы чалавецтва. Але не трэба забываць, што Талстой зрабіў тое, пра што Пушкін толькі марыў: ён уцякаў ад свету і гораду ў адзіноту свайго памесця, у размышленні пад ціхай засенню свайго дома. Самаізаляцыя ў закавулку, у баку ад плацдармаў, дзе ствараліся і сутыкаліся перадавыя тэорыі, у баку ад асноўных шляхоў грамадскага жыцця і класавай барацьбы не магла-б не прывесці і самы значны розум да аберацый тыпу Льва Талстога.

Пушкін адыходзіў ад дваранства, але і чапляўся за яго. Тысяча ніцей, рэальных інтарэсаў, ідэалагічных поглядаў, забабонаў звязалі яго з класам, які ў яго час панаваў ва ўсіх галінах гаспадарчага, грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця Расіі. Талстога мужык узяў моцна за каўнер і ператварыў яго апазіцыю супроць свету ў апазіцыю супроць ладу. У Пушкіна да гэтага не дайшло, але ён бачыў, што дваранства вісіць над мужыцкім нездавальненнем як над безданню. Пушкін шмат думаў пра сялянскае пытанне, на бок мужыка ён яшчэ не перайшоў, але і сярод дваранства ён

ужо адчуваў сябе як чужы. Самаадчуванне Пушкіна ў адносінах да дваранства асабліва рэльефна праявілася ў дэманстратыўным аднясенні сябе да мяшчанства. У адной з журнальных схватак было сказана пра Пушкіна, што ён мешчанін у дваранстве. Гэта заўвага моцна закранула яго. Парыруючы яе, Пушкін заўважыў, што ён, „вярней было б сказаць—дваранін у мяшчанстве".

У аднясенні сябе да мяшчанства ў Пушкіна было шмат таго, што называецца „самоуничижением паче гордости". Пушкін проста рабіў дэманстрацыю і супроць казённай публіцыстыкі і, галоўным чынам, супроць той саноўнай знаці, якая тузала гэты нікчэмны друк, як хацела, як за вяровачку. На справе Пушкін ва ўсіх гэтых выступленнях праяўляе шмат геральдычнай гордасці: яму ільсціць і яго цешыць, што ён сапраўдны арыстакрат, а яго ганіцелі—удачлівыя выскачкі. Трэба мець ужо вялікую долю наіўнасці, каб у гэтых зласліва-іранічных выказваннях Пушкіна бачыць доказ яго ператварэння ў разначынца. Але ў іх несумненна выражана і пачуццё разрыву са сваім класам.

У працэсе класавай барацьбы не раз бывала, што найболей перадавыя, найболей дальнабачлівыя прадстаўнікі класа прыгнятальнікаў пераходзілі на бок прыгнечаных. Падобны працэс у яго пачатковай, незакончанай стадыі пачаў адбывацца ў светапоглядзе і паэзіі Пушкіна, не заўсёды кантралюемы яго палітычнай думкай, не заўсёды з веданнем яго дакладнага сэнсу. Пушкін адыходзіў ад аднаго класа і ішоў да другога без уяўлення аб тэорыі класаў і класавай барацьбы, развіваючыся ў палітычна неаформленым і амаль маўклівым грамадстве. Лёс Пушкіна гэта лёс адшчапенца ў асяроддзі свайго класа, які пачынаў парываць з ім тады, калі не відаць было класа, на бок якога можна было-б перайсці. Колькі-ж, аднак, было ў руху Пушкіна правільнага гістарычнага чуцця, калі ён у сваім складаным, непрасталінейным, але бесперапынным руху падышоў да тэмы народнай рэвалюцыі, як адной з галоўных тэм сваёй творчасці?

Такі соцыяльны сэнс творчасці Пушкіна і адлюстраваных у ёй супярэчнасцей тагочаснай рэчаіснасці.

# *Пушкін і Маякоўскі*

АН. ТАРАСЕНКАЎ

*(Некаторыя паралелі)*

Усякая гістарычная паралель, усякая аналогія—рэч вельмі ўмоўная і, як кажуць, не можа служыць доказам. Асабліва шкодныя такія гістарычныя аналогіі, шляхам якіх знішчаецца своеасаблівасць і навізна сучаснай з'явы, калі пад рукой крытыка ці гісторыка яна як дзве кроплі вады робіцца падобнай на з'яву мінулага. Але бываюць у гісторыі грамадскага жыцця такія перыяды, якія вельмі напамінаюць адзін аднаго. Рысы ўзаемнай блізкасці,—не простая выпадковасць. У шэрагу рашаючых псіхалагічных і этычных момантаў яны супадаюць. Назіральніку кідаецца ў вочы не толькі іх вонкавае, не толькі фармальнае падабенства.

Свядомае раўнанне мастакоў Рэнесанса на элінскія ўзоры дапамагло ім ачысціцца ад грубай тэлеалогіі сярэдневяковага мастацтва. Таму супастаўленне мастацтва старадаўняй Элады і еўрапейскага рэнесанса, супастаўленне незвычайна багатае, многа дапамагае зразумець у навейшай духоўнай гісторыі нашага кантынента.

Таксама да месца, напрыклад, аналогія паміж сярэдневяковай містычнай рэакцыяй і сучасным фашызмам. Гэта аналогія паказвае, як навейшая палітыка найбольш агрэсіўных груп сучаснага імперыялізма выкарыстоўвае агідныя формы той псеўда-культуры і псеўда-цывілізацыі, якую вырасцілі для сваёй абароны сярэдневяковыя папы і феадалы.

Задача літаратурных аналогій—уваскрашэнне тых рысаў у мінулым, якія асабліва знамянальны ці актуальны для сёнешняга дня, для сучаснасці.

Адна з велічных фігур нашага мінулага—постаць Пушкіна. Лепшы паэт нашага часу—Маякоўскі. Паміж імі могуць быць праведзены цікавыя і навучальныя гісторыка-літаратурныя паралелі.

Мы не Іваны, якія не памятаюць радні. Уся гісторыка-культурная палітыка нашай партыі будуецца на ленінскім разуменні праблемы спадчыны, як крытычнага засваення мінулых духоўных дасягненняў чалавецтва. Пастанова Камітэта па справах мастацтва адносна „Богатырей" Дзем'яна Беднага—Таірава яшчэ раз напамінае аб гістарычнай і нацыянальнай пераемнасці. У плане гэтай пераемнасці Пушкіну належыць адно з самых важных месц у гісторыі нашай краіны.

Геній Пушкіна апладніў усю рускую літаратуру. Гэта ён надаў ёй тое вялікае адценне гуманнасці і чалавечнасці, якое ў далейшым суправаджала творчасць усіх сапраўдных мастакоў слова. Гэта ён першы, па сутнасці, удыхнуў у рускую літаратуру сапраўдны агонь свабодалюбія, даўшы ёй магутны рэвалюцыйны штуршок, пара-

дзіўшы, між іншым, і паэтычную творчасць дзекабрыстаў (Рылееў, Бестужаў і г. д.). Гэта ён стварыў тую надзвычайную прыгажосць літаратурнай мовы, захапляцца якой не пераставаў Ленін, мову, на якой цяпер напісана вялікая канстытуцыя свабоднага працоўнага народа.

Геній Пушкіна стварыў простую, натуральную і багатую па шматвобразнасці фарбаў вершаваную мову. Ён-жа першы надаў рускай апавядальнай прозе дакладнасць і выразнасць, вызваліўшы яе ад ілжывых фарбаў рамантызма і сантыменталізма. Наўрад ці льга, па сутнасці, пералічыць усе заслугі Пушкіна перад сваім народам і яго культурай. Роўных яму няма. Закончанае майстэрства „Пікавай дамы“, „Капітанскай дачкі“—не ніжэй талстоўскай прозы. Перад сілай лірычнага напружання Пушкінскіх вершаў адступаюць на другі план цудоўныя паэтычныя старонкі Лермантава, Тютчэва, Блока.

І аднак, калі гаварыць пра Пушкіна і сучаснасць, калі праводзіць якія-небудзь—хаця-б прыблізныя—зближэнні і аналогіі,—параўноўваць Пушкіна з усіх наступных за ім рускіх паэтаў—можна і патрэбна галоўным чынам з Маякоўскім. Я не стаўлю тут пытанне аб сузмернасці іх талентаў,—я кажу толькі аб кангеніяльнасці іх напрамкаў развіцця.

У сілу раду зусім розных прычын у творчых прынцыпах Пушкіна і Маякоўскага значна больш агульнага, чым гэта можа здацца на першы погляд.

Першае, самае павярхоўнае супастаўленне, кажа як быццам аб адваротным. Маякоўскі-ж быў адным з аўтараў лозунга „бросить Пушкина...—с парохода современности“ [1]). Імем Пушкіна ўзбройваліся заўсёды праціўнікі Маякоўскага. І аднак—гэта толькі вонкавыя абставіны літаратурных спрэчак, усё гэта—плод палемічных пераве лічэнняў.

Маякоўскаму належаць радкі:

> Но если просочится в газетной сети
> о том, как велик был Пушкин или Дант,
> кажется, будто разлагается в газете
> громадный и жирный официант".
>
> („Гимн критику“, 1915)

Але, вядома, гэта страла, накіраваная Маякоўскім не супроць Пушкіна, а супроць афіцыяльнай буржуазнай ільснёнай крытыкі, якая незаконна спрабавала абвясціць Пушкіна сваім. Вельмі добра і жыва напісаў аб гэтым К. Чукоўскі ў сваім артыкуле „Два паэты“.

„Пушкін па нейкіх дзіўных прычынах зрабіўся ў тыя гады прыкрыццём для ўсяго мізэрнага, шэрага, трывіяльнага, трафарэтнага, чопарнага.

Усякая свецкая пані, якая складвала пустыя вершыкі аб ружах, мімозах, вачах і начах, пахвалялася сваёй блізкасцю да Пушкіна.

---

[1]) Гл. зб. „Пощечина общественному вкусу“. М. 1913.

Пушкін ператварыўся ў сцяг самых цёмных, рэакцыйных літаратурных колаў. Стрэчны брат Нікалая II, Канстанцін Раманаў, бясцветны, казарменна-адмысловы пііта „К. Р.“, празываў сябе „учеником и набожным почитателем Пушкина“.

Ва ўсіх гімназіях Пушкіным завалодалі чалавекі ў футлярах і зрабілі яго светлае імя такім-жа пыльным, казённым і нудным, як грэчаскія дзеясловы, закон божы, латынь. Самага чалавечнага з людзей, жыццё і паэзія якога былі неўтаймоўным адмаўленнем усякай мярцвечыны і фальшы, абказёнілі, выхаласцілі, ператварылі ў адзін з абразоў самаўладна паліцэйскага ладу“. (Часопіс „Смена“ № 9, 1936 г.).

Што разбурэнне старых аўтарытэтаў,—і Пушкіна ў тым ліку,—было толькі часовым тактычным манеўрам для Маякоўскага—відаць з яго артыкула „Кропля дзёгцю“, якая адносіцца да 1916 г. Вось што ў ім было напісана ад імя футурыстаў:

„Першую частку нашай праграмы разбурэння (вышэй гаворыцца, што ў ліку аб‘ектаў гэтага разбурэння былі „старые великие“—*А. Т.*) мы лічым завершанай. Вось чаму не дзівіцеся, калі сёння ў нашых руках убачыце замест бразгаўкі шута чарцёж зодчага, і голас футурызма, учора яшчэ мяккі ад сантыментальных мар, сёння выліецца ў медзь пропаведзі“. (В. Маякоўскі. „Поўны збор твораў“, т. I, М. 1935 г.).

Розніца між Маякоўскім і Пушкіным, вядома, вялізная,—іх аддзяляе адзін ад аднаго цэлае стагоддзе гісторыі, яны ў шмат чым палярна супроцьлеглыя па форме і па зместу творчасці. Гэта—відавочныя для кожнага адзнакі. І, аднак, пры ўсім вонкавым і ўнутраным непадабенстве іх збліжае шмат што істотнае. Высвятленню адзнак гэтай блізкасці і прысвечан наш артыкул.

Блізкасць паэтычных тэмпераментаў Пушкіна і Маякоўскага кідаецца на вочы кожнаму сумленнаму назіральніку. Яна сказваецца перш за ўсё ў шырокай гістарычнай маштабнасці іх творчасці. І Пушкін і Маякоўскі размаўляюць са сваім часам, з гісторыяй як поўнапраўныя гаспадары. Пачуццё свабоды ў абыходжанні з сапраўднасцю,—вось што адразу збліжае і парадняе іх на вачах даследчыкаў. Гэта—законнае пачуццё свайго літаратурнага першынства. Калі які небудзь Ігар Северанін крычаў у вершах пра сваю геніяльнасць—гэта было толькі смешна. Калі мы чытаем гордыя строфы Пушкінскага „Помніка“ або ўслухоўваемся ў самаўпэўненыя інтанацыі Маякоўскага—

Розовые лица,
Револьвер жолт:
Моя милиция
Меня бережет—

у нас нараджаецца пачуццё велічы паэта і пашана да яго.

Гэта законная ўпэўненасць у сваей сіле, у сваім месцы, у сваёй гістарычнай ролі дазваляе Пушкіну, а следам за ім і Маякоўскаму знайсці і ўвасобіць у вобразах мастацтва жывыя непасрэдныя інтанацыі субяседніка, палеміста.

Паэтычныя інтанацыі і Пушкіна і Маякоўскага часамі вельмі супадаюць. Зварот Пушкіна да сваіх радкоў у „Доміку ў Каломне"—

Как весело стихи свои вести
Под цифрами, в порядке, строй за строем,
Не позволять им в сторону брести
Как войску, в пух рассыпанному боем!—

амаль падобны звароту Маякоўскага:

Оружия
        любимейшего род,
готовая
        рвануться в гике,
застыла
        кавалерия острот,
поднявши рифм
        отточенные пики.

Вясёлая і задорная літаратурная палеміка перамяжае радкі „Еўгенія Онегіна" і шмат якія радкі Маякоўскага. Вострая ўсмешка сатырыка, грозны пафас байца, пяшчотнасць лірыка—гэты своеасаблівы сплаў адзначае і творчасць Пушкіна і творчасць Маякоўскага.

Вельмі шмат што ў паэтычным поступе, у паэтычнай манеры „держаться на людях" напамінае ў Маякоўскім менавіта Пушкіна. Але, вядома, гэта не рашаючыя і найбольш важныя рысы іх узаемнай блізкасці. Гэта—хоць і істотныя, але толькі знешнія адзнакі.

Дзе ляжаць галоўныя лініі блізкасці талентаў Пушкіна і Маякоўскага? Галоўнае ў гэтай блізкасці—гуманізм. Шырокі філасофскі гуманізм, які зрабіў Пушкіна аднэй з самых вялікіх і высокіх душою асоб нашай краіны і яе гісторыі, гуманізм, які адзначыў творчасць Маякоўскага з першых яго крокаў.

Не дай мне бог сойти с ума.
Нет, лучше посох и сума;
        Нет, лучше труд и глад!
Не то, чтоб разумом моим
Я дорожил; не то, чтоб с ним
        расстаться был не рад;
Когда б оставили меня
На воле, как бы резво я
        Пустился в темный лес!
Я пел бы в пламенном бреду,
Я забывался бы в чаду
        Нестройных чудных грез.
И я б заслушивался волн,
И я глядел бы, счастья полн,
        В пустые небеса.
И силен, волен был бы я,
Как вихорь, роющий поля.
        Ломающий леса.
Да вот беда: сойди с ума,
И страшен будешь, как чума,
        Как раз тебя запрут,
Посадят на цепь дурака,
И сквозь решотку, как зверька,
        Дразнить тебя придут.

А ночью слышать буду я
Не голос яркий соловья,
Не шум глухой дубров—
А крик товарищей моих,
Да брань смотрителей ночных,
Да визг, да звон оков.

Гэты верш напісан Пушкіным у 1833 г., амаль у канцы жыцця, у поўным творчым узросце.

Гэта падагульняючы верш. Гэта адзін з самых жыццелюбівых, свабодалюбівых вершаў Пушкіна і адначасова адзін з самых яго трагічных твораў. У ім—боль і адчай чалавека, для якога ўвесь знаёмы яму, навакольны свет—камера вар'яцкага дома, страшэнны сад катаванняў. Рэдка адчай так беспадзельна апаноўваў Пушкіным, як у гэтым вершы; звычайна ён знаходзіў у сабе нейкую унутраную аптымістычную апору. Але трагічнасць і безвыходнасць, якія прасякаюць гэты надзвычайны твор, прадыктаваны адным,—сумам за лёс чалавека, горыччу з поваду яго адзіноты і нявольніцтва.

Чалавек—вось сапраўдны герой пушкінскай творчасці,—і ўсёй яго лірыкі і ўсяго яго эпасу.

Ніколі не афяроўваў Пушкін чалавекам для апісання, ніколі пейзаж не засланяў у яго вершах асобу, ніколі гісторыя не была для яго самамэтай,—усюды чалавек праходзіў па яго вершах гаспадаром усяго ладу, пачуццяў, думак і мараў паэта. Рамантычаы бунт маладога Пушкіна ў „Цыганах“ і рэалістычна цвярозае, спакойнае, мудрае ў сваёй прастаце раздум'е над лёсам рэволюцыянера Пугачова ў „Капітанскай дачцы“, усхваляванае апавяданне пра лёс маленькага чалавека Еўгенія, за якім гоніцца мёртвая глыба пануючага меднага конніка, сумны лёс Германа, „станцыённага сматрыцеля“ і шмат іншых яго герояў, уся гэтая шматвобразнасць служыць для выражэння адной вядучай ідэі пушкінскай творчасці. Гэта ідэя—барацьба за свабоду асобы.

Таму так многа непадзельнага аптымізма, радасці, весялосці, любові разліта ў пушкінскай творчасці,—усё гэта праявы той-жа адухоўленай, вольналюбівай, высокай чалавечай асобы, у імя якой змагаецца, пакутвае, гневаецца паэт.

Калісьці, гадоў дзесяць таму назад, адзін з нашых шаноўных прафесароў амаль увесь універсітэцкі курс прысвяціў доказам таго, што аптымізм Пушкіна, гэта аптымізм „гуляки праздного“, дваранскага распусніка і прайдзісвета. Тужлівыя і сумныя матывы творчасці Пушкіна гэты прафесар вытлумачваў прыкладна так, як тлумачаць з'яўленне пякучкі пасля бяссоннай ночы, праведзенай за бутэлькай віна. Усё гэта ў цэлым, вядома, падводзілася пад ідэалогію апазіцыйнага дваранства.

Якая лухта, якое ўбоства мыслі! Якая мёртвая шкалярская соцыялогія.

Цяпер ужо, здаецца, няма патрэбы ў доказах таго палажэння, што ні ў вузкія рамкі „капитализирующегося дворянства“, ні ў пракруставу пасцель „фрондерствующего аристократизма“, Пушкін не можа быць укладзены. Вядома, Пушкін быў рускім дваранскім паэтам

першай паловы XIX века. Але падобна таму, як „людзі, якія заснавалі сучаснае панаванне буржуазіі, былі ўсім, але толькі не буржуазна абмежаванымі“ (Энгельс, т. XIV, стар. 476), так і Пушкін не быў дваранскі абмежаваным чалавекам.

Кажучы пра людзей эпохі ўзнаўлення Энгельс адзначае ў іх „паўнату і сілу характара, якая робіць з іх поўных людзей“ (там-жа). Такой-жа поўнай, вялікай і валявой натурай быў Пушкін.

Беззмястоўны і нікчэмны размовы і спрэчкі пра тое, ці знамянуе Пушкін рускі рэнесанс або не знамянуе. Але тое, што грамадскі характар Пушкіна як чалавека і творцы мае нямала агульнага з лепшымі людзьмі заходне-еўрапейскага Узнаўлення—нясумненна. Ён дарагі і блізкі нам, бо ў наш час яго шырокі чалавечы гуманізм, канчаткова разарваўшы рамкі сваёй класавай ідэалогіі, стаў светаадчуваннем вялікага соцыялістычнага народу.

Гэты гуманізм парадняе Пушкіна і Маякоўскага. Нават у буйнейшым дарэволюцыйным творы Маякоўскага, калі ён, актыўна змагаючыся з бяздушнай, антыгуманістычнай творчасцю акмеістаў і сімвалістаў, сам яшчэ часткова знаходзіцца ў палоне дэкадэнцкіх форм, нават у паэме „Воблака ў штанах“—ужо ў поўнай меры выяўляе свой характар гуманізм Маякоўскага.

Гэты выдатны лірычны твор напісан Маякоўскім ад імя таго чалавека, які стараў і дзічэў ва ўмовах эксплаататарскага грамадства. Але-ж,—„жилы и мускулы молитв верней“, бо „гвоздь у меня в сапоге кошмарней, чем вся фантазия Гете“, бо праклянцці богу пасылаюцца за тое, што ён не выдумаў „чтобы было без мук целовать, целовать, целовать“...

Увесь гэты знешне грубы асартымент мастацкіх сродкаў—чалавечны, канкрэтны,—высунуты ў процівагу мёртвай рэлігійнай схаластыцы сімвалізма.

Яшчэ больш рэльефна гуманізм Маякоўскага, яго абарона правоў зняважанай і „шинкованной“ чалавечай асобы выступае ў пацыфісцкай паэме 1916 года „Вайна і мір“:

Милостивые государи!
Понимаете вы?
Боль берешь,
растишь, и растишь ее:
всеми пиками истыканная грудь,
всеми газами свороченное лицо,
всеми артиллериями громимая цитадель головы,—
Каждое мое четверостишье.

Калі ўспомніць чопарны, халодны эстэтызм Брусава і Гумілева, кніжную вучонасць Вячэслава Іванова, трагічны індывідуалізм творчасці Андрэя Белага і Салагуба, поўны грамадскі індыферэнтызм і какетлівае эстэцтва Бальманта і Севераніна,—стане асабліва навочнай сіла грамадскага пратэсту нават ранніх вершаў Маякоўскага на фоне твораў яго сучаснікаў.

Маладосць, яркую чалавечую маладосць нёс на сваіх сцягах Маякоўскі, узнімаючы голас за яе патаптаныя правы.

Шмат якія крытыкі-марксісты справядліва крытыкавалі карціны утапічнага соцыялізма, нарысаваныя Маякоўскім у канцы паэмы

„Вайна і мір“. Яны забываліся толькі на адну, на мой погляд, вельмі важную акалічнасць,—наіўны, казачны соцыялістычны рай, па якім сумаваў Маякоўскі, які ён ствараў у сваіх марах, быў соцыялізмам для чалавека і нічым не нагадваў таго жалеза-бетоннага машынізаванага чысцілішча, якое стваралі многія буржуазныя пашлякі і загібшчыкі, выдаючы яго за будучае соцыялістычнае грамадства.

Калі ў другім варыянце пасля рэволюцыйнай п'есы Маякоўскага „Містэрыя Буфф“ упершыню з'яўляюцца соцыялістычныя машыны, механізмы і рэчы, яны не абсалютызаваны паэтам, яны—увасабленне і выкананне жаданняў чалавека, яны падпарадкаваны яму. Вось, напрыклад, калектыўны маналог „Еды“, які звернуты да людзей:

—ЕДЫ:

А мы—товары пития и еды
от нас рабочим бесчисленны беды.
Без хлеба нет человеческой власти,
без сахара нет человеческой сласти.
Трудом человечьим добытые еле,
Не вы нас, а мы вас рублищами ели.
Рот ценой миллионной разинув,
мы лаяли псами с витрин магазинов.
Да вы дармоедам прикрикнули: слазьте!
и хлеб отныне свободен и сласти.
Все, что смотрели со скрежетом прежде,
берите сегодня, режьте и ешьте.

І калі дарэволюцыйная творчасць Маякоўскага характэрна тым, што гуманізм і чалавечнасць заўсёды выступаюць у яго ў трагічным разрэзе, дык вершы Маякоўскага, напісаныя ім пасля кастрычніцкай рэволюцыі, напоўнены аптымізмам, упэўненасцю ў сілу чалавека, у яго магутнасць, у творчую здольнасць асобы.

Колькі разоў творчасць Маякоўскага цярпела нападкі за быццам-бы ўласцівую ёй механістычнасць! Творцы бязглуздага рапаўскага лозунга—„дыялектычна-матэрыялістычны метад у мастацтве!“,—вядома не маглі ўгледзіць у паэзіі нашага выдатнага, страснага і тэмпераментнага сучасніка нічога іншага.

Але, звяртаючыся да сапраўднай творчасці Маякоўскага, здзіўляешся, колькі ў яго чалавечай цяплыні і шчырасці, лірычнасці, калі справа ідзе пра людзей новага грамадства і колькі ў яго гаркоты за зневажаную чалавечую асобу, калі матэрыялам для яго вершаў бярэцца зарубежная буржуазная сапраўднасць, колькі полымнай нянавісці да ворагаў.

Такія вершы, як „Блэк энд уайт“, „Парыжанка“, „Сіфіліс“ назаўсёды застануцца помнікам найлепшага пачуцця салідарнасці між працоўнымі розных рас і нацыянальнасцей, у іх гарыць нестухаючы агонь класавага гневу і вялікай класавай любові.

Такія вершы, як „Нетте—пароходу и человеку“ як „Апавяданне ліцейшчыка Козарава пра ўсяленне ў новую кватэру“, як паэмы „Хорошо“ і „Ленін“, па праву ўвойдуць у хрэстаматыю соцыялістычнага гуманізма.

І самае выдатнае тут тое, што няма розніцы між Маякоўскім, які апавядае пра асабістае каханне або сямейнае пачуццё, і Маякоўскім,

які гаворыць пра любоў і дружбу да таварыша па класу, да грамады, да радзімы. У гэтым сэнсе Маякоўскі выдатны ўзор новага чалавека, у якога няма разрыву між асобавым і грамадскім, разрыву, які так характэрны для людзей буржуазнага грамадства. Маркс пісаў у сваім артыкуле „Да яўрэйскага пытання“:

„Там, дзе палітычная дзяржава дасягнула свайго сапраўднага развіцця, чалавек дасягнуў не толькі ў мыслях, у свядомасці, а ў сапраўднасці, у жыцці, вядзе дваякае жыццё, нябеснае і земнае, жыццё ў палітычным агульна-жыцці, у якім ён выступае як грамадская істота, і жыццё, у грамадзянскім грамадстве, у якім ён дзейнічае як прыватная асоба, глядзіць на другіх людзей як на сродак, паніжае сябе самога да сродку і робіцца цацкай чужых сіл“. (Том І, стар. 376.)

У Маякоўскага—пролетарскага паэта гэтага дваістага жыцця няма. І калі Маякоўскі ў паэме „Хорошо“ апісвае цяжкасці ваеннага комунізма, малюе яркую карціну тых гераічных па напружанню год, калі на вагу золата цанілася жменька солі альбо палена бярозавых дроў, здзіўляе гэта дзівоснае ўменне паэта перайсці ад непасрэднасці быту да высокага лірычнага абагульнення:

Я
много
в теплых странах плутал.
Но только
в этой зиме
понятной
стала
мне
теплота—
любовей,
дружб
и семей.
Лишь лежа
в такую вот гололедь,
зубами
вместе
проляскав—
поймешь:
нельзя
на людей жалеть
ни одеяло, ни ласку.
Землю,
где воздух,
как сладкий морс,
бросишь
и мчишь, колеся,—
но землю,
с которою
вместе мерз,
вовек
разлюбить нельзя.

Такі гуманізм Маякоўскага. Ён заквітнеў ад пачатку і да канца толькі пасля пролетарскай рэволюцыі, на яе соцыяльнай глебе. І калі гуманізм Пушкіна вырас у яго творчасці, насуперакі яго ланцугам каставай дваранскай ідэалогіі, якія, вядома, неяк звязвалі яго, дык класавасць Маякоўскага дапамагла яму развінуць

гэты бок свайго светапогляда, свайго талента і з стыхійнага, дробнабуржуазнага гуманіста ператварыла ў гуманіста соцыялістычнага.

Тут да месца будзе пытанне, чаму, уласна, спатрэбілася гэтая аналогія паміж творчасцю Пушкіна і Маякоўскага? Ці зрабіў уплыў у гэтых адносінах Пушкін на Маякоўскага? Хіба многія пісьменнікі буржуазнага і дваранскага класаў не былі таксама, як і Пушкін, носьбітамі гуманістычнай ідэалогіі? Ці з'яўляецца гуманізм Пушкіна яго спецыфічнай рысай?

Адкажам перш за ўсё на два апошнія пытанні. Вядома, і Бальзак, і Мапасан, і Стэндаль, і Гейне, і Талстой, і Лермантаў былі,—кожны па свойму,—гуманістамі, ужо не кажучы пра Рабле, Сервантэса, Шэкспіра. Усе сапраўдныя вялікія людзі мастацтва XIX века захавалі ў сабе гэтую якасць. Менавіта, яно дапамагло іх творчасці застацца актуальнай, хвалюючай і праўдзівай для нашых дзён.

Але ў тым-та і справа, што Пушкін быў першым і самым буйным рускім пісьменнікам гуманістам. Калі ў галіне мастацкай формы, у галіне мовы ён быў працаўнікам заходніцтва, як гэта мы пакажам далей, дык у асноўным ідэйным змесце сваёй творчасці ён наследваў лепшыя рысы заходне-еўрапейскай мыслі і мастацтва. Сувязь з заходнім гуманізмам у Пушкіна простая і да яго ніхто ў рускай літаратуры сапраўдным выразнікам гэтага напрамку не быў.

Пушкін вызначыў далейшы гуманістычны характар развіцця ўсёй класічнай рускай літаратуры XIX века: Лермантаў, Гоголь, Талстой, Тургенеў, Некрасаў, Шчэдрын, Глеб Успенскі. Калі руская літаратура пачала траціць свой „гераічны“, па азначэнню аднаго старога даследчыка, характар,—яна адышла ад Пушкіна, яна страціла свае нацыянальныя карэнні і традыцыі, пайшоўшы на вывучку да халодных і бяздушных французскіх парнасцаў, сімвалістаў (Бодлер, Гот'е, Меларме, Метэрлінк), новамодных нямецкіх рамантыкаў, англійскіх эстэтаў (Уайльд), польскіх і шведскіх містыкаў ідэалістаў (Пшыбышэўскі, Стрынберг). Тут узнікае на рускай глебе сімвалізм і акмеізм, плынь вельмі фармалістычная, пазбаўленая сапраўднага лепшага чалавечага зместу. Тут траціцца вялікая гуманістычная традыцыя Пушкіна і яго школы. Тут настае эпоха містыкі, злучанай з бяздушным версіфікатарствам, эпоха „шуканняў“, новых „багоў“ і новых рыфм, эпоха адыходу мастацтва ад грамадскага жыцця.

Гэтаму націску нясмела і не паслядоўна супроцьставіўся Александр Блок. Маякоўскі быў тым паэтам, які ўзнавіў гуманітарныя пушкінскія традыцыі ў рускай паэзіі, падобна на тое, як Максім Горкі ўзнавіў гэтыя пазіцыі ў прозе. Гэтыя два вельмі непадобныя знешне пісьменнікі,—Горкі і Маякоўскі,—маюць шмат чаго агульнага ў кірунку развіцця сваёй творчасці, паколькі яна вызначалася ідэямі гуманізма.

Тут неабходна ўказаць на рад адрозненняў,—Маякоўскі пачаў сваю творчую дзейнасць, будучы, паўтараю, дробнабуржуазным гуманістам, толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён перайшоў на пазіцыі пролетарскага, соцыялістычнага гуманізма. Горкі вызначыў соцыяльную прыроду свайго творчага гуманізма значна раней.

Аднак, важна не гэта. Важна што канчатковыя ідэйныя вынікі

творчага развіцця гэтых двух буйнейшых рускіх мастакоў XX века супалі. Гэта знамянальны факт. І гэта несумненна вынік уплыву Пушкіна на творчасць і Горкага, і Маякоўскага. Уплыў, які нельга параўнаць ні з якім асобным творчым альбо фармальным прыёмам, але які, тым не менш, аказаўся магутным і пладатворным фактарам.

Гэты ўплыў прайшоў праз рад звенняў, карацей кажучы праз увесь асноўны рад вялікіх рускіх пісьменнікаў XIX века, але сіла яго была такая вялікая, што яна здолела зрушыць застойную атмасферу рускага дэкаданса XX века.

Менавіта таму Пушкін быў успрыняты соцыялістычным грамадствам, як цалкам свой, родны і блізкі па духу мастак. Мастацкі геній Пушкіна выхоўваў чэлюскінцаў на іх славутай ільдзіне і гэта факт вялікага сімвалічнага значэння. Вось што казаў О. Ю. Шмідт на Першым усесаюзным З'ездзе пісьменнікаў:

„Найбольш непадрыхтаваным звяном складу чэлюскінцаў былі, вядома, рабочыя будаўнікі, сезоннікі, непрывычаеныя да калектыўнага жыцця, якія ўпершыню апынуліся на моры, і якія, вядома, ніколі не чакалі такога здарэння—аказацца на ільдзіне далёка ад матэрыка. З гэтымі таварышамі была праведзена вялікая выхаваўчая работа яшчэ на караблі і агульна-культурная, і палітычная, і розная іншая, але яны былі яшчэ некалькі сыраватыя. І вось, вялікую ролю, як выявілася, адыграла чытанне твораў Пушкіна. Паміж нашых чатырох кніг быў адзін томік Пушкіна. І мой намеснік Баеўскі, цудоўны чытальнік, кожны вечар забіраўся ў палатку будаўнікоў, часамі і ў другія палаткі, чытаў і каментыраваў Пушкіна, якога будаўнікі наогул упяршыню пазналі. Пушкін не меў ніякага дачынення да ільдзіны і да будаўнікоў соцыялізма (смех), але выключныя якасці пушкінскага верша, пра якія ці варта гаварыць якімі-небудзь эпітэтамі, гэтак пашырылі ўспрыняцце жыцця гэтымі таварышамі, гэтак у багацці пушкінскай паэзіі кожны настрой, кожнага дня атрымліваў свой мастацкі сімвал, мастацкае адлюстраванне, што псіхіка будаўнікоў пад гэтым уплывам арганізавалася не менш, чым пад уплывам звычайнай агітацыі. На аснове паэзіі людзі лепш разумелі, што наша жыццё на ільдзіне не ёсць нейкі замкнёны ў сабе адрэзак, лепш разумелі сувязь гэтага жыцця на ільдзіне з жыццём усёй краіны і праз нейкія далёкія перадатачныя інстанцыі—з усім чалавецтвам. Людзі лепш разумелі, што свой маленькі лёс нельга разглядаць адарвана ад агульнага, і людзі глыбока верылі ў важнасць тае справы, якую мы робім з глыбокай верай у сілу нашай совецкай радзімы і нашай партыі".

Маякоўскі разлічваў на утылітарна-агітацыйнае, выхаваўчае дзеянне сваіх твораў цяпер, сёння, хоць ён добра ўсведамляў, што яго „стих трудом громаду лет прорвет".

Пушкін быў далёкі ад такога злабадзённага разумення сваёй творчасці,—ён гаварыў, што:

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

І аднак функцыі творчасці Маякоўскага і Пушкіна супалі. Калі-б на ільдзіне чэлюскінцаў апынулася разам з томікам вершаў Пушкіна адна з актуальных „лятучых брашур“ Маякоўскага, як ён называў аднойчы свае паэтычныя зборнікі, напэўна, творчае ўздзейнічанне абодвых паэтаў на свядомасць рабочых ішло-б, прыкладна, у адным напрамку.

У гэтым, як мне здаецца, заключаецца тая знаменальная пераклічка Маякоўскага са сваім вялікім настаўнікам, якая ўсё часцей, усё больш паслядоўна ўжывалася ім, Маякоўскім, у апошнія гады творчага жыцця. Маякоўскі, часамі, рабіў спробы досыць грубай актуалізацыі пушкінскай творчасці,—усе памятаюць, напрыклад, іранічныя радкі „юбілейнага“, у якіх ён абяцаў Пушкіну навучыць яго рабіць вершаваную рэкламу для дзяржаўных устаноў, але гэта ў Маякоўскага, вядома, было несур'ёзна, бо ён разумеў усю глыбокую актуальнасць пушкінскай творчасці для нашых дзён і горача, па-сапраўднаму, яе любіў. Пра гэта ёсць нямала і друкаваных і апавядальных сведчанняў.

Другое пытанне, якое я хачу ўзняць у сувязі з супастаўленнем творчасці Пушкіна і Маякоўскага,—гэта пытанне пра народнасць.

Але перш за ўсё—пра самое разуменне народнасці ў мастацтве. Ёсць рад таварышоў, якія схільны разумець народнасць як нешта ідэнтычнае з папулярнымі вершыкамі дарэвалюцыйных панафідзінскіх або сыцінскіх салдацкіх і вясковых лубкоў. Гэта, вядома, не народнасць, а пошлае панскае сюсюканне пад мужыцкую мову. Ёсць таварышы тэарэтычна больш падкаваныя, якія ўладаюць больш высокім густам. Лубкі „для народу“ яны за народную літаратуру выдаваць не пачнуць. Але затое, усю задачу засваення народнасці савецкай паэзіяй яны бачаць у вучобе ў Некрасава. Гэта вельмі наіўны пункт погляду. Некрасаў вялікі народны паэт. Але нельга зрабіцца савецкім народным паэтам, вучачыся толькі ў яго і забываючыся на такіх пісьменнікаў і паэтаў, як Шэкспір, Гейне, Лермантаў, называю імёны амаль на ўдачу.

І першым у гэтым радзе, вядома, павінен быць названы сапраўдны народны паэт Пушкін, які ніякім чынам Некрасава не выключае, але які ўсё-ж важнейшы і першачарговы, чым ён, для савецкай паэзіі.

Сапраўдная народнасць Пушкіна ёсць такое—адзінае ў гісторыі—параўнанне геніяльна простай і багатай формы з шырокім гуманітарным зместам, якое зрабіла яго першым нашым вялікім нацыянальным пісьменнікам.

Пушкін абапіраўся ўсёй сваёй творчасцю на рускія нацыянальныя моўныя асновы. Пушкінская мастацкая мова ёсць актыўнае адмаўленне заходніцкіх тэндэнцый у рускай прозе. Аповесці „Белкіна“, „Капітанская дачка“, „Пікавая дама“ з іх падкрэслена наіўнай прастатою і знешней непадробнасцю апавядальнай манеры, якая імітуе манеру няхітрага апавядальніка,—усім ходам гісторыі рускай літаратуры супроцьстаўлены „изящному европеизму карамзинской школы“.

Менавіта супроць карамзінскай школы накіравана злая філіпіка Пушкіна:

„...Что сказать об наших писателях, которые, почитая за низость

из'яснить просто вещи самые обыкновенные, думают оживить детскую прозу (ветхими) дополнениями и вялыми метафорами! Эти люди никогда не скажут дружба, но прибавят: „сие священное чувство, коего благородного пламень и проч.“

Трэба было б сказаць: „рано поутру“, а яны пішуць: „едва первые лучи восходящего солнца озарили восточные края лазурного неба.“ Как все это ново и свежо, разве оно лучше потому только, что длиннее?“ (гл. „Начало статьи о русской прозе“).

Пералічаючы прычыны, „замедлившие ход нашей словесности“, Пушкін на першае месца ставіць „общее употребление французского языка и пренебрежение русского“ [1]). У сваей абароне рускае мовы ён палемічна знішчае амаль зусім французскую паэзію, характарызуючы яе вершаванне як „глупое“, яе мову, як „нясмелую, бледную“, ён гаворыць пра шкодныя вынікі ўплыву французскай паэзіі на рускую—„манернасці, нясмеласці, бледнасці“.

„Не решу, какой словесности отдать (предпочтение), но есть у нас свой язык; смелее!—обычаи, история, песня, сказки—и проч.“ [2]).

Гэтыя свае ўстаноўкі Пушкін поўнасцю перанёс у практыку. Аднак, пры гэтым ён ніколі не рабіўся вузкім нацыяналістам, ніколі—ні ў тэорыі ні на практыцы—не ўпадаў у вельмі брыдкі шышкавізм. Будучы еўрапейцам у самым шырокім сэнсе слова, Пушкін у сваёй лексіцы заўсёды заставаўся абсалютна рускім пісьменнікам.

„Еўгеній Онегін“, „Медны коннік“, пушкінская лірыка супроцьстаўлены,—у сэнсе прастаты і шчырасці мовы,—і творчасці Дзержавіна з яго ўрачыстай азіяцкай напышлівасцю, і творчасці сантыментальна-прыгожага Жукоўскага, на адрас якога Пушкін аднойчы заўважыў, што яго Жукоўскага, „перевели бы на все языки, если бы он сам менее переводил“. [3])

Вось, напрыклад, узор дзімітрыеўскай „міфалагічнай“ лірыкі на расійскі строй:

Простите, Лары и Пенаты!
Прости и ты, волшебный край,
В котором гении крылаты
Казали мне и в дебрях рай;
Где я мечтами забавлялся,
Где лютый всех знобил мороз;
А я лежал средь нежных роз
И ароматом их питался;
Й где в замерзлом ручейке
Видался каждый день с Наядой;
Где куст, берёза вдалеке
Казались мне Гамадриадой
А дьяк или и сам судья
Какой нибудь Цирцеи жертвой“.

Мова „московских просвирен“,—як аднойчы назваў яе Пушкін,—гэта значыць жывая народная сучасная мова была яму ў шмат разоў

---

1) Гл. заметку „Причинами, замедлившими...“
2) Гл. заметку „О французской словесности“.
3) Гл. заметку „О французской словесности“.

даражэй той мешаніны з прыдворнага лексікона і царкоўнавізантыйскіх выразаў, разуменняў старажытна-рымскай, старажытна-грэчаскай міфалогіі і ўмоўнага нямецкага рамантызма,—разнародных элементаў, на базе якіх жыла і развівалася руская паэзія да Пушкіна. Праўда, першыя спробы пісаць рускія вершы на рускай мове былі зроблены М. Ламаносавым, што, між іншым, з павагаю адзначаў і сам Пушкін, але Ламаносаў быў занадта прыціснуты з аднаго боку замежнымі ўзорамі, а з другога боку, быў грамадска занадта адзінокі, пад ім не было базы папярэдняга культурнага развіцця, каб ён мог дамагчыся якіх-небудзь завяршаючых вынікаў. Ламаносаў быў толькі першы разведчык, піонер. Патрабавалася яшчэ каля сотні год грамадскага развіцця і ў дадатак работа Сумарокава, Фонвізіна, Крылова, у дадатак збіральная работа першага рускага фальклярыста Кіршы Данілава і ў дадатак, нарэшце, усеабдымны універсальны геній Пушкіна для таго, каб ажыццявіць гэтыя задачы ў поўнай для свайго часу меры. Пушкін парываў з кніжнай, завезенай з захаду і ўсходу, мовай і літаратурнымі прыёмамі ў імя мовы народнай, разгаворнай, простай, агульна-прынятай, у імя нацыянальнай мастацкай традыцыі, так бліскуча абноўленай яго жывым розумам, тэмпераментам і магутным талентам еўрапейскі-адукаванага сучасніка.

Як у многім была падобна літаратурная абстаноўка пачатку XX ст., калі ўпяршыню выступіў на літаратурную арэну малады Маякоўскі, з літаратурнай абстаноўкай напярэдадні з'яўлення Пушкіна! Рускі сімвалізм раўняўся на захад беспадзельна. Культ Верлена, Бодлера, Верхарна, Метэрлінка—быў для іх усё. У акмеістаў былі свае еўрапейскія продкі, настаўнікі і прарокі,—Гот'е, Леконт-дэ Ліль. Здаецца, ні ў адзін перыяд гісторыі рускай паэзіі так шмат не пераймалі, так шмат не перакладалі. Уся ўвага рускай літаратурнай грамадскасці была накіравана на Захад. Цэлыя тамы брусаўскіх, гумілеўскіх і салагубаўскіх перакладаў Верлена, Верхарна, Бодлера, Гот'е, цэлыя яшчэ больш пухлявыя—тамы шэрых перакладаў К. Бальманта, Эліса, В. Эльснера. І, нарэшце,—Вячэслаў Іваноў,—з'ява сапраўды ўнікальная, вельмі рэдкая па поўнай сваёй мастацкай касмапалітычнасці і нацыянальнай выхалашчанасці. Вось адзін з характэрных узораў з яго вымучана-кніжнай паэзіі, для разумення якой неабходна было быць ледзь не акадэмікам па разраду гісторыі культур:

Как в буре мусикийский гул Гандавр
Как звон струны в безмолвьи полнолуний
Как в вешнем плеске клик лесных вещуний,
Иль Гарпий свист летейской зыби ларв,—
Мне Память вдруг, одной из стрел—летуний
Дух пронизав уклончивей, чем Парф,
Разящий в бегстве,—крутоликих арф,
Домчит бряцанье и, под систр плясуний,
Псалмодий стон,—когда твой юный лик,
Двоясь волшебным отсветом эонов,
Мерцает так священственно—велик,
Как будто златокрылый Ра пилонов
Был пестун твой и пред царевной ник
Челом народ бессмертных фараонов.

Сучасная маладому Маякоўскаму буржуазная крытыка абвінавачвала яго раннія вершы ў складанасці, незразумеласці. Некаторая складанасць навізны у іх сапраўды была, але толькі найвялікшым класавым пачуццём можна вытлумачыць тую акалічнасць, што агонь гэтай крытыкі не быў накіраваны, напрыклад, супроць занадта разумнага метра і правадыра школы сімвалістаў,—Вячэслава Іванова,—а менавіта супроць Маякоўскага.

Супаданне вышэй прыведзеных вершаў Дмітрыева і Вячэслава Іванова метадалагічна можна лічыць амаль поўным. Толькі з тае розніцы, што Вячэслаў Іваноў яшчэ значна раней за Дмітрыева адышоў ад прастаты, зразумеласці і звычайнасці мастацкай мовы. Усё гэта азначала перш за ўсё адмаўленне ад глебы роднай мовы, ад рускіх гісторыка-культурных традыцый. У мастацтве гэтага часу пануе мёртвая лёгкасць ільснёнага еўрапеізма. Апошнія буржуазна-дваранскія паэтычныя літаратурныя школы былі пазбаўлены ўсякай сувязі з народам. Таму так лёгка яны расставаліся з нацыянальнымі элементамі ў сваёй творчасці, што не перашкаджала быць ім у радзе выпадкаў заядлымі шавіністамі [1]).

Толькі, бадай, адзін Блок, які думаў найбольш глыбока і чэсна з усіх буржуазна-дваранскіх паэтаў XX в. і быў арганічна і культурна звязаны з культурна-палітычнай гісторыяй сваёй краіны, захаваў у сабе вядомыя элементы народнасці,—а значыць, і нацыянальныя элементы. Блок-жа—бліжэй за ўсіх іх да класічнай рускай паэзіі—да Пушкіна, Лермантава і асабліва Некрасава. Спробы Валерыя Брусава абаперціся на Пушкіна і абвясціць яго адным з сваіх асноўных настаўнікаў былі негрунтоўны. Жывы, страсны, іранічны бунтар Пушкін ператварыўся, паводле Брусава, у халоднага майстра чыстай формы. Пушкінізм Брусава—мёртвы вучоны акадэмізм. Яшчэ больш смехатворнае „пушкініянства" акмеістаў, якія ў гэтым сэнсе давялі тэндэнцыю Брусава да іх лагічнага канца,—яны канчаткова выхаласцілі з Пушкіна ўсё жывое. Асабліва паказальная тут „творчасць" Георгія Іванова.

Вузка-нацыянальнай (а нават у радзе выпадкаў нацыяналістычнай) рэакцыяй на заходніцтва мадэрністаў, сімвалістаў і акмеістаў была творчасць Хлебнікава, з яго здзіўляючай работай па раскопцы карэнняў слова. Але, урэшце, Хлебнікава без вялікай нацяжкі можна параўнаць з Шышковым, калі прадоўжыць нашу (захапляючую для аўтара і зусім умоўную!) аналогію з XIX векам. Розніца толькі ў тым, што Шышкоў быў асобай бездарнай, а Хлебнікаў таленавітым чалавекам, хоць і вельмі не пэўна накіраваным. Пратэст Хлебнікава быў аднабаковы, бо ён быў пратэстам фармальным і архаічным. Маякоўскі,—вось хто, як і Пушкін у першай трэцяй частцы XIX в.,—зрабіў сваёй галоўнай творчай асновай не тую ці іншую моду, завезеную з Захаду, не архаічную музейную лексіку, а жывую мову сучаснікаў і супляменнікаў. Маякоўскі—урбаніст,

---

[1]) Гл. гнюснейшы зборнік вернападанніцкіх вершаў С. Гарадзецкага „1914 год", рад твораў Н. Гумілёва, Ф. В. Салагуба, Г. Іванова, В. Брусава і безлічы іншых другарадных паэтаў сімвалістаў і акмеістаў, напісаных у часе імперыялістычнай вайны.

як гэта ні будзе дзіўным на першы погляд, значна больш нацыянальны і народны, чым усе тыя сімвалісты, (Брусаў, Белый), і акмеісты (Гарадзецкі, Нарбут), якія нават спрабавалі уваскрашаць у сваёй творчасці тыя ці іншыя быццам народныя моманты.

Брусаў па эстэцку любаваўся рускай гісторыяй. Белый істэрычна кляўся ў сваёй вернасці „России, России, России, мессии грядущего дня“, Гарадзецкі паказваў сябе як гарачага прыхільніка Пяруна і Ярылы. Нарбут карава спрабаваў узнавіць быццам-бы „народную“ (а на самай справе выдуманую) мову,—усё гэта не ўзнімалася, аднак, над узроўнем таннага натуралізма або эстэтызма. Толькі Маякоўскі змог абаперціся на мову народа, бо ён быў чулы да яго жыццёвых змен, да яго непадзельнага росту і метамарфоз. „Улица корчится безязыкая, ей нечем кричать и разговаривать“,—вось лозунг Маякоўскага у адносінах да мовы паэзіі. Менавіта таму так раз'ятрана ён нападаў на саладкавыя паэтычныя слоўныя алеаграфіі з пажамі і ружамі.

Господа поэты,
Неужели не наскучили
Пажи
дворцы,
любовь,
сирени куст вам?
Если такие, как вы—
творцы,
мне наплевать на всякое искусство".

Менавіта таму ён у „150.000.000“ змог абаперціся на прыёмы багатырскага быліннага эпаса, арганічна ператварыўшы іх у сучасныя вобразы. У гэтай рабоце Маякоўскага няма і следу таго рэстаўратарства, над якім у свой час так з'едліва здзекваўся Маркс: „...Капиталистическое производство враждебно некоторым отраслям духовного производства, каковы искусство и поэзия. Не понимая этого, можно притти к выдумке французов XVIII столетия, осмеянной уже Лессингом: так как мы в механике и т. д. ушли дальше древних, то почему бы нам не создать и эпоса? И вот является „Генриада“ взамен „Илиады“ (К. Маркс „Теория прибавочной стоимости“, т. I, Соцэкгиз. М—Л 1931 г. стар. 247).

„150.000.000“—не савецкая „генрыада“, а рэч арганічнага нацыянальна-рэволюцыйнага пафасу. Яшчэ больш паказальна ў гэтым сэнсе работа Маякоўскага ў РОСТ'аў: у дзесятках і сотнях яго плакатаў выкарыстаны песні, прыказкі, частушкі, узятыя з народнага ужытку, якія абапіраюцца на жывую традыцыю.

Маякоўскаму была арганічна нянавісна стылізацыя пад былінны эпас,—некаторыя таварышы, мажа быць, памятаюць, з якім надзвычайным і шчырым абурэннем ён высмейваў на адным з сваіх вечароў у Палітэхнічным музеі бязглуздую быліну пра Леніна і Калініна, змайстраваную нейкім зухаватым хлапцом з так званага ВОКП'а. Савецкіх стылізатараў пад „истинно-русскую“, пад „истинно-народную“ мову Маякоўскі назаўсёды закляйміў пагард-

лівым тэрмінам „дачнікі“, так удала азначыўшы гэтым словам іх сапраўдную соцыяльную прыроду.

Ну Есенин,
мужиковствующих свора.
Смех!
Коровою
в перчатках лаечных.
Раз послушаешь...
Но это ведь из хора!
Балалаечник!

—пісаў ён у вершы „Юбілейное“, прысвечаным Пушкіну.

Маякоўскі—народны паэт. Такі змест яго твораў. Такое накіраванне развіцця яго мастацкай формы, а тым таварышам, якія ў адказ на гэта будуць зноў спрабаваць узнавіць размовы аб незразумеласці і „складанасці раду яго твораў“, варта напомніць, што ў блізкай будучыні ледзь не палова нашага народу будзе ўладаць так-званай сярэдняй адукацыяй. Гэты вельмі важны факт павінен быць абавязкова ўлічан пры абмеркаванні пытанняў стылю новай культуры. Наш народ засвайвае Пушкіна і Бетховена, Бальзака і Рэмбрандта. На таннай мякіне псеўда-народнага сурагата яго не правядзеш.

Пушкін пісаў пра сябе нясхільна і горда, ён меў на гэта права. Гісторыя цалкам апраўдала геніяльныя радкі.

Я памятник себе воздвиг нерукотворный,
К нему не зарастет народная тропа,
Вознесся выше он главою непокорной
Александрийского столпа.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык,
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
Тунгус, и друг степей калмык.

Ці меў права Маякоўскі на тое, каб, звяртаючыся да комуністычных патомкаў, напісаць у сваей паэме „На ўвесь голас“:

Мой стих
трудом
громаду лет прорвет
и явится
весомо,
грубо,
зримо,
как в наши дни
вошел водопровод,
сработанный
еще рабами Рима.
В курганах книг
похоронивших стих,
железки строк случайно обнаруживая,
вы
с уважением
ощупывайте их,
как старое,
но грозное оружие.

Так, Маякоўскі напісаў гэтыя радкі з законнай гордасцю і ўпэўненасцю ў сваю сілу, у карысць зробленай ім работы.

Руская зямля багатая вялікімі паэтамі.

Сярод іх ёсць лепшы з лепшых—Пушкін.

Непасрэдна следам за ім павінна быць названа імя Маякоўскага,—„лепшага, таленавіцейшага паэта нашай савецкай эпохі“ *(І. Сталін)*.

# ХРОНІКА

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЕДЖАННЕ ЎСЕСАЮЗНАГА ПУШКІНСКАГА КАМІТЭТА

10 лютага к 6 гадзінам увечары зал Вялікага тэатра запоўнілі лепшыя людзі сталіцы — стаханаўцы — ордэнаносцы, байцы і камандзіры Чырвонай Арміі, вузаўцы, вучні, вучоныя, літаратары. Сярод гасцей у зале—унукі і праўнукі вялікага юбіляра.

У ложы урада—таварышы *Сталін, Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Орджанікідзе, Андрэяў, Мікаян, Чубар, Пятроўскі, Жданаў, Ежоў, Дзімітраў, Хрушчоў, Косарэў, Межлаўк, Анціпаў, Булганін, Філатаў, Шкіратаў.*

У 6 гадзін 30 м. выходзяць на сцэну і займаюць месца ў прэзідыуме члены Усесаюзнага Пушкінскага камітэта таварышы: Варашылаў, Жданаў, Бубноў, Межлаўк, Акулаў, Кісялеў, Серафімовіч, Дзем'ян Бедны, Ціханаў, Аплоў, Цяўлоўскі, Луппол, Безыменскі, Гладкоў, Лахуці, Табідзе, а таксама прэзідэнт Акадэміі навук СССР акадэмік В. Л. Комароў, пісьменнікі Вс. Іваноў, Мікітэнка і іншыя.

Перад тым, як адчыніць урачыстае паседжанне, старшыня Усесаюзнага Пушкінскага камітэта тав. А. С. Бубноў гаворыць кароткую прамову пра вялікага мастака слова, геніяльнага творца рускай літаратуры, стагоддзе са дня смерці якога адзначае савецкі народ. З вялікай увагай слухае зала вытрымкі з лістоў рабочых, калгаснікаў, чырвонаармейцаў, якія выражаюць усю глыбіню народнай любові да свайго паэта. Пад гукі „Інтэрнацыянала" ўрачыстае паседжанне адчыняецца.

З дакладам аб жыцці і творчасці Пушкіна выступае дырэктар Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага—тав. І. К. Луппол.

Месца Луппола на трыбуне займае паэт Н. Ціханаў, які выступае ад Ленінградскага Пушкінскага камітэта. Ціханаў яркімі штрыхамі малюе тыя змены, якія адбыліся ў нашай краіне за мінулае стагоддзе. Ён гаворыць аб радасці жыцця, якую пазнаў наш народ.

Ад Украінскага Пушкінскага камітэта выступае драматург Мікітэнка. Тав. Мікітэнка гаворыць спачатку на украінскай мове, перадае прывітанне працоўным сталіцы і ўсім народам Савецкага Саюза, а затым пераходзіць на рускую мову. У яго словах гучыць вялікая любоў украінскага народа да Пушкіна.

За Мікітэнкам ад Грузінскага Пушкінскага камітэта гаворыць паэт Табідзе. Пушкін першы з рускіх паэтаў сумеў зразумець і ацаніць свабодалюбівы народ сонечнай Грузіі. Табідзе гаворыць аб тым вялікім уплыве, які аказала творчасць Пушкіна на развіццё грузінскай літаратуры.

Прадстаўнік Акадэміі навук СССР акадэмік Арлоў абяцае ад імя вучоных Савецкага Саюза, што яны яшчэ энергічней возьмуцца за вывучэнне вялікай пушкінскай спадчыны.

Апошнімі выступаюць паэты Дзем'ян Бедны і А. Безыменскі.

Зноў гучыць „Інтэрнацыянал". Урачыстае паседжанне абвяшчаецца зачыненым.

## МІТЫНГ ЛЯ ПОМНІКА А. С. ПУШКІНУ Ў МАСКВЕ

Пасля поўдня 10 лютага тысячы людзей запоўнілі Пушкінскую плошчу. На мітынг, прысвечаны памяці найвялікшага рускага паэта, са сцягамі і плакатамі прышлі делегацыі прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый сталіцы. Высока над галовамі—сотні партрэтаў А. С. Пушкіна.

На трыбуне каля помніка сабраліся тт. Бубноў, Філатаў, Кулькоў, Карытны, пісьменнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Ля падножжа помніка — група патомкаў вялікага паэта.

Старшыня Маскоўскага абласнога і гарадскога Пушкінскага камітэта—старшыня Мосаблвыканкома тав. Н. А. Філатаў кароткай прамовай адкрывае мітынг.

— Ніколі неўміручая пушкінская слава не была так велічна, як у нашу

цудоўную сталінскую эпоху,—гаворыць тав. Філатаў.

— Царскі дэспатызм сцёр з гэтага помніка сапраўдныя словы вялікага паэта. Самадзяржаўны лад баяўся праўды пушкінскіх вершаў. Сёння мы з вамі сабраліся тут, каб гэту праўду аднавіць, замяніўшы скажоны надпіс на помніку сапраўднымі словамі Пушкіна.

З помніка знімаецца пакрывала, і перад вачыма сабраўшыхся ўзнікае тэкст сапраўдных пушкінскіх вершаў, высечаных да юбілею на гранітным п'едэстале.

Грыміць „Інтэрнацыянал".

Ад імя Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР выступае Вс. Іваноў. У сваёй прамове ён напамінае аб тым, у якіх надзвычай цяжкіх умовах нікалаеўскай Расіі прыходзілася змагацца Пушкіну за права служыць роднаму народу сваімі вершамі.

Ад імя рабочых і работніц маскоўскіх прадпрыемстваў выступае інжынер-стаханавец завода імя Фрунзе, ордэнаносец тав. Бутусаў.

У заключэнне з усхваляванай прамовай выступае вучань 10 класа 114 школы Савецкага раёна А. Дуброўскі.

— Ёсць юнацтва, якое ніколі не старыцца. Ёсць жыццё, якое ніколі не памірае. Ёсць слава, якая расце з гадамі. Гэта юнацтва, гэта жыццё, гэта — слава Пушкіна, — гаворыць тав. Дуброўскі.

На мітынгу прысутнічала 25.000 чалавек.

## МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ДОШКІ НА ДАМАХ, ДЗЕ ЖЫЎ А. С. ПУШКІН

12 лютага ў Маскве адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльных дошак, устаноўленых у азнаменаванне стагоддзя са дня смерці А. С. Пушкіна, на дамах, звязаных з імем найвялікшага рускага паэта.

Каля школы № 353 (Бауманская вуліца, 10, якой прысвоена імя А. С. Пушкіна) устаноўленую ля ўваходу ў школу мемарыяльную дошку ўпрыгожвае барэльеф паэта ў юным узросце, заключаны паміж двух юбілейных дат „1837—1937". На мрамарыззяе золата высечанага надпісу:

**Тут быў дом, у якім 26 мая (6 чэрвеня) 1799 года радзіўся А. С. Пушкін.**

Адначасова была ўстаноўлена дошка на доме № 53 па Арбату. На адкрытай пасля мітынгу мемарыяльнай дошцы высечана:

**У гэтым доме жыў А. С. Пушкін з пачатку лютага да сярэдзіны мая 1831 г.**

Мемарыяльная дошка ўпрыгожана барэльефам Пушкіна. Пад надпісам высечана юбілейная дата „10. II. 1937 г."

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ПУШКІНСКАГА КАМІТЭТА

12 лютага Першы Дзяржаўны тэатр БССР запоўнілі лепшыя людзі сталіцы: героі працы—ордэнаносцы і стаханаўцы, байцы і камандзіры Чырвонай Арміі, вучоныя, пісьменнікі, студэнты і школьнікі. Яны прышлі ўшанаваць памяць найвялікшага рускага паэта, геніяльнага майстра слова, раданачальніка рускай літаратурнай мовы Александра Сергеевіча Пушкіна.

Зал тэатра па-святочнаму ўпрыгожан. Уверсе над сцэнай велізарны плакат: „Пушкінскія дні—гэта свята савецкай культуры ў краіне перамогшага соцыялізма". На сцэне ў цэнтры вялікія партрэты правадыроў народу Леніна і Сталіна, вазоны кветак, а на п'едэстале вялікі бронзавы бюст Александра Сергеевіча; на чырвоных палотнішчах—незабыўныя радкі з выдатных твораў паэта.

У 7 гадзін, сустракаемыя апладысментамі, да стала прэзідыума падыходзяць члены Ўсебеларускага ўрадавага пушкінскага камітэта. Сярод іх: прэзідэнт Акадэміі навук БССР тав. *Сурта*, народны камісар асветы БССР тав. *Дзякаў*, народныя паэты рэспублікі *Янка Купала* і *Якуб Колас*, акадэмік *Вальфсон*, паэт *Александровіч* і праф. *Браништэйн*.

Старшыня ўрадавага пушкінскага камітэта тав. *Сурта* кароткай прамовай адкрывае ўрачыстае пасяджэнне.

З выключнай увагай прысутныя праслухалі вялікі і змястоўны даклад акадэміка І. З. Сурта аб жыцці і творчасці А. С. Пушкіна. Значнае месца свайго даклада т. Сурта прысвяціў гуманізму А. С. Пушкіна, падкрэсліў значэнне Пушкіна, як грамадзяніна, як чалавека. Гэтую якасць увасобіў у сябе рускі народ, які аказваў і аказвае брацкую дапамогу ўсім народам вялікага Саюза ССР у іх гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

Акадэмік Вальфсон выступіў з прапановай паслаць прывітанне правадыру народаў, генію чалавецтва

вялікаму Сталіну. Бурнай авацыяй у гонар любімага Сталіна ўдзельнікі пасяджэння прымаюць гэту прапанову, стоячы вітаюць вялікага правадыра.

У канцы ўрачыстага пасяджэння калектыў артыстаў БДТ-І паказаў новую сваю работу па твору А. С. Пушкіна „Капітанская дачка", інсцэніроўка Я. Рамановіча. Асаблівым поспехам у глядачоў карысталіся заключныя сцэны спектакля.

## АБ УВЕКАВЕЧАННІ ПАМЯЦІ А.С. ПУШКІНА ПА г. МЕНСКУ

Пастановай прэзідыума менскага горсовета праводзяцца наступныя мерапрыемствы па ўвекавечанню памяці А. С. Пушкіна.

У 1937 г. у цэнтры горада будзе пастаўлен помнік вялікаму паэту.

Вуліца Барысаўскі тракт, якая мае вялікае значэнне для будучага сталіцы БССР, пераімяноўваецца ў вуліцу імя Пушкіна.

Першай менскай поўнай сярэдняй беларускай школе прысвоена імя А. С. Пушкі на.

Выраш ана пабудаваць новую цэнтральную бібліятэку імя Пушкіна ў Менску ў 1938 г., а ў гэтым годзе адрамантаваць існуючую бібліятэку імя Пушкіна, для чаго адпушчана 25 тысяч рубл.

Для дзіцячай бібліятэкі, якой надана імя А. С. Пушкіна, прадастаўляецца новае памяшканне.

## УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ АКАДЭМІІ НАВУК БССР

6 лютага Акадэмія навук БССР адзначала стагоддзе са дня смерці А. С. Пушкіна. У 12 гадзін дня вялікую залу менскага Дома партактыва запоўніла шматлюдная аудыторыя. Разам з акадэмікамі, прафесарамі і навуковымі работнікамі на ўрачыстае пасяджэнне прышлі запрошаныя стаханаўцы фабрык і заводаў, прадстаўнікі партыйных, совецкіх і грамадскіх арганізацый сталіцы БССР.

У глыбіні залі каля трыбуны сярод кветак—партрэт А. С. Пушкіна, чыю памяць з бязмернай любоўю ўшаноўвае разам з усімі брацкімі народамі Совецкага Саюза і беларускі народ.

Пра гэту любоў беларускага народу да вялікага рускага паэта гаварыў, адкрываючы пасяджэнне, прэзідэнт Акадэміі навук акадэмік *І. З. Сурта*. Шырокая падрыхтоўка да пушкінскіх дзён, разгорнутая ва ўсіх кутках Беларусі, з'яўляецца жывой ілюстрацыяй гэтай любві.

Акадэмік Сурта паведаміў, што з Вільнева (Швейцарыя) атрымана пісьмо ад *Рамэн Ралана* ў адказ на просьбу прэзідыума Акадэміі напісаць аб Пушкіну для Акадэміі навук БССР.

Цёплымі апладысментамі былі спатканы словы прывітання вялікага друга народаў СССР.

З выключнай увагай на ранішнім пасяджэнні былі выслуханы даклады акадэміка І. І. Замоціна „Жыццё і творчасць А. С. Пушкіна" і акадэміка С. Я. Вальфсона „Аб светапоглядзе Пушкіна".

Вячэрняе пасяджэнне было прысвечана дакладам прафесара Ламцёва „Пушкін—тварэц рускай літаратурнай мовы" і праф. Браніштэйна „Пушкін і беларуская літаратура".

Народны паэт БССР акадэмік Якуб Колас прачытаў першую песню паэмы Пушкіна „Палтава", якая поўнасцю перакладзена ім на беларускую мову. Майстэрскі зроблены пераклад выклікаў шчырае захапленне прысутных.

Бурнай авацыяй зала спаткала прапанову паслаць прывітальную тэлеграму правадыру народаў вялікаму Сталіну.

Закрываючы пасяджэнне, тав. Сурта адзначыў выключную каштоўнасць прачытаных дакладаў і паведаміў, што Акадэмія навук выдае матэрыялы пасяджэння асобнай кнігай.

У заключэнне сіламі акцёраў І-га Беларускага дзяржаўнага тэатра быў наладжан вялікі канцэрт, на якім былі выкананы featuresразнастайныя нумары на тэматыцы твораў А. С. Пушкіна.

## З ЛЮБОЎЮ І ЗАХАПЛЕННЕМ

З выключнай любоўю і захапленнем рыхтаваліся вучні 5 школы (Менск) да пушкінскіх дзён. У школе арганізавана мастацкая выстаўка. Тут багата прадстаўлены малюнкі герояў і сцэнак з твораў паэта, вышыўкі на палатне на тэму пушкінскіх казак. Прыгожая выстаўка—справа рук саміх дзяцей, іх уласная творчасць.

Багатая мастацкая самадзейнасць падрыхтавана вучнямі. Хор з 80 чалавек выконвае „Бесы", „Девицы—красавицы", „Зимний вечер", „Узник". 30 вучняў 5 класа ставяць інсцэніроўку „Цыганы", вучні старэйшых класаў падрыхтавалі ўрыўкі з оперы „Пиковая дама", асобныя сцэнкі з „Бориса Годунова", музычных нумароў, дэкламацый і танцаў.

## ПОПЫТ НА ТВОРЫ

Стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна выклікала вялікі попыт на творы паэта. Кожны дзень у кніжныя магазіны Уваравіцкага раёна прыходзіць калгасная моладзь, настаўнікі, раённыя работнікі і купляюць творы Пушкіна.

Пяцьсот кніжак: „Евгений Онегин", „Капітанская дачка", Верасаева „Жизнь Пушкина" прададзены за адну гадзіну. Усяго за гэтыя дні прададзена 2500 экземпляраў пушкінскіх кніг.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ЧЫТАЧОЎ

У сувязі з 100-годдзем смерці А. С. Пушкіна асіпавіцкая раённая бібліятэка арганізавала канферэнцыю чытачоў паэта. Прысутнічала больш 500 чалавек.

Удзельнікі канферэнцыі з захапленнем выслухалі змястоўны даклад настаўніцы Кузняцовай. Пасля даклада вучні дэкламавалі пушкінскія вершы.

У памяшканні, дзе праходзіла канферэнцыя, была арганізавана фотавітрына, якая адлюстроўвала жыццёвы шлях паэта.

## ПАСТАНОВА ПЛЕНУМА МАГІЛЕЎСКАГА ГАРАДСКОГА СОВЕТА 22 СТУДЗЕНЯ 1937 ГОДА

У сувязі з стагоддзем са дня смерці вялікага рускага паэта Александра Сергеевіча Пушкіна—перайменаваць Нова-Чэрнігаўскую вуліцу ў Пушкінскую вул., і надаць уноў пабудаванай па Нова-Чэрнігаўскай вул. 14-й школе імя А. С. Пушкіна.

## ВЕЧАР ТВОРЧАСЦІ А. С. ПУШКІНА

1 лютага ў Менску ў дзяржаўным тэатры Саюз Совецкіх Пісьменнікаў БССР правёў першы вечар, прысвечаны творчасці Александра Сергеевіча Пушкіна. Адкрываючы вечар, паэт *А. Александровіч* гаворыць пра тое, як шчаслівы совецкі народ ушаноўвае памяць вялікага рускага паэта, да якога ніколі „не зарастет народная тропа".

Прафесар Я. А. Бранштэйн на вечары зрабіў кароткі, але змястоўны даклад на тэму „Пушкін—вялікі рускі паэт".

Затым народны паэт рэспублікі *Якуб Колас* прачытаў урывак з „Палтавы", якую ён пераклаў на беларускую мову. З выключным поспехам артыст Рахленка чытаў на беларускай мове ўрыўкі з паэмы А. С. Пушкіна „Медны коннік", якую пераклаў народны паэт БССР Янка Купала, і рад вершаў на рускай мове. Паэты *Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Мікола Хведаровіч* і *Пятро Глебка* чыталі ўрыўкі і вершы ў перакладзе на беларускую мову.

Артыст *Бірыла* прачытаў на рускай мове ўрыўкі з паэмы „Цыганы", а артыстка *Ржэцкая* ўрыўкі з паэмы „Руслан і Людміла" ў перакладзе на беларускую мову *Андрэя Александровіча*. Яўрэйскія паэты *Ізі Харык, Зэлік Аксельрод, Тэйф і Камянецкі* чыталі творы паэта на яўрэйскай мове.

## ПУШКІНСКІЯ ВЕЧАРЫ ДЛЯ ПАРТАКТЫВА

○ Для партыйнага актыва сталіцы БССР 9 студзеня быў наладжан вечар, прысвечаны стогадоваму юбілею са дня трагічнай гібелі вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. Вечар адбыўся ў менскім Доме партактыва. З вялікай увагай сабраўшыяся праслухалі даклад прафесара Бранштэйна аб жыцці і творчасці Александра Сергеевіча Пушкіна.

У заключэнне вечара ленінградскі дзяржаўны тэатр „Живая книга" даў пастаноўку „Дубровский". На сцэне залы пры нескладанай дэкарацыі два артысты тэатра з вялікім майстэрствам і выразнасцю чыталі аповесць паэта. Асобныя месцы гэтай аповесці ўдала імі выкананы, у суправаджэнні сімфанічным трыо, ігрой на баяне і светавымі эфектамі.

○ 9 лютага ў клубе працаўнікоў асветы адбыўся вялікі Пушкінскі вечар для партактыва Варашылаўскага гоpрайкома.

Даклад аб жыцці і творчасці вялікага рускага паэта зрабіў акадэмік Вальфсон.

На вечары выступілі паэты Мікола Хведаровіч, які прачытаў паэму Пушкіна „Каўказскі нявольнік" у перакладзе на беларускую мову, яўрэйскі паэт Тэйф, які прачытаў верш „Помнік" на яўрэйскай мове, В. Кавальскі—польскі паэт, які чытаў пераклады вершаў Пушкіна на польскую мову.

Пасля ўрачыстай часткі Белрадыёкамітэтам быў дадзен канцэрт з твораў Пушкіна.

## ЛЮБІМЫ ПАЭТ СОВЕЦКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

Няма такой школы, якая-б не адзначыла 100-гадовы юбілей смерці Пушкіна. І гэта зусім натуральна, бо

Пушкін стаў самым любімым паэтам совецкіх школьнікаў.

Крычаўская сярэдняя школа арганізавала пушкінскі вечар. На ім, апрача вучняў, прысутнічалі дарослыя рабочыя і калгаснікі. Сіламі драмгуртка была паказана інсцэніроўка „Цыганы" і ўрывак з трагедыі „Борис Годунов". Вучні 10 класа дэкламавалі вершы Пушкіна.

## У ВАЙСКОВАЙ ЧАСЦІ

Разам з усёй краінай, з усёй Чырвонай Арміяй адзначае незабыўную памяць вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна і часць, якой камандуе тав. Смолкін.

У дзень стогадовага юбілею смерці паэта ў часці быў арганізован вялікі літаратурны вечар. У праграме вачара: даклад аб жыццёвым шляху і літаратурнай дзейнасці паэта, дэкламацыя яго вершаў, выкананне музычных твораў.

У заключэнне вечара байцы ўбачылі урывак з трагедыі „Борис Годунов". Жонка камандзіра Смолкіна пашыла спецыяльныя касцюмы для герояў Пушкіна.

## ПУШКІНСКІЯ ДНІ ЗА РУБЯЖОМ

**Чэхаславакія.** Большасць чэхаславацкіх газет прысвячае цалкам свае нядзельныя дадаткі і літаратурныя аддзелы стогадоваму юбілею А. С. Пушкіна. Газеты змяшчаюць вялікую колькасць артыкулаў і ілюстрацый, якія адносяцца да жыцця і творчасці вялікага рускага паэта. Пры гэтым падкрэсліваецца значэнне творчасці Пушкіна для сусветнай літаратуры, у тым ліку і для літаратуры Чэхаславакіі. Газеты змяшчаюць таксама шматлікія вытрымкі з новых чэшскіх перакладаў твораў Пушкіна.

**Іран.** 8 лютага поўпрэдствам СССР у Іране быў арганізован прыём па повазу стагоддзя са дня смерці Пушкіна. На прыёме прысутнічалі звыш 500 гасцей, у тым ліку члены ўрада, меджыліса (парламента), прадстаўнікі навуковых, літаратурных колаў і друку. Сіламі совецкай калоніі быў арганізован канцэрт, прысвечаны Пушкінскім творам.

Перад канцэртам вядомы іранскі паэт—рэдактар літаратурнага журнала „Армаган" Вехід прачытаў свае пераклады пушкінскіх вершаў, а таксама свае вершы, прысвечаныя Пушкіну.

**Венгрыя.** Венгерскія газеты публікуюць рад матэрыялаў, прысвечаных сотай гадавіне смерці А. С. Пушкіна.

Газеты „Пестэр лойд", „Пешці напло", „Уй мад'яршаг", „Аз эшт" і іншыя падкрэсліваюць значэнне Пушкіна для сусветнай культуры і пры гэтым указваюць, што забойцай Пушкіна быў царскі рэжым.

Паведамляючы праграму пушкінскіх дзён у СССР, найбольш уплывовая газета „Пестэр лойд" піша.

„Вялікая краіна рыхтуецца адзначыць сотую гадавіну смерці Пушкіна... Увесь цывілізаваны свет прымае актыўны ўдзел у азнаменаванні гэтай гістарычнай гадавіны.

**Галандыя.** Газета „Альгемеен хандэльсблад" прысвяціла артыкул стагоддзю са дня смерці Пушкіна. Газета адзначае ўсю сілу творчасці вялікага рускага паэта і значэнне яго твораў для сусветнай літаратуры і культуры.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

